Змест

## *Ліст да Зюзі*

*Дабрыдзень, яснавяльможны спадар Зюзя, траскучых маразоў і ўтрапёных завірух уладар!*

*Звяртаюцца да Цябе з просьбай пакорнаю літаратурных старонак «Маладосць», што выходзяць у горадзе стольным гаспадарства нашага, апекуны і пісары.*

*Не вазьміце за дзёрзкасць, але вельмі ўжо хочацца нам пабачыць, у асаблівасці на Каляды, сапраўдны, шляхетнага кшталту снег, які крышталікамі дзівоснай прыгажосці ляцецьме з нябёсаў на галовы нашыя і зямельку-матухну. Бо некалі звыклая прыродная з'ява зрабілася сёння рэдкасцю ў гаспадарстве нашым. А з тым, каб задобрыць Цябе, мы на Каляды куццю не толькі ў сем'ях нашых, але і ў творчым доме паставім. А дзеля таго, каб як найлепш Цябе пацешыць, і каб крышталікаў дзівосных як найболей натрусілася, кожны з нас па першай лыжцы кашы за акно кіне. А як пабачым мы цуд, Табой створаны, то шчыры дзякуй Табе скажам, і футрам новым адорым.*

*Але ласкавы будзь, спадар, да нас за такую просьбу, і не бі пень булавою сваёю жалезнаю, ды не насылай маразы траскучыя. Інакш не здолеем мы місію сваю галоўную ў годзе, што ўцякае ад нас, выканаць — даставіць Табе і ўсім чытачам нашым слаўным аркушы літаратурныя, светлым Калядам ды казкам прысвечаныя.*

*Калі спадар шаноўны на просьбу нашу адгукнецца ласкава, то ў лесе цёмным на самым старым пні пакінем мы для яго лісточкі тыя. І знойдзе там спадар і байкі пра Зюзіча — сына свайго, і развагі пра Жывойта, сівымі стагоддзямі ў гаспадарстве нашым шанаванага, і вершасклады пра Дракулу заморскага, і згадкі пра дзівосы, якія часам у жыцці зямным здараюцца, а і многа таго, што дух чапляе і цудам цешыць.*

*І для славы Тваёй, спадар, і прыхільніку шаноўнаму — чытачу нашаму — раскідаем мы казачныя прыемнасці ад пісакаў слаўных па ўсіх лістках, нібы зімой сцюдзёнаю рассыпаныя зоркі зіхатлівыя над родным гаспадарствам нашым.*

*Даём паклон з сапраўднай павагаю і кожны па чарзе шчыра ціснем Тваю далонь вялікую з прыязнасцю трапяткою.*

**«Маладосцеўцы», усе як адзін**



**Яна Мусвідас**

## У зіму па-чалавечы

**Дзявятага чысла месяца кастрычніка 2015 года ад Нараджэння Хрыстова на вуліцах слаўнага горада Мінска былі заўважаны слабыя прадвеснікі зімы — першыя маўклівыя сняжынкі. Пасля іх выпадзення здарылася шмат рознага: і цёплыя сонечныя дзянькі, і моцныя восеньскія вятры, і лёгкі пяшчотны дождж. Але той раніцай сведкі міжволі ўспомнілі дэвіз дома Старкаў са знакамітага серыяла «Гульня Тронаў»: «Зіма ўжо блізка».**

Навука вельмі любіць дзяліць людзей на тыпы, але чамусьці ніхто ніколі не вылучаў катэгорыі «ў адносінах да зімы». Я вырашыла быць піянерам у гэтай справе.

Колькі людзей — столькі і адносін да зімы. Мы, як і жывёлы, абсалютна па-рознаму перажываем холад. Навукоўцы заўважаюць, што ўзімку сярод людзей назіраецца «павышаная дрымотнасць». Насамрэч, у кожнага з нас ёсць знаёмыя, якім больш камфортна перажываць холад у сне, гэткія людзі-мядзведзі. Ну, або людзі-бабры. Гэта першая катэгорыя ў класіфікацыі «па Мусвідас».

Але не ў кожнага, каму некамфортна зімой, атрымліваецца заснуць. Нешчасліўцы падобныя да дзікоў, якія ходзяць зімою худыя і схільныя да дэпрэсіі.

Поўная супрацьлегласць людзям-дзікам — людзі-ваўкі, людзі-зайцы і людзі-лісы. Гэтыя, наадварот, усю зіму праводзяць у руху і пастаянным пошуку ежы. Прыстасоўваюцца пад надвор'е, змяняючы «футра», і атрымліваюць ад гэтай пары года сапраўднае задавальненне. Самая задаволеная катэгорыя.

Тыпаж нумар чатыры — самы распаўсюджаны. Да яго я адношу і сябе. Гэта людзі-вавёркі. Мы не ўпадаем у спячку, але лішні раз не высоўваемся. Па ежу — і назад, ва ўтульнае дупло. Можна сказаць, «жывём па Бродскаму».

Да якога б тыпу чалавек сябе ні адносіў, я лічу, што зіму перажыць можна лёгка. Неабходна толькі назапасіцца цёплым адзеннем, мяккім пледам і стосам добрых кніг. А калі гэты просты рэцэпт не дапамагае, заўсёды можна ўзяць прыклад з пералётных птушак: памчацца ў далёкія цёплыя краіны.

Галоўная выснова, да якой я прыйшла ў сваю васямнаццатую зіму: заўсёды цяплей зімаваць разам, бо няма нічога больш камфортнага, чым дабрыня чалавечых стасункаў.

### Топ-8
**кніжак для чытання пад пледам (версія рэдакцыі):**

Ян Баршчэўскі. «Шляхціц Завальня»;
Уладзімір Караткевіч. «Калядная рапсодыя»;
Чарльз Диккенс. «Рождественская песнь в прозе»;
Николай Гоголь. «Вечера на хуторе близ Диканьки»;
Туве Янссон. «Волшебная зима»;
Казкі Сяргея Казлова;
Навелы О'Генры;
Юн Чжан. «Дикие лебеди».



## Аляксандр Рагачук:

# «Нічога не складана, калі ёсць людзі, якія гараць ідэямі»

**З кіраўніком культурнай сталіцы года, старшынёй Брэсцкага гарвыканкама Аляксандрам Рагачуком гутарыць Кацярына Захарэвіч. Размова ідзе не толькі пра культурныя падзеі Брэста і дасягненні года, але і пра Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання», якая прайшла ў Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага.**

**— Што даў гораду статус культурнай сталіцы года? Як змянілася жыццё гараджан з гэтай нагоды? Якія культурныя мерапрыемствы прайшлі за гэты год?**

— Для Брэста як для вялікага слаўнага горада культура — паняцце шматграннае. Выяўленчае мастацтва сучаснікаў і іх папярэднікаў, архітэктурная спадчына і музеі, музыка, тэатр і кіно, танцы і спорт, бібліятэкі і школы, традыцыйная народная і інавацыйная творчасць, мастацкае афармленне вуліц, жывы і пераменлівы асяродак. Брэст — адзін з найстаражытнейшых гарадоў Беларусі, вось-вось адзначыць сваё тысячагоддзе. Падзеі розных часоў адбіліся ў археалагічных, архітэктурных, ваенных помніках: Брэсцкай крэпасці, якая стала знакавай для горада, гарнізонных могілках савецкіх воінаў, якія загінулі ў Другой сусветнай вайне, Берасцейскім гарадзішчы, бескургановым магільніку на месцы былой вёскі Трышын, Брацкай Свята-Мікалаеўскай царкве, кафедральным касцёле, будынку чыгуначнага вакзала… Больш за сем дзясяткаў аб'ектаў Брэста ўвайшло ў рэспубліканскі «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі».

Сімвалічна, што ганаровае званне «Культурная сталіца Беларусі-2015» наш горад атрымаў у год юбілею Перамогі над фашызмам. Цырымонія перадачы сімвалаў рэспубліканскай акцыі прайшла ў акадэмічным тэатры драмы падчас закрыцця XXVII міжнароднага фестывалю класічнай музыкі «Студзеньскія музычныя вечары». Гэта невыпадкова. Прадстаўнічы музычны форум больш за дваццаць гадоў з'яўляецца культурнай візіткай Брэста. Арганізатару і дырэктару фестывалю, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь Ліліі Батыравай менавіта сёлета было прысвоена званне «Ганаровы грамадзянін горада Брэста».

Музычная культура нашага горада на працягу года радавала шырокай канцэртнай афішай. Навінка музычнага сезона 2015-га — першы Міжнародны конкурс піяністаў, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння С. Рыхтэра, — паказала не толькі віртуознасць майстэрства выканаўцаў, але і высокі ўзровень арганізацыі. Гран-пры конкурсу атрымала студэнтка Беларускай акадэміі музыкі з Кітая Лю Чэньюй.

Пасольствам Беларусі ў Францыі і Іспаніі (па сумяшчальніцтве) перададзена ў дар гораду калекцыя прац выяўленчага мастацтва, выкананых іспанскай мастачкай Хасефай Меса Гарсія, з размяшчэннем іх у фондах музея гісторыі Брэста.

Па горадзе ходзяць «гістарычны» і «паэтычны» тралейбусы. У першым берасцейцы і госці горада знаёмяцца з яго гісторыяй і развіццём, у другім гучаць пранікнёныя вершы.

Фундамент культурнага жыцця горада над Бугам ствараюць шэсць музеяў, сярод якіх ёсць унікальны — «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці». Экспанатамі ў гэтым музеі з'яўляюцца творы мастацтва, якія спрабавалася нелегальна вывезці за мяжу. Нядаўна быў адкрыты новы музей у Паўднёва-ўсходняй казарме Брэсцкай крэпасці з сімвалічнай назвай «Музей вайны — тэрыторыя міру».



Форум вулічных тэатраў.



Мэр Брэста Аляксандр Рагачук чаканіць манету.

Яскравай культурнай падзеяй года, безумоўна, стаў Дзень горада. Сваё 996-годдзе Брэст адзначыў феерверкам адметных і запамінальных мерапрыемстваў, сярод якіх асабліва вылучыўся юбілей Брэсцкага манетнага двара. Тут 350 гадоў таму ўпершыню ў Беларусі была адчаканена медная манета солід. Першы міжнародны фестываль вулічных тэатраў здзіўляў гараджан фарбамі, фантазіяй і талентам удзельнікаў. Форум плошчавых спектакляў зрабіў тэатральнае жыццё Брэста яшчэ больш насычаным.

Штогод у нашым горадзе праводзяцца рэгіянальныя і міжнародныя фестывалі. 2015-ты стаў юбілейным для аншлагавага фестывалю «Белая вежа». Дваццаць гадоў яго падмосткі збіраюць артыстаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Латвіі, Ізраіля і іншых краін. Афіша фестывалю дазволіла гледачам убачыць тэатр у шматграннасці і шматаблічнасці, разнастайнасці жанраў і форм: камедыі дэль артэ, народнай трагедыі, паэтычнай фантазіі, пластычнай драме, трагіфарсе і вадэвілі.

Сёлета міжнародны статус атрымала гістарычная рэканструкцыя 21—22 чэрвеня, прысвечаная Дню памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны. У культурную сталіцу з'ехаліся каля пяцісот чалавек з уніфармісцкіх клубаў розных краін. Ганаровым госцем мітынгу ў Брэсцкай крэпасці стаў Патрыярх Маскоўскі і Ўсяе Русі Кірыл, які прыехаў у Брэст спецыяльна для ўдзелу ў Дні памяці і правядзення памінальнай службы ў Свята-Мікалаеўскім гарнізонным саборы.

Культура — паняцце шматпланавае. Актыўнае добраўпарадкаванне горада — адна з адметных рыс сёлетняй культурнай сталіцы. Уведзены ў строй два фантаны — новыя штрыхі камфортнага і прэзентабельнага гарадскога асяродка. Адрамантаваны тэатральна-канцэртны зал абласнога Палаца культуры прафсаюзаў. Адкрыта пляцоўка для выступленняў вулічных артыстаў і музыкаў на вуліцы Савецкай, дзе ўвесь год даваліся дабрачынныя канцэрты ў дапамогу хворым дзецям.

**— Якія культурныя планы на год наступны? Ці саступіць ён 2015-му па насычанасці?**

— Нягледзячы на сваю доўгую тысячагадовую гісторыю, Брэст застаецца горадам маладым, ён жыве яркім, разнастайным, насычаным культурным жыццём. Штогод у Брэсце праводзіцца больш

чым дзве тысячы культурна-масавых мерапрыемстваў. Частка з іх максімальна набліжана да гараджан: гэта святы мікрараёнаў, двароў, вуліц, канцэрты артыстычных, песенных і танцавальных калектываў. У горадзе налічваецца звыш 170 аматарскіх і прафесійных творчых аб'яднанняў.

Валодаючы добрай інфраструктурай, Брэст часта становіцца месцам правядзення розных мерапрыемстваў: ад міжнародных самітаў да фестываляў рыцарскіх клубаў.

Культурных планаў на наступны год — мноства. Будзем здзіўляць і берасцейцаў, і гасцей самымі рознымі святамі, акцыямі, канцэртамі. Асаблівы падарунак рыхтуем для маленькіх гараджан — унікальны тэатр лялек!

**— Якія магчымасці ёсць у Брэста, каб прапанаваць жыхарам і гасцям нешта… ну зусім незвычайнае?**

— Быць культурнай сталіцай — місія ганаровая і адказная. Перамога ў рэспубліканскай акцыі дазволіла звярнуць увагу беларусаў на тое, што Брэст — гэта горад дамашняй утульнасці, дзе аднолькава камфортна адчуваюць сябе прадстаўнікі самых розных творчых накірункаў і плыняў. Гэта горад, дзе ціхія ўтульныя кавярні суседнічаюць з шумнымі начнымі клубамі, дзе аматар даўніны адчувае радасць адкрыцця ў музеях, а прыхільнік муз чэрпае натхненне ў харастве паркаў і сквераў. Гэта горад, дзе добра людзям усіх узростаў і нацыянальнасцей. Беражлівае стаўленне берасцейцаў да гістарычнай і культурнай спадчыны, яе захаванне і адраджэнне, а таксама дасягненні ў справе папулярызацыі сучаснай культуры далі Брэсту права з годнасцю пранесці тытул культурнай сталіцы. Берасцейцы любяць Брэст. І актыўна падтрымалі ініцыятыву «Брэст — культурная сталіца Беларусі». Маладыя актывісты стварылі інфармацыйныя старонкі ў сацыяльных сетках і сайт http://kulturabrest.by, дзякуючы якому горад робіцца больш адкрытым і прывабным.

**— Раскажыце, калі ласка, пра канферэнцыю «Берасцейскія кнігазборы»: як даўно яна праводзіцца, для чаго задумвалася? Хто быў ініцыятарам?**

— Асаблівае месца ў гарадской культуры займаюць бібліятэкі. Вялізная колькасць розных мерапрыемстваў, акцый і свят прайшла сёлета пад іх эгідай. 22—25 верасня абласная бібліятэка імя М. Горкага прыняла III Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання». Яна з'явілася лагічным працягам даследаванняў, распачатых уласна абласной бібліятэкай у 2008-м, 2012-м і 2013-м гадах. Вынікі іх абмяркоўваліся на папярэдніх канферэнцыях, а таксама на міжнародным «круглым стале» «Брэсцкая Біблія — унікальны помнік культуры XVI стагоддзя». Сёлетняя канферэнцыя была прымеркавана да важных юбілейных дат — 500-годдзя Мікалая Радзівіла Чорнага, 350-годдзя Брэсцкага манетнага двара і 75-годдзя Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага.

Мне пашанцавала — я стаяў ля вытокаў стварэння «Берасцейскіх кнігазбораў». Першую канферэнцыю мы рыхтавалі і праводзілі ў 2008-м, я выдатна разумею і высока цаню яе значнасць. Вывучэнне Брэста і Брэсцкай вобласці праз прызму існавання кнігі і кніжнасці — гэта і мэта, і каштоўнасць канферэнцыі адначасова.

**— Наколькі складана арганізаваць міжнародную канферэнцыю, скажам так, не ў сталіцы?**

— Гэта нескладана, калі ёсць людзі, якія гараць ідэямі. Такія як дырэктар бібліятэкі Тамара Данілюк і намеснік дырэктара па навуковай рабоце Ала Мяснінкіна. Менавіта яны — асноўныя арганізатары гэтай канферэнцыі.




Пасажыры і паэтычны тралейбус.

Аляксандр Рагачук

## Нягледзячы на сваю тысячагадовую гісторыю, Брэст застаецца горадам маладым, ён жыве яркім, разнастайным, насычаным культурным жыццём

**— Як выкарыстоўваецца асаблівасць Брэста — тое, што гэта памежная тэрыторыя некалькіх этнасаў?**

— Выкарыстоўваецца прадуктыўна. Да ўдзелу ў канфэрэнцыі сваіх прадстаўнікоў вылучылі польскія, расійскія, украінскія і беларускія ўстановы — акадэміі навук, універсітэты, музеі, архівы і бібліятэкі.

**— Якія людзі ці падзеі падчас канферэнцыі ўразілі больш за ўсё? Якую матывацыю мелі яе ўдзельнікі?**

— Мне падабаюцца людзі захопленыя — ідэяй, стылем, спосабам мыслення. Людзі, якія выходзяць за межы штодзённасці ў добрым сэнсе. Такіх на канферэнцыі было шмат. Хацелася б адзначыць і кнігі, якія захапілі і ўразілі. Гэта «Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa brzeskolitewskiego» пад рэдакцыяй Яна Астроўскага, якую прадставіў доктар Марцін Зглінськi з Інстытута мастацтваў Польскай акадэміі навук. І кніга «Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596—1839», якую прэзентаваў аўтар, кандыдат гістарычных навук, намеснік дырэктара па навуковай працы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Дзяніс Лісейчыкаў.

А вось пытанне пра матывацыю — гэта хутчэй не да мяне, а да саміх удзельнікаў канферэнцыі. Для мяне было важным даведацца як мага больш новага пра культурнае мінулае Брэста. Адна з асноўных рыс праяўлення культуры — захаванне традыцый і спадчыны продкаў і перадача іх нашчадкам, каб не страцілася сувязь пакаленняў і часоў. Культура Брэста ў гэтым сэнсе — унікальная, не падобная на іншыя. Я рады, што ў Брэст вяртаюцца часцінкі яго спадчыны. Нядаўна адбылася перадача карцін самабытнага мастака, ураджэнца Брэст-Літоўска Якава Балглея, працы якога папоўнілі фонды Музея гісторыі горада ўпершыню. Гэтыя карціны перадаў Ганаровы консул Ганаровага консульства Французскай Рэспублікі ў горадзе Брэсце Леанід Стаецкі.

Выдатна, што ў нашым горадзе жывуць нераўнадушныя і заможныя людзі — мецэнаты, якія, падтрымліваючы культуру, развіваюць духоўнасць грамадства. Але гэта толькі пачатак вялікай дарогі. Наступны крок — вяртанне ў Брэст кніжнага рарытэта, выдадзенай тут Бібліі. У Брэсце няма ніводнага яе экземпляра. Магчыма набыццё праз калекцыянераў. Брэсту неабходна гэта зрабіць: набыць Біблію для горада — не толькі як музейны экспанат, але як рэліквію Брэста, сімвал яго гісторыі і культуры.

**— Якія пытанні і тэмы былі на канферэнцыі галоўнымі і якія практычныя вынікі яна прынесла?**

— Пасля пленарнага пасяджэння з некалькімі дакладамі ў канферэнц-зале Брэсцкага гарвыканкама праца працягвалася па чатырох секцыях: «Кніжная культура Брэстчыны ў XIX—XXI стагоддзях», «Даследаванні гісторыі кнігі Беларусі і Брэстчыны XVI—XVIII стагоддзяў», «Людзі Кнігі Берасцейшчыны» і «Юбілеі культурнай сталіцы Беларусі-2015». Месцамі іх правядзення сталі некалькі пляцовак горада: абласны грамадска-культурны цэнтр, інфармацыйны сектар абласной бібліятэкі, абласны краязнаўчы музей. Лічу, што праведзена вялікая і важная работа. Усе тэмы канферэнцыі былі вартымі і цікавымі, негалоўных тэм там проста не існавала. Канферэнцыя мае вялікае навуковае значэнне для Брэста і рэгіёна. Мэта яе — не толькі прадэманстраваць значнасць і каштоўнасць гістарычных кнігазбораў Брэстчыны, але і выявіць рэгіянальныя асаблівасці іх стварэння, захавання і вывучэння ў кантэксце кніжнай культуры Беларусі. Па выніках канферэнцыі плануецца выдаць зборнік.

**— Ці была магчымасць у звычайных жыхароў горада трапіць ці як-небудзь паўдзельнічаць у ёй?**

— У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі бібліятэк, музеяў, архіваў, адукацыйных, навуковых і іншых устаноў, органаў заканадаўчай і выканаўчай улады, супрацоўнікі выдавецтваў, члены творчых аб'яднанняў, увогуле, усе зацікаўленыя асобы.

# «Вось што я думаю…»

**З інтэрв’ю папярэдняй рубрыкі зразумела, што канферэнцыя «Берасцейскія кнігазборы» — з’ява ўнікальная. «Маладосць» звярнулася да некаторых яе ўдзельнікаў, прадстаўнікоў розных краін, з просьбай падзяліцца ўражаннямі. Водгукі сабрала Тамара Мінютка.**



## Вацлаў Валецкі,

**прафесар, доктар габілітаваны, загадчык кафедры старапольскай літаратуры і Цэнтра даследаванняў Польскай бібліяграфіі Эстрэйхераў (Ягелонскі ўніверсітэт):**

— Я думаю, што дзякуючы актыўнай дзейнасці супрацоўнікаў Брэсцкай абласной бібліятэкі на лініі Брэст—Кракаў—Брэст адбылося штосьці вельмі добрае. Тры навуковыя канферэнцыі і адзін «круглы стол» прывялі да двухбаковай навуковай зацікаўленасці інтэлектуальнай культурай даўняга Бярэсця. Часткова яны прысвечаны аднаму з найважнейшых друкаваных сімвалаў культуры Рэчы Паспалітай абодвух народаў, які менавіта тут і з’явіўся. Арганізаванае два гады таму святкаванне 450-й гадавіны Брэсцкай Біблії (не было 450 свечак, але торт у выглядзе навуковай канферэнцыі аказаўся надзвычай прыгожы і смачны) прывяло да з’яўлення першапачатковых даследчыцкіх планаў, звязаных з цэлым комплексам навуковых пытанняў, вельмі важных і неабходных для вырашэння з пункту погляду старапольскай культуры і ўдзелу ў ёй брэсцкага асяродка. Перадусім удалося скласці (зараз ужо амаль гатова да друку) бібліяграфію гэтага помніка. А з акрэсленага мной у дыскусіі плана далейшых даследаванняў пачалі з’яўляцца канкрэтныя навуковыя вынікі. Дзякуючы даследаванням Станіслава Сіес-Кшышкоўскага быў абвергнуты міф пра захаванне толькі невялікай колькасці экземпляраў кнігі, пра быццам бы масавае спаленне кніг пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага. Вучоны вызначыў, што сёння ў шматлікіх бібліятэках і іншых зборах па ўсім свеце захоўваецца каля 150 экзэмпляраў розных друкаваных варыянтаў Радзівілаўскай біблії (у кантэксце іншых друкаваных помнікаў XVI стагоддзя — прыцягальная лічба), што мэтавы наклад 1563 года трэба было ацаніць у прыкладна 1000 экзэмпляраў. Гэтыя сцвярджэнні робяць магчымымі наступныя даследаванні: стварэнне рэестра ўсіх захаваных экзэмпляраў, іх апісанне з асаблівым акцэнтам на запісы, якія сведчаць пра паходжанне, і ўвогуле на ўсе запісы ад рукі. Бо яны адчыняюць дзверы ў далейшыя даследаванні рэцэпцыі кнігі, яе значэння для культуры свайго часу. Незалежна ад гэтага з’яўляецца пільная патрэба інтэрпрэтацыі матэрыялу так званага прадмоўна-пасляслоўнага комплексу Брэсцкай Біблії, асабліва прысвячэння Жыгімонту Аўгусту. З гэтым у сваю чаргу звязана ўся папулярызацыйная палітыка, якая праводзілася ў адносінах да гэтай публікацыі Панам з Нясвіжа. У маім паведамленні, якое абапіраецца ў асноўным на лацінскую перапіску Мікалая, я выказаў, што яна з’яўляецца класічным прыкладам таго, што мы сёння называем піяр-палітыкай, згодна з яе класічнай дэфініцыяй: «Мэтай дзейнасці public relations з’яўляецца дбанне пра добры імідж і добразычлівае стаўленне да дзеянняў дадзенай асобы ці фірмы». Далей — аналіз самога перакладу Святога Пісання несумненна прывядзе да лепшага разумення і асвятлення многіх аспектаў шматлікіх рэлігійных палемік эпохі Рэфармацыі. Але вернемся да самога Брэста. Выступленні на апошняй канферэнцыі пацвердзілі, колькі іншых пытанняў патрабуюць далейшых навуковых даследаванняў. Напрыклад, аналіз дзейнасці брэсцкага асяродка перад выданнем Брэсцкай Біблії. Бо менавіта так званая «атака мазгоў», якая адбывалася ў ім у той час, была прычынай выдання

кнігі. Яна ж не вырасла як самотная пальма ў інтэлектуальнай пустыні. Таксама перыяд пасля выдання кнігі: як выкарыстоўвалі пераклад у наступных публікацыях, якое было яго літаратурнае патомства…

Хацелася б яшчэ шмат напісаць у духу «Вось што я думаю…», але сімпатычнае запрашэнне рэдакцыі часопіса «Маладосць», на жаль, абмяжоўвае памер выказвання… Можа, калі-небудзь іншым разам… У любым выпадку запрашэнне на чарговыя канферэнцыі ў абласную бібліятэку ў Брэсце заўсёды адкрытае для неспакойных розумаў.

P. S. Брастаўчане! На праміль Бог! Пастарайцеся зрабіць матэрыяльнае пацверджанне месца існавання брэсцкай друкарні! (Ведаю, што праведзеныя спутнікавыя даследаванні пацвярджаюць вельмі верагодныя пазітыўныя ахеалагічныя вынікі.) Памятная табліца была б цудоўнай візітоўкай для ўсіх нас, зацікаўленых старажытным Брэстам.



## Юстына Сівец,

**магістр, дактарантка (Ягелонскі ўніверсітэт):**

— Міжнародная канферэнцыя «Брэсцкія кнігазборы» ахоплівае навуковыя пытанні, якія даследуюцца ў шматлікіх міжнародных навуковых асяродках. Падзеі, звязаныя з брэсцкім друкам, напрыклад, публікацыя Радзівілаўскай Бібліі, мелі ўплыў не толькі на мясцовыя супольнасці, але таксама на ход падзей універсальнага характару, як, скажам, гісторыя рэфармацыі. У выпадку такога важнага і шырокага даследчыцкага поля міжнародная канферэнцыя становіцца дасканалай падставай для неабходнага абмену інфармацыяй і даследчыцкіх перспектыў паміж рознымі асяродкамі. Сёлетняя канферэнцыя была багатая на цікавыя па змесце даклады. Не было недахопу і ў навуковых дыскусіях, часам гарачых — у рэшце рэшт, у навуковым свеце мы не абавязкова павінны паміж сабой згаджацца — але ў выніку заўсёды прыязных і схіляючых да рэфлексіі. Акрамя інтэнсіўнай і цікавай навуковай часткі арганізатары прапанавалі ўдзельнікам цудоўную «забаўляльную частку» — экскурсію ў Пінск. Дзякуючы ёй мы мелі магчымасць прыгледзецца да культуры і краявідаў Беларусі — зямлі, дзе выраслі помнікі, якія мы даследуем. Гэта было бясцэнна найперш для ўдзельнікаў, якія, як я, першы раз наведалі гэты прыгожы край. Удалая канферэнцыя, уражанні ад падарожжа, а перадусім сардэчнасць і гасціннасць гаспадароў прымушаюць мяне нецярпліва чакаць чарговага яе правядзення.



## Дзмітрый Бакун,

**кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела Навуковага і выдавецкага цэнтра «Навука» Расійскай акадэміі навук:**

— «Берасцейскія кнігазборы» — вельмі патрэбная канферэнцыя. Не толькі для Брэста і Беларусі, але і для бліжэйшых суседзяў. Па-першае, «Берасцейскія кнігазборы» ствараюць Брэсту дадатковую прыцягальнасць. Па-другое, канферэнцыя спрыяе больш глыбокаму вывучэнню кніжнай культуры не толькі Брэста, але і ўсяго рэгіёна памежжа Усходу і Захаду. Па-трэцяе, гэта міжнародная навуковая канферэнцыя дзякуючы неверагодна зычлівай атмасферы спрыяе лепшаму ўзаемаразуменню прадстаўнікоў розных краін і народаў. Думаю, што «Берасцейскія кнігазборы» будуць разві-

вацца і далей. У іх вялікі патэнцыял — як навуковы, так і асабовы. Будзе вельмі добра, калі «Берасцейскія кнігазборы» ператворацца ў добрую традыцыю цудоўнага горада над Бугам. Я вельмі ўдзячны ўсім удзельнікам канферэнцыі. Асабліва кіраўніцтву і супрацоўнікам Брэсцкай абласной навуковай бібліятэкі імя М. Горкага. Спадзяюся, што іх самаадданая праца і намаганні будуць ацэнены адпаведным чынам.



**Юрый Уласюк,**
**студэнт гістарычнага факультэта БДУ:**

— Для мяне дадзеная канферэнцыя — гэта не толькі магчымасць прадставіць вынік сумеснай з А. А. Гладышчуком (маім навуковым кіраўніком на канферэнцыі) працы, але і выдатная нагода пазнаёміцца з прадстаўнікамі навуковага кола і маладымі спецыялістамі (у тым ліку з Польшчы). Не магу не адзначыць высокі ўзровень падрыхтоўкі канферэнцыі. Гэта датычыцца як арганізацыі выступленняў дакладчыкаў, так і правядзення вольнага часу. Таксама можна адзначыць, што з нядаўніх часоў у сацыяльных сетках Facebook і «ВКонтакте» заведзены старонкі, прысвечаныя гэтай канферэнцыі. Яны дапамогуць усім зацікаўленым даведацца пра яе больш, а патэнцыяльных удзельнікаў (у тым ліку і моладзь) заклікаць да прыняцця ўдзелу ў ёй у наступныя гады.



«Запрашэнне на чарговыя канферыцыі ў абласную бібліятэку ў Брэсце заўсёды адкрытае для неспакойных розумаў».



## Павел Горбач

**«Я нарадзіўся 8 красавіка 1993 года ў Салігорску ў 12.30, ішоў снег. Вучыўся ў мясцовай школе, нічым цікавым не займаўся, з шэрагаў не выбіваўся, хіба што гуляў у «Што? Дзе? Калі?». Працаваў на невядомых сайтах і ў нецікавых газетах. З Божай дапамогай скончыў Інстытут журналістыкі БДУ. Нейкім магічным чынам размеркаваўся ў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, дзе і працую старшым інспектарам сектара суправаджэння інфармацыйных рэсурсаў. Цікаўлюся гісторыяй, журналістыкай, дзяўчаткамі і літаратурай. Маё натхненне — рамантыка Заводскага раёна. З вершамі нідзе не друкаваўся».**

**Ці не досыць інтрыгуючая біяграфія, каб пазнаёміцца з вершамі Паўла?**

# За сталом, акрамя нікога, тузін кніжак ды белы хлеб

***

Твар каханай ад снегу мокры,
Яна робіць салату з морквы
І чакае мяне дадому.
Вечар. Ціша. Канапа. Стома.

Добры фільм, пацалункі, кава.
Чым цямней, дык тым больш ласкава
Як каты, паглядаем у вочы.
Канец фільма.
Пачатак ночы…

***

Смех дзявочы, бы вецер, ляціць мне у твар —
Пах кахання, гарэлкі, парфумы, марозу.
У лістападзе дзяўчыны — каштоўны тавар,
Восень позняя дрэнна натхняе на прозу.

Гэты пах ў галаве, быццам едкі туман,
Не дае прадыхнуць, думкам разам сабрацца,
Пранікае ў кроў ядавіты дурман
Ды і зноў прымушае мяне закахацца.



Гравюра Маргарыты Дабравольскай

## Планы

Не адʼязджаць, а застацца дома —
Не парываць з родным краем ніць.
Вершы пісаць і чытаць знаёмым.
Кінуць паліць, мацюкацца і піць.

Працу нарэшце знайсці такую,
Каб не ўзнікала жадання завыць.
І закахацца напрапалую!
Кінуць паліць, мацюкацца і піць.

Спрэс усміхацца і быць праўдзівым.
Ціха і мірна гняздо сваё віць.
Вораг як прыйдзе — узняць на вілы.
Кінуць паліць, мацюкацца і піць.

Трэ пачынаць — а хапае часу
Проста па плыні ціхенька плыць.
Першы крок ведаю — трэба адразу
Кінуць паліць, мацюкацца і піць.

***

Цёмна. Цемра зайшла у хату.
Холад гучна загрукаў у акно.
Дапіваеш сваю гарбату,
Бачыш кубка шклянога дно.

За сталом, акрамя нікога,
Тузін кніжак ды белы хлеб.
Тут няма нават таго Бога,
Што стварыў сабе чалавек.

***

Вершы не пішуцца, калі сыты,
Калі спакойны — радка ніводнага,
Калі забытыя ўсе малітвы,
З цёплых павеваў ветру лагоднага.

Толькі з-за жорсткага шторму, буры
Слова імкліва ляціць ад сэрца.
Каб змог урэшце паэт пахмуры
Ім і насыціцца, і сагрэцца.

***

Неяк самотна
ад таго,
што мой голас
ніхто не пачуе,
ніхто да мяне не дакранецца
каханнем.
Але нават добра,
што ніхто
не будзе ведаць пра тое,
што вершаў шмат,
а чытаць іх
няма каму.
Ніхто не пазнае
на вуліцы,
ніхто не скажа
распеўным голасам:
«Ты напісаў верш без рыфмы».



Гравюра Маргарыты Дабравольскай



Алег Нікулін

**нарадзіўся 31 кастрычніка 1972 года ў вёсцы Арда Клецкага раёна. Скончыў Мірскае мастацкае вучылішча. Вучыўся таксама ў Пінскай Міждыяцэзіяльнай Вышэйшай Духоўнай Семінарыі імя святога Тамаша Аквінскага. Працаваў настаўнікам выяўленчага мастацтва, вартаўніком, справаводам. Друкаваўся ў шматлікіх газетах і часопісах. Жыве ў вёсцы Гурнаўшчына Клецкага раёна. Займаецца літаратурнай творчасцю і служыць міністрантам у клецкім касцёле Святой Тройцы.**

# Калі няма для Дракулы ахвяры

## Ноч у лесе

Маладзік у небе ззяе,
Птушак срэбрам спакушае,
Каб ляцелі да аблокаў
Ад чужых, павольных крокаў
З лесу цёмнага, бо хтосьці
Ломіць дрэвам з рэхам косці —
Стагадовыя галіны.
І чуваць, як цар змяіны
Выпаўзае з-пад пянька
На святло маладзіка.

***

Вяне чырвоная ружа
З сонцам заходнім. І плач
Чуецца дзіўны, бы сцюжа…
Так не заплача крумкач!

Вечар спаткаецца з цемрай,
Каб адысці ад святла…
Вочы запаляцца шэрай,
Прывіднай зайздрасцю зла.

Хто ў іх хаваецца? Жахі?
Чорныя крылы з нябёс
Сыплюцца градам на дахі.
Жыта гарыць і авёс.

Помнікі д’яблу не гнуцца,
Бо пачалі бранзавець.
Слёзы крывавыя льюцца,
Хвалямі б’юцца аб смерць.

## Дракула

Я, пэўна, хутка з’еду. Хай даруюць
Усе, каго пакіну. Толькі тут
Застацца трэба сёння для пакут.
Відаць, што зноў на Дракулу палююць…

Сустрэну госця добра, але з мэтай,
Каб ведаў, дзе знаходзіцца той свет,
Які шукаюць людзі пасля гэтай
Нікчэмнай смерці… Вось мой запавет:

Калі няма для Дракулы ахвяры,
Калі не можа ён яе знайсці
Або яе не прывядуць пачвары —
Сама павінна ў рукі мне прыйсці.

Такое правіла. Са мною згодны
Вампіры з Трансільваніі, пакуль
Магчымасць маюць дух пужаць народны
І сцерагчыся срэбраных тых куль,

Што часта ў нашы сэрцы адпраўляюць
Не абаронцы люду, а сыны
Маіх ранейшых ворагаў, бо знаюць,
Як цяжка пазбягаць сваёй маны.

Дзе госць мой? Адзінота раздражняе…
Прыйдзі хутчэй, бо цела без крыві!
Дзе чорт цябе, смяротнага, ганяе?!
Прабач, мой госць, жыві пакуль… Жыві.

Нам хопіць часу разам павячэраць,
А заўтра ты ўваскрэснеш, як Хрыстос…
Хоць у Яго не шчыра зараз вераць,
Але прынеслі нейк паперак стос

У замак мой мясцовыя сяляне;
Палохалі то крыжам, то Яго
Святою мовай, як ізраільцяне…
Назад пайшлі без Бога і ўсяго,

Што трэба ім для будучыні, веры…
Пайшлі ў нябыт, пакінуўшы жыццё.
Адчынены адгэтуль ў замку дзверы
Для ўсіх, хто зробіць гэта адкрыццё,
Маўляў, Хрыстос калісьці бессмяротным
У свеце быў, і мы, як Ён, памром,
Каб уваскрэснуць зноў у бестурботным,
Найлепшым сэнсе з Ім — Гаспадаром.

## Пекла на карцінах Босха

Босх жахлівае пекла ствapae,
Каб не жыць у ім зараз і потым,
Каб пакінуць яго… Назірае
За прамоўцам адным крываротым.

І малюе яго як пачвару,
Што смяецца з ахвяраў уласных…
На палотнах стварае не мару,
А грахі ўсіх злачынцаў, няшчасных.

Сумна бачыць, як д'ябал з'ядае
Іх птушынай драпежніцкай дзюбай
І патрэбу пад тронам спраўляе,
Як сваю, чалавечую — згубай.

Дзе адчаю канец і пакутам?
Не мастак, а Сусветнае Вока
Той, хто ведае, што з родным кутам
Адбываецца недзе глыбока…

## Самотны Купала

Уваходжу ў вялікую залу,
Ці чырвоную, ці ружовую…
Бачу прывіда — Янку Купалу
Ці яго душу папяровую.

Што напісана ў гэтай Паперы —
Разабраць не магу ані слова.
Мусіць, літары гінуць без веры
І сціраецца з постаці мова.

## Прывід

Паміж людзей у час начных спатканняў
Я прывіда сустрэў.

Пасля сваіх самотных вандраванняў
Самоты ён не меў.

Ён ганарыўся страсцю патаемнай
І розумам сваім —
Усім казаў пра лёс душы імгненнай,
Пра смерць казаў усім.

Калі ж ён знік у вольнасці паўсюднай,
Дарэмна я шукаў
Сляды яго ў прасторы шэрай, нуднай…
Няўжо сябе спаткаў?

## Успамін пра Мцыры

Ён уцякаў ад змрочных сцен,
Манахам быць не мог…
Што атрымаў тады ўзамен —
Пра тое ведаў Бог.

Шукаў свабоду, мару, дом
У вечнай барацьбе,
Затым вярнуў з манастыром
Прытулак у сабе.

***

Паэтаў шмат. І ўсе яны нямыя…
Не маючы магчымасці казаць
Свабоднай праўды словы незямныя,
Прадаўшы душы, мусяць патухаць
Забытымі, адмовіўшыся славу
І памяць берагчы дзеля таго,
Каб не баяцца, знішчыўшы дзяржаву,
Пра край свой думаць і народ яго.



Ганна Навасельцава

**нарадзілася 11 мая 1983 года ў Віцебску. Працуе выкладчыкам на філалагічным факультэце. Любіць вясёлых студэнтаў і добры настрой на занятках. Упэўнена, што міфалогія і журналістыка могуць зацікавіць кожнага. Марыць напісаць універсальны падручнік.**

## Зюзіч

— Як замятуць завеі белы свет, скуюць маразы імклівыя рэкі, запарушаць іскрыстыя сняжынкі людскія вочы, з'яўляецца на шляхах-вандроўках нехта, падобны і да цябе, і да мяне. Не зусім сур'ёзны, не надта і вясёлы. Просты, сціплы. Ходзіць побач, незаўважны. Але сам усё ўгледзіць, усіх пабачыць…

У яго прыгожая ўсмешка, шчырыя, глыбокія вочы. Ён зычліва, спагадліва прывячае людзей. Шукае сабе сяброў. Але зірні яму ў твар адкрыта — і пабачыш вечнае мроіва бясконцых снягоў. Бель завірух, холад доўгай ночы. Ды хутка пасля таго зімовыя маразы перахопяць тваё дыханне. Глядзіш — і баішся зварухнуцца. Маўчыш… І так сябрам верным застанешся з ім назаўсёды.

Хто гэта? Зюзіч. Сын траскучага марозу, унук сівой зімы. Ідзе па белым свеце, з'яўляецца сярод людзей. Хаваецца лёгка, увішна. А можа, не надта і хаваецца?.. Вядзе за сабою пранізлівыя вятры-віхуры, называючы іх роднымі братамі. Падказвае мяцеліцам, калі ім лепей усхадзіцца. Не рыпіць у яго пад нагамі снег, не чапае сваім сцюдзёным дыханнем. І толькі табе ды мне, толькі людзям ён страшны: і тым, хто ў прыгожых палацах, і тым, хто ў нізкіх хацінах. Чым? Сваёй непрадказальнасцю. Зюзіч будзе побач доўга, а ты і не здагадаешся. Будзе шукаць тваю слабіну. А як знойдзе — будзе марозіць, кпіць-халадзіць, пакуль не выцягне дух. Што ўсміхаешся загадкава-летуценна?.. Не верыш мне, старому?

— Не верыць такой ладнай показцы нам, маладым, няможна. Ды толькі чаму ж зрабіўся марозаў сын такім… нядобрым? Доўга ж быў сярод людзей. Мог навучыцца ў іх спагадаць…

— Зюзіч не здолее таго — мае халодны кавалак ільду замест сэрца. І, мабыць, калі ўчыніць нешта добрае — растане, згарыць ад цеплыні чалавечай удзячнасці.

— Хіба ж можа быць такое?

— Ды што я табе кажу — не верыш ані… Глядзі, сустрэнецца Зюзіч далёка ад дому, дык ніколі не вернешся. Гуляе ў сэрцах ягоных сяброў халодны, пранізлівы вецер. Іх даўно ўжо не чакаюць. Сцеражыся марозавага сына. Лепей аніколі не сыходзіцца з ім…

— Чаму ж думаеш, што некалі сыдуся?

— Ды таму, што ты дасціпны, кемлівы і ўсё нечага шукаеш. Табе і цяпер, бачу, на месцы ўжо не сядзіцца. Куды спяшаешся?

— Пайду. Скароціць мой шлях твая показка.

— Не ідзі! Сам жа гэты прытулак знайшоў. Чым тут дрэнна?

Ён доўга не зводзіць вачэй з мяне. Болей не пытаюся, не спрачаюся. Бачу, як віхурацца белыя чмялі за нізкім акном. Пякуча-сцюдзёныя, іскрыстыя, прыгожыя. Колькі буду на іх глядзець — столькі буду дзівіцца.

— Глядзі ты, як моцна ўсхадзіўся вецер, — чамусьці кажа мне.

— Але нядоўга яму злавацца, — мне ўжо прыкра заставацца сярод выпадковых спадарожнікаў.

— Адкуль ты ведаеш гэта?

— Проста ведаю.

— Проста?

Не адказваю. Навошта? Ім мяне не зразумець. Стары з лірай, ля яго — хлопчык-падлетак. Жвавы, рухавы, на месцы яму не сядзіцца. І на мяне, незнаёмага, чужога, пазірае з цікаўнасцю. Мабыць, унук таго лірніка-казачніка. Акрамя іх — яшчэ адзін сівавусы, досыць мажны і, напэўна, дужы. На нас, дакучлівых суразмоўцаў, і блізка не зважае. Схаваўся ля цёмнай покуці ды «шах-шах-шах» — вострыць меч. Відаць, майстар-збройнік. А меч у яго гартаваны, сапраўдны. Такіх шмат пабачыў, добра ведаю.

З лірнікам і хлопчыкам мы сустрэліся яшчэ ў дарозе ды пад вечар дабрылі сюды, у лясную зацішную хацінку, дзе былі збройнік ды сам гаспадар. Гэты трохі ліслівы ды сквапны — адразу не спадабаўся. Параскідаў нечага па падаконнях недароблены гліняны посуд. Але сёння зусім не ахвочы я да чужых таямніц, у няблізкай дарозе прытаміўся. Ды трэба ж, зноў яна мяне кліча. Пайду ўжо, пайду.

— А, пойдзеш ужо? — недарэчна перапытвае гаспадар, як бы не верыць, што я адважуся выйсці з цёплага жытла ў такую замець.

Яму не зразумець, што вабіць мяне зімовая ноч. Яна чыстая, халодная. Сцюдзёніць прыкрыя думкі, дарэмныя перажыванні. Вось выйду зараз ды забудуся на марную цікаўнасць гэтага ліслівага. І што ён на мяне так утаропіўся? Не буду глядзець на зняважлівую ўсмешку збройніка. Што ж, я не толькі яму здаваўся занадта летуценным. Не зводзіць з мяне вачэй і мой знаёмы лірнік, як бы не давярае, выпрабоўвае. І толькі хлопчык адчуў нейкую незразумелую трывогу, стаіўся, заціх. Пільна сочыць за мной спуджаным зайчыкам.

Дзякую гаспадару за кароткі прытулак. Кратаю дзверы. Зачыненыя. Востра адчуваю сябе лішнім тут, сярод людзей, якія стаміліся ў сваіх вандраваннях. Хочуць адно сагрэцца, адпачыць. Злуюцца, што доўгая дарога ніяк не скончыцца. І гатовыя пасварыцца з кожным, хто сваёй дарозе радуецца.

— Адчыні дзверы, — кажу гаспадару.

Той яшчэ болей угінае спіну ды ніяк не адклікаецца. Хацеў бы ад мяне схавацца, але не можа. Не жадаючы болей са мною знацца, зацята маўчаць іншыя. Нібыта не чуюць і не бачаць анікога, апроч саміх сябе.

Не глядзіць на мяне і лірнік, паклаўшы перад сабой худыя рукі. Сумны, як і тады, на заснежанай дарозе, калі я пабачыў яго з хлопчыкам. «Куды ідзеш?» — пачуў ад яго. «Далёка», — быў мой адказ, бо не люблю выпадковых спадарожнікаў. «І мы няблізка. Падкажы шлях, бо заблукалі ў глыбокіх снягах». — «Што ж, гэта магу. Ідзі за мною». Ідзі са мною… Хутка нам сустрэлася гэтая лясная хатка.

Варожа зіркае збройнік. Не чакае ад мяне нічога добрага. Відаць, гатовы схапіцца за тое, што робіць-шануе. Бо хто ж я для яго? Чужы, небяспечны. А з такімі ніяк іначай…

І толькі спалоханы хлопчык мне спагадае. Ён не гатовы да таго, каб тыя цікавыя, прыязныя, хто выпадкам побач з ім і ўжо сталі як свае, раптам учынілі нешта нелітасцівае. Таму глядзіць на мяне з надзеяй: ну, зрабі ты ці скажы нешта, каб стала, як раней, ціха, утульна. Ён не можа паверыць, што я магу стаць нядобрым…

— Выходзіш за парог ці як?! — павышае голас збройнік. Але сам цвёрды, стрыманы, спакойны.

А чаго ж яму хвалявацца. Куды я ад яго падзенуся? Нікуды. Адкажу, што хачу пайсці — не здолею зрабіць таго. А падману, што буду заставацца, дык ён жа гэтага мне і не дазволіць.

— Чаго маўчыш?

— Чакаю, пакуль ты ўхопіш зброю…

— А трэба?

— Ты па-іншаму не здолееш.

— Не здолею. Як і ты не пакінеш халадзіць-студзіць белы свет. Вось і звяду ягоную крыўду.

— А ці атрымаецца?

— Лёгка. Ты не вой. Ты дарма выйшаў са сваіх снягоў, якія даюць табе сілу. Тут жа ты будзеш нічым…

— Праўда?

Усміхаюся кпліваму калючаму погляду. Не вой. Не ліў гарачай крыві на снег. Не ведаў смеласці, змагання з адважнымі, адчайнымі, жорсткімі. Чаго ж чакаць, як прадбачыць? Зразумець і быць наперадзе. І ты ўпэўнены, што я на гэтае няздольны.

Віхуры. Паходні. Паходы… Я так стаміўся гэтаму вучыцца. Белай радасцю агартаюць снягі. Яны — чыстыя. Я проста хацеў бы праз іх ісці. Не спыняцца.

— Што? Заледзяніш маю зброю? Чакаю, пакуль заінее…

— Ён не можа таго, — кажа ліслівы. — Не можа цяпер паклікаць ані вятры, ані снягі. Не здолее замарозіць! Не патрапіць выхаладзіць! Чуеш? Ты не пакрыўдзіш нас!

Крычыць, злуецца, заходзіцца. Апусціў вочы долу зніякавелы лірнік. Здзіўлена ўтаропіўся ў мяне ягоны хлопчык. Думае, як гэта я магу замарозіць, выхаладзіць. Заініць…

— Не магу паклікаць сцюжу, не ўмею загадаць вятрам. Я такі ж чалавек, як і вы ўсе.

— Бач ты яго, як загаварыў! — не сунімаецца ліслівы.

Зноў папракае. Лае і зіму, і мароз. І мяне, іх кроўнага сваяка. Праклінае, пагарджае…

— Аціхні! — мне надакучыла такая гаворка.

Змоўк. Імгнення, як пракаўтнуўшы злыя словы. Папаўзлі чорныя гадзюкі страху-спуду. А лірнік не змаўчаў:

— Чаму ж ты хацеў пайсці ў завею? Холадна там…

— А тут цёпла. Зычліва, спагадна. Так назаўжды і застаўся б…

— Застанься! Будзь з намі. Я не веру, не веру, што ты — злы! — у напружанай цішы звініць ясны голас.

Добры хлопчык. Не зважае на дакоры. Не просіць, не баіцца. Заўсёды сябраваў з такімі.

— Ты — Зюзіч, — пераканана ўздыхае лірнік. — Я проста ведаю гэта, як свае струны…

— Спазнае лірнік струны душы. Сузіраеш іх?

— А як жа! Не так сабе глядзеў табе ў вочы.

— І што ўбачыў там?

— А вось што… — лірнік пацягнуў струны. Нешта хацеў сказаць, ды змаўчаў.

Замест яго збройнік звярнуўся да мяне, рашуча, зацята:

— Ты з’явіўся на свет даўно-даўно… Чакаў вайны, замаўляў зброю. Прыходзіў туды, дзе агнём успыхвала варажнеча. Глядзеў, як змагаюцца-б’юцца. І забіраў вартых. Рабіў іх сваімі сябрамі. Што ўсміхаешся? Скажаш, як жа мог такое рабіць? Ты — марозаў сын. Насылаеш чары і страху, і смеласці…

— Няма на свеце такіх чараў. Ёсць толькі чалавечая няўрымслівасць, гатовая да подзвігу і здрады. Ты мог бы ў гэтым не сумнявацца… Памятаеш адну далёкую ноч?

— А што ты можаш пра яе ведаць?

— Тое ж, што і ўсе. Смелыя юнакі вясёлым гуртам пайшлі па скарб. Ноч выдалася пагодная ды зацішная, таму хлопцам здавалася, што ўсё ў іх атрымаецца… Гаманілі-смяяліся ды таемнай сцежкай падышлі да парослага травою кургана. Без аніякай адзнакі… Спахапіліся, пачалі капаць. Набеглі хмары, ляснуў пярун, паўстаў волат у жалезным панцыры…

— Досыць!

— Я і не настойваю. Ты хочаш спытаць, чаму ж столькі гадоў не знаходзіў цябе марозаў сын. Быў жа ты і смелым, і рашучым, а ён шукае такіх. А ты ж заўсёды ў байцы-варажнечы ды кожны раз са слаўнай перамогай! Усялякай вартасці пазбылася ўласнае жыццё, дык што ж можна казаць пра іншыя? Пра тыя, якія на вастрыі мяча…

— Боль… Забяры яго, прашу. Кожны раз як паміраю сам. Спадзяваўся, што прыйдзе вой, лепшы за мяне. А ўсё не прыходзіць… Але я адшукаў цябе. Сёння, Зюзіч, ты не здолееш мяне пакінуць. Я сапраўды ўхаплюся за зброю. Так доўга гэтага чакаў…

— Я не Зюзіч! Казаў жа…

— Скажы, што не ведаеш пра тую страшную ноч усяго. Скажы, і тады я паверу, што ты — не Зюзіч!

— Гнаўся за вамі волат з узнятым мячом! За зняваг, за няпамяць! Гнаўся, гразіўся забіць. Здолелі быць вышэй за свой сполах твае сябры. Спыніліся, прычакалі. І дараваў ім герой за іхнюю смеласць… Толькі ты адзін не спыніўся. Бег, падаў, зноў бег. Да знямогі… Да слёз. І табе аднаму волат не прабачыў. Ударыў моцна мячом. Маўляў, як не маеш ты сваёй смеласці, вазьмі хоць маю. Падзялюся, не шкада…

— Усё маё жыццё, такое доўгае, — гэта не я. Ён! Вызвалі мяне ад яго, чуеш?! Я не хачу болей быць такім!

— Нават не спадзявайся. І не прасі, — я рашучы ў сваіх абяцаннях. — І не дзівіся: пра тую ноч ведаюць усе… Ты сам адкрыўся.

— Цябе нішто не выяўляе так, як жорсткасць, — нагадвае пра сябе лірнік. — Ты — Зюзіч. Канешне ж, ты…

— А ты на што так упарта спадзяешся? — зацікаўлена пазіраю.

— На гуслі-самагуды, — адразу ж падае голас яго маленькі спадарожнік. — Што сустрэнеш, назавеш вартым і падорыш тыя чарадзейныя гуслі. Ты ж добры з сябрамі. Шчыры, шчодры.

— Гуслі-самагуды. Дзе ж яны ёсць? — мне робіцца трошкі смешна, трошкі сумна.

— У сівой зімы, — зацята глядзіць на мяне стары лірнік. — Хаваюць іх за трыма маразамі-замкамі.

— Ды хто ж хавае?

— А ты і хаваеш! Сабраныя ў тых гуслях вясёлыя пераЗовы ды сумы-галашэнні, якія ніколі не спыняюцца ў свеце. Кожны голас, што адгукнецца бязмежнай радасцю або нясцерпным горам па-над заснежанымі абшарамі, да іх трапляе, з імі застаецца… А маразы-халады тыя гуслі трымаюць. Каб не запаланіць свет радасцю, каб не засмуціць горам…

— Навошта ж табе такія гуслі? Ведаеш, няпростыя яны…

— Не клапаціся, Зюзіч. Зайграю на струнах радасці, не крану струнаў гора. Будуць радавацца людзі, і я разам з імі…

— А што ж з табой такое здарылася, як гэтак радасці просіш?

— Нічога…

— Зусім? Як сабе хочаш. Мабыць, спытаю ў твайго сябра. Таго, з юнацтва. Хадзілі вы па свеце, весялілі людзей. Клікалі да святла. Ігралі разам, толькі яго аднаго чулі. Ад яго песень сэрцы мацней біліся, на твае ледзьве адклікаліся…

— Як жа ты спытаеш? Няма яго даўно…

— Яго — няма… А песні, ім складзеныя, засталіся. Давай у іх спытаем… Ад чаго сэрца чалавечае, чарамі адзначанае, так рана згарэла… Ад чаго ён пайшоў, а ты — застаўся. Чаму ты і цяпер не можаш супакоіцца. Шукаеш, як жа перасягнуць… І не знаходзіш!

— Пашкадуй, Зюзіч…

— Шкадую. Шкадую, як не маю такіх чарадзейных гусляў. І не называй мяне болей Зюзічам!

Расчаравана ўздыхае лірнік. Ды хутка падае голас гаспадар хаткі:

— А як цябе называць? — і зноў усе ў чаканні пазіраюць на мяне. — Ты не хочаш быць тым, кім мы цябе бачым. А кім жа ты хочаш быць? Падкажы нам, назавём цябе так, як сам скажаш…

— Я — ніхто для вас і буду нікім! Не магу спраўдзіць чароўныя мары. І чаму вы думаеце, што я нешта вам павінен? Вы ж не церпіце зімовы холад… Ненавідзіце Зюзіча.

— Ты халадзіў, ты — караў! — зноўку ўсчынае ліслівы. — А цяпер павінен нам дапамагчы. Сам жа казаў, што навучыўся ў людзей спагадаць. Як вясновае сонца…

— І якой жа дапамогі ты чакаеш?

Ліслівы разварушвае ў адказ недаробленыя гліняныя рэчы. Розны посуд, але болей — маленькія злепкі людзей ды жывёл. Скамечаных, бы знявечаных, застылых у вечнай пакуце.

— Я так хачу, каб усе гэтыя звяры і людзі сталі прыгожымі, задаволенымі, спакойнымі!.. Але не магу нічога зрабіць. Маразы казку чарадзейную на вокнах малююць, уборам дзівосным зямлю ахінаюць. У тваёй крыві вялікае майстэрства. Падаруй мне яго!

І далей толькі напружаная ціша агартае маленькую хатку. Маўчу ў адказ. Думаю, што ўсё болей стамляюся ад вечных просьбаў братоў па нядолі, іх чаканняў дармавога шчасця. У мяне ж яго няма!

— Не магу падараваць таго, што мне зусім не належыць!

Вось і кароткі прысуд таму, хто не ўмее зляпіць нават глінянай цацкі. Урэшце, выйду ў завейную бель. Каб ахаладзіцца, супакоіцца, адпачыць. Люблю маразы, яны знішчаюць дарэшты прагу-спакусу. Люблю адну аснежаную далеч…

— Не хадзі!

Гучыць у звонкім голасе непадробная трывога. Не за каго іншага, за мяне. І ты кажаш, бачачы, што я не разумею:

— Яны падпільнуюць цябе. Падпільнуюць і заб'юць. За тое, што ты — гэта не ты. За тое, што не выканаў іх жаданняў. Не хадзі.

Што ж, быць і мне з табою шчырым, спагадлівы хлопчык:

— Не пакіну цябе. Падкажу шлях у завейнай ночы. Дапамагу адшукаць скарб… Падарую і талент, і сілу. Толькі стань маім сябрам. То як?!

Аніяк. Крывёй гневу наліваецца твар збройніка. Вечным праклёнам адгукаецца голас лірніка. Глыбокая крыўда ў прыгорбленай постаці няўдалага ганчара. Маўчанне ў вачах хлопчыка.

І жаданне пайсці са мною, і боязь гэтых траіх. Што ж, я пачакаю. Буду верыць, як верыў заўсёды, у чысты снег сцюдзёнай зімовай раніцай. І я не развітваюся з табою…

— Стой! — нарэшце бразгае меч.

Але я не супыняюся. Што мне пагрозы… Усхопіцца ды кінецца біцца? Зноў не, так я і думаў. Глядзіць на лірніка, як просіць у яго дапамогі. Дарма… Не знойдзе моцнага слова слаўны наш музыка. Б'ецца ў роспачы, шкадуе пра даўно пройдзеныя шляхі. Чаго пра іх плакаць… Не зайграюць гуслі-самагуды. Нічога не скажаш і ты, няспраўджаны майстар глінянай цацкі. Быў цацкай і застанешся ёю. Нават не плачаш, не жалішся. Цацкі не плачуць… Маўкліва ляжаць, закінутыя нечай рукою ў куток. Не маёй, павер. Хоць і мне цікава: ці можна табе зрабіць настолькі балюча, каб ты стаў бараніцца? Не ведаю.

Не ведаў і як выйсці з гэтай хаты, дыхнуць свежым марозным паветрам, прагнаць дарэшты стому. Мне стаў невыносны людскі дух. Прыкры, сляпучы. Горача тут, горка. Не ведаю, ці павінна так быць. У мяне ж халоднае сэрца. Мне патрэбны мароз. Усіх замарожу!

— Гляньце! Усё ж такі ў яго нічога няма… Такі ж, як і мы! — сумна ўздыхае лірнік.

— Дык навошта ён… — пазірае збройнік.

І трэці адказвае згодным маўчаннем. Раз такі непатрэбны, то навошта ён зусім? Быццам чую, як мацней ды мацней атакуюць такія думкі… «Устаньма разам! Як не Зюзіч, то што ён нам зробіць? Не ўчыніў жа дагэтуль нічога…»

Горача. Млосна. А я нічога не магу зрабіць. У людской жа хаце… Паціху сунуцца да мяне, расчараваныя, пакрыўджаныя. Пакуль што самі баяцца. Адважваюцца астатні раз, пакутліва доўга. Чыстым струменем марознага паветра бяжыць да мяне хлопчык. Не забаяўся, не сцярпеў…

— Уцякай!

— Навошта?!

І ты бачыш у маіх вачах замерзлыя сінія зоркі, якія сняжынкамі падаюць долу. Праўдзівыя, смелыя. Не знікаюць, жывуць сярод людзей. Яны не просяць, не баяцца. І ты навучышся не баяцца… У мяне.

Глядзі, як падаюць шчыльна зачыненыя дзверы. Гэта зімовыя віхуры сарвалі іх, грукнулі аб падлогу, пазначыўшы выхад і мне, і табе. Хадзем са мною, не будзем акідваць развітальным позіркам усіх тых, хто назаўжды застанецца ў цёмнай нізкай хаце. Будзе дыхаць, хадзіць, але не жыць. Мароз студзіць кроў. Прымушае спяшацца, шукаць. Ісці…

— Пойдзем разам? — пытаюся ў цябе.

— А далёка? — у тваіх вачах загараецца цікавасць.

— Далёка-высока…

І нясуць мяне завеі далёка-высока. Пакідаюць цябе аднаго. Але ты не губляешся ў мяцелістых гадах, праходзіш праз ростані шляхоў, пэўна, знайшоўшы свой. І робіш спраўна ўсё, што толькі пажадаеш. А я сачу за табою, адгукаюся ў зімовых начах-мроях траскучым марозам. Ты клічаш мяне, чакаеш, шукаеш са мною сустрэчы. Ідзеш. Не да мяне, да сваёй мары. Такі цяжкі пухнаты снег, засціць вочы сляпучая бель, але я ведаю, што ты дойдзеш. Прычакаю цябе, памятаю сваё абяцанне. Ніколі не пакідаў сваіх сяброў…

А пакуль… Замятаюць завеі белы свет. Ужо спавілі маразы-снягі імклівыя рэкі. А я запарушыў сняжынкамі людскія вочы. Можа, пабачу ў іх волю, упартасць, сілу… Буду рады чуйнасці, весялосці, спагадзе. Не прайду паўз вартае ды прыгожае. Я ж заўсёды шукаю сабе сяброў. Хачу, каб не зледзянела маё сэрца. Я — Зюзіч. Сын траскучага марозу, унук сівой зімы. І я знікаю з белага свету кожнае вясны… З кожнымі новымі снягамі нараджаюся.

…Людна ды тлумна ў вялікай карчме. Гаманліва.

— А ведаеш, ён можа з'явіцца дзе заўгодна… Ты нават не здагадаешся, што ён — гэта ён!

— Ды хіба ж можна не пазнаць самыя сцюдзёныя вочы?!

— Твая праўда…

— Ды не! Вочы самыя звычайныя. Толькі вельмі прыгожыя. Яго ж маці была самой вясною…

— А ты бачыў? Адкуль табе ведаць?!

— Ды кажуць гэтак. Я проста ўспомніў…

— З ім нічога не будзе проста! — павышае голас завадатар.

І, спахапіўшыся, азіраецца. Дарэмная перасцярога. Ніхто не зважае, як у самым цёмным кутку атабарыўся невялікі гурт дрэнна апранутых людзей. Нікога не хвалююць іхнія размовы. І той, на каго астатнія глядзяць з павагай, кажа далей, хоць і прыцішыўшы голас:

— Калі хочам знайсці дыяментавыя скарбы, што ў ледзяных сутарэннях хавае сівая зіма, мы павінны быць самымі абачлівымі.

Слухаю. Падыходжу — змаўкае гамонка.

Простыя словы, з якіх заўсёды пачынаю:

— Дазвольце і мне далучыцца да вашай справы.

Прыкрыя, хцівыя ўсмешкі.

— Якой справы? — гаворыць само здзіўленне.

— Ды мне ўсё адно, — кажу з гатоўнасцю. — Бачу, што яна хвацкая, а вы — зухі.

З недаверам глядзяць хаўруснікі, хаваюць свае думкі. Адно завадатар адважваецца хутка:

— Добра было б займець новага сябра.

— Можа быць, і стану ім. Заўсёды шукаў сяброўства…



Малюнак Алесі Галоты.



## Алег Грушэцкі

**нарадзіўся 8 мая 1974 года ў Мінску. Паводле адукацыі — менеджар-прадпрымальнік. Аўтар шэрагу літаратуразнаўчых, біяграфічных і публіцыстычных артыкулаў. Захапленні — беларуская міфалогія і генеалогія беларускай шляхты. Бацька траіх дзяцей.**

# Каралеўна і чорны бык

Шмат гадоў таму жыў-быў кароль, добры, мудры і міласцівы. З дзяцей ён меў адну толькі дачку, ды настолькі паслухмяную, разумную і чароўна прыгожую, што не мог ёй нацешыцца. Зрэшты, усе любілі яе.

Доўгі час людзі ў тым каралеўстве жылі шчасліва і гора не ведалі. І ўсё бы нічога, але неяк панадзіўся да іх вялізны ды грозны чорны бык. Быў ён настолькі магутным і дужым, што ніхто не мог яго адолець. Прыходзіў бык штомесяц за некалькі дзён да поўні і патрабаваў аддаць яму самую прыгожую дзяўчыну, якой на той час спаўнялася васямнаццаць год. Інакш грозіўся зруйнаваць каралеўства, а ўсіх яго жыхароў растаптаць і распароць рагамі. І, гледзячы на быка, цяжка было не паверыць, што менавіта так ён і зробіць. Хочаш не хочаш, а даводзілася адкупляцца, бо былі бездапаможнымі перад ім людзі. Чаму бык выбіраў менавіта маладых прыгажунь, куды адвозіў і якім быў іх далейшы лёс, ніхто не ведаў.

Міналі месяц за месяцам, год за годам. І вось нашай каралеўне споўнілася васямнаццаць. А прыгажунь, апроч яе, такога ўзросту і не было. Набліжалася поўня, і з'явіўся бык па сваю чарговую ахвяру.

Але так любілі ўсе сваю каралеўну, што ніхто ахвяраваць ёй не хацеў. І пагадзілася адна з фрэйлін замест яе пайсці. Прывялі дзяўчыну да быка, пасадзілі яму на спіну, і панёс ён далёка-далёка яе, так і не здагадаўшыся пра падман.

Аднак раніцою прачнулася каралеўства ад вялікага грукату: як быццам бы землятрус адбыўся альбо адразу тузін гармат стрэльнуў па мурах. Выбеглі жыхары замка с перапуду на двор і ўбачылі, што ад галоўнай вежы засталіся адны раскіданыя камяні. Гэта ўчыніў раззлаваны і ўгневаны бык, помсцячы за падман. Побач са зруйнаванай вежай ляжала нежывое цела фрэйліны. Гучна выкрыкнуў бык:

— Няшчасныя! Вы надумалі падмануць мяне і разлічвалі, што я ні пра што не здагадаюся?! Ну дык вось — зараз жа прывядзіце патрэбную мне дзяўчыну, альбо я каменя на камені не пакіну ад вашага замка, ушчэнт яго зруйную разам з жыхарамі.

Каралеўна не магла дапусціць, каб здарылася штосьці з яе вернападданымі, таму сама выйшла да быка. І як ні малілі ўсе ка́та адпусціць дзяўчыну, толькі яшчэ больш злаваўся ён і стаяў на сваім.

Што зробіш, села каралеўна быку на спіну, і той панёс яе хутка-хутка, далёка-далёка. Доўга бег ён лясамі-гаямі, палямі-ўзгоркамі, рэчкамі-балотамі, і так далёка дзяўчыну звёз, што ніколі не бачыла і нават не чула яна пра тыя мясціны.

Урэшце, прынёс яе бык на край цёмнага лесу. І стаяла там чорная-чорная хата. Выйшла з той хаты гаспадыня — старая, страшэнная. Ну, рыхтык вядзьмарка з тых казак, што любіла каралеўна час ад часу паслухаць перад сном.

— На гэты раз ты прывёз мне каго трэба? — спытала старая ў быка.

— Так, мая гаспадыня, — з павагай адказаў бык.

І адразу стала зразумела, хто тут галоўны. Бык наблізіўся да старой і апусціўся на калені. Яна працягнула каралеўне руку, дапамагаючы злезці.

— Так-так, — разважліва прамовіла старая, разглядаючы дзяўчыну. — Падаецца, на гэты раз ты не памыліўся. Больш за тое — дзяўчына самая прыгожая і высакародная з усіх, каго я бачыла. Бадай, я нават гатовая забыцца на тваю папярэднюю правіннасць.

— Прабачце, паважаная спадарыня, — паспрабавала загаварыць з ёй каралеўна, — ці магу я запытацца, дзе я і дзеля чаго мяне сюды прывезлі?

— Ні пра што не хвалюйся, дзіця маё, — запэўніла старая, усміхаючыся. — Я не зраблю табе аніякай шкоды. Пабудзеш у мяне некалькі дзянькоў, адпачнеш, ды і адпушчу цябе назад.

— А чаму б тады мяне цяпер не адпусціць? — западозрыла дзяўчына нешта нядобрае.

— Бач, якая спрытная! А дапамагчы старэнькай бабулі па гаспадарцы? А час з ёй пабавіць, пагаманіць? Ведаеш, як мне тут адной цяжка і сумна?!

— А потым адпусціце?

— Слова табе даю. А зараз хадзем за мною, я цябе накармлю, напаю. Бадай, стамілася пасля доўгай дарогі.

Не паверыла каралеўна яе словам, бо яшчэ ніводная дзяўчына не вярталася назад. Але нічога не зробіш, пайшла за старой у хату. Урэшце, бабуля здавалася такой нямоглай, што нават не ўзнікала думкі чакаць ад яе чагосьці небяспечнага. Можа, і збегла б ад старой дзяўчына, але ж ёй служыў бык, а ад яго не ўцячы. Ды і куды бегчы?

Зайшла каралеўна ў хату, а там пасярод пакоя стол накрыты стаяў. А на тым стале — такія пачастункі і прысмакі, што ажно разбягаюцца вочы. Не ўтрымалася дзяўчына і села за стол з доўгае дарогі. Смакату есць, узварам ды квасам запівае. А пакаштаваўшы тых пачастункаў, нават і не заўважыла, як заснула.

Прачнулася, а сядзіць яна ўжо не за сталом, а пад замком у цёмнай каморы. А ў каморы той толькі адно акенца маленькае, праз якое свет ледзьве праступае. Кінулася дзяўчына да дзвярэй — замкнёна. Давай яна іх трэсці, грукаць, прасіць ратунку, але так і не адгукнуўся ніхто.

Села каралеўна з гора ў куток і ўпершыню ў сваім жыцці горка-горка заплакала. Доўга плакала яна, як раптам пачула скрозь слёзы, як нехта па падлозе скрабецца. Падняла галаву і бачыць — мышаня малое да яе прыбегла.

— Не плачце, юная пані, не плачце, прыгажуня. Слязьмі рады не дасі.

— А як жа мне не плакаць, калі выкрала мяне гэтая старая ведзьма, ды не ведаю, што яна задумала.

— Вы маеце рацыю, ведзьма яна і ёсць. А што задумала, вам лепш і не ведаць.

— А ты ведаеш, мышаня?

— Ведаю. Але лепш бы і мне не ведаць.

— Дык падкажы, калі ласка, чаго мне ад яе чакаць?

— Вой, баюся, што нічога добрага.

— Ды кажы ўжо як ёсць.

— А ёсць яно вось як, — распачало мышаня. — Старая гэтая — сапраўдная вядзьмарка. У ноч, калі на небе з'яўляецца поўня, бык прыносіць ёй ахвяр, старая варыць сваё чароўнае

зелле і сваім вядзьмарствам выцягвае з дзяўчат іх прыгажосць і маладосць. Інакш ёй не пражыць. Але тых чараў хапае толькі на месяц, бо бліжэй да поўні яны слабеюць і вядзьмарка зноўку старэе…

— Але чаму бык ёй так верна служыць і выконвае ўсе загады?

— Ды насамрэч і не бык ён зусім. Калісьці гэтак жа вядзьмарка забірала прыгажунь у суседнім каралеўстве. А калі ёй паспрабавалі запярэчыць, наслала хваробы лютыя на людзей і сурочыла ўраджай. А як усе пахварэлі і нават каралеўскі замак не было каму ахоўваць, прабралася вядзьмарка ў пакой самога каралевіча, заваражыла яго і ператварыла ў быка ды цалкам падпарадкавала яго волю сабе. Толькі яе і слухае.

— А ты мышаня, адкуль усё гэта ведаеш? — пацікавілася дзяўчына.

— Э-эх, юная пані. Я быў пажом пры двары. Ды выпадкова стаў сведкам таго вядзьмарства. Вось яна мяне за гэта і ператварыла ў мышаня. Думала, напэўна, што кошкі з'ядуць. Але ж і я не дурны: незаўважна скок ды скок — і да яе ў торбу. Так яна сама мяне сюды і прынесла.

— А з быком… Вой, з каралевічам, — папраўілася дзяўчына, — паразмаўляць не спрабаваў?

— Ды дзе там! Ён цяпер апроч вядзьмаркі нікога і не слухае. Ды і кот яе ходзіць усюды, мне не прайсці. Гэта цяпер ён наеўся ды спіць, мне пашэнціла. Ты першая, да каго ў мяне атрымалася пракрасціся.

— І што нам цяпер рабіць? Няўжо мне не выбрацца адсюль ніколі?!

— Не ведаю. Але вось каб вы здолелі вызваліць каралевіча ад чараў…

— Ды як жа я гэта зраблю?

— А вы вось што паслухайце, — сказала ёй мышаня. — Бачыў я, як варажыла вядзьмарка, і чуў, якія замовы чытала. Казала яна пры гэтым, што ў адным рогу быка будзе смерць яго, а ў другім — яго ратунак. Калі адсячы адзін рог — загіне. Калі другі — пазбавіцца чараў.

— Вой, а які ж з рагоў патрэбны?

— А вось гэтага я і не ведаю. Больш за тое — падобна, вядзьмарка тады так наваражыла, што і сама не ведае.

— Але як жа я здагадаюся, у якім розе ратаванне?

— Не ведаю, юная пані. Але веру, што ў вас добрае сэрца, і яно зробіць правільны выбар.

— А калі не?

— Тады, баюся, што і каралевіча загубіце, і самім вам не жыць.

— Вой, баюся я...

— Лепш рызыкнуць, чым чакаць страшнай долі. Выбіраць вам.

Сказала мышаня тыя словы ды збегла, пакуль кот не прачнуўся і яго не знюхаў. А каралеўна наша яшчэ больш зажурылася. І ад таго, што даведалася, які лёс яе чакае, і таму, што змяніць яго амаль немагчыма. Ну як ёй, дзяўчыне, узяць і адсячы такому дужаму быку рог! Ды і дзе, калі, чым? Не прыйдзе ж бык да яе сам і не папросіць. Плачма заплакала каралеўна.

Але, як казала мышаня, слязьмі рады не дасі. Згадала дзяўчына гэтыя словы, узяла сябе ў рукі ды стала чакаць, што будзе далей.

Праз пэўны час адчыніліся дзверы, і на парозе з'явілася вядзьмарка са здаравенным секачом у руках. А за спінаю яе, каб не ўцякла нявольніца, стаяў бык.

— Ну, выходзь, прыгажуня, — загадала вядзьмарка брыдкім голасам.

Выйшла каралеўна і бачыць: у небе зоры з поўняю свецяць, а пасярод двара велізарны кацёл стаіць, і варыцца ў ім на агні зелле вядзьмарскае. Зразумела дзяўчына, што да чаго, і яшчэ страшней ёй зрабілася. А вядзьмарка схапіла яе за косы, падвяла да таго катла і пачала свае замовы прамаўляць. Бачыць дзяўчына, што гэта яе апошні шанец. Страшна ёй, але і гінуць вой

як не хочацца. Ухілілася яна ды пхнула з усяе сілы вядзьмарку да катла. Апяклася тая, каралеўну выпусціла і сякач упусціла. Падхапіла дзяўчына сякач, і, пакуль вядзьмарка не ачухалася і бык не зразумеў, што да чаго, — бах яму з усяго размаху па адным з рогаў! Як наляцеў вецер, загрымеў гром, бліснулі маланкі! І раптам усё нечакана сцішылася ды знікла, і бачыць каралеўна: стаіць перад ёй не бык, а каралевіч — высокі, статны, прыгожы, валасы чорныя на ветры развяваюцца. Ды толькі вочы такія, нібы ад сну прачнуўся. Але, відаць, хутка ўспомніў ён, як вядзьмарка яго ператварыла. Падхапіў каралевіч старую ды кінуў у кацёл, каб больш нікому шкоды не чыніла. Ізноў наляцеў вецер, грымнуў гром, бліснулі маланкі. І раптам — цішыня. Знікла злая ведзьма, і ўсё яе вядзьмарства разам з ёй.

А каралевіч падышоў да сваёй выратавальніцы, упаў перад ёй на калені:

— Вы прабачце мне, юная пані, бо не ведаў я, што раблю. Злая ведзьма мяне заваражыла, не мог я ёй пярэчыць.

— Годзе вам, каралевіч, ведаю я ўсё сама.

— Адкуль жа?

— Паж ваш мне ўсё распавёў.

Тут і паж выйшаў. Знікла ведзьма і чары былі зняты з яго.

А як даведаўся каралевіч, што выратавальніца яго каралеўскіх крывей, адразу ж папрасіў яе рукі. І дзяўчына не магла адмовіць яму. Прывёў каралевіч яе дадому, і папрасілі яны благаслаўлення на шлюб у бацькоў. Узрадаваныя вяртанню дачкі кароль з каралеваю адразу ж пагадзіліся.

І жылі маладыя доўга і шчасліва. Як і падданыя таго каралеўства, якіх ніхто больш не турбаваў.



Гравюра Алесі Галоты.



## Людка Сільнова

**нарадзілася 20 красавіка 1957 года ў Маладзечне. Працуе ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Аўтар зборнікаў паэзіі, кніг крытыкі і візуальнай прозы, твораў для дзяцей. Вершы паэтэсы перакладзены на польскую, украінскую, славацкую мовы. Вершаваная падборка «Калі людзі будуць жыць на Марсе...» — творы, напісаныя пад дыктоўку маленькай унутранай дзяўчынкі са светлай і адкрытай душой.**

# Калі людзі будуць жыць на Марсе…

### Неа-Хары

*Паводле «Салярыса» Станіслава Лема*

Заснула — нікім,
А прачнулася некім.
«Я — лічбавы рытм,
А хачу — чалавекам!»

Устала. Рассунула шторы
Ў бакі
Світаннем вясёлым.
«Свет, вось ты які!
Тут чырвані — радасць!
Пяшчота ружовага…»

Крышталі ўвабралі
Віна адмысловага.

### Цыбуліны ў шклянках у бабулі Марцэлі

Калі людзі будуць жыць на Марсе,
Як вясной цыбуліны ў празрыстых шклянках
На шурпатым падаконні ў доме
Маёй далёкай бабулі Марцэлі;

У шматслойных залацістых скафандрах,
Змагаючыся за жыццё і будучыню —
За пругкія зялёныя парасткі
І за густыя доўгія карані —
Праўды, што звязваюць іх з мінулым
(«Мілым і нулявым») —
Зямным;

Я замру на хвіліну ці вечнасць,
Каб нейкім невядомым чынам
Падтрымаць з імі сувязь —
З першымі каланістамі Марса,
Добраахвотнікамі з білетам у адзін канец;

Праз час і прастору,
Парушаючы лакальныя законы Зямлі,
Намацваючы глабальныя законы Сусвету
Сваім зялёным,
Як тыя зялёныя пёркі цыбулі, вершам,
Падобным да прозы (ці «промня»)

Ці да кароткага адпачынку стракозкі
На тонкім стрыжні — надводным касмадроме —
Нейкага металічнага лому,
Закінутага ў возера каля дому
Маёй далёкай бабулі Марцэлі…

(Я засну — а малая Марцэля,
У шкарпэтках як ёсць завялікіх,
У тым сне маім будзе гарэзіць:
Ад цыбуліны горкае пёрка

Адшчыкне, як ва ўладзе нясцерпнай —
Дакрануцца да тайны Сусвету…)

## Люблю вясёлку

Люблю я між хмар,
У дажджу перапынку
Убачыць вясёлкі
Пярэстую спінку!

О, людзі, пакіньце
Вы ўсе свае справы,
Турботы адрыньце —
Вось сімвал цікавы:

І ведаў («…фазаны»!),
І нашай дамовы
З прасветленым Богам
(«Пачнём жа па-новай!»)…

Прабеглі хвіліны —
І зніклі палоскі.
Запомніць павінны:
Мы тут — толькі госці.

## Дачка мястэчка

Дачка мястэчка,
Ўнучка вёскі,
Я ў мегаполісе жыву.
Марозным ранкам
Хмарачосы
Вітаю, як пастух зару!

Яны будуюцца
Так хутка:
Удзень, увечар і ўначы!
З мелодыяй
Нябачнай дудкі
Імкнуцца ў неба далячынь…

Які факір,
Адміністратар
Якога цырка, дырыжор
Ансамбля ў смокінгах стракатых
Цябе прыдумаў,
Горад зор?

Ты ўвесь — свабода,
Увесь — творчасць
І парыванне без граніц
У неба, заўтра,
У шматкроп'е…
І важных — тысячы драбніц!

Нас, без якіх
Не будзе лёгкіх
Шляхоў у вабны небасхіл.
Тых месцічаў,
Унукаў вёскі,
Тых носьбітаў магутных сіл.

## Мегаполіс-аўтамабіль

У мегаполіса магутны,
Бензінам поўны — намі — бак.
Таму яго не страшаць будні,
І святы, і дарожны знак,
Які абгон забараняе
На ўчастку паміж дзвюх эпох.
Бо сутнасць у яго такая:
Ён створаны для перамог!

## Спакой у сэрцы

Спакой у сэрцы. Быццам вечар
Сталічны горад атуляе
І спачуванне абяцае
Накінуць, нібы шаль, на плечы.

Усё падрыхтавана, чыста.
Як да зімы сама прырода
Падрыхтавала гэты горад —
Да Белых святаў урачыстых.

Гірляндамі агнёў суладных
Абвіты дрэвы, шыльды, вокны.
За столік прывядзе свабодны
Духмяны водар шакаладны…

Кавярня. З вокнамі, як з фільма,
Дзе Джоні Дэп (дзівак, бадзяга,
Яго герой праз тайну смаку
Ўлюбёнага — трымаў інтрыгу),

Жульет Бінош за гаспадыню,
Дзе горад казачны, каханне —
Як спачуванне, абяцанне…
«Спадарыня! Ваш кубак стыне!»

Спакой у сэрцы. Быццам вечар
Сталічны горад атуляе
І да Калядаў запрашае
Забыцца ў тлуме чалавечым…

## У бібліятэцы, або Фантастычны роўмінг

Я «Беларусаў» Карскага
Замовіла.
Карычневы тамок.
Удвух сумоўе.

І пальцы плоць
Жывых лістоў гартаюць.
Ён мне — «Айвенга»,
Глыбінёй — як «Фаўст»!..

Чытальнай залы від
Дасюль нязнаны.
Тут кожны стол
Камп'ютарызаваны.

Пад столлю — «акрабат»:
Цялежка-робат.
Да слоўнікаў любых
Свабодны доступ…

Але ў мяне
Ўсе дыялекты ўроссып!

Я карту, нібы вышыўку,
Запомню.
З мінулым сувязь —
Фантастычны роўмінг!

З буфета тонка цягне
Водар кавы.
Двайная — не мацней
За думкі Карскага!

Сыходзіць вечар.
Зорак чараванне.
Натоўп расквечаны
Святлом кахання.

## Знаёмы твар

Як прыемна: у натоўпе
Як зямлю падчас патопу
Ўбачыць твар — знаёмы, годны,
Задуменны, амаль родны

Беларускага паэта,
Знаўцы з універсітэта,
З канферэнцыі хлапчыну
Ці архіўную жанчыну…

З тых цвярдынь і з тых традыцый,
Радаводаў, школ, амбіцый,
Што лятуць высокім клінам
У мінулае — у Вырай.

## Дзве сукенкі

Я памыла і павесіла
На балконе незашклёным
Дзве сукенкі, як дзве песні
Маладосці неўтаймоўнай, —

У рамонкі
і чырвоную…




Святлана Магілеўчык

**нарадзілася 28 чэрвеня 1980 года ў вёсцы Васількі Бялыніцкага раёна. Фотакарэспандэнт райгазеты «Зара над Друццю». Вучыцца завочна на журналіста. Аўтар вершаў, гумарэсак, замалёвак і апавяданняў. Пісаць пачала з дзяцінства, натхніўшыся казкамі і гісторыямі, якія расказвала бабуля.**

## Гоншчык з Зямлі

Экран замільгацеў бледным блакітнаватым святлом, і на ім адбіліся вытанчаныя рысы бацькавага твару.

— Віншую, сынок! Трэцяе месца ў юнацкай гонцы — заслужаны поспех! Мы з мамай вельмі рады за цябе!

— Дзякую, — прабурчэў Эрл і адвярнуўся да іншага манітора. Ён рабіў выгляд, што глядзеў фільм, але насамрэч свідраваў вачыма малюнкі на сценах пакоя.

— Чым незадаволены, сын? — падазрона зірнуў на яго бацька. — Ты зусім змрочны. Няўжо цябе не радуе тое, што ты будзеш удзельнічаць у дарослай гонцы?

— Я не буду! — адказаў Эрл і адным рухам адключыў усе экраны.

Праз паўгадзіны бацькі з'явіліся на парозе.

— Сынок, нешта здарылася? — мама паспрабавала пяшчотна яго абняць, але Эрл толькі адсунуўся далей. — Мы ледзь дабраліся дадому. На кожным кроку размовы пра тое, як прыгожа ты выступіў, мы атрымалі столькі віншаванняў! Навошта ты адключыў відэафон?

— Мы з мамай бачылі гонку ад самага пачатку, — узрушана сказаў бацька. — Гэта было незабыўнае відовішча!

— Я не збіраюся быць гоншчыкам! — сярдзіта прабурчэў Эрл і знік у сваім пакоі, пакінуўшы на тварах зніякавелых бацькоў непаразуменне. Яны толькі раздражнялі яго, а іх кватэра наогул выводзіла з сябе. Яна была вельмі цеснай: шэсць пакояў на Троюсе лічылася сціплым жытлом. Некаторыя людзі валодалі цэлымі планетамі, а амаль уся моладзь яго веку мела вялізныя дамы, а то і некалькі.

Іх планета Троюс была вельмі камфортнай для жыцця і нечым нагадвала далёкую прарадзіму чалавецтва Зямлю: так, прынамсі, сцвярджалі школьныя падручнікі. Эрл ніколі не бываў там і пра Зямлю ведаў толькі са слоў бацькоў ды рэдкіх відэахронік. Увогуле, ён не надта і цікавіўся гэтай планетай, хаця недзе там жыў яго дзядуля, які відавочна з'ехаў з глузду. Па яго жаданні ў бацькоўскай кватэры было зроблена шмат розных дзівацтваў, уключаючы жывыя расліны і амаль натуральную ежу, якая каштавала неверагодна дорага. З дзівацтвамі дзеда Эрл ніяк не хацеў мірыцца. Каб не гэта нічым не абгрунтаванае марнатраўства, у іх з сястрой было б ужо некалькі гектараў тройскай зямлі, уласныя дамы і іншыя выгоды.

Эрл хадзіў па пакоі і ад злосці не ведаў, што яму рабіць. У адчаі ён ляпнуў па сваёй спальнай капсуле так, што яна затрашчала. У пакой зазірнулі перапалоханыя бацькі. Яны сілай усадзілі Эрла на канапу, і бацька строга пачаў выгаворваць яму:

— Хопіць здзекавацца з мэблі! Адкажы, што здарылася!

— Я не буду ўдзельнічаць у гонках, — злосна выкрыкнуў Эрл і зноў адвярнуўся.

— Чаму? — бацька быў няўмольны.

— Тата! — усклікнуў хлопец. — Я пашкодзіў сваю касмічную яхту, яна непрыдатная да палётаў. Грошай, што я атрымаю за гонку, хопіць толькі на які-небудзь другарадны «Галактыён», а на ім я спалюся ўжо на першай міжгалактычнай. І нават калі вы дапаможаце мне набыць лепшую яхту, то зусім не факт, што я годна выступлю: у мяне слабыя навыкі палётаў. Вы бачылі, як адлятаў Ларг, які прыйшоў першым у гонцы? Яго навігатарам быў капітан Вудс, а гэта вельмі дарага… Куды маёй Габі з імі раўняцца?

— Пакінь, сынок, — сказаў яму бацька. — Мы і сапраўды не можам дапамагчы табе з пакупкай новай яхты, а адрамантаваць тваю або арандаваць нешта кшалту «Норда» або «Скайгайда» таксама будзе вельмі накладна. Але ў нас ёсць выхад! — яны з матуляй пераглянуліся. — Можа, гэта не зусім парадуе цябе, але ты крыху падвучышся і ажыццявіш сваю мару — станеш міжгалактычным гоншчыкам.

Эрл падазрона зірнуў на бацьку.

— Я звяжуся з тваім дзядулем з Зямлі і папрашу яго прыняць цябе. Думаю, што ён пагодзіцца, асабліва, калі ты будзеш настойлівым…

— Тата, ты прапануеш мне ляцець на Зямлю?! — Эрл вырачыў вочы ад здзіўлення. — Дзед навучыць мяне вырошчваць памідоры, толькі ўжо ніяк не лятаць між зор…

— Каб ты ведаў на будучыню, — маці ўключыла свой відэафон, і на экране ўзнік здымак прывабнага маладога чалавека, — твой дзядуля ў маладосці ўдзельнічаў у Першай міжгалактычнай гонцы і заняў другое месца. Нумарам адзін, хм… — мама на імгненне запнулася, — ён не стаў з вельмі важнай прычыны. Акрамя таго, мой бацька абсалютна непублічная асоба: ён збег ад славы, якая на яго абрынулася, на Зямлю і ўжо шмат гадоў жыве там даволі шчасліва.

— Чаму? — спытаўся Эрл.

— Ён прайграў жанчыне…

— Так, дзівачыць — дык усё жыццё, — з'едліва ўсміхнуўся хлопец.

— Дзед прайграў не па сваёй віне, — сказала маці. — Ён праявіў пачцівасць і бескарыслівасць, таму прыйшоў другім.

— А ты, мама, чаму не ўдзельнічала ў гонках?

— Я выйграла юнацкую! — усміхнулася яна. — У мяне была найлепшая гоначная касмічная яхта, твой дзядуля зрабіў яе сам. Але, калі я трэніравалася для дарослай гонкі, здарылася недарэчная аварыя, і ён забараніў мне не толькі ўдзельнічаць у спаборніцтвах, але і садзіцца за штурвал увогуле. Гэта сакрэт, але ад Троюса да Зямлі я і сёння лятаю зусім нядрэнна. Калі б твой дзядуля даведаўся, мне добра дасталося б…

— Чаму? — здзівіўся Эрл.

— На той трэніроўцы загінула мая мама, твая бабуля, — ціха адказала маці, — і дзядуля Джон забараніў мне лятаць. Вельмі недарэчная смерць… Яна была занадта адчайнай гоншчыцай.

Бацька нарэшце наладзіў сувязь з дзедам, выйшаў з пакоя і вельмі доўга з ім гаманіў. Было чуваць, што яны спрачаюцца: татаў голас грымеў на ўсю кватэру. Эрл не разумеў той мовы, але па галасах адчувалася, што размова зайшла ў тупік, і хлопец нават крыху абрадаваўся. Але калі задаволены бацька нарэшце зайшоў у пакой, надзеі застацца раставалі, як леташні снег.

— Усё ж такі ўгаварыў дзядулю. Ён таксама не вельмі быў рады цябе бачыць, але потым згадзіўся. Ён дапаможа табе, падрыхтуе да гонкі. Часу, думаю, вам хопіць.

— А яхта? — спытаў Эрл з надзеяй, што ўсе ж такі нікуды не паляціць. — Можа, мы здолеем адрамантаваць «Максімум»?

— Ну, наконт яхты мы што-небудзь прыдумаем, — сказала мама, — а вось тое, што ты зарабіў, давядзецца патраціць на добры гоначны касцюм, ды і для жыцця на Зямлі таксама неабходны сродкі.

— Ты паляціш найбліжэйшым лайнерам. У нас з мамай не атрымаецца цябе суправаджаць. У тваёй сястры вельмі важныя канцэрты на Флаве, Троя прасіла нас пабыць з ёй.

— Тата, але лайнерам — гэта амаль тыдзень, — запярэчыў Эрл. «Я таксама хачу паляцець на Флаў! Там я хоць не крануся розумам ад самоты».

— Я пакіну табе ключы ад відэабібліятэкі, — адказаў бацька. — Вывучыш пару зямных моў: дзядуля не любіць размаўляць па-тройску. Спальную капсулу і іншыя рэчы, якія будуць табе неабходны, мы адправім пазней. У дзядулі зусім нядрэнна.

Бацька выйшаў, а матуля затрымалася на хвілінку, каб абняць сына.

— Мам, а куды ты патраціла свой выйгрыш? — ужо паўсонны, спытаў Эрл.

— Я заплаціла за тое, каб нарадзіць вас з Трояй звычайным спосабам.

— Няўжо гэта так важна?

— Для мяне — вельмі! Дзякуючы гэтаму ў вас няма ніякіх адхіленняў, — адказала мама і выйшла.

…За той час, пакуль лайнер ляцеў да Зямлі, Эрл прагледзеў відэазапісы з бацькавай бібліятэкі і вывучыў некалькі зямных моў — часу хапіла. Толькі на працягу ўсяго падарожжа хлопца ніяк не пакідала думка: за што яго родныя так любяць гэтую нікому не патрэбную планетку? Пры першай жа нагодзе людзі ўцякаюць адтуль, столькі навокал новых цікавых месцаў — цэлы Сусвет!

З ранняга дзяцінства Эрл марыў стаць касмічным гоншчыкам. Але, каб зрабіцца сапраўдным прафесіяналам, патрэбна было звышвыдатнае здароўе, любоў да тэхнікі і, канешне ж, майстэрства палётаў. Са здароўем у Эрла праблем не было, роўна як і з любоўю да тэхнікі: ён перабраў матчын «Максімум» па вінціку і на ім здолеў заняць трэцяе месца ў юнацкіх спаборніцтвах. Не хапіла майстэрства палётаў. Вось каб у яго быў такі «Норд», як у Ларга, то яны б добра пасапернічалі за першае месца! Эрл успамінаў, як годна вёў сябе пераможца пасля гонкі, сваёй непаўторнай вытрымкай ён нагадваў далекіх продкаў з Зямлі — вікінгаў. Было зразумела, што ў прафесійнай гонцы яму таксама не будзе роўных, і па меры набліжэння да Зямлі настрой у Эрла паступова прападаў.

Больш за ўсё ў гэты момант ён жадаў быць на Флаве, месцы сустрэчы спевакоў і музыкаў з цэлага Сусвету, дзе меліся адбыцца канцэрты яго сястры. Выступіць там было вельмі пачэсна, і Эрлу хацелася падзяліць з Трояй плады славы. Хлопец з задавальненнем успамінаў, як нейкі час яны жартоўна прадстаўляліся нарачонымі, што вельмі непакоіла халасцяцкае насельніцтва Флава. Троя была зайздроснай нявестай, але яна не спяшалася да алтара, марыла назбіраць грошай і купіць сабе невялікую планету. У дзяцінстве яна часта бывала на Зямлі, пасябравала з дзедам. А вось Эрл — наадварот, і блізка не хацеў ісці з ім на кантакт. Як цяпер паставіцца да яго гэты стары дзівак?

…Аэратаксі імгненна дамчала Эрла да вострава, на якім жыў Джон Прыстлі. Яшчэ здалёк хлопец заўважыў велічную постаць дзеда. Было добра відаць, што ён карыстаецца супрацьузроставымі прышчэпкамі (іншых выгод цывілізацыі дзядуля сабе не мог дазволіць, асабліва на Зямлі), але гэта ніколькі не псавала яго. А яшчэ ён быў вельмі падобны да ўнука, толькі валасы меў зусім кароткія. Эрл жа не паленаваўся зрабіць са сваёй шавялюры шыкоўную прычоску і накласці на твар адмысловы грым, які паказваў яго прыналежнасць да высокага статусу.

Дзед моўчкі сустрэў унука, агледзеў яго з усіх бакоў і нечакана пацягнуў да фантана. Эрл хацеў нешта сказаць, але дзве моцныя рукі ўхапілі яго за каўнер і акунулі галавой у ваду. Хлопец яшчэ не паспеў апамятацца ад такога шаноўнага прыёму, як яго твар пачалі церці нечым шурпатым і не вельмі прыемным. Праз нейкі час, калі Эрл стаў ужо добра брыкацца, яго выцягнулі з вады і дзед палой сваёй кашулі пачаў абціраць яго твар, прыбіраючы рэшткі фарбы.

— Каб я больш не бачыў гэтага ў цябе! — злосна раўнуў ён замест прывітання, нарэшце адпусціўшы сваю ахвяру. — Размаляваўся, як папугай.

— Вось як ты сустракаеш мяне, — раззлаваўся Эрл. — Навошта ты сапсаваў мае знакі? Як цяпер людзі даведаюцца, да якога роду я належу?

— Ім зусім не цікава гэта ведаць, — адказаў дзед. — Тут ты нічога не павінен нікому дакладваць, а так размалёўваць твар — на Зямлі нонсэнс… Дзякуй богу, яшчэ ёсць дзе цябе памыць.

Эрл недаверліва падышоў да фантана і асцярожна працягнуў руку, каб дакрануцца да вады.

— Вада сапраўдная! — усклікнуў ён. — Вада жывая!

— Канешне, жывая, якой жа яшчэ ёй быць? — зарагатаў нечакана дзед. Насмяяўшыся, ён паклаў руку на плячо хлопца. — Ну, прабач, што я так на цябе напаў. Паехалі хутчэй дадому, мая эканомка Карла рыхтуе для цябе святочны стол.

— Дзіўнае імя для робата, — прыкмеціў Эрл.

— Гэта не робат. Карла — жанчына, і яна вельмі хоча з табой пазнаёміцца, — сказаў дзед і запрашальна адчыніў дзверы аўтамабіля. — Не здзіўляйся, — перахапіў ён зацікаўлены позірк унука. — На Зямлі мы часта карыстаемся аўтамабілямі: у нас і так папсаваная атмасфера, таму лятаем толькі з неабходнасці. Гэта на Троюсе, Флаве ці Боры вялікія адлегласці, а Зямлю лепей разглядаць няспешна.

Як нам ужо вядома, дзед жыў на востраве. Людзей там было няшмат, затое многа зеляніны, сонца, і акіян за некалькі крокаў — проста неверагодна! Эрл асцярожна ступаў па гэтым райскім месцейку, дакранаўся да ўсяго рукамі і млеў ад захаплення. У дзеда было на што паглядзець! З рэдкіх паездак Джон Прыстлі прывозіў розныя цікавыя рэдкасці, і, пакуль накрывалі на стол, ён запрасіў унука ў дастаткова вялікі пакой, які выконваў ролю бібліятэкі і музея адначасова, а сам пайшоў вырашыць некаторыя справы.

Эрл ніколі не бачыў звычайных кніг. Вядома, ён шмат пра іх чуў, але цяпер яму падабалася трымаць іх у руках, асцярожна гартаць, як найвялікшы скарб. Хлопец крыху захапіўся і даволі позна ўспомніў, што яго павінны паклікаць. Азірнуўшыся вакол, ён вырашыў неадкладна прыбрацца і з ашаламляльнай хуткасцю пачаў расстаўляць кнігі на свае месцы, як раптам пачуў за спінай паўшэпт-паўстогн: «Мамачка!» Голас належаў невысокай цёмнавалосай дзяўчыне з вялікімі — пэўна, ад страху — вачыма.

— Ты хто? — спытаў ён першае, што прыйшло на думку.

— А ты — хто? — вярнулася да яго пытанне.

— Мяне завуць Эрл Прыстлі.

— А што ты тут робіш?

— Прыбіраюся… крыху… — Эрл зніякавеў. Дзяўчына так нечакана з'явілася, што ўсе патрэбныя словы проста вылецелі з галавы. — Я заўсёды так раблю… На Троюсе…

— Ах, гэта цябе трэба было паклікаць! — спахапілася дзяўчына. — Я Эмілія, дачка эканомкі. Мне даручылі суправаджаць цябе.

Эрл як зачараваны моўчкі пайшоў за ёй. Дзяўчына была вельмі прыгожай і адразу ж спадабалася хлопцу. Ён мімаходам успомніў былую сяброўку — свайго навігатара Габі, — якая,

даведаўшыся, што Эрл ляціць на Зямлю, папрасіла яго ніколі больш яе не турбаваць і нават забыцца на іх адносіны. Цяпер і Габі, і гонкі, і Троюс былі ад яго так далёка, што іх існаванне падавалася падобным на мрою.

Вячэра не выклікала ў Эрла ніякіх уражанняў. На Троюсе не было прынята адначасова есці і абмяркоўваць справы, да таго ж ніводнай са страў хлопец не ведаў, а незнаёмай ежы не ўжываў. Добра, што ён меў з сабою невялікі запас экспрэс-кактэйля, які неаднаразова выручаў яго ў космасе, калі не было іншай ежы. Эрл непрыкметна праглынуў адну капсулу і зірнуў на пласцінку: засталося толькі дзве. «Малавата, абавязкова закажу яшчэ».

— Чаму ты нічога не ясі? — спытаў дзед. Эмілія з маці пераглянуліся і пачалі размаўляць на незнаёмай зямной мове. Эрл гэтай мовы яшчэ не ведаў, але вырашыў вывучыць за ноч. Спальная капсула недзе затрымалася, таму спаць сёння ён не планаваў, і цяпер, глядзячы ў акно на вячэрняе сонца, проста чакаў, пакуль усе разыдуцца.

— Чаму ты не ясі? — зноў запытаў дзед.

— Я не ўжываю незнаёмай ежы, — адказаў Эрл.

— Як тады ты жывеш? — здзівілася Эмілія. Усе за сталом засмяяліся, а яна моцна пачырванела.

— Дзіця, — заступіўся за яе дзед, — Эрл — іншапланецянін. У іх штучнае святло, гравітацыя вышэйшая за нашу, і да таго ж, мне здаецца, мой унук не галодны. Хаця, — дзед звярнуўся да Эрла, — я б параіў пакаштаваць тое, што прыгатавала Карла.

Эрл глянуў на іншых і насцярожана паклаў невялікі кавалачак чагосьці ў рот. М-м-м, як гэта было смачна! Хлопец ліхаманкава пачаў зграбаць усё са стала, пакуль не спрацавалі ахоўныя сілы арганізма і ён, абхапіўшы рукамі рот, імкліва выскачыў з-за стала і выбег на двор. Дзед хуценька накіраваўся следам. Ад нязвыклай колькасці ежы Эрла званітавала. На іх планеце для кожнага чалавека распрацоўваліся спецыяльныя нормы спажывання прадуктаў, і адчуванне сытасці хлопцу не было знаёма. І, калі ежа пачала вывальвацца назад, ён вельмі перапужаўся: падумаў, што памірае.

Недзе праз хвілін пятнаццаць яны з дзедам вярнуліся за стол. Эрл сціпла падзякаваў яму за клопат і папрасіў у Карлы прабачэння за сапсаваную вячэру. Пасля яны ўсе разам уселіся перад вялізным экранам глядзець запіс аднаго з канцэртаў сястры Эрла з Флава. Яна спявала так цудоўна, што хлопец не заўважыў, як заснуў на канапе, не дагледзеўшы канцэрт да канца: насычаны падзеямі дзень выбіў яго са звыклага рэжыму.

…Разам з грузавым лайнерам, які даставіў спальную капсулу, на Зямлю прымчалася вялікая дэлегацыя рэпарцёраў з Троюса. Міжгалактычная гонка мелася адбыцца яшчэ не хутка, але нечаканы ад'езд Эрла выклікаў цэлы шквал плётак, таму журналісты хваляй абрынуліся на маленькую планету…

На востраве ўсе падымаліся вельмі рана. Больш па патрабаванні дзеда, чым па ўласным жаданні, Эрл пастрыг свае валасы, і новы выгляд нечакана спадабаўся яму. Акрамя таго, ён зусім па-іншаму пачаў бавіць час. Перш-наперш дзед вылучыў некалькі дзён для адпачынку. Яны амаль бясконца купаліся ў акіяне, вудзілі рыбу. Эрл вучыўся мноству незнаёмых дзеянняў, як малое дзіця. Удзень яны з дзедам лазілі па ўсім востраве, а вечарамі некаторы час займаліся ў бібліятэцы, дзе Эрл вывучаў багатую гісторыю Зямлі. Вось такім, крыху разгубленым, але бязмежна шчаслівым, заспелі яго рэпарцёры.

— Я прадстаўляю «Тройскія навіны», — ледзь паспявала за ім дзяўчына. — Спадар Эрл, вы прыляцелі на Зямлю трэніравацца?

— Так, — коратка адказаў ён.

— Але тут няма ніякіх умоў, рэсурсаў, а ваша яхта патрабуе вялікага рамонту. Што вы будзеце рабіць? Купіце новую?

— Я не ведаю, — шчыра прызнаўся Эрл. — Не думаў пра гэта.

— Он-лайн часопіс «Галактычныя весткі», — забубнеў малады чалавек у відэаакулярах. — Спадар Эрл, у вас новы імідж? Гэта ваш дзядуля параіў?

— Мне самому так захацелася.

— Мы чулі, што ваш дзядуля быў адным з фаварытаў Першай гонкі, — працягваў шустры журналіст. — Ён будзе перадаваць вам сваё майстэрства?

— Я дзеля гэтага толькі і прыехаў, — адказаў Эрл.

— Ларг перадае вам прывітанне, — зноў далучылася да размовы дзяўчына. — На яго ўжо робяць стаўкі.

— Яму таксама маё шанаванне! — усміхнуўся Эрл у камеру.

— Як вам Зямля? Што спадабалася? Куды кіруецеся? — пытанні абрынуліся лавінай.

— Мне ўсё спадабалася, — адказаў Эрл. — Але я прашу прабачэння, мяне чакаюць важныя справы, — хлопец зрабіў рукой адмысловы тройскі жэст і збег. Рэпарцёры паспрабавалі разгаварыць Карлу, але яна няшмат магла расказаць. Эмілія ж увогуле так напужалася вялікай колькасці незнаёмых людзей, што нават не выйшла са свайго пакоя.

Час паляцеў хутка, як куля. Рэпарцёры яшчэ неаднойчы прылятаалі на Зямлю, але заспець Эрла свабодным у іх не заўсёды атрымлівалася. Неяк выходзіў на сувязь Ларг, прапаноўваў патрэніравацца разам, але дзядуля папярэдзіў унука, што сапернік вельмі хітры і небяспечны, таму не варта спяшацца. Пакуль жа Джон Прыстлі вучыў яго лятаць на невялікім самалёце ў цеснай прасторы паміж гор. Яны працавалі да сёмага поту, даводзячы навыкі манеўранасці да аўтаматызму. Эрл быў удзячным вучнем і ўсе каманды выконваў вокамгненна. Яго спальная капсула нават не была распакавана: яны з дзедам ледзь дапаўзалі да гасцёўні і маглі заснуць, нават не распрануўшыся.

Вольны час, якога ў Эрла было не вельмі многа, ён праводзіў з Эміліяй. Яны любілі прагульвацца ўздоўж акіяна і вельмі шмат гаманілі. А яшчэ дзяўчына вучыла яго займацца сёрфінгам. Гэтым майстэрствам яна валодала так дасканала, што прыводзіла свайго сябра ў яшчэ большае захапленне. У пэўныя моманты Эрлу падавалася, што яны знаёмыя ўсё жыццё, што ён заўсёды жыў на гэтым востраве, а Троюс і Флаў былі проста выдуманы пісьменнікам-вар'ятам, чыю кнігу ён выпадкова выцягнуў з верхняй паліцы.

…Адным ціхім зямным вечарам нечаканым госцем з'явіўся Ларг.

— Усе сродкі масавай інфармацыі толькі і пішуць пра цябе! — у захапленні гаварыў ён. — Робяць стаўкі не толькі на мяне, але і на цябе.

— Я вельмі рады, — адказаў Эрл. — А ты, мяркую, прыляцеў за блізкі свет, каб патрэніравацца са мной? — ён пацягваў сок праз саломінку і прапанаваў госцю зрабіць тое ж. Ларг з задавальненнем паспрабаваў.

— Так, мне вельмі хацелася б палятаць з табой, — працягнуў касмічны госць, — можна сказаць, дзеля гэтага я толькі і прыбыў сюды. А каб ты не адмовіў мне, я падрыхтаваў падарунак: адрамантаваў твой «Максімум» і паспрыяў таму, каб яго крыху мадэрнізавалі. Мой навігатар прыгнаў яго на касмалётную стаянку Месяца. Дык ты згодны?

— Па-мойму, ты ўсё вырашыў за мяне сам, — развёў рукамі Эрл. — А чаму ты не шукаеш каго-небудзь, мацнейшага за мяне?

— Гэта нецікава, — адказаў Ларг. — Я люблю крыху недагаворанасці, цемнаватых асоб накшталт цябе… Ну, і мая галоўная мара — выйграць гонку!

— А што ты хочаш атрымаць у якасці выйгрышу, калі не сакрэт?

— У нас на адным са спадарожнікаў ёсць залатыя руднікі. Хачу быць прамыслоўцам.

— Ты так лёгка са мной пра гэта гаворыш? — здзіўлена глянуў на яго Эрл.

— А што тут дзіўнага? Я выйграю гонку! — усміхнуўся Ларг. — А пакуль мне хацелася б прагуляцца, агледзецца — вельмі зацікавіла ваша планета. Ты будзеш мяне суправаджаць? — Эрл кіўнуў, і яны накіраваліся да машыны.

Падчас гэтай размовы дзед моўчкі сядзеў побач. Ён прыгадаў словы Эрла пра тое, што Ларг ніколі не лічыўся з нецікавымі для яго людзьмі. Перад тым, як яны сышлі, дзед таргануў унука за плячо і ціха папрасіў пасля прагулкі зайсці да яго.

Вярнуліся маладыя людзі даволі позна, бо госць амаль усё здымаў на відэа і бесперапынна задаваў пытанні. Эрл прапанаваў Ларгу сваю спальную капсулу, і той з задавальненнем ёй скарыстаўся. Ужо добра пацямнела, калі Эрл пераступіў парог дзядулевай бібліятэкі.

— Я думаю, што гэта клон, — сказаў дзед, ледзь толькі зачыніліся дзверы. — Будзь вельмі асцярожны з ім.

— Чаму ты так вырашыў, дзед? — здзівіўся Эрл.

— Думаеш, я дрэнна ведаю іншапланецян? — адказаў пытаннем на пытанне Джон Прыстлі. — Ён размаўляў толькі з табой і толькі датычна сваёй справы. А хто, як не ты, надоечы казаў мне, што Ларг не будзе мець ніякіх зносін з нецікавымі для яго людзьмі? Не думаю, што я для яго зусім нецікавы. А яшчэ, за клонам не прыляцелі журналісты.

— Дзед, ты проста неверагодны! — у захапленні вымавіў Эрл. — Але што мы будзем рабіць? Клон спіць.

— Сумняваюся, — твар дзеда стаў надзвычай сур'ёзным. — Клон не спіць, а перадае Ларгу тое, што наздымаў. Сапраўдны Ларг знаходзіцца недзе непадалёку — можа, на Месяцы ці на Марсе — і займаецца тым, што праглядае матэрыялы, дасланыя клонам. Ён хоча пасапернічаць і адшукаць твае слабыя месцы. Калі мы хутка вылецім, Ларг аб'явіцца і прапануе табе палёт. А калі яшчэ і не прамарудзім, то ў нас атрымаецца выйграць крыху часу. Ты гатовы да такога павароту падзей?

— Канешне! — усклікнуў Эрл. — Я не баюся з ім цягацца!

…На касмалётнай стаянцы Месяца «Максімум» Эрла было відаць здалёк. Яны з дзядулем паказалі ахове дакументы. Хлопцы, відаць па ўсім, ведалі Джона Прыстлі, таму дазвол на палёт далі амаль што імгненна. Эрл глядзеў на сваю касмічную яхту і не пазнаваў яе. Ларг добра пастараўся: сродкаў уклаў вельмі шмат і да таго ж талкова. Але навошта ён гэта зрабіў?

Як толькі яны з дзядулем зайшлі ўнутр, відэафон Эрла раптам завібрыраваў, і на ім з'явіўся бледнаваты твар Ларга.

— Ну што, сябра, палятаем? — халодны, як сталь, голас загучаў на ўвесь салон.

— Палятаем! — падміргнуў яму Эрл. — Вялікі дзякуй за яхту!

— Няма за што. Гэта ты яшчэ яе не разгледзеў, — зноў зазвінеў халодны голас. — Зірні туды.

Глянуўшы ў бакавы ілюмінатар, на які паказваў Ларг, Эрл зусім блізка ад сябе прыкмеціў вялізны бліскучы «Норд».

— Ну што, паляцім? — зноў спытаў з усмешкай Ларг. Эрл кіўнуў, і яны на вялізнай хуткасці панесліся па-за межы Сонечнай сістэмы.

— Асцярожней, — папярэдзіў унука дзед. — Цяпер перад намі сапраўдны Ларг, і ён вельмі небяспечны.

Дзве касмічныя яхты на вялізнай хуткасці падляталі да Юпітэра. Ларг нечакана вырваўся наперад і пачаў рабіць віток вакол планеты. Эрл прыбавіў хуткасці.

— Чакай, — спыніў яго дзед. — Выключы аўтапілот і спыні рухавікі.

— Чаму? — не зразумеў Эрл. — Зараз ён сыдзе і я яго не даганю… — хлопец пільна ўзіраўся ў маніторы. — Куды ж ён знік?

— Ларг выйшаў на арбіту планеты і застаўся на ёй, — адказаў дзед. — Цяпер ён недзе па той бок. Каб выканаць небяспечную камбінацыю, якую Ларг задумаў, яму трэба зрабіць яшчэ адзін віток і патрапіць у зорны вецер — тады ён стане недасягальным.

Эрл выціскаў з яхты рэшткі хуткасці.

Раптам з ніадкуль выскачыў «Норд» і паляцеў наўпрост на яго.

— Цісні ўверх! — загадаў дзед, і Эрл безагаворачна падпарадкаваўся. Касмічныя яхты ўдала размінуліся.

— А цяпер — уперад! — працягваў раздаваць загады Джон Прыстлі.

Эрл краем вока зірнуў у ніжні манітор. Адзін з бліжэйшых спадарожнікаў Юпітэра Метыда марудна выплываў з-за планеты. Калі б Эрл не паслухаўся дзеда, то ні ад іх, ні ад яхты нічога б не засталося. Хлопца перасмыкнула, і ён паспрабаваў засяродзіцца на палёце. Да Месяца абедзве яхты падляцелі амаль што адначасова.

— А ты малайчына, Эрл, — зноў выйшаў на сувязь Ларг. — Я ўжо пачаў сумнявацца ў сваёй перамозе, — яго твар стаў крыху сумным. — На жаль, мне трэба вяртацца дадому, а так паспрабавалі б яшчэ…

— Ларг, — абарваў яго на паўслове Эрл. — Я больш не хачу трэніравацца. Ты хацеў выпрабаваць на мне небяспечны манеўр, але нічога пра гэта не сказаў. Я не думаў, што ты так далёка зойдзеш у сваім падмане. Навошта ты падсунуў мне свой клон? Навошта ты жывеш двайным жыццём — удзельнічаеш у гонках, а сам не маеш на гэта права? Я не ведаю, як цябе яшчэ не выкрылі арганізатары? — твар у Ларга ад гэтых слоў непрапарцыянальна выцягнуўся, але ён хутка справіўся з сабой.

— Я сабраў тваю касмічную яхту амаль што са смецця, а ты хочаш здаць мяне арганізатарам, — пакрыўджана сказаў сапернік. — Гэта таксама несправядліва, — ён адшпіліўся ад крэсла і выплыў у сярэдзіну салона. Сапраўдны Ларг не меў ног, штаніны камбінезона былі пустымі.

— Што з табой здарылася? — збянтэжаны яго выглядам, спытаў Эрл.

— Мая маці хацела нарадзіць самастойна. Сам ведаеш, якія грошы трэба выкласці за гэта. Але дзе іх было знайсці адзінокай жанчыне? Вось я і нарадзіўся такім. А яшчэ ў мяне рэдкая генетычная анамалія: ніводзін штучны матэрыял не прыжываецца на целе. Я ўдзельнічаю ў гэтых праклятых гонках толькі таму, што хачу ўсім даказаць, што я не бязногі інвалід, — на яго твары з'явілася выродлівая грымаса. — Я такі ж самы, як вы!

— Абяцаю, што не буду цябе здаваць, — супакоіў яго Эрл. Яхта Ларга мільганула агнямі і знікла ў чарнільнай прасторы бязмежнага космасу.

— Дзед, мне здаецца, мы перамаглі, — радасна ўсміхнуўся Эрл, калі сувязь з «Нордам» абарвалася. — І ты, як заўсёды, быў найлепшым! Мне шкада, што так атрымалася з Ларгам…

— На тваім месцы я б не стаў шкадаваць, — ціха прамовіў дзед. — Я яму не давяраю. Ён усё ж такі знайшоў твае слабыя месцы. Уменне суперажываць — якасць, уласцівая толькі людзям, якія нарадзіліся на Зямлі. Твае бацькі, вы з Трояй… А ён — не! Але запомні адно: нашы слабасці могуць зрабіць нас моцнымі.

— Дзед! Адкуль ты ўсё ведаеш? — не стрымаў эмоцый Эрл.

— Гэта элементарная назіральнасць, ну, і крыху жыццёвага досведу, — усміхнуўся дзед. — Але я табе не ўсё паказаў, таму адбяру ў цябе крыху часу. Хоць на Зямлі прайшоў цэлы тыдзень і за нас хвалююцца дзяўчаты...

Яны плаўна апусціліся на Месяц, пакінулі «Максімум» на касмалётнай стаянцы, а самі накіраваліся ў рамонтныя ангары непадалёку. Ахова пачціва суправаджала дзеда. Нарэшце ўсе спыніліся каля аднаго з вялізных ангараў, і дзед штрых-ключом разблакаваў уваход. Вароты расчыніліся, і Эрл раскрыў рот ад захаплення. Перад ім стаяла серабрыстая бліскучая касмічная яхта, непадобная ні на адну з вядомых Эрлу мадэляў. Нават найноўшы «Скайгайд» не ішоў ні ў якое параўнанне з ёй!

— Дзед! — у захапленні вымавіў Эрл, — адкуль гэта?.. Неверагодна! — Эрл абышоў яхту з усіх бакоў.

— Ды так, дробязь невялічкая… — сціпла адказаў Джон Прыстлі. — Называецца «Акіян».

— А на ім можна палятаць? Ну, хаця б крышачку?..

— Гэтая касмічная яхта твая, — сказаў дзед. — Я будаваў яе спецыяльна для цябе.

— Ваў! — толькі і здолеў вымавіць хлопец. Яны забраліся ўнутр. Усё абсталяванне, абшыўка былі вытрыманы ў адной каляровай гаме, прыборы добра бачныя і ў даступных месцах. Эрл баяўся дыхнуць — усё, што знаходзілася на яхце, было прадметам дасканаласці.

— Я будаваў гэтую яхту вельмі доўга і шмат чаго не дарабіў да належнага стану, — казаў яму дзед. — Не хацеў яе табе паказваць да самой гонкі — баяўся, што даведаюцца рэпарцёры і гэта нейкім чынам табе нашкодзіць. Але Ларг са сваім робатам прымусіў памяняць усе планы. А яшчэ мне падаецца, што ты цалкам гатовы, каб крыху пакіраваць гэтай штуковінай, прывыкнуць да яе…

— Вялікі дзякуй табе! — расчуліўся Эрл. — Ніколі не забуду гэты падарунак! — хлопец моцна абняў дзеда.

— Ну, хопіць ужо ціскацца, — наўмысна прабурчэў той, — сядай за штурвал. Тут ёсць шмат карысных функцый, якія могуць табе спатрэбіцца. — Эрл паслухмяна плюхнуўся ў крэсла пілота, і яно мякка прыняло яго. Дзед паказаў рычагі кіравання, і яхта вельмі хутка вылецела з ангара. Уважліва прыслухоўваючыся да парад, малады гоншчык пачаў адпрацоўваць розныя кульбіты. Яхта так дасканала рухалася, што Эрла ахапіў сапраўдны азарт, яму хацелася выпрабоўваць яе яшчэ і яшчэ.

На выпадак непрадбачанай катастрофы дзед памясціў у «Акіяне» выратавальную капсулу.

— Толькі адзін мінус, — папярэдзіў Джон. — Калі ты выпусціш капсулу, яхта значна палягчэе і шмат згубіць у манеўранасці. Я ніяк не прыдумаю, як пазбавіцца ад гэтага недахопу.

Налятаўшыся, яны пакінулі «Акіян» у ангары і паспяхова адбылі на востраў. Там іх чакалі заклапочаныя Эмілія з Карлай. Па зямным часе Эрла і Джона не было больш за тыдзень.

— Я так хвалявалася за цябе! — усклікнула дзяўчына і парывіста абняла Эрла. Потым сумелася, прыняла рукі. — Чаму вас так доўга не было?

— Мы спаборнічалі з Ларгам, — сказаў Эрл. — Усё ў парадку. Прабач, што не выходзілі на сувязь.

— Ларг паляцеў той ноччу вельмі сярдзіты… Вы нешта не падзялілі?

— Гэта быў клон, — ціха прашаптаў ёй на вуха Эрл. — А спаборнічалі мы з сапраўдным Ларгам. Але, каб ты ведала, я вельмі хваляваўся, каб клон не нашкодзіў вам. І яшчэ… вельмі па табе сумаваў…

Эмілія густа пачырванела, а Эрл засмяяўся і, схапіўшы яе за руку, накіраваўся на кухню. Адной з яго зямных слабасцей стала ежа, якую гатавала Карла. А калі да гэтага далучыць яшчэ

вельмі актыўны лад жыцця, то ад таго Эрла, які прыляцеў некалькі месяцаў таму, амаль нічога не засталося: яго месца заняў высокі статны прыгажун.

Вечарам яны з Эміліяй выйшлі на сваю заўсёдную прагулку ўздоўж акіяна.

— Ты казаў, што сумаваў па мне? — ціха запытала дзяўчына. Эрл трымаў яе за руку.

— Вельмі сумаваў, — адказаў ён, спыніў крок і пачаў дапытліва глядзець на Эмілію. — Мне здаецца, што я не здолею ўдзельнічаць у гонцы без цябе, што ў мяне не атрымаецца лятаць без тваёй прысутнасці на касмадроме… Вельмі хочацца, каб ты была са мной…

— Але ж я ніколі не пакідала Зямлі, — адказала крыху збянтэжаная Эмілія.

— Калі ты згодна быць са мной разам, калі не супраць пабачыць увесь Сусвет... Хоць я і не маю ніякага права прасіць цябе… Але, лічы, што гэта прапанова стаць маёй жонкай.

Эмілія пачырванела і схавала твар у яго вопратцы, але адразу ж пагадзілася.

— У мяне была дзяўчына, — працягваў Эрл, — мой навігатар на юнацкай гонцы. Яна не захацела ляцець разам са мной і ўвогуле была супраць маёй паездкі на Зямлю... А тут, на гэтай планеце, твая прыгажосць і чысціня проста пакарылі маё сэрца, — Эрл пяшчотна дакрануўся да палаючага твару Эміліі. Яна толькі ўсміхнулася ў адказ.

…За тыдзень да пачатку гонкі Троюс гудзеў ад вялізнай колькасці рэпарцёраў, гасцей і ўдзельнікаў, як патрывожаны вулей. Сама гонка павінна была стартаваць ад бліжэйшага да планеты спадарожніка Оптыма. За двое зямных сутак гоншчыкі мусілі вярнуцца на канцавы пункт. Колькасць удзельнікаў гэтым разам аказалася рэкордна вялікай. Для кожнай яхты была разлічана асобная арбіта, каб у космасе не адбыліся непрыемнасці. Гоншчыкі маглі адысці ад курсу, але гэта было вельмі небяспечна. Далёка адхіляцца строга забаранялася, бо гоншчык мог загінуць — асабліва, калі яхта патрапіць у метэарытны паток.

За гонкай сачылі шматлікія камеры, рэпарцёры, эксперты, медыкі і простыя назіральнікі. Удзельнікі выступалі ў самых разнастайных шоу і перадачах, яны дэманстравалі прымхлівай публіцы свае камбінезоны і касмічныя яхты, якія дапрацоўвалі і цюнінгавалі так, як ім хочацца.

Ларг, як заўсёды, добра пастараўся. Яго каманда перарабіла «Норд» для большай хуткасці і, калі ён манерна і прыгожа пралятаў над планетай, многія людзі прыходзілі ў захапленне. Ларг напускаў на сваю асобу арэал таямнічасці, ніколі не выходзіў да публікі, гаварыў пра сябе з ноткай незавершанасці… Ды і шоу з удзелам іншых гоншчыкаў не заставаліся незаўважанымі. Кожны стараўся нечым здзівіць публіку.

Эрл тым часам шмат трэніраваўся на Зямлі і амаль перад самай гонкай прыбыў на Троюс на новай яхце разам з Эміліяй і дзядулем. Усе сродкі масавай інфармацыі адразу ж застракацелі звесткамі пра невядомую мадэль яхты і незвычайную дэлегацыю з Зямлі. Дзівіліся і знешняму выгляду Эрла. Калі яго здымалі на Зямлі, то ў асноўным яго твар быў перапэцканы змазкай і сажай, а адзенне нагадвала лахманы. Цяпер, апрануты ў новую лётную форму, з лёгкім адценнем мужнасці на прыгожым твары, ён быў незвычайна прывабным.

Многія заўважылі неверагоднае падабенства Эрла і Джона Прыстлі, і гэта яшчэ больш распальвала ўсеагульную цікаўнасць. А Эмілія… Яна была ў космасе ўпершыню, і ад яе веяла дзіцячай непасрэднасцю. На прэс-канферэнцыях дзяўчына трымала сябе так натуральна, што адразу ж заваявала сэрцы гледачоў. Іх з Эрлам каханне было настолькі жывым і цнатлівым, што ўвесь бляск Ларга і яго дзівацкія выхадкі адышлі на задні план.

Гонка мелася пачацца раніцай. Перад самой падзеяй Эрл паспрабаваў крыху паспаць, і верная Эмілія разам з дзядулем стойка трымала абарону ад натоўпу фанатаў і фатографаў. Крыху пазней да іх далучылася і Троя. Яна адмыслова прыляцела з Флава і сваёй прысутнасцю крыху

прарэдзіла натоўп жадаючых пабачыць брата. Дзяўчаты хутка пасябравалі. Здалёк было відаць, што абедзве вельмі хвалююцца перад будучай гонкай.

Незадоўга да старту групы падтрымкі гоншчыкаў прадставілі невялікія відэазамалёўкі пра сябе і свае планеты. Эрл паказаў раніцу на Зямлі і дзядулеў востраў. Здымаць яму дапамагала Эмілія, у якой нечакана з'явіўся рэжысёрскі талент. Напрыканцы Эрл падпісаўся як «гоншчык з планеты Зямля». Іх праца атрымала самыя высокія адзнакі.

Навігатары занялі свае месцы за пультамі кіравання, гоначныя касмічныя яхты выстраіліся на сваіх загадзя намечаных пазіцыях. У Эміліі затрапятала сэрца… Дзядуля паправіў аглядальны прыбор на вачах… Каманды астатніх гоншчыкаў заціхлі ў напружаным чаканні…

Ракеты далі старт…

Паехалі!

Неверагодна яркая ўспышка святла, здавалася, разарвала Сусвет на часткі. Яхты стартавалі з ўсёй хуткасцю. Ларг нечакана вырваўся наперад, але Эрл і не думаў здавацца. «Акіян» нібыта прачнуўся, пад пільным наглядам навігатара ён, падобна вялікай серабрыстай хвалі, няўхільна насцігаў «Норд», а потым пачаў абганяць яго. Навігатары напружана сачылі за прыборамі, бо непрадуманыя акалічнасці маглі вывесці з арбіт астатнія яхты, а гонка — выйсці з-пад кантролю.

— Не спяшайся, — інструктаваў Эрла па звышхуткай сувязі дзед. — Дазволь астатнім набраць магчымую хуткасць, а потым пяройдзеш на ручное кіраванне.

Нечакана яхта Ларга праляцела над самым верхам «Акіяна». Дзед даў каманду Эрлу, каб той апусціўся ніжэй, але было позна. Знешнія гукавыя антэны абсыпаліся, як крошкі ад печыва. Эрл і сам зразумеў, што застаўся без гукавой сувязі. Відэа працавала, але ад яго было мала толку. Дзед у адчаі стукнуў кулаком па стале так, што той ажно затрымцеў.

— Трэба было схаваць антэны, — сярдзіта бурчэў ён, — як я адразу не здагадаўся? Хто паслаў у космас гэтага ідыёта Ларга? — дзед паспрабаваў жэстамі паказаць Эрлу, што рабіць, але той скупа ўсміхнуўся і засяродзіўся на кіраванні. Эмілія са страхам сачыла за кропкамі на маніторах, якія бесперапынна мігалі.

Напружанасць гонкі паступова нарастала. Сусвет, здавалася, увесь калаціўся ад гулу. Эрл і Ларг абагналі астатніх на даволі вялікую адлегласць і ішлі амаль што плячо ў плячо. Эрл вёў «Акіян» асцярожна і чамусьці не спяшаўся абыходзіць саперніка. Раптам Джон Прыстлі заўважыў, што ў іх наперадзе — збор невялікіх планет. Ларг ужо пачуў гэту навіну ад свайго навігатара, а Эрла паспрабавала папярэдзіць Эмілія. Яна стала перад камерай і пачала падаваць Эрлу знакі, але ён нават не глядзеў у яе бок, вёў яхту ўручную і мог толькі здагадвацца пра тое, што дзеецца ў кабінцы навігатара. А там і сапраўды было нялёгка. Твар дзядулі стаў белым, як палатно: ён перажываў і за ўнука, і за дзяўчыну. Эрл кінуў беглы позірк на манітор і нечакана падміргнуў Эміліі. Ён усё зразумеў! Дзяўчына радасна абняла дзядулю Джона.

Усе погляды назіральнікаў былі прыкаваны да манітораў. Яхта Эрла пакрысе пачала зніжаць хуткасць, а потым і зусім залягла ў дрэйф. «Норд» куляй прамчаў міма яго. Але што гэта? Эрл падняўся вышэй і рвануў наперад. Нечакана з-за адной планеты паказаўся спадарожнік. Яго не было відаць раней, таму што святло зоркі і гравітацыйныя палі планет закрывалі яго ад прыбораў і камер. Яхта Ларга імчалася наўпрост на спадарожнік. Нечалавечымі высілкамі ён здолеў імгненна катапультавацца з асуджанага на гібель «Норда», і цяпер яго насіла па бязмежных прасторах космасу. Дапамогі чакаць не было адкуль. Эрл з Ларгам заляцелі вельмі далёка, а астатнія ўдзельнікі, якія праносіліся міма, не мелі права спыняцца. Медыкі неадкладна вылецелі на дапамогу, але што толку? Пакуль яны дабяруцца, Ларг застыне ад касмічнага холаду. Гледачы роспачна назіралі за безнадзейным становішчам чалавека. Недарэчная смерць…

Раптам штосьці аддзялілася ад яхты Эрла, і эфір выбухнуў крыкамі: «Гэта выратавальная капсула, глядзіце!» Маленькае прыстасаванне праглынула катапультнае крэсла Ларга. Ён быў без прытомнасці, але прыборы паказвалі, што жывы. Дзядуля Джон цяпер не толькі сачыў за гонкай, але і падаваў каманды на пульт капсулы, каб найбольш бяспечна даставіць чалавека медыкам.

Між тым гонка працягвалася. Касмічныя яхты ішлі на максімальных хуткасцях. Астатні адрэзак шляху быў адносна свабодным, можна было не баяцца перашкод. Але яхта Эрла няўмольна губляла хуткасць, і хлопец прыкладаў неверагодныя намаганні, каб утрымаць яе прама па курсе. Выпусціўшы капсулу, «Акіян» значна палягчэў і шмат згубіў у манеўранасці. Супернікі пачалі пакрысе абганяць Эрла. Шкада, што яны з дзядулем не дапрацавалі яхту. «Што ж рабіць?» — ліхаманкава думаў Эрл. Сувязі з навігатарам не было, а відэа толькі перашкаджала, таму хлопец адключыў манітор зусім. Ілюмінатары асвяціла апошняя на шляху зорка — чырвоны гігант з незвычайнай назвай Нагр. Эрл заўважыў, што ў яе пачаўся перыяд актыўнасці і яна пыхае магутнымі пратуберанцамі. Нечакана да яго прыйшла ашаламляльная думка. Калі ўсё атрымаецца, то яго яхта набудзе неверагодную хуткасць і лёгка абыдзе астатнія.

Эрл успомніў, як яны з Эміліяй займаліся сёрфінгам у акіяне, як чакалі хвалю, а потым стралой праляталі адно перад адным. Тое, што задумаў хлопец, было надзвычай небяспечным. Гэта не ішло ні ў якое параўнанне са звычайным сёрфінгам: рызыка была занадта вялікай. Аднак нішто не магло спыніць маладога чалавека, і ён рашуча накіраваў сваю яхту да Награ.

Назіральнікі і навігатары на Троюсе застылі ад жаху. Што ён робіць? Дзядуля маўчаў. Ён здагадаўся, што хацеў зрабіць Эрл, і цяпер думаў толькі пра тое, каб у яго ўсё атрымалася. Недзе глыбока ўнутры Джон Прыстлі нават радаваўся, што сапсавалася сувязь, бо цяпер яго парады ўнуку толькі перашкаджалі б. Астатнія гоншчыкі зніякавелі ад дзеянняў Эрла: найменшае адхіленне — і можна згарэць. Але яны… ніколі не займаліся сёрфінгам!

Зорка выкінула магутны паток энергіі, і яхта Эрла краем зачапіла хвалю. Назіральнікі, заміраючы ад жаху, сачылі за вар'ятам. Энергія вялізнага пратуберанца шпурнула яхту наперад, нібыта маленькую шкарлупінку. Эрл з усяе сілы трымаў рычагі кіравання, каб толькі не збіцца з курсу.

Усе супернікі засталіся далёка ззаду: магутная сіла дакінула «Акіян» амаль што да фінішу. Эрл усё яшчэ трымаў рычагі ў руках і дрэнна ўяўляў, што з ім здарылася, але дзед за пультам не драмаў: ён запеленгаваў яхту і закамандаваў аўтапілоту зрабіць ганаровы віток вакол Троюса, а потым зрабіць мяккую пасадку на планету.

Астатнія гоншчыкі дамчалі амаль адначасова, калі «Акіян» ужо абляцеў ганаровы круг. Яны запалілі агні на сваіх яхтах і пад такую ілюмінацыю суправадзілі пераможцу на касмадром.

Рукі сяброў выцягнулі змучанага Эрла на паверхню. Стракатая маса народу горача віншавала пераможцу. Хлопец знайшоў у сабе сілы прыняць віншаванні і атрымаць з рук арганізатараў заслужаны трафей. Каб не дзядулева падрыхтоўка, ён наўрад ці вытрымаў бы ўсё гэта, але цяпер мог раздзяліць сваю перамогу з самымі блізкімі людзьмі і прыхільнікамі. Толькі праз некалькі гадзін у Эрла атрымалася застацца аднаму і крыху паспаць. Родныя пільна сачылі за яго спакоем, але гэта каштавала ім вялікіх намаганняў, бо папулярнасць чэмпіёна пабіла ўсе магчымыя і немагчымыя межы.

Апрытомнеўшы, Эрл пачаў сам прымаць гасцей і раздаваць інтэрв'ю. Часу на прыватнае жыццё ні ў яго, ні ў дзеда не было: запрашэнні на розныя мерапрыемствы сыпаліся з усіх бакоў Галактыкі.

Цырымонія ўшанавання пераможцы гонкі мелася адбыцца праз тыдзень. Нейкім дзівам Эрл знайшоў свабодную гадзіну, каб наведаць Ларга, які праходзіў лячэнне пасля аварыі ў ад-

ным з закрытых шпіталяў для касмалётчыкаў. Дабрацца да яго было надзвычай складана, але толькі не для Эрла.

Ларг быў бледны, з пацямнелымі ад гора вачыма.

— Прыйшоў пасмяяцца? — неласкава сустрэў ён былога саперніка. — Навошта ты выратаваў мяне? Я не перанясу такой ганьбы.

— Няўжо ты думаеш, што я прыйшоў здзекавацца з цябе? — адказаў яму Эрл. — Я абяцаў табе справядлівыя правілы гульні. Ты не забыўся? А сёння я прыйшоў прасіць цябе крыху патрэніравацца са мной — канешне, калі ты захочаш…

— Не захачу, — прамовіў Ларг.

— Чаму?

— А вось таму, — Ларг прыпадняўся на пасцелі. — Таму, што ёсць гоншчык у Сусвеце, які нашмат лепшы за мяне і я ведаю яго! — ён з сілай скамячыў пад сабой прасціны, вусны задрыжалі, твар пабялеў. — Гэта — ты!

Эрл падышоў да Ларга, працягнуў руку і шчыра паціснуў яго бледныя пальцы.

— Я прыдумаў, як табе дапамагчы, — ціха шапнуў яму на вуха малады чалавек.

— Не жадаю ніякай дапамогі, — буркнуў Ларг. Эрл накіраваўся да выхада.

— Я не злуюся на цябе за антэны, — абярнуўшыся, паведаміў ён. — Калі не зважаць на гэту акалічнасць, ты паводзіў сябе годна.

Ларг з сілай шпурнуў яму ўслед падушку. Эрл удала адбіў яе і з усмешкай спытаў:

— Ты ўсё яшчэ хочаш лятаць?

…Цырымонія віншавання пераможцы была падрыхтавана на найвышэйшым узроўні. Самы вялікі кантынгент артыстаў з Флава і найлепшыя вядучыя Троюса забаўлялі гасцей. Дзядуля Джон распавядаў пра Першую гонку. Мала хто ведаў, што жанчына, якой ён тады прайграў, у якасці прыза за перамогу папрасіла ў яго рукі і сэрца — яе скарыла тое, што, рызыкуючы сваім жыццём, чалавек выратаваў яе ад немінучай смерці. Іх пачуцці аказаліся ўзаемнымі, і маладзёны неўзабаве пажаніліся.

Свята было ўжо ў самым разгары, як Эрл раптам некуды знік. Па загадкавым твары Эміліі немагчыма было здагадацца, што цяпер будзе. Інтрыга захапіла ўсіх.

Нарэшце, на імправізаванай сцэне з'явіўся пераможца, твар якога ззяў ад шчасця. Ён зрабіў знак, каб прыцішылі музыку, і ўсхвалявана загаварыў:

— Вітаю ўсіх вас, сябры, і прашу асаблівай увагі, — у зале стала неверагодна ціха. — Я вельмі рады таму, што вы зрабілі для мяне такі шыкоўны прыём. Сваю перамогу традыцыйна прысвячаю блізкім і родным: бацькам, сястры, дзядулю, Эміліі — маёй палавінцы, і яшчэ аднаму чалавеку… Я захапляюся яго мужнасцю, сілай волі і цягай да палётаў, — Эрл прыжмурыўся. — Прашу шаноўнае спадарства павітаць майго сябра — гэта Ларг! — па зале пракаціўся гучны ўздых, калі Эмілія выкаціла на сцэну крэсла-каляску, на якім сядзеў усё яшчэ бледны і крыху разгублены Ларг. Яго штаніны былі падкасаны амаль да каленяў, і ўсе заўважылі, што ў яго замест ног — пратэзы. Эрл падышоў да яго і па-сяброўску моцна абняў. Зала выбухнула апладысментамі.

— Гэта яшчэ не ўсе навіны, — працягваў сваю прамову Эрл. — Усе ведаюць, што галоўным прызам пераможцу будзе выкананне яго жадання. Маё галоўнае жаданне стаць міжгалактычным гоншчыкам ужо збылося. Я не надта доўга думаў над тым, што мне папрасіць… — ён зрабіў невялікую паўзу і агледзеў прысутных. — Але хачу датрымаць інтрыгу да канца. Сёння я і так у цэнтры ўвагі, таму проста перадам слова аднаму з арганізатараў нашай гонкі — капітану дальніх палётаў спадару Сірэну Вудсу.

На сцэне з'явіўся немалады ўжо чалавек, адзначаны шматлікімі рэгаліямі.

— Шчыра кажучы, — прамовіў ён глыбокім зычным голасам, — гэтае спаборніцтва можна назваць унікальным, а нашага пераможцу — заслужаным. На працягу многіх гадоў у нашых гонках удзельнічалі толькі аматары. З аднаго боку, гэта быццам бы нядрэнна, але з іншага — у нас не было ніякай падрыхтоўкі, ніякай школы. Мы проста ўпусцілі гэты момант. Але цяпер я абвяшчаю аб стварэнні Школы міжгалактычных гоншчыкаў, і пасаду адказнага кіраўніка ў ім будзе займаць Эрл Прыстлі! — зала выбухнула апладысментамі, а Эрл хітра заўсміхаўся. — Чакайце, чакайце, — паспрабаваў супакоіць публіку капітан Вудс. — Я сказаў яшчэ не ўсё. Усе вы ведаеце, што Эрл з'яўляецца ўнукам аднаго з пераможцаў Першай гонкі — Джона Прыстлі. Канструктарскі цэнтр прапанаваў яму пасаду галоўнага распрацоўшчыка новых мадэляў касмічных яхт. Мы ледзь было не згубілі ўнікальны талент… Калі б Эрл адмовіўся ад гонак, то, напэўна, ніколі і не даведаліся б, — зала загудзела, і капітан зноў вытрымаў паўзу. — Новыя яхты павінен нехта выпрабоўваць, праўда? — спытаў капітан у залы, а потым уважліва паглядзеў на Ларга. — Спадар Ларг, ці не жадаеце вы гэтым займацца? — той разгублена азіраўся. Эрл цішком падміргнуў яму.

— Канешне! Я згодны, — яшчэ не да канца асэнсаваўшы навіну, адказаў Ларг. Яго твар засвяціўся ад радасці. Людзі падыходзілі да яго, паціскалі руку, віншавалі. Ларг усміхаўся, твар яго быў вільготны ад слёз. Ён не хаваўся, хаця, магчыма, гэта былі яго першыя слёзы ў дарослым жыцці…

…Манітор слаба піскнуў, і Карла прыняла відэасігнал. Гэта быў доўгачаканы званок ад Эміліі. Адразу ж пасля вяселля яны з Эрлам з галавой акунуліся ў арганізацыю Школы і пошук таленавітых юнакоў па ўсім Сусвеце. Джон Прыстлі вярнуўся на Зямлю амаль адразу ж пасля ўсіх арганізацыйных момантаў. Кіраваць працэсам ён меў намер толькі адтуль. Цяпер гэтая планета стала вельмі папулярнай для касмічных турыстаў, таму яны з Карлай часта прымалі гасцей. Нават Ларг прылятаў да іх неаднаразова. Ён таксама быў увесь у працы, а ў вольны час з вялікім задавальненнем гуляў з блізнятамі Троі, пакуль тая разам з мужам гастралявала па свеце.

— Мамачка, спадар Джон, — гаварыла ў камеру шчаслівая Эмілія. — Прабачце, што крыху спазніліся, але мы выпраўляемся і шчыра віншуем вас з заключэннем шлюбу! Эрл таксама перадае вам віншаванні! — за яе спінай паказалася ўскудлачаная галава хлопца. Ён памахаў у камеру рукой, а потым, ніколькі не саромеючыся, пачаў казаць пяшчотнасці жонцы проста перад маніторам. Эмілія густа пачырванела, камера здрыганулася, і Карла з Джонам з хвіліну назіралі абрысы падлогі іх тройскай кватэры.

— Чакай, я віншаванне перадам, — пачуўся голас Эміліі.

— Я таксама хачу перадаць, — зашаптаў нібыта сярдзіты Эрл.

Выява наладзілася. Перад аб'ектывам ззялі два шчаслівыя твары.

— Перадаю вам свае віншаванні, — сказаў, усміхаючыся, Эрл. — Эмілія даручыла мне сказаць вам дзве важныя навіны. Не — тры… — тонкая дзявочая ручка моцна скубнула яго за валасы, але Эрл нават не звярнуў на яе ўвагу і натхнёна працягваў: — Першая — гэта тое, што мы пераносім Школу гоншчыкаў на Марс. Наша Сонечная сістэма — ідэальнае месца для трэніровак! А мы, зразумела, будзем жыць на Зямлі. Дарэчы, я па ёй вельмі сумую. Ну, і самае галоўнае, — Эрл накіраваў камеру на сваю жонку і яе злёгку акруглены жывоцік. — Ты станеш прадзедам, Джон Прыстлі!



Настасся Нарэйка

**нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Доўгімі зімовымі вечарамі ахвотна разглядае завейныя кветкі на шыбах, замалёўвае іх у нататніку побач з вершамі, каб улетку дакрануцца да паперы і вярнуцца ў казачную зіму.**

## Сукенка для прынцэсы

Яна заседзелася над рукапісам да глыбокай ночы. Калі зірнула на гадзіннік, ажно спужалася. Час спяшаўся. І ёй трэба было спяшацца таксама, трэба было завяршаць пераклад, які ўжо тры дні чакалі ў выдавецтве.

Нямецкія словы, надрукаваныя ў кнізе вострым, як гатычныя шпілі касцёла ў Кёльне, шрыфтам, літаральна рэзалі ёй вочы, губляючы ўсялякі сэнс. Ад стомы яна ўжо не магла звязаць гэтыя словы з пэўнымі паняццямі. Тэкст рассыпаўся на асобныя літаркі…

Яна пацерла вочы рукамі і, паставіўшы локці на тоўсты слоўнік, сціснула скроні тонкімі белымі пальцамі.

Трэба скончыць… Трэба… Яшчэ дзесяць старонак… Мала…

— Многа! — абурыўся голас недзе ўнутры, але яна не звярнула на яго ўвагі.

Стома не мела значэння. Нішто не мела значэння, акрамя Леры.

Думка пра дачку прымусіла Яну падняцца з-за стала, заваленага паперамі, і на дыбачках прайсці да фіранкі, за якой хаваўся невялікі ложак. Лера спала, і каштанавыя валасы сонна завіваліся на яе скронях. Вочы былі заплюшчаны, але нават не гледзячы ў іх, маці ведала, што глыбокі сіні колер ім падарыла не рака, не возера, не мора, а сам акіян. Юравы вочы. Юравы кучаравыя валасы. Усё ад яго і — нічога ад яе. Прынамсі, гэта справядліва. Няхай. Хоць нешта застанецца ў дзяўчынкі ад бацькі…

Асцярожна захінуўшы фіранку, яна вярнулася за стол і, каб хоць крыху адпачыць ад работы, дастала з шуфляды ліст, адрасаваны Лерай Дзеду Марозу. Яна абяцала кінуць яго ў паштовую скрынку, каб запісанае няўпэўненым почыркам другакласніцы запаветнае жаданне спраўдзілася.

«Добры дзядулька, — пісала Лера. — Сёлета зноў спяшаюся павіншаваць цябе з Новым годам.

Я ўжо вялікая дзяўчынка і таму не буду прасіць у цябе таго, што прасіла летась. Я ведаю, што ты не можаш вярнуць мне татку. Гэта занадта вялікі цуд. Ён залежыць не ад цябе. — Дачытаўшы да гэтага месца, яна заўсёды спынялася, каб выцерці слёзы. —

Дзядулька Мароз!

Падаруй, калі ласка, маёй маме добры настрой і светлую ўсмешку. Зрабі так, каб яна не плакала. Я буду старанна вучыцца, прыбіраць у нашым пакоі. Абяцаю! Толькі супакой маму. Дзякуй.

Твая Лера.»

Дачка нічога не прасіла для сябе. Хоць даўно марыла пра прыгожую сукенку, што вісела ў вітрыне вялікай крамы. «Убор для прынцэсы» — так Лера называла яе, калі падчас прагулкі яны спыняліся перад празрыстым шклом. Сукенка каштавала дорага, і маці вырашыла, што абавязкова падорыць яе сваёй маленькай прынцэсе на Новы год, нават калі давядзецца ўзяць дадатковую работу дадому. Свята мелася надысці праз тры дні.

Яна павольна правальвалася ў сон і, напэўна, здалася б на літасць яму, калі б настольная лямпа не хліпнула раз, другі… «Лямпачка перагарае», — падумала жанчына і, страсянуўшы цяжкай ад думак галавою, перагарнула старонку. Заставалася яшчэ дзесяць…

Ён спяшаўся. Ён заўсёды спяшаўся і ніколі нічога не паспяваў. На лесвіцах свайго офіса штурхаў калег на хаду і не думаў нават прасіць прабачэння. Седзячы за рулём моднай машыны, ехаў як на злом галавы, апырскваў пешаходаў сумессю мокрага снегу з брудам і не заўважаў гэтага.

Дома Юра ніколі не размаўляў з жонкаю і сынам-першакласнікам, кожны дзень соваў ім новыя хрумсткія купюры, нібыта адкупляўся ад размоў. У яго было двое сяброў — тэлевізар і камп'ютар.

Юра кіраваў сваёй невялікай фірмай, якую адкрыў дзякуючы сродкам жонкі, што склалі стартавы капітал. Не лічыўся падчас працы ні з чым, акрамя сваіх інтарэсаў. Ды і ўвогуле, мала што цікавіла яго ў жыцці. Нават набліжэнне навагодніх свят ён заўважыў толькі тады, калі наступіў босай нагою на ёлачны шарык, які апынуўся на падлозе стараннямі гарэзлівага ката Марціна.

Новы год. Гэтыя два словы не асацыяваліся для яго ні з чым — так… Яшчэ адна нагода тыцнуць родзічам грошы, якія перасталі быць для яго мэтай жыцця, як некалі. Юра не ведаў, на што іх траціць. Цяпер не ведаў. Здаралася, ён нават сумаваў па тым часе, калі жыў на дзве сям'і, «рыхтаваў глебу для сыходу ад Яны і шасцімесячнай дачкі да багатай спадчынніцы Ульяны, якая вось-вось збіралася нарадзіць яму сына». Так ён гаварыў сябрам, з якімі без шкадавання развітаўся адразу ж, як толькі пачаў багацець.

Вось і сёння, адмовіўшыся ад вячэры і шчыльна зачыніўшы дзверы пакоя, адведзенага пад кабінет, Юра сеў за камп'ютар. На рабочым стале адразу ж кінуўся ў вочы новы дакумент пад дзіўнаю назваю «Ліст Дзеду Марозу». Мужчына хацеў спярша адправіць яго ў кошык, але потым вырашыў прачытаць. Пісаў, вядома ж, сын…

«Добры дзень Вам, паважаны Дзед Мароз!

Прызнаюся, што першы раз у жыцці пішу Вам пісьмо. Я даўно ведаю, што Вы — проста прыдумка для маленькіх дзяцей, але сёння я звяртаюся менавіта да Вас. Я не ведаю, хто яшчэ можа дапамагчы мне. Нездарма ж тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак па ўсім свеце пішуць Вам.

Я прашу: вярніце мне, калі ласка, майго тату. Ён жыве з намі, Вы нічога дрэннага не падумайце. Але яго быццам няма. Калі ласка…»

Ліст быў недапісаны. Юра прабег яго вачыма яшчэ раз, а потым сярод двух варыянтаў, прапанаваных паслужлівым камп'ютарам, выбраў «не захоўваць»…

За тыдзень да Новага года Генка даведаўся, што ў яго ёсць сястра. Аказваецца, так бывае. Мамы ў іх розныя, а тата адзін.

Ён ведаў, што сястру клічуць Лерай, што вочы ў яе сінія, а валасы каштанавыя, як у яго самога. Гэта пацвярджала фатаграфія, што выпала з кішэні татавага паліто, якое мама дастала з

верхняй паліцы шафы. За ёй стаяла скрынка з ёлачнымі цацкамі. Дзяўчынка на фатаграфіі ўсміхалася, але ў тварыку яе было нешта такое сумнае, што ў яго сціснулася сэрца.

На наступны дзень мама з Генкам пайшлі ў вялікую краму ў цэнтры горада — хацелі купіць чырвоную зорку на ёлку. І тут ля вітрыны хлопчык убачыў… сваю сястру! Мама цягнула яго за руку, але Генка паспеў заўважыць, з якім захапленнем і сумам адначасова пазірала Лера на прыгожую ружовую сукенку за шклом. А жанчына побач з ёю (відаць, маці) ледзь стрымлівала слёзы. Генка адразу пра ўсё здагадаўся. Ён быў разумны хлопчык.

Яна ляцела дадому як на крылах. У яе сумачцы ляжала тое, без чаго яна не магла выканаць запаветнае жаданне Леры. Як гэта своечасова! Асабліва сёння — 31 снежня.

— Збірайся, дачушка!

Дзяўчынку не трэба было ўгаворваць. У глыбіні душы Лера ведала, куды вядзе яе заснежанымі вуліцамі мама, і не магла адважыцца паверыць.

Хутчэй! Хутчэй!

Іх, здавалася, прыспешваў нават вецер, забыўшыся на хвіліну пра асноўны свой абавязак — кружыць у паветры сняжынкі-выцінанкі…

Радасць рассыпалася тысячамі асколкаў, нібы злое люстэрка Снежнай каралевы, калі яны спыніліся перад вітрынай. Вочы не верылі. Сэрцы на імгненне перасталі біцца. Сукенкі не было… Як?!

Маці і дачка павольна павярнуліся спінамі да халоднага шкла і, як сляпыя, пабрылі дадому. Прыступкі здаваліся бясконцымі, хоць кватэра іх была на другім паверсе.

— Мама, — Лера зазірнула ў любімыя вочы, поўныя слёз. — Бог з ёю, з сукенкай. Праўда!

— Праўда… — паўтарыла Яна.

Генка літаральна дыхаць перастаў ад хвалявання, калі пачуў унізе доўгачаканыя крокі. Гэта яны! Ён пайшоў насустрач і… адхіснуўся, калі ўбачыў, якія ў іх твары. Дзяўчынка заўважыла яго першай.

— Лера… — прашаптаў імя Генка і замаўчаў, шукаючы словы і не знаходзячы іх. Рукі яго дрыжалі. І вялікая белая скрынка пачала павольна выслізгваць з іх, пакуль не апынулася на падлозе.

— Асцярожней!

Усе адначасова схіліліся над скрынкай, пад вечкам якой пераліваліся ўсімі адценнямі ружовага сукенка для прынцэсы…

# Прыйдзе Бог сняжынкаю на носе

Традыцыйная калядная падборка

## Таццяна Барадуля

### Калядны верш

Ноч. Каляды. Неўгамонна
Кліча поўня варажыць.
— Не спяшайся, падарожны,
Як завуць цябе, скажы.

Параўняўся ты са мною.
У вачах — халодны смех.
Што за дзіва?! — за табою
Некрануты роўны снег…

Ты мяне спалохаць хочаш?
Самаўпэўнены дзівак!
Хто ты, вязень гэтай ночы,
І чаму жартуеш так?

— Дом мой там, дзе нельга ўбачыць
Гэтай поўні і снягоў.
Там памерлых душы плачуць
З-за сваіх зямных грахоў.

Я, асуджаны іх слухаць,
Так хацеў бы быць глухім
У краіне вечнай скрухі,
Болю вечнага, тугі.

Толькі з гэтае хвіліны
Знік увесь мой неспакой.
Ты — адна таму прычына
І тваіх вачэй агонь.

Я сустрэў цябе на шчасце,
Ты цяпер навек мая, —
Словы ўпалі, як закляцце —
А імя маё — Ніян…*

*У славянскай міфалогіі Ніян — валадар Царства памерлых.

## Наталя Рак

***

Вось амела, вось Раство,
а ты чорт ведае дзе.
У суседнім пакоі
ці ў іншай краіне.
Мапа — наш ложак,
Кнігі — нашыя сустрэчы.
Вось амела, пад якой
я буду цалавацца
з кімсьці іншым.
Вось Раство
і куцця.

## Андрэй Лазар

***

Гурбаў, санак,
Лыж, канькоў,
Маразоў,
Снегавікоў
Зноў
Няма.
Зіма.



## Наста Кудасава

***

усе святыні — псам,
мышам і жабкам!
няхай люляюць псальмы
мяккай лапкай,
трымаюць вецер
выдыхам і ўдыхам
у келлях веццяя
вечных
дрэваў-мніхаў.
а ты кружы, ніжы
на восень восень,
ды прыйдзе Бог
сняжынкаю
на носе,
лістом сырым,
суніцай
адзінокай,
распяты ў кожным дні
навідавоку.

## Юліяна Бадалава

**Калядная дэпрэсія**

Ад спаткання да спаткання дзіўны шлях.
Варажбіты мы. А вера — хрысціянка.
Нараджэнне — як святло чужой маланкі
У разгубленых бязлітасных вачах.

Варажым. Амаль не плачам. Сёння свята.
Паміж шляхам і спатканнем — толькі мы.
Маці Божая, твой позірк нам нямы!
Адсвяткуем лепш апошнія каляды.

## Яўген Сакалоўскі

***

Новы год — такі чароўны пэндзаль,
Каб нарэшце аднавіць жыццё,
Скальпельны празрысты падзяліцель,
кропка для адліку новых дзён.

Новы год — як чысты ліст паперы,
шанец перамаляваць Сусвет,
памяняць аблезлыя шпалеры
дзён былых на Новы Запавет.

Дзень, які сабе ты абярэш
як да вехі новай пераход, —
гэты дзень — любы, у рэшце рэшт, —
той, які пачне твой Новы год.

## Аляксей Стрэльнікаў

***

важна спыніцца
у тую хвіліну, калі ў табе нараджаецца бог...
неабавязкова маліцца,
дастаткова ўспомніць аблічча
тых, хто табе калісь дапамог.
хто б ні сядзеў у цябе ўнутры,
марозіў страхам, штурхаў рабіць гадкасці,
менавіта ў гэта імгненне
у цябе атрымаецца зладзіць з ім.
цябе, як уласна і ўсіх навокал,
вернуць пасля на каляіну жыцця,
каб каціцца далей невядома куды і навошта.
але гэта будзе потым.
а зараз усміхніся скрозь тое, што коціцца з
твайго вока.



## Алена Ганулiч

### **Калядная мара**

Так хочацца ведаць,
што ўсё будзе добра.
Так хочацца верыць
у цуды ўсё роўна.

Скідаць назаўсёды звыклыя маскі,
У памяць вяртаць дзіцячыя казкі.
І жыць прадчуваннем калядна ночы.
Упэўнена дыхаць. Упэўнена крочыць.

Закрэсліць усе ілжэтвары на твары
І крылы з паперы прыклеіць да мары,
І быць, як усе, — у спагадзе і згодзе —
Не варта, не існа, калі не па модзе! —

Адкрыта глядзець, адкінуўшы маску,
Пакрыўджанаму — «Прабач, калі ласка!»
Прывесці ў парадак сумленне старанна,
Пафарбаваць у белы заганы...

…І толькі калі па-сапраўднаму верыць —
Калядная мара пагрукае ў дзверы.

## Алесь Емяльянаў-Шыловіч

### **Глюк на Каляды**

Вершы лепей за ўсё складаюцца ў ноч на Каляды.
У вышымайцы на голае цела, пад пляшку зуброўкі
і на пару з духам Міцкевіча.
— І собіла ж табе, Адаме, нарадзіцца акурат
на Каляды
Уздыхнуў.
— Сумна, браце…
— Заспявайма?
— Угу.
«Калядзін, калядзін,
пойдзем мы ў магазін,
возьмем дзве альбо тры —
усё ж лепш, чым адну!
Калядзін, калядзін…»
— Унь туды паглядзі —
гэта дзед маразец?
— Не, рабяты, Пясец.
— Пясец? Які шчэ Пясец? Не заказвалі.
— Дазвольце прадставіцца.
Вось пасведчанне:
«Пасведчанне.
Падаўца гэнага сапраўды з'яўляецца
Пясцом,
часова в. а. белачкі.
Дата. Подпіс.»

— Белачкі працуюць у чатыры змены,
А ўпраўленне заключыла з намі дамову
Адразу на пяць гадоў.
Калі ласка.

«Калядзін, калядзін.
Дзінь-дзінь-дзінь
Дзінь-дзінь-дзінь…»

Заслона.





## Кацярына Мядзведзева

**нарадзілася 10 чэрвеня 1980 года ў Брэсце. Філолаг, казачніца, мама маленькага хлапчука. Не ўяўляе жыцця без духмянай гарбаты з бергамотам, чытае кнігі адну за адной, вядзе блог, калекцыянірue навагоднія паштоўкі ды шчаслівыя імгненні жыцця.**

# Калі расцвітуць чорныя ружы

Лянівае сонца рассейвала па вуліцах горада паўдзённую порцыю цяпла. Яго прамяням было ўсё адно, каго грэць і ад чаго адлюстроўвацца. Яны плюхаліся на дарогу, і згубленая кімсьці срэбная манетка пачынала зіхацець. Спаўзалі з флюгера на дахоўку, з'язджалі па вадасцёкавай трубе, ускоквалі на падаконнік. Красаваліся на латуневай, да бляску адпаліраванай дзвярной ручцы. Адзін легкадумны праменьчык сунуўся ў вітрыну кветкавай крамы, але ўвесь перапэцкаўся ў пыле, разачхаўся і, патыкаўшыся пару разоў у каламутнае шкло, сышоў ні з чым.

— Грукаюць, — буркнуў Густаў.

— Хіба? — Валянцін прыслухаўся. — Я нічога не чую. Табе здалося.

Напэўна, і напраўду здалося. Не прымаць жа кожны сонечны прамень сур'ёзна. Гэтак можна яшчэ паверыць, што браткі табе падміргваюць, наготкі просяць зрабіць манікюр, а чайныя ружы падаюцца выключна да чаю.

— Вось колькі з табой знаёмы, Густаў, гэтулькі дзіўлюся, — працягваў садоўнік, задуменна пыхкаючы люлькай. — Быццам бы грубы, нязграбны тып. І адкуль у тваёй галаве такія фантазіі?

Густаў ухмыльнуўся ў адказ. Яго загрубелыя пальцы скручвалі папяросу, рассыпаючы тытунь. Пра чысціню тут даўно не клапаціліся. Калі ў доме няма жанчын, то парадак не так ужо і патрэбны. Дый тытунёвы пылок зусім непрыкметны на падлозе сярод недакуркаў, недагаркаў, недаедкаў ды іншых непрывабных сутнасцей, што раней былі лілеямі і нарцысамі, свечкамі і саспелымі яблыкамі, стужкамі і глянцавай абгортачнай паперай. Да таго ж, праз нямытыя вокны зусім не пранікае святло, так што, наступіўшы ў прыцемку на штосьці, можна было і не адразу здагадацца, што гэта там чвякнула, — агрызак ці абрэзаны і падгнілы бутон.

Не парушала агульную гармонію і шыльда, зусім зарослая брудам і птушыным памётам. Выпадковы наведвальнік не зразумеў бы, што патрапіў у кветкавую краму. А невыпадковых тут не вадзілася: каго пацягне ў непрыбраны, зарослы асотам тупічок са скасавуранымі штыкетамі і сляпымі акенцамі? Сюды хадзілі толькі паштары. Паштарам шанцавала: на ўсіх дамах віселі шыльды з нумарамі.

— У белай ружы зноў лісце трубачкамі скручана, — сказаў Валянцін. — Мабыць, ліставёртка. Мне няма калі — можа, ты сам зробіш палыновы настой ці чамярычную ваду?

Густаў кіўнуў: для ліставёртак гэта дабром не скончыцца. О, колькі дробных насякомых душ ён загубіў хітрымі прыпаркамі і мікстуркамі, пры гэтым зусім не разбіраючыся ні ў батаніцы,

ні ў заалогіі, не ведаючы ніводнай лацінскай назвы. Вядома, Густаў не быў варты і падноска таленавітага ды адукаванага Валянціна. Той дзень і ноч карпеў над кнігамі ды раслінамі, апыляў і скрыжоўваў, прышчапляў і чаранкаваў. А пануры велікан Густаў рабіў усю цяжкую і брудную працу. Гноевая жыжка, крывяная мука, птушыны памёт — камусьці ж трэба і гэтым займацца. Ён ніколі не чапаў кветкі, каб не зламаць іх выпадкова нязграбнымі ручышчамі. Пра складанне букетаў яму таксама не даводзілася марыць. Затое, калі патрабавалася ўскапаць градку ці перанесці з дома ў цяпліцу непад'ёмную скрыню з расадай, тут ніхто не спраўляўся, акрамя Густава. Па-свойму ён быў незаменны.

Яны сядзелі і палілі, каб потым вярнуцца да працы. Задняя дзверы крамы вялі ў вялізны сад, а там — бочкі з цёплай дажджавой вадой, бляшаныя палівачкі, кветнікі, і тысячы бутонаў нядбайна ківаюць табе пры сустрэчы, калі, вядома, ты глядзіш на іх, а не акідваеш пільным паглядам лісце ды сцёблы ў пошуках расы. Расу ўмеў шукаць Густаў. Ён жа і змагаўся з ёю. Тытунёвая настойка, зялёнае мыла і медны купарвас, прынады з альховых галінак, пасткі для смаўжоў і шмат чаго яшчэ — усё гэта даручалася яму, каб Валянцін мог спакойна займацца селекцыяй.

Густаў кінуў недакурак на падлогу і пачуў няроўныя крокі. Паўзавялыя лілеі ў вазе з каламутнай вадой таксама пачулі іх і насілу паднялі галоўкі. І павукі замерлі ў павуцінках, і пацішэў цікаўны скразнячок. Толькі садоўнік задуменна паліў люльку, не жадаючы заўважаць цень за шклом вітрыны.

— Пошта, — сказаў Густаў.

— А? — безуважна перапытаў Валянцін. Потым дзверы рыпнулі і адчыніліся.

На парозе стаяла дзяўчына ва ўніформе, з велізарнай торбай цераз плячо. Торба трашчала па швах, набітая газетамі, часопісамі, лістамі ды іншай дробяззю, якой з нуды абменьваюцца людзі.

— Ваш каталог, — абвясціла дзяўчына ветліва. Густаў хмурна ўтаропіўся ў яе. А садоўнік, не гледзячы зусім, працягнуў руку. Дзяўчына парылася ў торбе. — Вось яшчэ насенне, вы заказвалі на пазамінулым тыдні.

— Ах, ужо даставілі! — ажывіўся Валянцін. — Што ж вы, давайце хутчэй! Густаў, распішыся! — і садоўнік сышоў, на хаду зрываючы ўпакоўку з важкага пакета.

— Вось тут, — дзяўчына працягнула Густаву фармуляр. Для гэтага ёй давялося ўстаць на дыбачкі. Густаў быў надта высокім.

Ён напісаў нейкія крамзолі. «Як няёмка атрымалася, я перабіла іх гутарку», — падумала дзяўчына. «Як няёмка, што ў мяне такі жудасны почырк», — спахмурнеў Густаў і заварушыў кусцістымі бровамі, якія зрасліся ля пераносся.

— Колькі вы ўжо ставіце свой подпіс — ніяк не разбяру ваша імя, — з усмешкай заўважыла дзяўчына. Насамрэч імя Густава яе зусім не цікавіла. Яна хацела завязаць размову і затрымацца ў краме, спадзяючыся, што садоўнік з'явіцца зноў. Прызнацца, яна адчувала да яго вялікую пяшчоту.

Густаў прамармытаў сваё імя. Ён канчаткова нахмурыўся і ўжо марыў, каб дзяўчына хутчэй сышла і перастала з яго кпіць.

— Ліза! — яна працягнула Густаву руку. Ён падумаў, што трэба яшчэ дзесьці паставіць подпіс, але не ўбачыў ручкі. Дзяўчына чакала поціску рукі. Ён узяў яе пальчыкі, патрымаў трохі ў сваёй лапе, мімаволі заўважыўшы, якія ж яны малюсенькія, і адпусціў.

— На жаль, я сёння апошні раз да вас прыйшла, — паведаміла Ліза сумна. Не дачакаўшыся ад Густава пытання «чаму?», яна працягнула:

— На пошце кажуць, што мае паслугі ім больш не патрэбны. Занадта павольна хаджу. Да таго ж усім паштарам купілі ровары, а я не магу ім карыстацца.

— Гм, — прамовіў Густаў, каб не маўчаць так доўга.

Тут у дзвярах з'явіўся садоўнік, Ліза адразу заквітнела, а ён спатыкнуўся аб пустую скрыню ад угнаенняў і раздражнёна заўважыў:

— Колькі разоў я прасіў знайсці прыбіральшчыцу? Крама хутка патоне ў смецці!

Ліза ўспыхнула і з надзеяй зірнула на Густава. Ён перахапіў яе погляд — і таксама чамусьці заквітнеў.

— Дык вось! — паказаў ён на дзяўчыну.

— А хіба гэта не паштарка? — здзівіўся Валянцін. — Што ж, хай прыступае зараз жа. А рэчы пакіне ў мансардзе, — і ён выйшаў у сад.

— Я толькі пошту разнясу, — радасна прашаптала Ліза. Азірнулася, ці не бачыць садоўнік, рыпнула дзвярыма і закульгала прочкі.

Першае, што зрабіла Ліза, калі стала прыбіральшчыцай, — адмыла шыльду. Па аблезлай, пакрытай лакам дошцы, з рэшткамі залатой фарбы, вілася напаўсцёртая фраза: «Кветка ад Валянціна». Ад гэтай назвы веяла старадаўнай самавітасцю. Адразу адчувалася, што крама тут прыстойная, і тыднёвай даўнасці ружы з абарванымі пялёсткамі ці зламаную герберу з іголкай у сцябле пакупнікам не падсунуць. Вось толькі надпіс належала тэрмінова абнавіць. Таму Густаў трымаў драбіны, а Ліза, падцягнуўшы рукавы, старанна вымалёўвала літару за літарай. Садоўнік у рэстаўрацыі не ўдзельнічаў, спаслаўшыся на тое, што ён аддае перавагу свежаму водару кветак, а не з'едліваму паху фарбы.

За абедам Ліза прагаварыла задуменна:

— Гэтай шыльдзе час спраўляць стагадовы юбілей…

— А двухсотгадовы — не хочаш? — адгукнуўся Валянцін. — Яна такая ж старажытная, як зямля ў нашым садзе.

— Аднаго я не разумею, — працягнула дзяўчына, — як на ёй апынулася тваё імя?

— У нашай сям'і з пакалення ў пакаленне старэйшага сына называлі Валянцінам. У гонар знакамітага продка-садоўніка. Ну, і каб шыльду не мяняць.

— Старэйшага сына? А я думала, Густаў старэйшы.

— Густаў не з нашай сям'і, — памаўчаўшы, адказаў Валянцін. — Ён проста... проста… Словам, ён тут заўсёды, колькі я сябе памятаю.

— Угу, — пацвердзіў Густаў, і больш яны да гэтай гутаркі не вярталіся. Дый не да размоў было падчас той грандыёзнай чысткі, што распачала Ліза ў старэнькай краме, пакрытай цвіллю. Зіхацела пабеленая столь. Ззялі вокны, вымытыя вадой з воцатам і працёртыя газетнай паперай. Трэшчыны ў драўляным прылаўку зніклі, пазамазваныя расцёртым пчаліным воскам. Знікла векавечная куча смецця з каміна, і дзверы перасталі рыпець, атрымаўшы порцыю масла. Знадворку над дзвярыма Ліза павесіла пазалочаны званочак, каб радасным звонам ён абвяшчаў аб з'яўленні пакупнікоў.

Змяніліся і жылыя пакоі. Абедзенны стол абзавёўся абрусам, на крэслах з'явіліся чахлы, а з нізкай лямпы ўжо не звісалі жмуты павуціння. Зрэшты, па кутах пакоя яго памілавалі. «Павукі не прыносяць шкоды», — заявіла Ліза, — наадварот, яны ловяць мух». Так што павукі сталі часткай яе дзіўнаватай утульнасці — разам са стракатымі палавікамі, размаляванымі парцалянавымі талеркамі і плеценай хлебніцай пасярод стала. Знік тытунёвы дым, у краме імкнуліся

больш не паліць. І не перакусвалі прыхапкам, а, як і належыць, снедалі і вячэралі, збіраючыся ўтрох за круглым абедзенным сталом. І смецце кідалі ў кошык. Недагаркі і недаедкі перасталі з'ўляцца на падлозе: калі падлогу кожны дзень хтосьці мые, то смецiць стала неяк няёмка.

Вокны, адмытыя ад пылу і дажджавых разводаў, ізноў ператварыліся ў вітрыны, і Ліза расставіла на іх букеты. Але пакупнікі не прыходзілі, і кветкі журыліся ў шкляных пахавальнях. Ружы павесілі галоўкі, іржавелі гваздзікі, з півонь павольна абляталі пёркі. І нават калі ажывіць іх, падліўшы ў ваду спірту ці капнуўшы ў сярэдзіну кветкі трохі парафіну, — гэта толькі расцягне завяданне на некалькі дзён.

— Шкада небарак, — сказала неяк Ліза, падмятаючы кучу пялёсткаў і лісця з падлогі.

— Каго? — безуважна спытаў садоўнік. Ён праглядаў каталог і не хацеў марнаваць час на балбатню з прыбіральшчыцай.

— Кветкі. Мы губім іх дарма.

— Гэта жыццё, — па-філасофску вымавіў Валянцін.

— Гэта дурасць, — запярэчыла Ліза. — Больш я не зрэжу ніводнай кветкі. Вось так!

Садоўнік пацiснуў плячыма. Цяпер яго хвалявала толькі адно: якія выпісаць гладыёлусы — гафраваныя ласосева-ружовыя ці складкаватыя каштанавыя. Цыбуліны каштавалі вельмі дорага, а крама зусім не прыносіла прыбытку.

Ліза выканала абяцанне. Яна выкінула завялыя кветкі, а новыя больш не зразала. Крама стаяла чыстая і задуменная, без адзінага бутончыка. Наверсе ў сваім кабінеце садоўнік летуценна маляваў на палях каталога мечападобнае лісце гладыёлусаў. Густаў блукаў па садзе, раскладваючы атручаныя прынады для мядзведак. А Ліза чытала за прылаўкам кулінарную кнігу, прыдумляючы вячэру. І раптам, упершыню за тыдзень, дзынкнуў званочак і ў краму ўвайшла бабулька. Яна зірнула на пустыя вазы, на Лізу з кніжкай, паправіла акуляры.

— Мне б букецік, дзетачка. Напэўна, я сослепу адрасам памылілася?

— Хадземце, — Ліза ўзяла бабульку пад локаць і павяла туды, дзе раслі кветкі.

Задаволеная пакупніца сышла з ахапкам блакітных рамонкаў, і ў касе бразнула манетка.

На другі дзень краму наведалі ўжо тры бабулькі.

— Мы ідзём да ўнучкі на вяселле, мілачка. Кажуць, у вашай краме самыя свежыя кветкі, адразу з саду?

На трэці дзень з'явіліся пяць бабулек, трое закаханых маладых людзей і сямейная пара ў гадах. Усе яны і слухаць не хацелі пра тое, што кветкі трэба зразаць досвіткам ці па вячэрняй расе. Букет быў патрэбны неадкладна, цяпер, у гэтую ж хвіліну, прычым выбраны ўласнаручна. Хтосьці нават прынёс свае нажніцы. Што было рабіць? Ліза ўсміхалася, адкладала кніжку, зноў і зноў расчыняла заднія дзверы. Яна яшчэ не падазравала, што гэта толькі пачатак, што хутка чытаць ды і кулінарыць не будзе калі.

Ля крамы, як звычайна, спыніўся ровар паштара, і Ліза атрымала чарговую доўгачаканую бандэроль з насеннем і цыбулінамі. Больш за ўсё на свеце Валянцін любіў кветкі і шкадаваў толькі пра тое, што яго калекцыя такая сціплая. Штогод ён выпісваў з-за мяжы новыя віды і гатункі. Праціраліся дзіркі на локцях сурдута, палі капелюша ператвараліся ў лахманы, затое ў садзе раскрывала свае густыя парасонікі блакітная цыбуля, калыхаліся на ветрыку высокія каны адцення сланавай косткі ды цудоўныя барадатыя гваздзікі, да самых замаразкаў багата квітнелі цёмна-сінія геліятропы, а садоўнік расхаджваў паміж імі, дымеў люлькай і пачуваў сябе цалкам шчаслівым.

Гэтым разам пошту разбіралі адразу за прылаўкам.

— Астыльба, колхікум, птушкамлечнік… Так, а гэта што? — здзіўлена прамармытаў Валянцін, разглядаючы надпіс на чарговай этыкетцы. — «Кветка чароўная. Колеру і прыгажосці такой жа, як вашы думкі». Што за дурныя жарты?!

Пакуначак паляцеў у кошык для смецця, бо садоўнік не верыў у цуды.

Увечары Ліза спальвала ў каміне непатрэбныя паперкі, і ёй на вочы трапіўся выкінуты пакуначак. Усярэдзіне шамацела насенне.

— Розыгрыш, вядома, — усміхнулася яна, — але штосьці ж з гэтага насення ды прарасце?

З цікаўнасці яна пасадзіла адно семечка ў збанок на падаконніку свайго пакоя.

— Жыві, малыш. І кім бы ты ні быў, я табе радая.

Раніцой Ліза прачнулася ад дзіўнага водару. Паднялася — і ахнула: у збанку палымнела кветка. Яе авальныя пялёсткі то складаліся, то раскрываліся, як крылы матылька, і нагадвалі агеньчык, запалены ў глухую поўнач. Ліза, не верачы сваім вачам, падышла да акна, і крылцы адразу пацягнуліся да яе.

— Розыгрыш? — прагаварыла яна.

Валянцін, пабачыўшы гэты цуд, схапіўся за кнігі. Дзіўная справа — кветка не падыходзіла ні да бабовых, ні да крыжакветных, а ўжо ад лілеякветных адрознівалася, як неба ад зямлі. Такія ўнікальныя чашалісцікі, дзіўнай формы кветканос і незвычайна яркая афарбоўка не знайшліся ў ніводным даведніку!

— У цябе прыгожыя думкі, — сказаў Густаў Лізе.

— Лухта, — чмыхнуў садоўнік. — Ну што вы як дзеці?!

— Але кветка вырасла з семечка за ноч! — выклікнула Ліза. — Я цябе не падманваю!

— Добра, правядзём эксперымент, — саступіў Валянцін. — Увечары пасадзім па семечку. Станем старанна думаць і ўяўляць сабе тое, што жадаем убачыць. А заўтра паглядзім на вынік.

Так і зрабілі.

Раніцой Ліза першая спусцілася ў краму, дзе на прылаўку стаялі ў радок тры разнамасныя пасудзіны з зямлёй. У Лізіным трэснутым кубку расла беласнежная кветка. Пялёсткі яе завіваліся на краях, як быццам з вечара іх накруцілі на папільёткі, а на самым кончыку кожнай тычынкі пазвоньвала маленечкая бразготка. У каганцы Густава тырчала смешная і трошкі нязграбная кветка, пялёсткі якой былі падобныя на сабачыя вушы. Яна была ці то рудая, ці то карычневая, з чорным вочкам. А ў гарнушку Валянціна драмала на кароткай сцяблінцы сінявата-серабрыстая малютка, з пяццю пялёсткамі-кропелькамі і пухнатым мяккім лісцем. Усе тры расліны здаваліся настолькі цудоўнымі, што заставалася толькі адно — і сапраўды паверыць у чараўніцтва…

Увайшлі Густаў і Валянцін.

— Хм, — буркнуў Густаў засмучана, угледзеўшы рудую аблавухую кветку — ён разлічваў на спякотную чырвоную ружу, якую хацеў падарыць Лізе. Нібы пачуўшы яго думкі, кветка вінавата заматляла лісцем, вушкі яе панура абвіслі.

Садоўнік моўчкі разглядаў серабрыстыя кропелькі. Ён таксама прыкметна расчараваўся. Малютка сціснулася і пацьмянела. І ці сапраўды яе пялёсткі пераліваліся срэбрам? Зараз яна была падобнай на дробную сінюю кляксу з няроўнымі краямі. І вушасцік Густава зусім панік, заплюшчыўшы вочка. Толькі беласнежная кветачка Лізы радасна пазвоньвала бразготкамі, прыгажэючы ад ласкавага погляду дзяўчыны.

— Але ж яны ўсе вельмі прыгожыя! — выклікнула Ліза. — Што з вамі? Чаму вы не рады?

— Што ж, ясна адно — насенне і праўда незвычайнае, — прызнаў садоўнік. — Я забіраю яго. І буду эксперыментаваць далей.

Ён сунуў пакуначак у кішэню — і надоўга пра яго забыўся.

Справы ў краме ішлі ўсё лепей і лепей. З лёгкай рукі Лізы ў горад прыйшла мода купляць свежыя кветкі, толькі-толькі з градкі. І паколькі іншыя крамы гандлявалі па старой звычцы, адмаўляючыся пускаць пакупнікоў у святая святых — свае аранжарэі, то менавіта ў Валянціна пачалі купляць букеты самыя капрызныя і патрабавальныя людзі, тыя, што любілі арыгінальнічаць і гнацца за модай.

Яны блукалі з секатарам напагатове, то захоплена схіляючыся над россыпам буйных белых казяльцоў, то прымяраючыся да тоўстых трубак мальвы, то разгублена заміраючы на адной назе пасярод кветніка з цюльпанамі. Ліза клыпала следам, гатовая прыйсці на дапамогу і растлумачыць, што сцябло трэба зразаць наўскасяк, лішняе лісце — абрываць, каб не адбірала сілы ў кветкі, а ў руж прыбіраць і шыпы. Пакупнікі ўслухоўваліся, з апаскаю паглядаючы на высачэзную постаць Густава. Ён маячыў непадалёку, сачыў за парадкам: каб хадзілі толькі па дарожках, не пакідалі адчыненымі дзверы цяпліц і не выносілі букеты, забыўшыся заплаціць. Насамрэч Густаў, хоць ён ніколі б нікому не прызнаўся ў гэтым, ахоўваў не столькі кветкі, колькі Лізу. І яна, адчуваючы на сабе яго цяжкі спакойны погляд, трымалася ўпэўнена нават з самымі прыдзірлівымі кліентамі.

А кліенты траплялiся розныя. Перад танцамі дзяўчаты забягалі ў краму, каб упрыгожыць прычоску стакроткамі. Завіталі па дарозе ў госці прыбраныя пары і прасілі аформіць ім як мага больш эфектны падарунак. Закаханыя паэты, знаўцы мовы кветак, патрабавалі герані, старанна пералічвалі бутоны і, як ад чумы, шарахаліся ад жоўтых руж. Не змаўкаў дзвярны званочак, шамацела ўпаковачная папера, каса цяжэла ад манетак.

Валянцін не прымаў у гандлёвых справах ніякага ўдзелу. Часам ён выходзіў у сад і здзіўлена глядзеў на людзей з нажніцамі, што хадзілі тут і там. Праўда, варта яму было зірнуць на цюльпаны ды незабудкі, як пра людзей ён адразу ж забываў. Але неяк падчас пасляабедзеннага чаявання, за гутаркамі пра тое ды сёе, садоўнік паморшчыўся і сказаў Лізе:

— Мой прадзед нездарма пабудаваў дом на ўскраіне горада. Ён шукаў цішыні і адзіноты, каб спакойна аддацца мастацтву селекцыі. А вы з Густавам зрабілі тут нейкі публічны сад. Няма рады ад людзей! Вы яшчэ квіточкі за ўваход прадавайце ды марожаншчыка з каляскай пастаўце ля кампоставай ямы!

Ліза засмучана пляснула рукамі:

— Але ж выручка павялічылася! Глядзі, колькі мы зарабілі сёння! — яна выграбла грошы з касы і высыпала наўпрост на абрус, каля Валянцінавага кубка.

— Я не гандляр, я эстэт! — паморшчыўся ён. Але потым ажывіўся, пералічыў манеты:

— Эге, ды тут і на манарду хопіць, і на гладыёлусы!

— Дык што, не пускаць пакупнікоў у сад? — спыталася Ліза.

— Рабі, як ведаеш, — кінуў Валянцін, згроб грошы са стала і праз дзесяць хвілін ужо імчаўся на пошту адсылаць новы заказ. Пасля гэтага выпадку ён больш не рабіў Лізе заўваг і цалкам аддаў краму ў яе клапатлівыя рукі.

Так паступова з прыбіральшчыцы Ліза ператварылася ў гаспадыню. Яна паспявала ўсё: і вячэру прыгатаваць, і пыл змахнуць, і пастаяць за прылаўкам. Ёй падабалася падбіраць кветкі адну да другой і складаць мудрагелістыя кампазіцыі. Часам дзяўчыну запрашалі аформіць святочную залу для вяселля ці дня нараджэння. Яна выходзіла неахвотна, таму што моцна кульгала і баялася, што людзі будуць смяяцца з яе. Але ніхто не смяяўся. Ды і паспрабавалі б яны: побач заўсёды

ўзвышалася змрочная постаць Густава. Ён вазіў каляску з гірляндамі, цягаў кошыкі са стужкамі, шарамі, фольгай. І проста хадзіў за Лізай паўсюль, ахоўваючы яе як далікатную кветку.

А крама мела поспех. Пра яе ведалі ўжо не толькі моднікі ды арыгіналы, але і забяспечаныя самавітыя людзі, што заўсёды імкнуліся купляць найлепшае. Мець у пятліцы кветку ад Валянціна стала прэстыжна. Зразумеўшы гэта, садоўнік замовіў у гарадской друкарні квадратныя залацістыя паштовачкі з фірменным надпісам. Для крамы цяпер пляліся вытанчаныя вярбовыя кошыкі, швейная майстэрня пастаўляла залатыя шнуры, атлас, ажурны цюль для партбукетаў, а суседскі хлопчык за невялікую плату прыносіў штораніцы з лесу лісце папараці ды мох. У салоне завялося некалькі каваных крэселкаў і столік на львіных лапках, талерка з шакаладкамі і кубачак смачнай кавы для адмысловых госцяў, якія ўжо не былі тут рэдкасцю.

Неяк звычайным летнім днём крама атрымала буйны вясельны заказ з неблагой перадаплатай. Праца кіпела. Густаў укладваў на донцы кошыкаў вільготны мох і ўтыкаў дрот пасярэдзіне, каб потым замацаваць кветкі. Валянцін за прылаўкам майстраваў ружовую гірлянду. А Ліза працавала над вясельным букетам: адшчыпвала ў лілей пыльнікі, каб пылок не выпацкаў сукенку нявесты. Абгортка для букета была ўжо гатовая, як і бутаньерка для жаніха, і Ліза была ў самым светлым настроі. Яна любіла лёгкую вясельную мітусню, мільёны прыемных дробязей, што на адзін дзень робяць са звычайнай дзяўчыны каралеву. Дакранаючыся чулымі пальцамі да чужога шчасця, яна нібы і сама рабілася шчаслівай, забывалася на кульгавасць і адзіноту.

Тым часам, перапыніўшы яе святочныя думкі, у краму ўвайшла наведвальніца, і Ліза адразу збянтэжылася і разгубілася, як і заўсёды ў прысутнасці яркай, эфектнай дзяўчыны. Так, дзяўчына, што ўвайшла, была вельмі прыгожай. З-пад яе капялюшыка какетліва выбіваліся кудзеркі. Пышная спадніца-сонца з кожным рухам калыхалася то направа, то налева, адкрываючы точаныя ножкі ў карычневых замшавых туфліках. Блузка з глыбокім дэкальтэ выстаўляла на агляд апетытныя акругласці, якімі адразу ж, не тоячыся, залюбаваўся Валянцін. У сукупнасці ножак, кудзерак ды падфарбаваных веек гэтая прыгажуня нагадвала адзін з шакаладных, укладзеных у плісаваную залацістую паперку труфеляў, пабачыўшы які, мужчыны галодна аблізваюцца, а жанчыны ўзгадваюць, што салодкае шкодна.

— Што ў вас тут? — грэбліва спытала наведвальніца.

— А вы не бачыце? Крама, — даволі няветліва адказала Ліза.

Дзяўчына агледзелася.

— Божа, якая безгустоўнасць, — прагаварыла яна нягучна, разглядаючы талерку з шакаладкамі і пярэстыя фіранкі. — А дзе кветкі?

— Я праводжу вас у сад, — як звычайна, прапанавала Ліза.

Але раптам Валянцін ускочыў з крэсла:

— Я сам!

Ён узяў прыгажуню пад ручку, паслужліва расчыніў дзверы. Густаў зірнуў на Лізу. Яна стаяла, панурыўшыся. І яе беласнежная кветачка на падаконніку раптам чамусьці стала шэрай. Што тут зробіш? Моўчкі ўздыхнуўшы, Густаў узяўся зноў за кошыкі і мох — толькі пруты затрашчалі.

Садоўнік вярнуўся няхутка. Амаль паўгадзіны ён правёў з пакупніцай у садзе, а выбралі яны ўсяго пяць пунсовых руж.

— Спакаваць? — хмурна спытала Ліза.

— Не трэба, — холадна адказала дзяўчына, а Валянцін ласкава прамовіў:

— Гэта падарунак, — намякаючы Лізе, каб не ўздумала патрабаваць грошы. Яна паціснула плячыма і адвярнулася. А прыгажуня пасміхнулася садоўніку:

— Што ж, да сустрэчы.

Калі за ёй зачыніліся дзверы, ніхто не прамовіў ні слова.

З таго часу Валянцін стаў часта сыходзіць па вечарах. Кожны раз ён браў з сабой пунсовыя ружы. Касцюм яго заставаўся нядбайным, аднак садоўнік галіўся, прычэсваў свае доўгія валасы і нават часам чысціў пазногці ад зямлі. Ліза такімі вечарамі была асабліва сумнай. Яна сыходзіла ў сад і блукала дарожкамі, думаючы пра розныя невясёлыя рэчы. Густаў панура сачыў з акна, як цягнецца да яе сукенкі духмяны гарошак, як вусікамі чапляюцца за рукаў суніцы, а павоі паварочваюць услед галоўкі, пра штосьці па-свойму ўздыхаючы.

Ліза таксама ўздыхала. А калі Валянцін вяртаўся дадому, вясёлы, узбуджаны, і пахла ад яго нейкімі чужымі аскомістымі духамі, яна моўчкі ставіла перад ім вячэру і сыходзіла ў мансарду. Густаў глядзеў з папрокам, але садоўнік нічога не заўважаў. Ён рассеяна выстукваў пальцамі левай рукі танцавальную мелодыю і ўсё часцей узгадваў пра тое, што набліжаецца дзень горада. Кірмаш, танцы і, вядома ж, выстава кветак. Кветкавыя крамы ў гэты дзень імкнуліся пераганяць адна адну, выстаўляючы на суд гараджан эфектныя кампазіцыі. Валянцін звычайна ігнараваў падобныя спаборніцтвы, казаў, што яму няма чаго даказваць, што ён найлепшы і добра гэта ведае. Але цяпер ён раптам загарэўся ўдзельнічаць. Мабыць, хтосьці прымусіў Валянціна ўсумніцца ў яго непераўзыдзенасці. І Ліза здагадвалася, хто.

Напярэдадні свята Валянцін замкнуўся ў кабінеце і з'явіўся толькі на абед. У руках ён нёс нешта, клапатліва абгорнутае вільготнай папяроснай паперай.

— Я выгадаваў унікальную кветку, — паведаміў ён ганарліва. Крыху адхінуў абгортку — і Ліза ахнула, прыкрыўшы вочы рукой.

— Выдатна! — абвясціў Валянцін.

— А мне больш падабаецца твая сіненькая малютка, — прызналася Ліза. — Да гэтай прыгажуні і дакрануцца страшна.

— Што ты разумееш! — пагардліва сказаў Валянцін, насоўваючы капялюш. — Я геній! Перамога ў маёй кішэні! Ты прыйдзеш паглядзець, як мне ўручаць медаль?

Горад кіпеў і бурліў, як мурашнік, толькі мурашкі былі шыкоўна прыбраныя. Яны елі цукровую вату, каталіся на каруселях і заглядаліся на прапанаваныя цуды. Ліза з латком белых фіялак мільгала сярод гараджан то тут, то там. Духмяныя букецікі ішлі нарасхват: мужчыны ўсоўвалі іх у пятліцы фракаў, а жанчыны прышпільвалі да карсажаў. Густаў блукаў следам за Лізай, грозна пазіраючы на мінакоў. І калі некаторыя легкадумныя юнакі збіраліся заляцацца да яе ці таргавацца з ёю, то пад пахмурным поглядам Густава яны цішэлі і са словамі «рэшты не трэба» хутка знікалі ў натоўпе.

Людзі сыходзіліся да цэнтра плошчы — туды, дзе моцна і духмяна пахла выстава кветак. Там Валянцін дэманстраваў усім ахвотнікам свой незвычайны экспанат, які вырас з чароўнага семечка, — бліскучую і пампезную залатую лілею, у якой на кожным пялёстку круглай кропляй вільготна зіхацеў брыльянт. Людзі не верылі, што кветка жывая, а не зробленая майстрам-ювелірам, асцярожна дакраналіся — і ўсклікалі захоплена, адчуўшы аксаміцістасць пялёсткаў. «Чараўніцтва!» — раз-пораз вохкаў хто-небудзь, і садоўнік паблажліва ківаў.

Суддзі былі аднадушнымі, калі прысуджалі першае месца.

— Я прысвячаю сваю перамогу самай прыгожай дзяўчыне горада! — выклікнуў садоўнік, трасучы медалем. Аркестр зайграў урачысты марш. Пад апладысменты гледачоў на сцэну выпырхнула тая самая труфельная прыгажуня, вытанчаная і зграбная, у малочна-белай сукенцы ды перламутравых туфліках. Валянцін асцярожна прышпіліў залатую кветку дзяўчыне на карсаж і закруціў яе ў вальсе. Рушылі ўслед за імі і шматлікія гараджане, хутка разбіўшыся на пары.

Густаў пераступаў з нагі на нагу. Ён не ўмеў танчыць, а калі б і ўмеў, то Лізу з яе кульгавай нагой, не затанчыш. А ў Лізы на шчоках блішчалі слёзы. Густаў прыгледзеўся, нахмурыўся, і тады яна вясёлым голасам растлумачыла, што, вядома ж, гэта ніякія не слёзы, а проста першыя кроплі дажджу. Густаў ёй паверыў. Вось толькі дождж, што дзіўна, так і не пайшоў.

Медаль з надпісам «лепшаму кветкаводу» Валянцін павесіў над прылаўкам, каб ён кідаўся ў вочы кожнаму, хто ўваходзіў у краму. Апоўдні ад пазалоты адбівалася сонца, і наведвальнікам даводзілася жмурыцца. «Мая слава асляпляе», — казаў Валянцін. І Ліза не заўсёды разумела, жартуе ён ці не.

Свята горада адшумела і заціхла, было вымецена з плошчы разам з тысячамі завялых пялёсткаў. Крыху пазней тым жа венікам нябачны дворнік вымеў з горада лета. Бочкі, наскрозь прапахлыя цыбульным ды палыновым настоем, цяпер марна збіралі дажджавую ваду, таму што труціць больш не было каго: жукі ды вусені зніклі, скончыўшы свой кароткі насякомы век. Градкі рабіліся пустымі адна за другой, а ў краму ўсё часцей зазіралі школьнікі, каб купіць рознакаляровыя віхрастыя астры для спадарыні настаўніцы.

— Ах, як я зайздрошчу вам! Вы заўсёды сярод кветак! — неяк сказала Лізе адна маладзенькая наведвальніца. Яна гойдалася на крэселку ды частавалася шакаладкамі, пакуль у садзе яе малады чалавек пад суровым наглядам Густава акуратна зразаў белыя духмяныя хрызантэмы.

— Так, праца добрая, — адказала Ліза.  — Але ведаеце, за ўсё жыццё мне ніхто не падарыў букета. Ні разу.

— Вось як, — дзяўчына сумелася ды не знайшла, што адказаць. Яна спагадліва зірнула ўслед, калі Ліза закульгала да касы.

Гэтыя спагадлівыя погляды Ліза адчувала спінай. Не тое, каб яна крыўдзілася ці перажывала. Яна жыла са сваёй недасканаласцю, як пакамечаная кветка, якую выкінулі з пышнай святочнай вазы, але клапатліва паставілі ў просценькую малочную бутэльку на кухні. Калі табе дадзена такое жыццё — напэўна, менавіта яго табе і варта прайсці, не марачы пра штосьці іншае. Ліза імкнулася браць прыклад з Густава і не думаць зусім. Але вось… Не думаў ён ці думкі проста не пакідалі следу на яго нерухомым твары? Калі Ліза раз-пораз успыхвала, усплёсквала рукамі, вохкала, усміхалася ці журылася, то флегматык Густаў нагадваў закрыты калодзеж. Чорна, ціха, пуста. А можа, і не пуста? Можа, недаступна чужым вачам, патаемна, як кукалка пладажэркі ў скручаным лісці яблыні?

Набліжаліся Каляды. Па шэрым небе плылі аблокі, падобныя на тоўстыя падушкі, набітыя пер’ем. Раз-пораз падушкі лопаліся і рассыпаліся снегам, тады Густаў браўся за лапату і расчышчаў дарогу да крамы. Здаралася, замярзаў і не звінеў дзвярны званочак. Ля ўвахода намаганнямі Лізы з’явіўся тоўсты дыванок для ног і шчотка, каб абтрасаць прыпарушаную снегам адзежу, на дзвярах — вянок з вастраліста. А ў халодным цёмным склепе чакалі свайго часу праpослыя цыбуліны. Вазон за вазонам Ліза пераносіла ў цяпло, да святла, і кветкі прачыналіся: гіяцынты і нарцысы — праз два тыдні, шафран — праз тры дні, а бела-блакітныя і фія-

летавыя малюткі — карлікавыя касачы — расцвіталі амаль на вачах, праз некалькі хвілін пасля таго, як аказваліся ў нацепленым светлым пакоі. Ці не цуд? Кветкі здзіўлена глядзелі ў акно: навошта так бела на вуліцы? І зіма адтуль, знадворку, нібы ўглядалася ў гэтыя яркія плямкі лета, што праз нечае сваволле несвоечасова ажылі. Ад яе сцюдзёнага позірку патрэсквала шкло ў рамах, і Ліза пацепвалася, захінаючыся ў хустку, а Густаў падкідаў у камін яшчэ паленца.

За некалькі дзён да Каляд Густаў прыцягнуў з кірмаша пухнатую яліну з заінелымі лапкамі. Яна адтала, адагрэлася і напоўніла краму, ад падвала да мансарды, смалістым лясным водарам. Яліну паставілі ў вядро з пяском, умацавалі і прыняліся прыбіраць. Ліза стаяла на крэселку, Густаў падаваў ёй цацкі, з усяе сілы імкнучыся нічога не зламаць і не разбіць. З асаблівай пяшчотай ён браў шкляныя шарыкі: адной рукой трымаў, а далонь другой падстаўляў знізу, баючыся выпусціць знянацку. Атласных, расшытых шклярусам анёлаў і фей Густаў хапаў за крылы, нібы шкодных насякомых, і працягваў Лізе ножкамі наперад. І раптам ён збянтэжана ўтаропіўся на пазалочаныя арэхі і доўгія паласатыя ледзянцы: для чаго вешаць на ялінку, калі можна адразу з'есці? Яго позірк падняўся ўгару.

— Навошта гэта? — спытаў ён пра амялу, што вісела пад столлю.

— Традыцыя, — пасміхнулася Ліза. — Двое, сустрэўшыся пад амялой, цалуюць адно аднаго.

Густаў наморшчыў бровы. У яго быў выгляд чалавека, які ўпершыню сустракае Каляды. Ліза хацела спытаць пра гэта, але не адважылася.

Валянцін прыхарошваўся. Завязаў гальштук нейкім неймаверным вузлом, намачыў вечна ўскалмачаныя валасы, і яны нават хвіліну ляжалі роўна. Патрапаны фрак, відавочна з чужога пляча, вісеў на ім і тапырыўся складкай уздоўж спіны. Ялінку Валянцін нібы і не заўважаў. Нават калі Густаў і Ліза, нанізваючы каралі, грукнуліся на падлогу і рассыпалі скрынку чырвоных пацерак, і тыя са стукам раскаціліся па ўсёй краме, садоўнік не прамовіў ні слова.

Потым Ліза адправіла Густава ў падвал па віно, а сама падпільнавала Валянціна пад амялой. Яны сутыкнуліся твар у твар. Садоўнік, як звычайна, лунаў у паднябессі і нават не думаў зірнуць на столь.

— Можа, ты дазволіш мне прайсці? — не вельмі ласкава спытаўся ён.

— Так-так, вядома, — прагаварыла Ліза, і шчокі яе запунсавеліся.

Ён падняў галаву, хмыкнуў.

— А ці ведаеш ты, Ліза, што амяла — гэта паразіт, які п'е сокі з безабаронных дрэў? — спытаў ён суха і ступіў убок. Ліза не ведала, куды падзецца ад збянтэжанасці.

— Я паставіла ўжо запякаць індычку, — дрыготкім голасам прамовіла яна. — І… ты не памятаеш, дзе святочныя сурвэткі? Я абшукала ўсё…

— Ліза, ды якія сурвэткі, сёння я не вячэраю дома, — рассеяна адказаў ён, апранаючы паліто і нацягваючы пальчаткі.

Тут з падвала з'явіўся Густаў з пыльнай бутэлькай у руках, і адначасова з ім у краму ўвайшла труфельная прыгажуня. Элегантная вопратка, румяныя шчокі, — не дзяўчына, а доўгачаканы падарункак пад ялінкай. Яна хавала рукі ў футравай муфтачцы, з-пад капюшончыка яе рудога футра выбіваліся кудзеркі, а на боціках з футравай аблямоўкай не бялела ніводнай сняжынкі. Хіба ж такія прыгажуні ходзяць пешшу? Напэўна, ля самага парога яе чакаюць сані.

Валянцін кінуўся насустрач, і яны сустрэліся акурат пад амялой.

— Які хітрун, — усміхнулася дзяўчына і пацалавала Валянціна. Ліза ўспыхнула і адвярнулася. Бровы Густава ізноў высока ўзняліся. А парачка ўжо знікла, пляснуўшы дзвярыма і пакінуўшы пасля сябе змешаны водар марозу і дарагіх духоў.

— Яна падобная на цукерку, — прагаварыла Ліза сумна.

— Цярпець не магу салодкае, — адгукнуўся Густаў.

Яны паглядзелі адно на аднаго. Ліза ўздыхнула, правяла задуменна рукой па рукаве Густава, кіўнула яму і сышла ў зімовы сад, дзе драмалі пад лапнікам ружы. Добра кветкам узімку. Іх ухутваюць яловымі галінкамі, абвязваюць саломай, укрываюць сухім лісцем. Ах, калі б гэтак жа ўхутаць, ахаваць сэрца ад халоднага кахання без узаемнасці! Ліза блукала па замеценых дарожках, заграбала чаравікамі снег і не заўважала гэтага. А Густаў назіраў за ёй скрозь наледзь на акне, і кулакі яго сціскаліся. Вельмі рэдка ён адчуваў такую бяссільную злосць, як цяпер. І няма на кім яе спагнаць. І Лізу, і Валянціна ён аддана любіў. А труфельная прыгажуня — што з яе ўзяць? Урэшце, на яе месцы магла апынуцца і іншая. Не ў гэтым справа. А вось у чым, ён не ўмеў зразумець, не мог, і ад гэтага хмурнеў усё больш.

Марудны і непаваротлівы, Густаў быў асабліва нязграбны ў абыходжанні з дзяўчатамі. Ён выдатна разбіраўся ў арэхатворках і крыжакветных блошках. Нейкім нябачным трэцім вухам чуў, як з чмяканнем ядуць цыбуліну цюльпана цвёрдыя, як дрот, лічынкі шчаўкуноў. Умеў, зазірнуўшы пад лісток, знайсці там непрыкметнага вусеня соўкі ці тлю. А вось зазірнуць у душу дзяўчыны і зразумець яе мудрагелістыя дзявочыя нягоды — о, як жа гэта было складана для яго! І ён пахмурным ценем цягаўся за Лізай, цямнеў ці святлеў следам за ёй, люстэркам паўтараў яе настрой.

Яны прачакалі Валянціна да позняга вечара — і толькі апоўначы сцямілі, што ён не вернецца да наступнага дня. Гарэлі свечкі на ялінцы, астывала некранутая індычка, ляжалі цішком у камодзе так і не знойдзеныя Лізай святочныя сурвэткі. Ліза і Густаў сядзелі за сталом і моўчкі пацягвалі віно.

— Што ж, з Калядамі, — прагаварыла Ліза. — Там, пад ялінкай, ляжыць падарунак табе. Раніцай разгорнеш…

Крыва ўсміхнуўшыся, Густаў зрабіў таямнічы твар (напярэдадні ён доўга рэпеціраваў гэтую грымасу перад люстэркам) і дастаў з кішэні знаёмы пакуначак.

— Чароўнае насенне! Ты ўзяў без дазволу? Валянцін ведае? — ахнула Ліза.

Густаў кіўнуў, потым пакруціў галавой і жаласна зірнуў на Лізу.

— Добра, але толькі па адным, — пагадзілася яна. — Бо насенне патрэбна Валянціну для эксперыментаў! Мы не можам марнаваць чарадзейства на пустыя забаўкі.

Бесцырымонна адсунуўшы індычку, яны паставілі на стол два вазоны з зямлёй і пасадзіла ў кожны па семечку.

— Давядзецца чакаць раніцы? — са шкадаваннем спытала Ліза.

— Не. Заплюшчы вочы і думай, — вымавіў Густаў нязвыкла доўгую фразу і ўзяў дзяўчыну за рукі. Яны старанна зажмурыліся і чулі толькі дыханне адно аднаго, патрэскванне марозу за вокнамі ды як часам выстрэльвала іскрынка ў каміне. Але раптам цішыня амаль непрыкметна змянілася. Як быццам у пакоі з'явіўся хтосьці яшчэ і, не дыхаючы, затаіўся з лёгкай усмешкай. І пах з'явіўся, нейкі няўлоўна знаёмы, цёплы летні пах… Яны абодва адчулі гэта, не расплюшчваючы вочы.

— Цяпер можна? — нясмела спытала Ліза, са шкадаваннем забіраючы рукі з велізарных цёплых далоняў Густава.

— Угу, — уздыхнуў ён.

І дакладна, семечкі ўжо прараслі. Кветка Лізы трымала на тонкіх сцяблінках цяжкія пунсовыя гарлачыкі, да краёў напоўненыя густым сунічным водарам. Ліза не ўтрымалася, пагладзі-

ла адзін гарлачык — і з карычневых тычынак ёй на пальцы пырснуў салодкі нектар. А ў Густава зноў не выйшла спякотна-чырвонай ружы, і ён хмурна разглядаў свае кветкі, падобныя на абгрызеныя шкілецікі рыб. Яны паціху пастуквалі костачкамі і варушылі хвосцікамі. Добра хоць, што рыбай ад іх не пахла.

— Спадзяюся, Валянцін не раззлуецца, — прагаварыла Ліза. — Позна ўжо. Час класціся спаць.

Загасіўшы свечкі на ялінцы, Густаў пайшоў засунуць засаўку на дзвярах, якія вядуць у сад, а Ліза, памарудзіўшы, замкнула ўваходныя. Наўрад ці Валянціну прыйдзе ў галаву вярнуцца сярод ночы. Ён і не папярэджваў. Дый не пакідаць жа дом адкрытым. Каляды Калядамі, а ліхіх людзей заўсёды хапае. Думаючы пра ўсё гэта, Ліза сама не заўважыла, як сутыкнулася з Густавам, які з чагосьці раптам стаў на яе шляху. І вядома ж, стаялі яны пад амялой. Можна нават не задзіраць галаву, і так усё ясна. Традыцыі, каб ім праваліцца.

Густаў глядзеў на Лізу і верыў, што вось-вось здарыцца цуд. А Ліза глядзела ўбок і разумела, што яшчэ трошкі, і яна расплачацца.

— Дабранач, — нарэшце сказала яна і адышла.

Густаў зразумеў, што цуду не будзе.

Зрэшты, адзін цуд усё-ткі здарыўся. Калядная ялінка пусціла карані, і, калі пацяплела, Ліза пасяліла яе ў садзе, насуперак пратэстам Валянціна.

— Адвязіце яе ў лес, — казаў ён хмурна. — Навошта нам яліна? І так кветкі саджаць няма куды!

— У лесе яна не прыжывецца, — упарта паўтарала Ліза, і, урэшце, садоўнік здаўся.

— Рабі як ведаеш, — кінуў ён раздражнёна.

Калі прыйшла вясна ды пацяплела, Ліза і Густаў пацягнулі выратаваную ялінку туды, дзе для яе была ўжо загадзя самаўпраўна выкапана ямка. Валянцін дэманстратыўна крывіўся кожны раз, калі яны ўсе разам выходзілі ў сад і натыкаліся на яркія свежанькія шыпулькі.

Але потым прараслі цюльпаны, пацягнуліся пакупнікі па першацветы, цыбуліны ды чаранкі, і садоўніку стала не да ялінкі. Так яна і расла сабе, пушылася ды зелянела, стаўшы яшчэ адной незвычайнасцю ў і без таго незвычайным садзе.

Ліў дождж. Менавіта дзякуючы дажджу крама адпачывала ад пакупнікоў у разгар продажаў — летнім нядзельным днём. Ніхто не патрабаваў тэрмінова нарэзаць сотню пунсовых руж, сплесці з іх сэрца і адправіць на «вось такі» адрас. Ніхто не прасіў рамонкаў з няцотнай колькасцю пялёсткаў, і нават букецік незабудак з жалобнай стужачкай нікому пакуль што не быў патрэбны.

Ліза стаяла з кубкам ля расчыненых дзвярэй і з задавальненнем назірала, як дождж барабаніць па забытых палівачках і матыках, як цяжэюць ад вільгаці жоўтыя пампоны вяргіняў, хіляцца да зямлі перапоўненыя келіхі лілей. Павольна размакаюць дарожкі, выпаўзаюць дажджавыя чарвякі. А ў сярэдзіне чэрвеньскага махрыстага цюльпана, перамазаўшыся ў пылку, бездапаможна гудзе чмель, і сядзець яму там, пакуль не выгляне сонца і кветка зноў не раскрые пялёсткі.

Добра, што на свеце ёсць дождж. Ён выстуквае ціхую музыку, пад якую добра разважаць і дзяліцца сакрэтамі. Ён прыходзіць з вялікай палівачкай і насычае вадой градкі, дае адпачыць садоўніку. Можна заварыць духмяную гарбату, зняць сурвэтку з горкі птыфуры і сядзець за сталом, ляніва перамаўляючыся. Змятаць далонню крошкі, няўважліва памешваць гарбату ў кубку, аддавацца марам ці захоплена спрачацца. У кожнага свае прычыны любіць дождж. Валянцін цешыцца, што кветкі напіліся вады. Густава радуе, што не прыйдуць наведвальнікі і не

стомяць Лізу. А Ліза проста любіць дождж гэтак жа, як і паліваць кветкі, і размаўляць з пакупнікамі, і пячы птыфуры. Цяжка наогул прыдумаць, што яна не любіць, што можа выклікаць на яе твары злосны выраз.

— Кажуць, адзін садоўнік выгадаваў чорную ружу, — паведаміла дзяўчына. — Ён збіраецца паказаць яе ўсім на свяце горада.

— Няўжо чорную? — з'едліва перапытаў Валянцін. — Хацеў бы я ведаць, як яму гэта ўдалося, калі ў ружы няма пігментных генаў, што адказваюць за чорны колер! Шарлатан! Чорных руж не бывае ў прыродзе!

— І нельга вывесці іх? — здзівілася Ліза.

— Можна, — нядобра ўсміхнуўся Валянцін. — Але наўрад ці табе гэта спадабаецца. Карані ружы трэба асцярожна надсячы, паліць марэнгавай фарбай, туга перавязаць і прысыпаць зямлёй. Кветкі атрымліваюцца чорныя, але вельмі хутка гінуць.

— Бедныя ружы! У карак гнаць такіх селекцыянераў!

— Гэта не селекцыя, а падман! — пацінуў плячыма Валянцін. — Прыстойны чалавек ніколі не дазволіць сабе такія маніпуляцыі.

— Кажуць, на выставе справяць феерверк з пялёсткаў лотаса, — памаўчаўшы, працягнула дзяўчына. — А яшчэ там з'явіцца танцорка, апранутая толькі ў трапічныя архідэі!

— Усё гэта танныя эфекты, Ліза, — раззлаваўся садоўнік. — Халтура, разлічаная на такіх прасцячак, як ты. Я пакажу ўсім, што такое сапраўднае мастацтва. Я выгадую ўнікальныя кветкі з нашага чароўнага насення!

— Хочаш патраціць усё насенне адразу?

— Не ведаю. А якая розніца? — спытаў ён безуважліва.

Тут да дзвярэй падкаціў экіпаж, з яго выскачыла тонкая фігурка і, хаваючыся пад парасонікам, забегла ў краму. Ліза і Густаў нахмурыліся — гэта была тая самая труфельная прыгажуня. Гэтым разам кудзеркі яе выбіваліся з-пад далікатнага крэмавага капялюшыка, а сукенка колеру молатай карыцы ды кававыя замшавыя туфлікі яшчэ больш рабілі дзяўчыну падобнай на смачную шакаладную цукерку.

— Абрыдлы дождж, — прагаварыла яна, разглядаючы прамоклыя туфлікі.

Садоўнік ускочыў, ледзь не разбіўшы свой кубак.

— Што за прыемная нечаканасць! — выклікнуў ён. — Ліза, хутчэй звары каву! Густаў, распалі камін, не бачыш, наша госця празябла!

— Не варта турбавацца, я тут не затрымаюся, — прыгажуня ўтаропілася на кветку Густава. — Божа, што за пачварства!

Хвосцікі адразу паніклі.

— Ах, гэта так, пустазелле, — пачаў апраўдвацца садоўнік. — Мілая, ты спяшаешся?

— Мяне чакаюць, — яна павярнулася да вітрыны і паслала паветраны пацалунак камусьці, хто хаваўся ад дажджу ў экіпажы. — Калі ласка, пяць пунсовых руж і шостую для бутаньеркі.

Садоўнік стаў, як прыкуты.

— Што глядзіш? Думаў, я збіраюся ўсё жыццё з табой сустракацца? Мару стаць садоўніцай? Мець пад пазногцямі зямлю не так ужо і прывабна, дружа.

— Але як жа? Я спадзяваўся, што мы пажэнімся, — прагаварыў Валянцін.

— Калі расцвітуць чорныя ружы, — кпліва адказала яна. — Ну, прынясе мне хто-небудзь кветкі ці не?

— Я сам, — і садоўнік выйшаў у дождж, не ўзяўшы ні плашча, ні парасона.

Калі экіпаж ад’ехаў, усе доўга маўчалі. Густаў уткнуўся ў акно, садоўнік у другое, а Ліза нібы знарок грукатала посудам, збіраючы на паднос пустыя кубкі і сподкі.

— Якую кветку ты хочаш выгадаваць для выставы? — спытала яна.

— Чорную ружу, — адказаў Валянцін змрочна.

Да выставы заставалася два тыдні.

Лёгка сказаць — чорная ружа. На практыцы задачка апынулася невырашальнай. Чароўнае насенне ўлоўлівала настрой, найтанчэйшыя адценні патаемных пачуццяў і эмоцый, а вось форму калякветніка, афарбоўку пялёсткаў ды іншыя нюансы выбірала, не раячыся з садоўнікам. Якую толькі чарнату не ўяўляў сабе Валянцін — густы алеісты дзёгаць, аксамітавую кратовую скурку, цёмныя як ноч вуглі, — уся яна рассейвалася і знікала, варта было нованароджаным кветкам адкрыць свае пялёсткі. Гэтыя мудрагелістыя стварэнні нават аддалена не былі падобныя на ружы. Яны трапяталі на ветры белымі пярынкамі, нібы спрабавалі паляцець у неба, рассыпалі залаціста-руды пылок з пузатых напарсткаў, паблісквалі люстраным лісцем, адбіваючы сонечнае святло і незадаволеную грымасу садоўніка. Велічэзныя і маленечкія, зорчатыя і сподкападобныя, салатавыя і ліловыя.

А яму патрэбна была чорная. Чорная ружа.

Раззлаваны няўдачай, неяк з раніцы Валянцін вышпурнуў усе няўдалыя кветкі праз акно. На шум выбегла Ліза. Гліняныя чарапкі, рассыпаная зямля — перад крамай стала на рэдкасць няўтульна.

— Ты што нарабіў!? — абурана ўсклікнула дзяўчына. Не адказаўшы ёй анічога, садоўнік з грукатам зачыніў акно.

Пакруціўшы галавой, Ліза сабрала пацярпелых у фартух, а потым паставіла ў ваду. Непапраўнага, на шчасце, не адбылося, і жывучыя чароўныя стварэнні ўсе да аднаго адпусцілі новыя карэньчыкі. Праз пару дзён Ліза знайшла ім месцейка ў зацішным кутку саду, дзе кусціліся гіпсафіла ды спаржа — непрыкметныя галінкі для афармлення букетаў. Валянцін рэдка залазіў туды і ў лепшыя часы, а цяпер ён і слана б на градках не заўважыў, не тое, што пару новых кветачак.

Раздражнёны і пахмурны, садоўнік блукаў сярод кветнікаў, распуджваючы пакупнікоў і не гледзячы па баках. Насустрач паўзлі смаўжы, пакідаючы за сабой серабрыстыя дарожкі. Сыпалася з каробачак нікому не патрэбнае насенне дыцэнтры. Жоўкла лісце касача, яшчэ трохі — і надыдзе час выкопваць цыбуліны. Стракацелі абгорткі ад цукерак у кампоставай яме. Але ўсё гэта цяпер не хвалявала Валянціна. Ён глядзеў на пасадкі абыякавымі вачыма, сэрца яго сціскалася ад болю, і ён з горыччу думаў: «Навошта мне гэтыя кветкі, калі я не магу стварыць чорную ружу?»

За дзень да выставы Ліза схадзіла на рынак і, як водзіцца, прынесла разам з пакупкамі кучу плётак. Калі куранты на вежы праб’юць поўдзень, па гарадскім канале паплыве ладдзя, поўная белых лілей, а кіраваць ёю будзе анёл. У неба паднімецца паветраны шар, увіты гірляндамі стакротак. А яшчэ кажуць, хтосьці вывеў унікальны блакітны цюльпан — і менавіта яму ўручаць сёлета медаль. Густаў хмыкаў, ківаў галавой, дзівіўся. А садоўнік маўчаў, сціскаючы ў руцэ пакуначак ад чароўнага насення. Не дакрануўшыся да вячэры, ён вярнуўся ў кабінет і вытрас на далонь апошняе семечка…

Цэлую ноч Валянцін кідаўся ў смутных непрыемных снах і прачнуўся зусім змучаны. «Калі чорная ружа зноў не атрымалася, мне застанецца толькі вышпурнуць вазон з акна і следам вы-

кінуцца самому», — безнадзейна думаў ён, падыходзячы да падаконніка. Убачанае не ўсцешыла: моцная сцяблінка, маленькі бутон, глянцавыя, яшчэ клейкія лісцікі і — ніякага падабенства да сямейства ружакветных. Зрэшты, парастак яшчэ не зусім аформіўся, быў нейкі няўпэўнены: як быццам марудзіў, выбіраў, прыслухоўваўся да навакольнага свету ў чаканні падказкі.

Што заставалася рабіць? Толькі чакаць. Валянцін стаяў над парасткам, пазіраў на гадзіннік, выстукваў пальцамі напаўзабыты танцавальны матыў. Ах, як па-заліхвацку ён вытанцоўваў калісьці, а яго каханая смяялася і пляскала ў далоні! Ён сам не чакаў ад сябе такога спрыту. Утрэскаўся па вушы, як хлапчук, са скуры вылузваўся, каб дагадзіць, пацешыць, утрымаць. Ружы дарыў ахапкамі, штораніцы пасылаў кошык самых свежых, пакрытых расою, з залацістай карткай… На Каляды, на вячэры ў яе бацькоў, ён зрабіў прапанову — як і належыць, стаў на калена і пацалаваў руку. Яна толькі ўсміхалася, а тата яе прабурчаў у вусы: «Такія справы абмазгаваць трэба» — і выразнага адказу Валянцін так і не атрымаў, пакуль не пачуў здзеклівае «калі расцвітуць чорныя ружы». А можа, ён дарма хвалюецца, і гэта такое выпрабаванне на трываласць пачуццяў? Ці ўсё яшчэ больш банальна: любіла, любіла — ды і разлюбіла? Выкінула, як непатрэбную кветку? Ён паморшчыўся ад гэтых калючых, тужлівых думак, абхапіў сябе рукамі, нібы ў дрыжыках, як раптам убачыў, што ў расліны патанчэла сцябло, прарэзаліся шыпы, а пялёсткі сціснуліся, выцягнуліся і пачалі налівацца чарноццем, як быццам хтосьці праліў на іх бутэлечку чарніла.

Тут, як заўсёды, без стуку, у пакой шумна ўваліўся Густаў.

— Там у садзе… — пачаў ён.

— Колькі разоў я прасіў цябе стукацца? — нечакана для самога сябе зласліва крыкнуў садоўнік. — Я заняты, я праводжу важны эксперымент! Ідзі прэч!

Густаў няўцямна глядзеў на яго. Потым пацiснуў плячыма і сышоў, па звычцы ссунуўшы хмурна бровы. «Яшчэ і пакрыўдзіўся. Знайшоў час, доўбня», — злосна падумаў Валянцін. І замер, усцешаны: пялёсткі ў нованароджанай ружы пацямнелі яшчэ мацней, нібы цень напоўз на бутон.

— Давай, давай, — падбадзёрыў яе шэптам Валянцін. — Мы ім усім пакажам! Яны ў нас яшчэ паплачуць! Чарней, мілая мая, чарней!

І кветка старанна чарнела. Яна ўбірала ў сябе ўсё: ваду, гармоны росту, злыя словы і рэдкія праменьчыкі сонца. Яна вагалася. Такія розныя і зменлівыя настроі ў людзей у гэтым доме. Густаў адкрыта сердаваў, і ружа паслухмяна прыняла яго густую, глейкую, як патака, злосць. Садоўнік цешыў і песціў у сабе клубок раўнівых сумневаў і крыўдаў, і ружа размотвала нітачка за нітачкай горкія, атрутныя, цяжкія думкі.

Нясмела пастукаўшы, у пакой нечакана зазірнула Ліза. Думкі дзяўчыны, светлыя і пералівістыя, як вада бестурботнага лугавога раўчука, здзівілі і ўзрадавалі кветку. Аказваецца, можна быць і такім — цёплым, любячым, спакойным? Ружа прымярала на сябе новыя эмоцыі, і яны вельмі ёй падабаліся.

— Паслухай… Я хацела пагаварыць з табой пра выставу…

— Не замінай мне! Зачыні дзверы! — ускіпеў садоўнік. Ён неадрыўна глядзеў на ружу і бачыў, што яе пялёсткі раптам пачалі бялець.

— Не прымай так блізка да сэрца…

— Пакінь мяне ў спакоі, крываножка! — са злосцю крыкнуў ён. Ліза скаланулася, як ад аплявухі, вочы яе сталі вялікімі і вільготнымі. Кветка ў вазоне здзівілася зноў. Як хутка мяняюцца эмоцыі людзей! Ад сонечнага лугу не засталося і следу, думкі дзяўчыны сталі раптам халоднымі ды зябкімі, як зімовы вечар, калі прагарэла апошняе палена ў печы і скрозь незаканапачаныя сцены пачала прабірацца ў дом ледзяная цемра.

Ліза паспешна схавалася за дзвярыма. Садоўнік з прыкрасцю стукнуў кулаком па стале. Абярнуўся і… убачыў, што ружа расцвіла.

Свежапаголены, з ручнікам на шыі, садоўнік шпарка прычэсваўся перад люстэркам. Трэба спяшацца, конкурс кветкаводаў вось-вось пачнецца. Валянцін не сумняваўся, што пераможа. Дзіва што! Усе раты разявяць ад здзіўлення, калі ўбачаць чорную ружу. «Гэта немагчыма!» — выклікнуць яны. І калі Валянцін будзе стаяць з медалём на шыі, у натоўпе мільгане знаёмы твар, і тады ён голасна абвесціць: «Я стварыў гэты цуд для маёй нявесты, для самай прыгожай дзяўчыны горада!» — і што ёй застанецца, як не падняцца на сцэну? Ён люта ўсміхаўся, прадчуваючы трыумф. Яна не асмеліцца прылюдна адмовіцца ад дадзенага слова.

Ён прыслухаўся. Як ціха ў краме! Ніводнага пакупніка за дзень — і не дзіва: цяпер на плошчы сапраўдны кветкавы кірмаш, букецікі і бутаньеркі на любы густ. Шаноўная публіка, усё самае прыгожае — і толькі для вас! Ліза збіралася з самага ранку сысці туды з латком фіялак, як заўсёды, — але не, засталася дома, імкнулася не трапляцца на вочы, пацiху прыбіралася ў кухні. За сняданкам дзяўчына была вельмі заплаканая, і погляд Густава быў больш хмурным, чым звычайна, усе маўчалі, і садоўнік падумаў нават: а раптам яны сыдуць, кінуць краму? І тут жа груба перабіў сам сябе: ды хай сыходзяць! Што я, прыбіральшчыцу не адшукаю, работніка новага наняць не здолею? Гэта настолькі няважна, гэта не варта ўвагі, асабліва цяпер.

Вядома, Валянцін нерваваўся. Тысяча акалічнасцей магла перашкодзіць яго дзёрзкаму плану. Раптам яго каханая возьме ды не прыйдзе на свята горада? Захварэе, з’едзе да цётачкі на імяніны, закапрызіць з прычыны падранай панчохі. Ці палье дождж і размочыць усю святочную мішуру. Альбо праз малую колькасць удзельнікаў адменяць спаборніцтвы кветкаводаў, і тады не падняцца Валянціну на сцэну ды не прамовіць слова пераможцы. Хоць вось гэтага не варта баяцца. Не было яшчэ такога выпадку, каб не знайшлося ахвотнікаў пазмагацца за перамогу. Усякі, хто высадзіў каля дома пару чаранкоў, хто па суботах матыкай у гародзе калупаўся, уяўляў сябе адмысловым селекцыянерам. У аднаго цюльпаны захварэюць, з’явіцца на кветках светлая штрыхоўка, — а ён мітусіцца, шампанскае адкаркоўвае: маўляў, стварыў новы сорт! У іншага на гладыёлусах бялян-капуснік пагаспадарыць, бутоны пагрызе, — а ён ганарліва заяўляе, што вывеў унікальныя дзіркаватыя кветкі! Цьфу, няўдачнікі. Хіба можа хтосьці з гэтых няшчасных сапернічаць з ім, Валянцінам?

Ён зрабіў самы ганарлівы выраз твару, які ўмеў. Вось так ён устане, адкіне валасы з твару і пранікліва вымавіць… Але ён не паспеў прыдумаць і першых слоў, таму што ў гэты момант бразнуў званочак, і ў краму ўвайшла яна, яго няверная прыгажуня. Як заўсёды, яна была сама дасканаласць, у пышнай абрыкосавай сукенцы і лакавых тупаносых туфліках, завітая і прыпудраная, як парцалянавая лялька з дарагой крамы цацак. І Валянцін адразу ўспомніў, што стаіць перад ёй паўапрануты, без сурдута, у недарэчных падцяжках, з ідыёцкай ухмылкай на вуснах.

— І што ж гэта за новыя акалічнасці? — спытала дзяўчына. — Май на ўвазе, я прыйшла выключна з цікаўнасці, а не паддаўшыся ўгаворам твайго бязглуздага ліста.

— Але я не пісаў табе лістоў, — разгублена прагаварыў Валянцін.

— А гэта, па-твойму, што? — яна працягнула яму канверцік. Валянцін бегла прагледзеў радкі, напісаныя незнаёмым круглявым почыркам. Жаночая рука, жаночая. Садоўнік незадаволена азірнуўся ў бок кухні. Хто прасіў умешвацца? Дабрадзейка знайшлася… Ён справіўся б і сам, ён пракруціў бы бліскучую мнагахадоўку, сыграў бы на фанабэрыі, заваяваў бы трыумфам — і вось, цяпер усё зламана, замест трыумфу — нясвежая кашуля і адсутнасць козыроў у ру-

ках. Хоць, можа, так яно і лепш? А раптам яму ўсё-ткі адмовілі б, прылюдна? «Я не твая нявеста, няўдачнік!» — і натоўп вылуплівае вочы, узіраецца з прагнай цікавасцю, жалем, пагардай, насмешкай. Так, мабыць, гэта да лепшага. Не варта такія гутаркі на публіцы весці.

— Хвіліну, — прагаварыў ён, камечачы ліст. — Адно імгненне! Нікуды не сыходзь! — і, пераскокваючы праз прыступкі, Валянцін кінуўся наверх, у кабінет. Зняў, нарэшце, з шыі гэты дурны ручнік, нацягнуў сурдут, прыгладзіў валасы. Потым зрэзаў ружу і, трымаючы яе за спінай, бегам вярнуўся ў краму.

Прыгажуня з нудой круціла ў руцэ пальчаткі, незадаволена падціскала вусны. А за прылаўкам — вось табе і на! — уладкавалася Ліза і з захапленнем гартала кулінарную кнігу. І Густаў, цурбан гэтакі, прымасціўся ля адчыненых дзвярэй у сад, смаліў цыгарэтку. Знарок яны, ці што? І Валянцін зразумеў: так, знарок. Не з цікаўнасці ці нетактоўнасці, а наўмысна замінаюць, каб скамячыць сцэну яго прызнання. Нічога ў іх не выйдзе!

— Ты доўга маўчаць будзеш? — капрызна прагаварыла дзяўчына. — Я на танцы спазнюся!

— Я цябе не затрымаю, — сказаў ён. Так, спакойна, трэба ўзяць сябе ў рукі. — Ты абяцала выйсці за мяне замуж, калі расцвітуць чорныя ружы. І сведкі ёсць. Памятаеш?

— І што ж, яны расцвілі? — з’едліва спытала яна.

Валянцін урачыста апусціўся на калена і працягнуў ёй чорную ружу. Ён рознага чакаў: захопленых слёз («ах, няўжо гэта ўсё дзеля мяне?!»), здзіўленых, шырока расплюшчаных вачэй («але якім цудам табе гэта ўдалося?!»), недаверлівага маўчання («ах, як ён мяне кахае, і навошта я з ім была такою жорсткай?!»). Але таго, што адбылося, ён не чакаў зусім.

Прыгажуня грэбліва ўзяла кветку, пакруціла ў руках — і кінула садоўніку пад ногі.

— Што за падробка? Чарнілам ты яе палівае? Ці скруціў з пап’е-машэ? — прагаварыла яна з’едліва. — Хіба гэта чорная ружа? Гэта вырадак нейкі. Яна і не пахне! А чорнай ружы не было, няма і ніколі не будзе!

— Ты абяцала, — скрозь зубы паўтарыў ён.

— Ах, абяцала? — яна злосна ўсміхнулася. — Але і ты абяцаў сёе-тое, дружа. Абяцаў, што я стану гаспадыняй дома, саду і крамы. А высветлілася, што ты нічым гэтым не валодаеш! У цябе нават імя падробленае!

Валянцін змяніўся ў твары.

— Так-так, — працягвала яна. — Мой бацька пра ўсё дазнаўся! Зямля і дом належаць яму, — яна паказала пальчыкам на панурага Густава, — а ты ўсяго толькі прыёмыш, прывечаны са страху за тое, што загасне любімая справа. Старому Валянціну часта ўсміхалася ўдача, вось толькі з сынам-крэцінам не пашанцавала, таму стары ажыццявіў падмену. Ты стаў садоўнікам — а наўзамен пакляўся да канца жыцця прыглядаць за дурылам. Ваш зман так бы і не выкрыўся, калі б табе не прыйшло ў галаву ўзяць у жонкі дзяўчыну з прыстойнай сям’і! Вырашыў нас ашукаць, але не выйшла!

Забыўшыся на кулінарную кнігу, Ліза павярнулася да Густава. На яго флегматычным твары, як звычайна, не адлюстроўвалася ні паўдумкі, ні чвэртачкі эмоцыі.

— Ты ведаў гэта?! — прашаптала яна.

Ён пацiснуў плячыма, што на яго мове азначала: «Так, ну і што з таго?»

Ліза не ведала, што і думаць. Усё гэта было вельмі падобным на праўду.

Так лёгка было ўявіць сабе дзяцінства Густава! Напэўна, ён позна пачаў размаўляць, пазбягаў людзей і цэлымі днямі праседжваў адзін у садзе. Важдаўся з багоўкамі, збіраў вусеняў, будаваў крэпасці з пяску. Небарака нават роднаму бацьку здаваўся хворым і недалёкім, разумо-

ва адсталым. Адзінае, позняе дзіця, самая вялікая надзея старога садоўніка — і самае вялікае яго расчараванне.

І так ужо супала, што старому на вочы ўвесь час трапляўся жвавы, кемлівы хлапчук, сын кухаркі ці ўнучак хатняй прыслужніцы, а можа, сірата-бадзяжка, што прыбіўся да гасціннага дому. Ён круціўся ў садзе, дапамагаў, распытваў, ведаў на памяць назвы кветак і марыў вырасціць блакітны цюльпан. Напэўна, не раз думаў стары з горыччу: «Эх, чаму гэта не мой сын?» Памеркаваў, пасумняваўся — ды і прыняў хлопчыка ў сям'ю. А што пра гэта думаў Густаў? Напэўна, яму было ўсё адно. Напэўна, ён ніколі не хацеў стаць праслаўленым садоўнікам. Жыў спакойна ў сваім доме, займаўся сваім садам — і якая розніца, што там напісана ў паперках і пад чыім імем стаяць пячаткі.

А Валянцін спрабаваў апраўдацца:

— У Густава няма схільнасці да кветкаводства! Ён грандыфлору ад фларыбунды не адрозніць! Ідыёт, прыдурак, толькі і ўмее, што жукоў пальцам душыць! Справа садоўніка Валянціна загасла б, калі б не я! Я выратаваў гэты сад, я пасадзіў у ім тысячы новых кветак! Нябожчык бацька Густава быў бы мне толькі ўдзячны!

— Мяне не цікавіць гэтая сентыментальная лухта, — перабіла яго прыгажуня. — Я ведаю адно: каб стаць гаспадыняй крамы, трэба выйсці замуж за яго, — яна зноў ткнула пальцам у Густава. — А ты, нікчэмнасць, не маеш ні шэлега за душой!

Яна павярнулася, каб сысці, але зачапілася за штосьці. Чартыхнуўшыся, зірнула ўніз — і завішчала ад страху. Таму што на падлозе больш не валялася выкінутая ружа. Там, багата паліты нядобрымі гаворкамі, угноены насмешкамі, падкормлены злосцю, чарнеў і шчэрыўся калючкамі маленькі шыпасты лес. Ніякая вада не спатрэбілася, каб немаведама адкуль узяліся карэньчыкі, трывала ўраслі ў падлогу, і адтуль пырснулі ўгару новыя атожылкі, тоўстыя, калючыя. І разрастаўся гэты лес, што самае жудаснае, вакол пышнай спадніцы з абрыкосавага шоўку. Спадніцы, за якую выплачаны грошы не проста велізарныя, а адкрыта непрыстойныя. Спадніцы, якая павінна была сягоння на танцах шамацець, агаляць стройныя шчыкалаткі і заваёўваць сэрцы, а замест гэтага няўхільна ператваралася ў лахманы пад вострымі шыпамі…

— Балван, твая дурная ружа псуе маю сукенку! — дзяўчына прысела на кукішкі, паспрабавала адарваць ад падола ўчэпістыя галінкі і войкнула, укалоўшыся. А калючкі, пакаштаваўшы крыві, драпежна рвануліся па дабаўку, папаўзлі па спадніцы, нібы мудрагелісты выродлівы гафт, ігольчастае лісце ўчапілася ў тканіну, і тая жаласна затрашчала.

— Што гэта, што гэта такое?! Што за чартаўшчына?! — істэрычна загаласіла прыгажуня. Тут ужо і Валянцін, нарэшце, зірнуў уніз. І прыўстаў са свайго месца Густаў, і перавесілася цераз прылавак Ліза, не стрымаўшы цікаўнасці. Карціна перад імі адкрылася страшнаватая: калючыя сцёблы, як чэпкія лапкі, караскаліся па абрыкосавым шоўку, сукенка перамазалася ўжо крывёй, і віселі ніткі ды лапікі, а кветкі з вострымі зубчыкамі (а можа, зубкамі?) на краях пялёсткаў ужо чарнелі на гарсажы і цягнуліся да гожанькага тварыка. Зрэшты, цяпер тварык ужо не быў прыгожанькім, яго перакрывіў страх. З натужлівым пыханнем былая прыгажуня спрабавала вызваліцца, але толькі раніла пальцы, і падалі чырвоныя кроплі на лакавыя светлыя чаравічкі.

— Хацела чорных руж? Дык атрымай! — прагаварыў Валянцін. Вядома, ён не чакаў такога зыходу. І вядома, не цешыўся. Але нейкае дзіўнае горкае задавальненне спела ў глыбіні яго душы. І здавалася, быццам так і трэба, быццам здзяйсняецца справядлівая расплата, і хай усё ідзе сваім парадкам. Ён стомлена махнуў рукой, сеў проста на падлогу і закрыў рукамі твар.

— Загадай ёй спыніцца! Яна ж мяне задушыць!

— І няхай, — адклікнуўся Валянцін, не прыбіраючы далоняў ад твару.

— Ну добра, добра, я згодная! Я выйду за цябе замуж! Ты ж гэтага хацеў? А цяпер загадай ёй спыніцца!

— А я тут ні пры чым. Яна сама. Ты ёй не падабаешся, вось што. Ёй агідна бачыць цябе. І мне таксама агідна…

— Ды што ж ты за чалавек такі? — не вытрымала Ліза. Ускочыў Густаў, перакуліўшы крэсла, але Ліза адхінулася ад яго рук, схапілася з усяе сілы за пругкія сцёблы і пацягнула іх на сябе. Ружа не чакала такога каварства, аслабіла хватку, вырвала на развітанне яшчэ пару лапікаў абрыкосавага шоўку і — ці то адчуўся лёгкі ўздых, ці то Густаву здалося? — адчапілася ад сваёй ахвяры. Ускрыкнуўшы, абедзве дзяўчыны паваліліся на зямлю.

Ах, як жудасна зараз выглядала некалі самая прыгожая дзяўчына горада! Сукенка ў лахманах, замест кудзерак — птушынае гняздо на галаве, капялюшык з'ехаў на патыліцу, на носе — яркая малінавая драпіна. Куды падзеўся той апетытны труфель?

— Я падам на цябе ў суд! Я выклічу паліцыю! Ты так проста не адкруцішся! — закрычала яна — і змоўкла, таму што Валянціна ў краме не было. Куды ён знік? Ці то выслізнуў за дзверы так ціха, што і званочак не дзынкнуў, ці то прашмыгнуў міма Густава ў сад — ніхто не ведаў, але факт заставаўся фактам: садоўнік прапаў без следу.

— Вы за ўсё заплаціце, — прашыпела госця. Паднялася, атрэсла сукенку і сышла. Не на танцы, вядома, а вулачкамі ды завулачкамі дахаты — пераапранацца, жаліцца татку, піць лаўравішнёвыя кроплі.

Ліза сядзела на падлозе. Яе рукі і сукенка былі ў крыві, а па твары цяклі слёзы, і нават нездагадлівы Густаў разумеў, што дождж у гэты раз ужо дакладна ні пры чым. Чорная ружа, пацішэўшы, драмала ў дзяўчыны на каленях і больш не парывалася кусацца і драпацца.

— Густаў, калі ласка, прынясі шклянку вады, — усхліпваючы, папрасіла Ліза.

Ён стрымгалоў рынуўся на кухню, ледзь не разбіў збанок, знёс па дарозе назад два крэселкі. Апусціўся на калені побач з Лізай і думаў напаіць яе, як дзіця. Але Ліза слаба ўсміхнулася, узяла ў Густава шклянку і паставіла туды зламаную кветку.

У чысценькіх вітрынах адлюстроўвалася паўдзённае сонца. Пераліваліся золатам літары на шыльдзе. «Бач ты, не разарыліся без мяне», — падумаў Валянцін ці то радасна, ці то горка. Прыклаўшы далоні да шкла, адгарадзіўшыся ад сонечных прамянёў, ён зазірнуў унутр. Так, Ліза верная сабе: па-ранейшаму ніводнай дарма зрэзанай кветкі, усё тыя ж шакаладкі і крэселкі, і нават кулінарная кніга, як і раней, ляжыць на прылаўку. Ён патаптаўся нерашуча, насунуў капялюш на вочы і ўвайшоў. Тут жа, пачуўшы брынканне званочка, з кухні з'явілася Ліза, выціраючы рукі аб фартух. «Катлеткі, — пацягнуўшы носам, вызначыў Валянцін. — Падрумяненыя курыныя катлеткі. Чорт, як даўно я не спрабаваў Лізінай ежы!»

— Колькі каштуюць кветкі, гаспадынька? Ці добры ўраджай? — спытаў ён хрыплым надтрэснутым голасам.

— А якія кветакі вам патрэбны?

— Ды сам не ведаю. Мне б спярша зірнуць.

— Валянцін! — выклікнула яна. Валянцін здрыгануўся ад радасці — але Ліза глядзела не на яго, а на заднія дзверы. Там стаяў высокі нязграбны хлапчук у саламяным капелюшы. Ён зусім не саромеўся незнаёмца, усміхаўся, круціў у руках матыку.

— Колькі разоў цябе клікаць? Мый рукі і сядай абедаць, — загадала Ліза. Хлопчык кіўнуў і знік у задніх пакоях.

— Дык што з кветкамі, гаспадынька? Я спяшаюся, — прагаварыў ён горка. Забылася… Ліза яго забылася… І адкуль тут гэты хлапчук? Няўжо зноў падабралі прыёмыша?

— Хадзем...

— Ты не пазнала мяне, Ліза, — дакорліва сказаў ён.

— Адразу ж пазнала, яшчэ па кроках за дзвярыма, — адказала яна ўсё тым жа роўным голасам. — Толькі не здагадвалася, што ты хочаш быць пазнаным.

Ён недаверліва ўсміхнуўся. Ах, Ліза. Усё тая ж дабрыня ў вачах, той жа мяккі голас. Але папаўнела, пакруглела. Няблага! І чаму ён раней заўважаў толькі кульгавасць? Прызнацца, ён лічыў Лізу дурнічкай і прасцячкай, нявартай мужчынскай увагі. І цяпер здзіўлена разглядаў яе: змянілася, як змянілася! «Здаецца, яна закаханая ў мяне», — успомніў ён задаволена.

— Ты ўсё прыгажэеш.

Ліза, насуперак яго чаканням, не збянтэжылася, а спакойна ўсміхнулася гэтаму немудрагелістаму кампліменту. Злёгку разгубіўшыся, Валянцін прыцягнуў яе да сябе.

— Ліза, Ліза… Як доўга ты мяне чакала…

— Паслухай… — прагаварыла Ліза з нейкай новай, чужой інтанацыяй. Ён здагадаўся зірнуць на яе руку. Убачыў пярсцёнак на безыменным пальцы. Ах, вось як? Прыбраўшы рукі з яе таліі, спытаў хмурна:

— Дазволь, я зазірну ў сад?

— Чаму ты пытаеш? — здзівілася Ліза. — Тут усё тваё. Мы з Густавам прыглядалі за крамай, пакуль ты… быў у адлучцы.

Нічога не адказаўшы, Валянцін выйшаў праз заднія дзверы. Яго абліло тысячай рознакаляровых водараў, і ён пахіснуўся, з непрывычкі закруцілася галава. Родны, любімы, уздоўж і ўпоперкі абходжаны сад. Такі ж дагледжаны, праполаты і палiты, як раней. І кветкі, кветкі! Усе яны тут, і яго ненаглядная ліловая манарда, і духмяная зеленаватая рэзеда, і смешны губасцік, медны ў крапінку. Ён убачыў злашчасную калядную ялінку, пышную, велізарную, з абрыўкам пазалочанага ланцужка на верхавіне — і мімаволі скрывіўся. Яны што ж, цяпер Каляды тут, у садзе спраўляюць? У карнавальныя касцюмы апранаюцца, хлапушкі ўзрываюць, п'юць гарачы пунш з кружочкамі апельсіна? Ён машынальна зірнуў пад ногі ў пошуках апельсінавых лупінак. Так-так. А добра прыдумана, каб іх чорт узяў. Усюды снег, мігацяць зоркі, на ялінцы дрыжаць агеньчыкі. Ліза выносіць з дому гарлач з духмяным гваздзіковым пуншам, усе працягваюць кубкі, смяюцца, потым з'яўляецца Густаў з фальшывай белай барадой, у чырвонай куртцы, дастае падарункі з меха і працягвае іх хлапчуку, а той нецярпліва рве абгортку…

Валянцін сцепануўся: так моцна раптам пацягнула снежаньскім марозікам, і стала вельмі сумна, што яны тут святкуюць Каляды без яго, і што, насуперак яго жаданню, прыжылася ў садзе гэтая дурная яліна, разлапілася да вялікага дрэва і адкідае выродлівы цень. Аднак, трэба аддаць належнае, хтосьці сцяміў пасадзіць у яе цені ландышы і купену.

Уздыхаючы і круцячы галавой, Валянцін пачаў блукаць па садзе, адзначаючы то тут, то там новыя незнаёмыя гатункі кветак. Нейкая дзіўная фіялетавая півоня, незвычайныя пурпурныя лілеі з хвалістым лісцем, а вось гэтую незразумелую, падобную на крыло матылька, расліну ён і зусім не ведаў. Ах, чакайце, гэта ж чароўная кветка Лізы! Нібы ўлавіўшы яго ўвагу, матыльковыя крылцы прывітальна затрымцелі. Валянцін агледзеўся і ўбачыў усе тыя кветкі, што калісьці з'явіліся з чароўных семечак. Яны раслі дружнымі сямейкамі, кожная на сваёй любоўна абга-

роджанай клумбачцы, пахлі, калыхаліся пад прыемным цяжарам пчол, сыпалі насенне на зямлю. І так утульна, так па-хатняму было ў садзе — але як быццам гэта ўжо не яго, Валянцінаў, сад, а нібы суседскі. І ўжо не садоўнікам, не гаспадаром ён адчуваў сябе тут, а ўсяго толькі госцем. Дарагім, магчыма, нават доўгачаканым, але госцем, за якім спотайку прыглядае ў акенца гаспадыня — не нарабіў бы чаго, не патаптаў бы градак з расадай…

На кукішках ля адной з дзялянак сядзеў той самы хлапчук у саламяным капелюшы. Ён разглядаў невялічкія зялёныя келіхі цюльпанаў, што рыхтаваліся расцвісці, і неяк вельмі знаёма хмурыў бровы.

— Летні гатунак? — спытаў Валянцін.

— Позневясновы, — не паварочваючы галавы, адказаў хлопчык.

— Тут кіслая зямля. Падкормліваеш?

— Вапна і попел, — гэтак жа хутка і нібы нехаця адказаў ён.

— А гатунак які? Бялянка? Рубінавае сэрца?

Тут хлопчык нарэшце павярнуўся і падняўся з кукішак. У вачах яго чыталася паблажлівасць да дурнога незнаёмца, што прыстае з дзіцячымі пытаннямі і замінае працаваць.

— Гэта блакітны цюльпан, — растлумачыў ён.

— Але такіх не бывае! — засмяяўся Валянцін.

— Пра чорную ружу таксама так казалі, — парыраваў хлопчык.

Валянцін здрыгануўся.

— Чорныя ружы? — паўтарыў ён. — Адкуль ты пра гэта чуў? Цябе ў тыя гады наогул на свеце не было! Няўжо тая гісторыя стала вядомай усім?

— Якая яшчэ гісторыя? — нецярпліва запытаў хлопчык і махнуў рукой. — Вунь яны, там.

— Хто?

— Ды чорныя ружы! — ён пакруціў галавой і пабег дадому, насустрач Лізе, што стаяла ў дзвярах і рабіла выгляд, што вельмі-вельмі сярдуе.

З цяжкім сэрцам, хвалюючыся, Валянцін паплёўся ў паказаным кірунку. Ён убачыў абгароджаную белымі каменьчыкамі клумбу, вялікую, круглую, у самым цэнтры саду. І там, на высокіх падпорках, клапатліва падвязаныя вяровачкамі, пышна квітнелі чорныя ружы. Няўжо тыя самыя? Валянцін не рызыкнуў набліжацца да іх, але яшчэ на адлегласці пачуў — і нямала здзівіўся, — што гэтыя ружы пахнуць. Нясмела і баязліва, ледзь-ледзь выпускаючы водар з тугіх скручаных пялёсткаў, нібы пытаючы дазволу — ці можна ім быць такімі ж, як іншыя кветкі?

Захоўваючы дыстанцыю, Валянцін разглядаў іх недаверліва. Бач ты, пахнуць. Але ён выдатна памятае, на што здольны гэтыя нявінныя з выгляду стварэнні. Тут трэба быць напагатове!

Нячутна да яго падышла Ліза.

— Як вас разумець? — спытаў Валянцін злосна і гучна. — Гэтая ружа загубіла маё жыццё, звяла мяне з розуму, Ліза! Яе трэба выкарчаваць, спаліць, знішчыць! Каб ніводнага семечка, ніводнага чаранка! Не, нездарма тады я шпурнуў пакуначак у смеццевы кошык! Я прадчуваў, што там адныя беды і няшчасці! Калі б не адвечная жаночая цікаўнасць… — і ён разышоўся, і гаварыў усё гучней, і ўзяў Лізу за рукі, і, здаецца, трохі яе страсянуў, каб яна лепш яго пачула і зразумела.

І адразу аднекуль з-за ружавых кустоў з'явіўся Густаў, нязменны, высачэзны, пануры. Ён устаў у Лізы за спінай, гаспадарскім жэстам паклаў рукі ёй на плечы. На яго безыменным пальцы таксама пабліскваў пярсцёнак. «Ах, вось як?» — ашаломлена падумаў Валянцін. Гэтага ён не чакаў. Каб дурыла Густаў ажаніўся, хай нават з крываножкай? Ну, ведаеце… Дык атрымліваецца, гэты юны батанік — іх сын? Кемлівы хлапчук. З яго выйдзе талковы садоўнік. І зноў Валянцін адчуў сябе лішнім. Ён вяртаўся дадому, ён хацеў застацца — але ці варта?

— Ты спазніўся, — усміхнулася Ліза. — Ва ўсіх гарадскіх садах ужо квітнее «чорная ружа ад Валянціна». Праўда, гэта цуд? А тая старая прымаўка пра чорныя ружы выйшла з моды. Цяпер яе кажуць толькі, каб паказаць чыюсьці дурасць. І чаму ты так зненавідзеў гэтую бедную кветку? Яна не вінаватая, што чорная.

— Ты не разумееш, Ліза! — з горыччу сказаў Валянцін. — Яна небяспечная! Яна забівае жаданне жыць, пазбаўляе надзеі! У маім сэрцы не засталося нічога светлага: усё забрала чорная ружа! А ты трымаеш яе ў садзе і прадаеш людзям! Яна загубіць увесь горад, як загубіла мяне!

— Ты сам сябе загубіў, — адказала Ліза ціха, але Валянцін як быццам бы не пачуў яе.

— Я доўгія гады бадзяўся, пазбягаў вяртання ў горад, баяўся, што гэта гісторыя будзе ва ўсіх на вуснах, што мяне выставяць на смех, упякуць за краты ці абвесцяць ведзьмаком… Гэта мой страх, мая ганьба! А вы тут іх калочкамі падпіраеце?! Не чакаў я ад вас такога! Вырошчваць чорную ружу пасля ўсяго, што яна мне прычыніла! Гэта не робіць вам гонару! — і Валянцін замоўк, дакорліва круцячы галавой.

Ліза ціха ўздыхнула. Густаў нахмурыўся. У цішыні пачулася дзелавітае гудзенне. Тоўстая пчала прызямлілася на паслужліва раскрытыя пялёсткі, папаўзла ў сярэдзінку, і задаволеная ружа запахла мацней.

— Нам не робяць гонару чорныя думкі, — задуменна сказала Ліза. — А чорная кветка — гэта проста чорная кветка.



Акварэль Ксеніі Лакоткі.



## Штэфані Ташынскі

**нарадзілася ў 1969 годзе ў Гамбургу. Нямецкая сцэнарыстка, драматург і празаік. Вось што гаворыць яна пра «Маленькую даму»: «Аднойчы, калі я вярнулася дадому з Берліна, мае дочкі спыталі, чаму я пішу толькі для дарослых? Ці не магла б я напісаць штосьці і для дзетак? І мне прыйшла ідэя, якую я адразу занатавала, ідэя пра маленькую даму, якая жыла ў палатцы на заднім двары, у двары, які я бачыла са свайго працоўнага кабінета… З гэтай занатоўкі я пачала пісаць першую гісторыю пра Маленькую даму».**
**Чаму пераклад «Маленькай дамы» друкуецца ў «Маладосці»? А наўмысна! Бо снежань, бо Новы год, бо пад Новы год усе дзеці.**

# Маленькая дама

### Дом з крэндзелем

Гэтая гісторыя пачынаецца з крэндзеля. З маленькага залатога крэндзеля. Але асцярожна! Яго нельга есці. Зубы аб яго можна зламаць. Бо крэндзель, пра які тут пойдзе гаворка, вісіць над уваходам дома і зроблены з самага вытанчанага гіпсу.

Без гэтага цудоўнага крэндзеля бацькі Лілі ніколі б не пасяліліся ў доме, які стаіць у цэнтры вялікага Гамбурга ў ціхім завулку. Яны б проста прайшлі міма старога дома з чатырма паверхамі.

Тады б мы нічога пра іх не даведаліся. Але ў той дзень, калі Лілі, яе мама, тата і маленькая сястрычка Карла ішлі міма гэтага дома, на драбінах стаяў малады маляр і фарбаваў крэндзель залатой фарбай.

Лілі спынілася ад зацікаўленасці. «Глядзі!» — сказала яна і тузанула тату.

Тата паглядзеў уверх. «Крэндзель», — прамовіў ён, не міргнуўшы вокам.

— Але ж ён залаты, — прашаптала Лілі.

Залаты быў ён, ці не, але тата пайшоў далей. Ён зусім не хацеў спыняцца. Асабліва з-за нейкага крэндзеля. Бо як спецыяліст па веласіпедах, які шмат падарожнічае, ён добра ведаў, як важна трымацца вызначанага курсу. Спрытна ён павярнуў дзіцячы вазок, але прайсці міма драбін з вялікімі вёдрамі фарбы ён не змог.

Мама таксама паглядзела на маленькі крэндзель. Ён выглядаў акурат як крэндзелі, якія яна гатавала ў духоўцы. Румяны. Мама ўсміхнулася.

Яна паглядзела на Лілі. «Выглядае так, што хочацца яго з’есці», — сказала мама і ўзяла Лілі за руку.

Лілі падумала тое ж самае.

Тата занепакоіўся. Ён адчуў, што паветра працінае нейкае нябачнае хараство.

Увышыні маляр спакойна зафарбоўваў золатам апошні шэры кавалак.

Якім яркім было зіхаценне!

Якім прыгожым было ззянне!

Свежапафарбаваны ў золата крэндзель вабіў, нібы запрашаў.

«Уваходзь! — быццам бы гаварыў крэндзель. — Зрабі крок. Тут ты будзеш шчаслівы».

Так і адбылося.

«Мне хацелася б, каб мы тут жылі», — сказала мама і ўсміхнулася тату, тата абняў яе і забыў пра ўсё астатняе.

Ён паглядзеў на маму, на крэндзель і згадзіўся. Так сям'я Медзвядовічаў разам з дзвюма маленькімі дочкамі пераехала ў дом з крэндзелем.

«Я — маленькая! — кажа Лілі, — мне восем гадоў і я — старэйшая сястра!»

Але і старэйшыя сёстры застаюцца маленькімі дзяўчынкамі. Напрыклад, раптам ноччу ў святле старых ліхтароў на шафе з'яўляюцца розныя грымасы, а халат на крэсле ператвараецца ў жудасную істоту — у такую хвіліну дарослыя дзяўчынкі зноў робяцца маленькімі. У такія імгненні Лілі радуецца, што побач з ёй маленькая Карла. Яе малодшай сястрычцы пяць гадкоў. На двухпавярховым ложку яна спіць унізе, і калі ноччу прачынаецца, заўсёды бяжыць да мамы з татам. Карла дакладна маленькая дзяўчынка. Меньшая за Лілі.

У доме з крэндзелем жыве яшчэ адзін чалавек, меншы за дзвюх сястрычак, што жывуць тут. І гэты чалавек — маленькая дама.

Яна жыве на заднім двары. Ростам яна з дарослага пінгвіна, у непагадзь і пры моцным ветры апранае сафары-касцюм, а дзякуючы свайму парасону можа хамелеянізаваць.

Ты пытаешся, што такое «хамелеянізаваць»?

Гэта адбываецца так: раскрывае маленькая дама свой парасон і ператварэнні пачынаюцца. Стане яна перад вялікім блакітным фатэлем, і блакітам пераліваецца ад парасона да чаравічкаў. Шпацыруе яна весела каля цагляных дамоў, і чырвоныя цаглінкі танчаць на яе касцюме. А калі яна раскрывае свой парасон пад старою вярбой, шукаючы майскіх жукоў, дык абавязкова самы нахабны з іх падляціць і сядзе ёй на нос.

Маленькая дама так спрытна ўмее хамелеянізаваць, што ніхто і не заўважыў, як яна паставіла сваю палатку пад старой вярбой на заднім двары дома з крэндзелем.

Вечарам яна запальвае вялікі ліхтар, які стаіць на стале. Потым сядае з кубкам духмянага шакаладу перад сваёй палаткай і слухае дзіўны пошум горада. Яна чуе працяглыя гудкі караблёў, што даносяцца з Эльбы, гудзенне машын, спевы невядомых птушак.

Маленькая дама сядзіць перад сваёй палаткай і назірае, як у дамах навокал запальваюць святло. Яна бачыць, як матулі чысцяць сваім дзеткам зубы і мыюць пушыстымі мачалкамі тварыкі. Яна бачыць, як татулі стаяць ля пліты і на гарачых патэльнях гатуюць смачныя амлеты.

Маленькую даму напаўняе неверагоднае шчасце, бо яна знайшла гэты двор за домам з крэндзелем. Яна не ведае больш таямнічага месца, чым гэты зарослы двор, дзе за кожнай агароджай прытаіўся які-небудзь звер.

Дзіўна, але нікога з дарослых не цікавіць гэты двор. Толькі дворнік Каўбаскін падмятае тут паміж сметніцамі раз на дзень. Гэты дворнік лысы, ён мяце два разы направа, два разы налева, потым паўтарае, вачэй ад шэрай пліткі не адрывае. Заўсёды горбіцца да самай зямлі. У спадара Каўбаскіна жудасна цыбатыя ногі, у тры разы вышэйшыя за маленькую даму.

Нават, калі ўчора маленькая дама ўзбівала падушкі і маленькія пёркі разляцеліся ва ўсе бакі, ён усё адно яе не заўважыў. Гэтай раніцай яна апранула сафары-шлем і выглядала надзвычай прыгожа. Але спадар Каўбаскін толькі плюнуў на анучку і працёр шыльдачку, якую ён павесіў у падваротні. На ёй было напісана:

**ДЗЕЦЯМ УВАХОД ЗАБАРОНЕНЫ!**

## Шчаслівы дзень

Лілі ніколі не гуляе ў падваротні. Не таму, што там цёмна, брудна каля сметніцы, або таму, што гэта забаронена. Не, проста цікавей за вуглом на сонечнай пляцоўцы праімчаць па разгайданых балках ці зрабіць «сонейка» на турніку.

У звычайную сераду Лілі б нават і не ўспомніла пра падваротню, што вядзе на задні двор. Але гэтая серада была незвычайная. Гэта быў шчаслівы дзень для Лілі! Яна выйграла на школьным свяце фотаапарат. За ўсё сваё жыццё яна нікола не выйгравала нешта такое ж цудоўнае, таму была настолькі ўзрушанай, што ўсю дарогу дадому падскоквала ад шчасця. Ёй вельмі хацелася зрабіць свае першыя фотаздымкі.

Яна пабегла на кухню, дзе мама якраз мясіла на стале цеста. Не кухонным камбайнам, а рукамі. Цеста пралазіла паміж яе пальцаў. Яно наліпала на рукі, на валасы, на нос. Мама мясіла цеста з вялікім задавальненнем.

— Мама, я выйграла фотаапарат!

— Цудоўна-цудоўна… — мама адшчыкнула кавалачак цеста і працягнула Лілі. — Хочаш пакаштаваць?

Гэта было цеста з шакаладнымі шарыкамі, цудоўна пахла крэмам. Лілі праглынула кавалак.

— Смаката, — цмокнула яна ад асалоды. — А цяпер можаш дапамагчы мне з маім фотаапаратам?

— Зараз, сонейка, зараз…

— Я не ведаю, як уставіць флэшку… — Лілі вырашыла яшчэ раз паспрабаваць і выцягнула з кішэні маленькі пластмасавы квадрацік.

Мама падсыпала мукі на кухонную дошку.

— Зараз табе дапамагу, дачушка. Мне трэба хуценька паставіць пірог у духоўку.

Чарговая порцыя мукі, нібы снег, высыпалася на стол. Лілі ведала, што яшчэ нейкія паўгадзіны спатрэбіцца, каб мама скончыла гатаваць пірог.

У звычайны дзень мама абавязкова б пасадзіла яе на калені і яны б разам разглядалі новы фотаапарат. Але ж сёння, у шчаслівы для Лілі дзень, у мамы не знайшлося нават хвілінкі.

Лілі пабегла ў пакой, каб папрасіць тату ўставіць флэшку. Спадар Медзвядовіч стаяў на каленях перад маміным чырвоным веласіпедам, перавернутым коламі да столі. У адной руцэ таты — адвёртка, у другой — анучка. Ён здымаў веласіпедны ланцуг.

— Тата, глядзі! Я фотаапарат выйграла!

Перапоўненая гонарам Лілі паказала маленькі чорны фотаапарат. Тата адклаў адвёртку ўбок і паглядзеў на яго.

— Гэта сапраўдны фотаапарат! — сказаў ён і пацалаваў Лілі ў нос. — Віншую!

— Ты мне дапаможаш уставіць флэшку? — спытала Лілі.

У звычайны дзень тата б ужо скакаў ад радасці і крычаў: «Ого-го, ого-го, мая цудоўная дачушка выйграла фотаапарат!»

Але ж сёння, у шчаслівы для Лілі дзень, тата зноў узяў адвёртку і сказаў толькі: «Дай мне дзесяць хвілін!»

Дзесяць хвілін? Гэта ж цэлая вечнасць! Столькі Лілі не магла чакаць, яна пабегла ў дзіцячы пакой.

«Добра, пакажу мой фотаапарат Карле», — падумала яна і адчыніла дзверы. Але што гэта? Дзверы адчыніліся толькі на маленькую шчылінку.

— Карла, — закрычала Лілі. — Я фотаапарат выйграла!

Захутаны твар з'явіўся ў шчыліне. Карла апранула татавы сонечныя акуляры і маміны кухонныя рукавічкі. Яна прашаптала: «Нас засыпала снегам».

— Чорт ведае што! Адчыняй дзверы! Я хачу табе паказаць…

З дзіцячага пакоя пачулася працяглае завыванне. «О, мой сабачка! — галасіла Карла. — Я павінна выратаваць майго сабачку!»

— Гэта ж Якаб! — закрычала Лілі.

Якаб быў сябрам Карлы ў дзіцячым садку.

— Не, гэта мой сабачка! — запярэчыла Карла і захлопнула дзверы перад носам старэйшай сястры.

У звычайны дзень Карла аддала б сваё шакаладнае марожанае, каб хоць трошачкі паглядзець на фотаапарат. Але ж сёння, у шчаслівы для Лілі дзень, яна гуляла ў эскімосаў.

«У адзін дзень з'ехалі з глузду мама, тата і малодшая сястра, — вылаялася моўчкі Лілі, — я выйграла сапраўдны фотаапарат, а ніхто не хоча і зірнуць на яго!»

Лілі яшчэ не ведала, што на заднім двары жыве самая цікаўная ў свеце маленькая дама і яна чакае, што міма будзе праходзіць маленькая дзяўчынка з фотаапаратам. Акрамя хамелеянізавання любімым заняткам маленькай дамы было фатаграфаванне.

Сёння, у шчаслівы дзень, Лілі вырашыла пакінуць дом з крэндзелем. Яна хацела збегчы, збегчы вельмі далёка і схавацца так добра, каб ні тата, ні мама, ні Карла не змаглі яе знайсці. Вядома, яны будуць вельмі бедаваць, калі яна збяжыць, будуць плакаць горкімі слязьмі. Але іншага яны не заслугоўваюць!

## За агароджай

Быў першы па-сапраўднаму сонечны дзень. Махнатыя чмялі гулі ў паветры над дзецьмі, якія ішлі па тратуары перад домам з крэндзелем, у кожнага хлопчыка ці дзяўчынкі было марожанае — па пяць шарыкаў. Так, пяць шарыкаў.

Гэта быў адзін з тых дзён, калі абавязкова трэба рабіць забароненыя рэчы. Лілі прачытала на шыльдачцы «Дзецям уваход забаронены!», фыркнула і пайшла, расправіўшы плечукі да варот, якія вялі на задні двор. Безумоўна, спадар Каўбаскін забараняў гуляць у двары, але ў такі дзень Лілі на гэта не зважала.

Яна націснула клямку, і вароты адчыніліся з ціхім скрыгатам. Перад ёй адкрыўся невялікі лужок, на якім стаяла заіржавелая штанга для выбівання дываноў.

Дакладна так Лілі сабе ўсё і ўяўляла. Шэра і нецікава. Таму Лілі нават і кроку на гэты двор не рабіла. Але сёння яна накіравалася на лужок, прайшла пад заіржавелай штангай і працiснулася скрозь бружмелевую агароджу, што падзяляла двор на дзве палавінкі. Лілі хацела збегчы далёка-далёка ад мамы і таты, а таксама ад Карлы. За агароджай яны яе не знойдуць ніколі!

Галінкі бружмелю раслі вельмі дыхтоўна. Яны драпалі аголеныя плечукі Лілі. Яны чапляліся за яе нагавічкі. У паветры пахла мохам і старымі анучкамі. Але Лілі прабіралася праз галінкі далей і далей, пакуль нарэшце не ўбачыла іншы бок двара.

Лілі не паверыла сваім вачам. Што гэта? За агароджай знаходзіўся двор нашмат большы, чым яна ўяўляла. Перад ёй быў квяцісты луг. Паміж дрэў і кустоў віліся блытаныя сцяжынкі. Недалёка ад агароджы расла раскідзістая, старая вярба. Яе галінкі звісалі да самай зямлі і гайдаліся ад лёгкага ветрыку, быццам віталі Лілі.

Лілі прысела на маленькі мурок побач з вярбою і пачала разглядаць свой фотаапарат. Яна круціла яго ў руках. Недзе павінна было быць месца для флэшкі. Лілі гэта дакладна ведала. У татавым фотаапараце яно было. Дзяўчынка разглядала фотаапарат з усіх бакоў. Пальчыкамі намацала невялічкую шчылінку. І толькі Лілі на яе націснула, як з фотаапарата выпалі батарэйкі і пакаціліся па зямлі.

Лілі нахілілася, каб падняць батарэйкі. Раптам яна ўбачыла перад сабой пару маленькіх чаравічкоў на шнурочках. Яна зірнула ўверх і села ад здзіўлення. Акурат перад ёй стаяла маленькая жанчына ў сакавіта-зялёным, як лісцейкі вярбы, адзенні, у руцэ яна трымала такога ж колеру парасон. Гэта была маленькая дама, якая адпачывала ў палатцы пад раскідзістай вярбой.

Маленькая дама зрабіла колькі крокаў назад і пачала з цікаўнасцю разглядаць Лілі з усіх бакоў. Яна некалькі разоў абышла вакол дзяўчынкі, што сядзела перад ёй на зямлі. І пакуль дама разглядала Лілі, яе адзенне змяняла колеры: ад сакавіта-зялёнага да цёмна-зялёнага, як лісце бружмелевай агароджы, потым да цэментна-шэрага, а потым зноў да сакавіта-зялёнага. Маленькая дама хамелеянізавала з такой хуткасцю, што ў Лілі дух перахоплівала. Сэрца Лілі пачало біцца хутчэй, а па спіне прабеглі мурашкі. І тут маленькая дама згарнула свой парасон, прысела на мурок і закінула ножку на ножку: «Кат-кат, отх атэг у сан?» Лілі ад здзіўлення не вымавіла і слова. Гэта было па-кітайску?

— Кя ёавт ямі? — спытала маленькая дама. Але Лілі толькі здзіўлена паціснула плячыма. Яна ні слова не зразумела. На твары маленькай дамы з’явілася расчараванне. «Як шкада, што мяне не разумеюць!» — прамовіла яна.

— Не, цяпер разумею! — адказала Лілі.

Але маленькая дама здзівілася.

— Ты разумееш па-злеванапраўску, а не па-справаналеўску?

— Як гэта па-справаналеўску?

— Лева-права, многа-мала, наперад і наадварот, што за бутэрброд? — засмяялася маленькая дама і працягнула: — Ты павінна ведаць, што людзі на поўначы пераважна гавораць па-злеванапраўску, а людзі з поўдня аддаюць перавагу справаналеўскай мове.

— Але ж ты можаш па-рознаму? — здзівілася Лілі.

— Ну так. Я шмат падарожнічаю, — растлумачыла маленькая дама. — І наколькі памятаю, мяне разумеюць на абедзвюх мовах аднолькава добра.

— Ты прыехала да некага ў госці? — спытала Лілі і ад цікаўнасці азірнулася. Але акрамя яе і маленькай дамы навокал не было нікога.

— Не-не! Я ў экспедыцыі, — заявіла маленькая дама. — А ты? Што ты тут робіш?

— Мяне завуць Лілі і я жыву ў доме з крэндзелем.

— Рада пазнаёміцца з табой, Лілі, — сказала маленькая дама і зняла свой сафары-шлем.

Лілі трошку збянтэжылася. Ніхто яе так не вітаў, як маленькая дама.

— О, я таксама вельмі рада, — сказала яна. — А ты хто?

— Я — маленькая дама, — прадставілася вытанчаная жанчына і зноў надзела сафары-шлем.

Позірк Лілі прывабіў дзіўны парасон.

— Маленькая дама!

— Слухаю.

— А як табе ўдаюцца такія пераўвасабленні?

— Якія пераўвасабленні? Мне здаецца, я толькі трошачкі хамелеянізавала, як заўсёды. — Маленькая дама ў другі раз разгарнула свой парасон і адразу пафарбавалася ўся ад чаравічкаў на шнурочках да сафары-шлема ў шэры колер маленькага мура. Другі раз за дзень села Лілі ад здзіўлення.

— Бачыш, гэта вельмі проста, — сказала маленькая дама. — Напэўна, я найлепшая хамелеянэса ў свеце.

Лілі адразу паверыла, што яна — найлепшая хамелеянэса ў свеце, але ёй вельмі карцела даведацца, як жа гэта спрацоўвае. Зноў паглядзела яна на загадкавы парасон. Яго ручка нешта нагадвала.

Толькі Лілі захацела задаць пытанне, як маленькая дама ўжо згарнула свой парасон.

Яна села побач з Лілі на траву. З цікаўнасцю паглядзела на новы фотаапарат дзяўчынкі.

— Што гэта?

— Гэта… — прамовіла Лілі.

— Чакай, — маленькая дама перапыніла яе і працягнула руку, — давай я адгадаю. Я люблю загадкі.

Маленькая дама закрыла вочы далонькамі: «Мне трэба сканцэнтравацца».

Скрозь шчылінку паміж пальцамі яна падглядвала на фотаапарат.

— Ох, гэта вельмі складаная загадка! Вельмі-вельмі складаная…

Яна пляснула ў далонькі:

— Ха-ха, але я ведаю, што гэта! Гэта маленькая падводная хлебніца.

— Што? Не. — адказала Лілі.

— Цьфу! Не! — Але яшчэ адна пара вачэй — гэта вельмі практычна: адна пара спіць, а другая сочыць, дзе схаваны апошні кавалачак шакаладкі, — настойвала маленькая дама.

— Гэта мой новы фотаапарат, — сказала Лілі.

Маленькая дама пачціва зірнула на яго.

— Сапраўдны тафограф? — спытала яна і асцярожна працягнула рукі, каб лепш разгледзець фотаапарат Лілі. — Які цудоўны! Можна я патрымаю?

Лілі перадала яго маленькай даме.

— Гэта быў галоўны прыз на коле фартуны, але ў маіх бацькоў і маленькай Карлы зусім не было часу паглядзець на яго, — распавядала Лілі.

Маленькая дама зірнула на яе са здзіўленнем. «Во дурні! Калі выйграюць такі цудоўны тафограф, трэба ўсё адкласці і спыніць, каб тафаграфаваць, тафаграфаваць, больш нічога», — адказала маленькая дама.

Лілі хвалявалася. Ці зможа маленькая дама паказаць ёй, куды трэба ўставіць флэшку? І ў гэтае ж імгненне маленькая дама адкрыла маленькую накрыўку.

— Але тут няма флэшкі. Як мы будзем рабіць фотаздымкі, калі ў цябе няма флэшкі?

Лілі выцягнула з кішэні маленькі пластмасавы квадрацік.

— О, гэта іншая справа, — маленькая дама адкрыла ўпакоўку, выцягнула з яе флэшку і ўставіла ў фотаапарат.

Лілі зразумела, што маленькая дама робіць гэта не першы раз.

— Цяпер націскай на гэтую кнопку, каб з'явілася фатаграфія, — растлумачыла маленькая дама і аддала Лілі фотаапарат.

Лілі націснула на кнопку, і на экране з'явілася маленькая дама са шчырай усмешкай. У сваім светлым сафары-касцюме і падарожным шлеме яна выглядала так, быццам толькі што вярнулася з джунгляў. Лілі націснула зноў на кнопку. Чыкі-чыкі. Чыкі-чыкі. Партрэт маленькай дамы. Чыкі-чыкі. Чыкі-чыкі. Яе вясёлыя заколкі. Чыкі-чыкі. Чаравічкі на шнурочках. Чыкі-чыкі. Парасон. І раптам позірк Лілі спыніўся. Ручка парасона была хвастом хамелеона! Толькі Лілі хацела зноў націснуць на блакітную кнопку, як маленькая дама ўскрыкнула: «Стой! Калі столькі тафаграфаваць, у майго парасона з'явяцца піксельныя шчарбінкі!»

Пасля гэтых слоў яна разгарнула парасон. На працягу некалькіх імгненняў ён пераліваўся ўсімі фарбамі вясёлкі, а потым маленькая дама знікла!

Лілі ўтаропілася ў месца, дзе яна толькі што стаяла.

— Маленькая дама! — закрычала дзяўчынка.

Але ў адказ не пачулася ні слова. Лілі азірнулася.

— Маленькая дама, дзе ты?

І тут яна пачула ціхі смех, які даносіўся з-за галінак старой вярбы.

Лілі рассунула галінкі. За імі, перад палаткай, сядзела маленькая дама і размаўляла са сваім парасонам. «Будзь спакойны, усё цудоўна», — супакойвала яна.

Лілі ўшчыкнула сябе за руку. Гэта быў сон? Ці насамрэч на заднім двары дома з крэндзелем стаяла белая палатка? Круглая ў аснове палатка са спічастай макаўкай, упрыгожаная стракатымі сцяжкамі!

Яна падышла да маленькай дамы.

— Што здарылася? — спытала яна.

— Ах, гэта вельмі стары і вельмі свавольны парасон, які я атрымала ад сваёй прапрабабулі, — сказала маленькая дама і крыху адгарнула складку парасона.

Цяпер Лілі змагла ўбачыць, хто схаваўся ў ім. Гэта быў бліскуча-зялёны, вельмі жвавы хамелеон, які з цікавасцю глядзеў на Лілі сваімі пукатымі вочкамі.

— Чаку больш за тысячу гадоў. Мая прапрабабуля ў далёкім мінулым выратавала яму жыццё, а ён у знак удзячнасці застаўся з ёй жыць, — распавядала маленькая дама.

Лілі слухала моўчкі.

— Але часам, калі мне хочацца хамелеянізаваць, Чака жартуе і робіць мяне нябачнай, — працягвала маленькая дама.

— Ого! — сказала Лілі.

— Думаю, тафаграфаванне вельмі расхвалявала яго. Не кожны ж дзень праз бружмелевую агароджу прыходзіць дзяўчынка ды яшчэ з навюткім, цудоўным тафографам.

І тут Лілі засмяялася. Нічога сабе хваляванне!

— Але і не кожны дзень сустрэнеш маленькую даму, якая выпадкова спынілася на заднім двары ды яшчэ з хамелеонавым парасонам, якому больш за тысячу гадоў! — сказала Лілі.

— Так, не кожны дзень, — пагадзілася маленькая дама і ўскочыла са свайго крэсла.

— Сёння наш шчаслівы дзень! — сказала яна. — Наш самы-самы шчаслівы дзень!

Лілі таксама так падумала.

Яны і не заўважылі, як надышоў вечар і Лілі трэба было ісці дадому. Маленькая дама праводзіла Лілі да бружмелевай агароджы і паказала таемнае месца, дзе дзяўчынка магла пралезці вельмі лёгка.

Маленькая дама адчула салодкі водар у паветры: «Хачу сказаць, што твая мама толькі што выцягнула пірог з духоўкі».

Але Лілі не адчувала ніякага водару. Ёй абсалютна не хацелася есці. Адзінае, што яна хацела пачуць перад тым, як пралезці праз агароджу, гэта адказ на пытанне: «Маленькая дама, мы ўбачымся зноў?»

Маленькая дама падміргнула ёй і дакранулася да парасона. «Я табе прышлю паведамленне», — паабяцала яна.

На гэтых словах яна разгарнула свой парасон і весела пайшла назад, хамелеянізуючы, да старой вярбы.



Пераклад з нямецкай Арцёма Арашонка.

## Лі Хэ (790—816)

# У дванаццатым месяцы

### Песня начальніка акругі Яньмэнь[1]

Хмары чорныя горад ціснуць,
Хутка горад зусім задушаць.
Яркай лускаю латы бліснуць
І да горада шпарка рушаць.

Цэлы дзень гукі рога поўняць
Неба восені хуткай плынню.
На заставе яньджы[2] застыла
Нерухомай начною сінню.

Напаўспушчаны сцяг чырвоны,
Да Ішуй[3] падыходзім, дружа.
Шэрань густа зямлю ахутаў,
Барабан увесь асіп ад сцюжы.

Хуанцзіньтай[4] мае сэрца помніць,
Той давер да мяне не сцерці.
Дракон з яшмы[5] мяне бароніць,
Буду верны да самай смерці.

[1] *Яньмэнь* — мясцовасць у павеце Дайсянь правінцыі Шаньсі, адна з дзевяці памежных застаў на паўночнай мяжы старажытнага Кітая.
[2] *Яньджы* — расліна, з чырвоных кветак якой выраблялі румяны.
[3] *Ішуй* - мясцовасць у павеце Ісянь правінцыі Хэбэй.
[4] *Хуанцзіньтай* — вежа з залатым дахам у павеце Ісянь правінцыі Хэбэй, пабудаваная ў эпоху Варожых княстваў Яньскім князем Джао Ванам (кіраваў з 311 г. па 279 г. да н. э.), які набіраў там на службу самых таленавітых людзей.
[5] *Дракон з яшмы* — меч.

### Бамбук

Ледзь-ледзь трымцяць святлом зіхоткім хвалі,
Пагойдваюць зялёныя абрысы,
Бамбука стромкага прамыя рысы
Ажно да неба сіняга дасталі.

Бамбук раней за ўсіх вясной
Фарбуе ўсё ў зялёныя адценні.
У парасткаў бамбука атачэнні
Сцяжынка вузкая блішчыць расой.
І можа прыгажуня сцерці пот
З бамбука туга сплеценай цыноўкай,
Спатрэбіцца для рыбнай лоўлі бойкай
З бамбука вырублены моцны шост.

Калі раней служылі пры палацы,
Саньлян[1] абавязкова надзявалі,
Стралу з каленца ўмела выраблялі,
Дарылі княжычу як знак адданай працы.

[1] *Саньлян* — галаўны ўбор арыстакратыі, які вырабляўся з бамбука.

## Пішу за[1] Лю Юнем[2]

Белы квецень[3] у вадзе ракі Цінджоў[4],
На кані Лю Юнь вяртаецца здалёк,
Водар айвы па-над берагам пайшоў,
Лёгка ўецца над ракою матылёк.

Гукі цыня[5] паліліся у пакой,
Келіх поўніцца бамбукавым вінoм[6],
Знатны церам збудаваны над ракой,
Пара рыбак над пясчаным цёплым дном.

[1] *Пішу за…* — жанр вершаў, якія ствараліся па матывах верша іншага паэта. Верш «Пішу за Лю Юнем» напісаны па матывах верша Лю Юня «На мелодыю Цзяннань».
[2] ***Лю Юнь (465—517)*** — літаратар і чыноўнік часоў Паўднёвых дынастый.
[3] ***Белы квецень*** — белыя кветкі раскі.
[4] ***Цінджоў*** — мясцовасць у павеце Усін правінцыі Джэцзян.
[5] ***Цынь*** — старажытная кітайская цытра, згодна з легендай, першы цынь з'явіўся пры заснавальніку кітайскай цывілізацыі Фу Сі, меў пяць струн (сімвал пяці стыхій), квадратны ніз і акруглы верх (сімвал Зямлі і Неба), вялікія струны, якія сімвалізавалі голас кіраўніка, і малыя струны, якія сімвалізавалі голас народа, цудоўная музыка магла нарадзіцца толькі пры гармоніі гучання вялікіх і малых струн.
[6] ***Бамбукавае віно*** — сорт добрага віна, якое выраблялі ў правінцыі Джэцзян.

## З цыкла «Коні» (верш 2-гі)

У дванаццатым месяцы[1]
Смачныя траў карані,
Дый карэнне даўно
Пазанесена снежным пластом.

Хіба час разважаць,
Што цвярдзей, што мякчэй, зараз дні,
Калі мушу я голад
Прыглушваць калючым кустом[2].

[1] ***Дванаццаты месяц*** — дванаццаты месяц па месяцовым календары.
[2] ***Калючы куст*** — звязкі калючых кустоў (для абароны лагера ад нападу).

## Песня тугі
## (напісана пад гарою Хуашань[1])

Сохне зямля ў ветрам скутым палоне,
Летнія травы счарнелі,
Горы Хуашань у сцюдзёным сутонні
Высяцца яшмавым ценем.

Мне дваццаць першы спаўняецца год,
Што ж у жыцці ўсё няўдала?
Толькі пакутаў адных карагод,
Бы ў архідэі завялай.

Вопратка — як у худой перапёлкі,
Конь — як схуднелы сабака,
Камень ля сцежкі ўдарыў я звонка,
Меч застагнаў, небарака.

Бачу — карчма, злез з каня, увайшоў,
Скінуў старую цсюі[2],
Чайнік віна, што з Іяна[3], прашу,
Мне — у крэдыт — налі.

Неба заву я, дапіўшы віно,
Хмары вось толькі не зрушаць,
Весь белы свет захінулі даўно,
Дзе б я ні быў, усюды душаць.

Чую параду ад гаспадара:
«Больш Вы сябе беражыце,
Нельга дазволіць пустой мітусні
Сэрца сваё зацямніць».

[1] *Хуашань* — горы Хуашань у павеце Хуа'іньсянь правінцыі Шэньсі.
[2] *Цсюі* — вопратка, якую носяць увосень.
[3] *Іян* — павет, адкуль родам Лі Хэ.

## Балада нябёсаў

У кругазваротах Нябеснай ракі
Кружыць ноччу зорная безліч,
На Срэбраным беразе, як астраўкі,
Аблокі пяюць ціха песні.

Карычныя дрэвы яшчэ ўсё цвітуць
У светлым палацы яшмовым[1],
Іх водар прыслужніцы-феі бяруць,
На поясе носяць шаўковым.

Цсінь Фэй[3] падымае фіранку, глядзіць,
Паўночны край неба ўжо светлы,
А перад акном на паўлоўніі[3] спіць
Малы сіні фенікс заветны.

Умее сын джоўскага князя[4] так граць
На доўгім бамбукавым шэне[5],
Каб склікаць драконаў і дым узараць,
Цудоўную яо[6] пасеяць.

Там феі ў бялюткіх спадніцах плятуць
На досвітку пояс ружовы,
А потым збіраць архідэі ідуць
На яркі пагорак вясновы.

На ўсходзе Сі Хэ[7] хутка мчыць на кані,
Імкліва плывуць часу хвалі,
У мора сышлі пылам гор камяні,
І зноў з пылу горы паўсталі.

[1] *Яшмавы палац* — Месяц.
[2] *Цсінь Фэй* — наложніца цсіньскага князя Му Гуна (659—621 гг. да н. э.).
[3] *Паўлоўнія (тунгавае дрэва)* — дрэва, на якім, згодна з паданнем, жыве фенікс.
[4] *Сын князя* — сын джоўскага князя Лін Вана, які вельмі любіў граць на шэне, нарэшце пераўтварыўся ў сяня (бессмяротнага).
[5] *Шэн* — губны арган, адзін з найбольш старажытных духавых музычных інструментаў.
[6] *Яо* — цудадзейная трава неўміручасці і прыгажосці.
[7] *Сі Хэ* — багіня, што возіць па небе сонца ў калясніцы.

***Пераклад з кітайскай Алены Раманоўскай.***

# Максім Багдановіч — Лі Хэ

## Прадмова

Перад вамі, шаноўныя чытачы, даволі дзёрзкая спроба параўнаць спадчыну двух творцаў — кітайскага паэта Лі Хэ і Максіма Багдановіча.

Чаму дзёрзкая? Ды хоць бы таму, што паміж імі непераадольная адлегласць як у часе, так і прасторы. Верагодна, самі героі наступнага матэрыялу здзівіліся б такой спробе. Аднак некаторыя неабыякавыя да літаратуры людзі адгукнуліся на наш выклік і параўнанне здзейснілі. Выпадковасцю ёсць выяўленыя падабенствы ці не — вырашаць вам.

Імя Лі Хэ большасці беларусаў, на жаль, не вядомае. Пагадзіцеся, спасцігаць новае, дагэтуль нязнанае, лягчэй і прыемней, калі знаходзіш у ім нешта сваё, роднае… Таму сэнс у нашай дзёрзкай спробе ёсць. Хаця б у тым, каб наблізіць да вас творчасць экзатычнага Лі Хэ. Ну, і лішні раз узгадаць нашага нябеснага Максіма, ды яшчэ ў снежні, таксама не пашкодзіць...

*Тамара Мінютка*

## Параўнанне першае. Ад Канстанціна Касяка
## Адзінота ў вялікім горадзе

Калі мне прапанавалі параўнаць паэзію нашага Максіма Багдановіча і кітайскага паэта канца VIII — пачатку IX стагоддзя Лі Хэ, я крыху разгубіўся. На першы погляд падалося, што паміж імі непераадольная прорва ў часе, прасторы і культуры, а ўсё, што іх аб'ядноўвае, — гэта кароткі жыццёвы век. Максім Багдановіч, як мы ведаем, пражыў 25, а Лі Хэ памёр ва ўзросце 26 гадоў. Абодва пайшлі з жыцця праз слабое здароўе.

Насамрэч, у іх шмат агульнага. Калі я чытаў пераклады Лі Хэ на беларускую мову, згадалася гутарка з адным маім сябрам, які ўжо колькі год прафесійна займаецца археалогіяй і даследуе даўніх продкаў сучасных беларусаў. Неяк падчас адной са спрэчак на гістарычную тэму мой сябра выказаў думку, што людзі не мяняюцца і ў нас вельмі шмат агульнага з насельнікамі мінулага. Расчытваючы кітайскую паэзію пачатку IX стагоддзя і параўноўваючы яе з беларускай пачатку XX стагоддзя, нельга не пагадзіцца з гэтай думкай.

Маладых людзей ва ўсе вякі хвалявалі адны і тыя ж рэчы: каханне, прыгажосць, прырода і грамадства. І заўжды пакуль малады, пакуль яшчэ не паспеў абрасці тоўстай скурай, тонка адчуваеш навакольны свет. Увесь час здаецца, што ты адзін у гэтым вялікім свеце. І пачуццё гэтае можа ўзмацняцца вонкавымі фактарамі, напрыклад, знаходжаннем у вялікім горадзе, сярод агромністага натоўпу людзей, якім няма да цябе аніякай справы. Вось Лі Хэ распавядае нам у сваім вершы «Сталіца» акурат пра такія пачуцці, якія ўзніклі ў галоўным кітайскім горадзе яго часу:

Калі я з дому выязджаў,
Зрабіць так многа важных спраў
Я меў ахвоту,
Хутчэй за вецер я скакаў,
А у Чан'ані адшукаў адну самоту.

Як гэта мне асэнсаваць,
Каму аб гэтым расказаць
У цэлым свеце?
Я вершы буду зноў складаць
І сам сабе услых чытаць
Пра стылы вецер.

Адзінокім пачуваўся ў вялікім горадзе і Максім Багдановіч. У адным са сваіх вершаў ён вельмі трапна перадае гэтае адчуванне, якое перажыў падчас сваёй вандроўкі ў Вільню ў 1911 годзе. Як вядома, на пачатку XX стагоддзя менавіта гэты горад быў палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам для народаў колішняга Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку і беларускага народа. Але звернемся да верша:

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людскі скрозь заліў паясы тратуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць,
Коні мчацца, трамваі трывожна зьвіняць...
І гарадь аганьком вочы змучаных твараў!

А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх, старасьвецкіх будынкаў;
Між каменьнямі — мох і сьцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыфэрблат — пільны сьведка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сьняць
Ў небе купалы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай здалёку чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Ўспамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загаду бурмістра усе, як належа,
Зачынілі ўжо вокны; загасілі агні...
Варта вулкай прайшла... І ня сьпім мы адны —
Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

Паралеляў можна знайсці шмат. Маладыя людзі хварэюць на абвостранае ўспрыманне рэчаіснасці. У маладосці здаецца, што цябе не заўважаюць, табою грэбуюць, у дачыненні менавіта да цябе ўвесь час адбываецца несправядлівасць. І зразумела, што пра свае перажыванні хочацца распавесці, ды не проста сказаць, а паспрабаваць змяніць гэты свет, зрабіць яго праз паэзію крышачку лепшым.

Мне падаецца, што найбольш важнае ў літаратурнай спадчыне абодвух паэтаў — гэта колькасць пакінутых твораў. За свае 26 гадоў Лі Хэ напісаў 241 верш, пакінуўшы яркі ўзор кітайскай паэзіі. Наш Максім за свае 25 гадоў паспеў выдаць адзін зборнік вершаў і пакінуць вялікую колькасць зацемак, перакладаў, абразкоў, крытычных артыкулаў, якія разам утвараюць груваскі том. Выходзіць, што галоўнае — не колькасць пражытых гадоў, а іх якасць. Можна і за адносна невялікі адрэзак часу зрабіць шмат карыснага, упісаць сябе ў гісторыю назаўжды. Зрэшты, мажліва, што вершы — адны з самых вечных рэчаў у свеце. Бо час мінае, а мы застаёмся. Праз іх.

## Параўнанне другое. Ад Маргарыты Латышкевіч
## Васілёк і Лотаць

…цыкады пяюць. Цягнуць і цягнуць сваю спрадвечную песеньку. Спякотны дзень надзейна адсечаны, адагнаны шырмамі, і ў пакоі пануе ўтульная штучная ноч. Лямпа свеціць цьмяна, водбліскі павольна плывуць па сценах, па спісаных паперах, па шаўковых рукавах гаспадара і па твары служкі. Пахне — востра і непрыемна, нягхораша — лекамі. Гэты пах пасяліўся тут даўно, разам з гаспадаром, і не спяшаецца сыходзіць, і трывожыць, і не дае спакою.

Служка з Ба — зусім яшчэ хлопчык — не зводзіць з гаспадара цікаўных вачэй. Нават дыхае цераз раз. Слухае ўважліва, старанна. Словы разбураюць душную цішыню, падаюць, нанізваюцца адно на адным, быццам каралі местачковых прыгажунь, быццам кроплі расы на трапяткія ніці павуціння. Гаспадар, нахмурыўшы густыя чорныя бровы, чытае вершы-юэфу, так сумна і так напеўна. Зрэдку перарываецца, каб адкашляцца, кашляе суха, прыкрываючы хусткаю вусны. Служка ў гэты час цярпліва чакае, сядзіць ціха, баючыся зварухнуцца. Падаецца, быццам усё застыла ў гармоніі, у далікатнай раўнавазе. І мляўкая спёка, і святло лямпы, што балансуе на паперы, і словы, на якія да болю выразна адгукаецца нешта ўнутры.

*У кругазваротах Нябеснай ракі*
*Кружыць ноччу зорная безліч,*
*На Срэбраным беразе, як астраўкі,*
*Аблокі пяюць ціха песні.*

Маленькі служка слухае і не ведае — ды і, канечне, ведаць не можа, — што праз некалькі стагоддзяў у падобным пакоі, поўным кніг і запісаў, іншы гаспадар-кніжнік, з каштанавымі валасамі, нібы адгукнецца, нязмушана падтрымліваючы размову:

*Бачыце гэтыя буйныя зоркі,*
*Ясныя зоркі Геркулеса?*
*Да іх ляціць нашае сонца,*
*І нясецца за сонцам зямля.*

Два вытанчаныя кніжнікі, зачараваныя зорамі, поўныя светлым, пранізлівым сумам, здольныя тонка адчуваць свет вакол сябе, здольныя гэты свет прапускаць праз сябе — і расквечваць фарбамі жывой, трапяткой душы. Падзеленыя часам і прасторай, але ж бясконца далёкія.

Увогуле, падарожнікі, што падзяляюць адну няпростую дарогу, чужымі быць не могуць.

А ўсе мы, як вядома, — усяго толькі «*папутнікі сярод нябёс*», «*і праз горыч сумесна мы крочым*».

***

Лёсы часам складаюцца дзіўна, а розныя зоркі ззяюць па-рознаму. Адна ледзь ліпее, затое тры-

вала і доўга, трымаецца за свой кавалачак неба ўчэпіста, моцна. Іншая разыдзецца, разгарыцца, успыхне, прарэжа ноч ззяйкім святлом — і не ўтрымаецца, паляціць долу, цягнучы за сабою доўгі агністы шлейф.

Першых болей. Здзіўляюць і прымушаюць задумацца пра вечнасць, пра Сусвет — другія.

Два падарожнікі, Максім Багдановіч і Лі Хэ, якраз з тых, другіх. Успыхнулі, прапаролі цемру, здзівілі, апяклі агнём, іскры ад якога і дасюль яшчэ жывуць, яшчэ грэюць, яшчэ свецяць. І рана сышлі, быццам бы самі ў сваім агні згарэлі.

Два падарожнікі — з Захаду і Усходу — дзіўную маглі б весці гаворку, калі б давялося ім сустрэцца. У абодвух уважлівы паэтычны зрок, здольны не проста ўхапіць самую дробную праяву навакольнага свету, але і прымусіць схопленае імгненне заквітнець у вершы, здольны падарыць імгненню — вечнасць.

Багдановічаў імклівы матылёк быццам жыве, быццам б'е крыльцамі, чапляючы залатыя сонцавы струны:

*Па-над белым пухам вішняў,*
*Быццам сіні аганёк,*
*Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*

Ці не сам паэтычны радок гэта, які набыў сваё жывое сінякрылае ўвасабленне? Увесь верш — гэта сапраўдны гімн вясне, гімн жыццю, хай і хуткаплыннаму, ува ўсіх яго праявах. Гімн паэзіі, жыццятворнай і вечнай.

Гэтак жа напеўна і радасна (бо музыка — перш за ўсё) шле свайго матылька насустрач кветкам і сонцу Лі Хэ:

*Белая квецень у вадзе ракі Цінджоў,*
*На кані Лю Юнь вяртаецца здалёк,*
*Водар айвы па-над берагам пайшоў,*
*Лёгка ўецца над ракою матылёк.*

У кожным пейзажы, у кожнай дэталі — свая эмоцыя, перажыванне. Увогуле, паэзія — творчасць надзвычай эмацыянальная. Кожны верш, мяркую, пачынаецца з пачуцця, і для таго, каб разумець (ці, як кажуць, *адчуваць*) паэзію, неабходна прыкладаць нямала душэўных сіл. Верш — заўсёдная размова, сутворчасць, судакрананне дзвюх душ. З гэтай прычыны, відаць, паэт больш востра адчувае адзіноту.

*Як гэта мне асэнсаваць,*
*Каму аб гэтым расказаць*
*У цэлым свеце?*
*Я вершы буду зноў складаць*
*І сам сабе услых чытаць*
*Пра стылы вецер.*

Так са скрухаю піша Лі Хэ, які, нягледзячы на бліскучы талент, заставаўся як бы па-за межамі разумення сучаснікаў, цярпеў нястачы не толькі матэрыяльныя, але і духоўныя. Падобным жа чынам разважае і Багдановіч, лёс якога таксама быў няпросты:

Песня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны свет.
Але хто яе пачуе?
Мoжа, толькі сам паэт.

У гэтым парадокс і трагедыя: каб зразумець і адчуць паэзію, падзяліць з аўтарам верша яго пачуццё, трэба самому валодаць тонкім слыхам і чуйнай душой. «…*Кожны з вас — паэт*», заўважае Багдановіч у адным з санетаў.

І Максім Багдановіч, і Лі Хэ, надзеленыя надзвычайна абвостраным адчуваннем і свету, і паэтычнага радка, менавіта праз гэта быццам аддзеленыя ад свайго атачэння. Быццам бы асуджаныя на адзіноту. Багдановічаў Страцім-лебедзь, «горды, моцны птах», самім фактам сваёй выключнасці адасоблены ад іншых, — вобраз знакавы і ўва многім ключавы для разумення яго паэтычнай спадчыны. Для Лі Хэ падобным жа знакавым вобразам з'яўляецца вобраз каня, абраны ім, верагодна, таму, што сам паэт нарадзіўся ў год Каня:

*Скрозь празрыстую восень калі наталюся я бегам,*
*Залатую аброць адчуваючы гордым ілбом?*

Як вядома, Лі Хэ ўражваў сваіх сучаснікаў (ды і нашых таксама) сваёй спецыфічнай сімволікай. Яго нават называлі «дэманам ад паэзіі», настолькі нечаканымі, непрадказальнымі былі яго мастацкія хады. З іншага боку, Лі Хэ, як і Максім Багдановіч, дзіця сваёй культуры, сваёй літаратуры і фальклору. Абодва — кніжнікі, надзеленыя ад прыро-

ды вострым розумам, і таму здольныя звыклае і вядомае рабіць нязвыклым і неспазнаным. Так Багдановіч тонка пераймае народныя беларускія матывы ў мелодыцы верша, у вобразнасці — але з лёгкасцю перайначвае іх па-свойму, утварае з іх выкарыстаннем уласныя, стылёва адметныя. Багдановічавы васількі з «Апокрыфа» ці «Слуцкіх ткачых» — гэта сапраўдны нацыянальны сімвал, які нарадзіўся з фальклорнага *«няма лепш цвяточка над васілёчка»* і дзякуючы Багдановічу ўзрос і пусціў карэнне ў літаратуру:

*— Добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?*

Як і Лі Хэ, Багдановіч быў наватарам — не толькі ў плане вобразнасці, але і адносна літаратурных формаў, далучаючы нацыянальную літаратуру да агульнаеўрапейскага кантэксту. Дзіўна прагучыць, але, паводле сведчанняў некаторых даследчыкаў (у прыватнасці, Франсуа Жульена), менавіта дзякуючы еўрапейскаму рамантызму ў Кітаі зноў узнікла цікаўнасць да твораў Лі Хэ — нязвыклых, адметных, рамантычных. Лірычны герой Лі Хэ сапраўды ўва многім падобны да рамантычных герояў: тут і расчараванасць у жыцці, і адчуванне адзіноты, і жыццё ў самоце. Сам Лі Хэ, аўтар, асоба, у значнай ступені «рамантызаваўся» яшчэ пры жыцці: напрыклад, існуе легенда, быццам бы паэт штодзень выязджаў на конную прагулку і браў з сабою служку з вялікай торбай. Калі да Лі Хэ прыходзілі радкі, ён хутка занатоўваў іх на палосах паперы і кідаў у торбу. Увечары, вярнуўшыся дамоў, ён нібыта выцягваў спісаныя паперкі па адной і складаў з такіх асобных радкоў цэлыя творы.

Вобразы класікаў заўжды ахвотна рамантызуюць, утвараючы вакол іх арэол бліскучай недасяжнасці. А між тым, абодва — і Багдановіч, і Лі Хэ — так шчыра жадалі быць побач з чытачом, сэрца да сэрца. Жадалі быць пачутымі.

Кідалі агністыя словы праз гады і стагоддзі, праз час.

Апошні, вядома, бяжыць, хуткаплыніць, і свет бясконца змяняецца:

*…імклівa плывуць часу хвалі,*
*У мора сышлі пылам гор камяні,*
*І зноў з пылу горы паўсталі.*

Але жывыя, поўныя сілы галасы застаюцца, як і жадалі калісь, побач з намі.

Побач — два падарожнікі, два кніжнікі, два класікі. Захад і Усход.

Васілёк і Лотаць.

***У нарысах працытаваны вершы***
***Лі Хэ ў перакладзе Алены Раманоўскай.***

## Кампетэнтна ад Алеся Дуброўскага Параўнанне ў літаратуразнаўстве

Метад параўнання ў літаратуразнаўстве вядомы як кампаратывістыка. Яе галіна — супастаўляльнае вывучэнне з’яў, якія належаць да розных літаратур. Такімі з’явамі могуць быць асобныя творы, творчасць асобных пісьменнікаў, літаратурныя напрамкі, жанры, стылі і г. д.

Можна казаць пра розныя кірункі кампаратывісцкіх даследаванняў, якія вылучаюцца ў залежнасці ад таго, што з’яўляецца фактарам падабенства тых ці іншых літаратурных з’яў. У адным выпадку такім фактарам будзе непасрэдны кантакт, у другім — так званыя стадыяльныя аналогіі, не звязаныя з кантактамі літаратур, у трэцім — сітуацыя інтэртэкстуальнасці. У сувязі з гэтым можна вылучыць наступныя традыцыі ў супастаўляльным літаратуразнаўстве.

Па-першае, могуць даследавацца падабенствы, якія ўзнікаюць як вынік непасрэднага кантакту, маюць генетычнае паходжанне [2, с. 84—90]. Як можа рэалізоўвацца такі кантакт? Гэта можа быць асабістае знаёмства пісьменнікаў, уплыў больш развітой літаратуры на менш развітую [1, с. 201], уплыў вялікіх аўтараў мінулага на сучасных пісьменнікаў і г. д. У выніку адпаведных кантактаў узнікаюць тыя ці іншыя формы рэцэпцыі: арыгінальны мастацкі твор, напісаны з апорай на літаратурны ўзор, стылізацыя, цытаванне, алюзіі, адаптацыя. Тэкстуальныя сувязі праяўляюцца і ў пародыях, намёках, у выкарыстанні эпіграфаў. Пры даследаванні тых ці іншых падобных з’яў улічваюцца суадносіны жанраў, спосаб аповеду, кампазіцыя, сістэма персанажаў, тэматыка, матыўная структура. Аналізуюцца і так званыя мікраэлементы чужога стылю, падобныя тыпы канфлікту і інш. Але трэба памятаць пра тое, што

літаратурныя з’явы характарызуюцца прынцыповай полігенетычнасцю, узыходзяць да мноства розных крыніц. Таму знойдзенае падабенства нельга абсалютызаваць. Акрамя таго, бясспрэчна, трэба даказаць сам факт кантакту: напрыклад, адзін пісьменнік сапраўды павінен быў чытаць творы другога і да т. п. Тут гаворка павінна весціся і пра веданне аўтарамі замежных моў, і пра наяўнасць перакладаў, і пра вывучэнне біяграфіі пісьменніка.

Другі кірунак кампаратывісцкіх даследаванняў — тыпалагічны [2, с. 90—91]. Ён задзейнічаны тады, калі падабенства ўзнікае без кантакту. Аналагічныя з’явы самаўзнікаюць незалежна адна ад адной. У гэтым разе тыя ці іншыя рысы падабенства ўзыходзяць да агульнай ідэалогіі эпохі, тлумачацца агульным тыпам мастацкай свядомасці. Відавочна, што тыпалагічнае супастаўленне мае сэнс тады, калі гэты агульны падмурак сапраўды ёсць. Таксама кажуць пра тое, што факты літаратуры, якія параўноўваюцца, не могуць быць моцна аддалены адзін ад аднаго ці ў часе, ці ў прасторы. Прасторавая аддаленасць не будзе «вялікай праблемай» толькі тады, калі гаворка ідзе пра адну эпоху, адну стадыю гістарычнага развіцця розных нацыянальных літаратур.

Разам з тым кампаратывісцкае даследаванне можа ўяўляць сабою адначасовае вывучэнне і генетычных, і тыпалагічных сувязей. А часам вучоныя могуць знайсці агульную крыніцу для самых розных літаратурных феноменаў, якія на першы погляд паміж сабою нічога агульнага не маюць.

Інтэртэкстуальны падыход знаходзіцца крыху адасоблена ад двух разгледжаных вышэй. Ён імкнецца ахапіць усе тэксты, якія «скандэнсаваны» ў дадзеным. «Пры гэтым тэкст разглядаецца як «палімпсэст», гэта значыць размова з усімі іншымі тэкстамі, з якімі… аўтар і тэкст судакраналіся на працягу свайго жыцця» [2, с. 91]. Інтэртэкстуальныя даследаванні зараз папулярныя, але сама праблема адэкватнасці супастаўлення ў святле інтэртэкстуальнасці застаецца не да канца вырашанай.

Для далейшага паглыблення ў кампаратывістыку можна парэкамендаваць перакладзеную на беларускую мову кнігу П. Брунэля, К. Пішуа і А.-М. Русо «Што такое параўнальнае літаратуразнаўства?».

1. Борев, Ю. Б. Эстетика. Теория литературы :энцикл. словарь терминов / Ю. Б. Борев. — М.: ООО «Изд-во Астрель»: ООО «Изд-во АСТ», 2003. — 575 с.

2. Зинченко, В. Г. Методы изучения литературы. Системный подход: учеб. пособие / В. Г. Зинченко, В. Г. Зусман, З. И. Кирнозе. — М.: Флинта: Наука, 2002. — 200 с.







## Мікалай Хмяльніцкі: «Фірменна» і пастаянна»

**На пытанні «Маладосці» пра тое, як развіваецца кітаістыка на вядучым філфаку краіны, адказвае кандыдат філалагічных навук Мікалай Хмяльніцкі, загадчык кафедры кітайскай філалогіі БДУ, дацэнт. Пытанні задавала Святлана Дзянісава.**

**— Якія пераўтварэнні перажыла «кітаістыка» на філфаку БДУ за апошнія тры гады — ад часу папярэдняй сустрэчы з часопісам «Маладосць»?**

— Я хацеў бы падзякаваць рэдакцыі часопіса «Маладосць» за такую пастаянную ўвагу да кітаістыкі на нашым факультэце — дынамічным накірунаку айчыннай лінгвістычнай і літаратуразнаўчай навукі. Сапраўды, за гэты невялікі прамежак часу кафедра кітайскай філалогіі арганізавала і правяла шэраг мерапрыемстваў, якія адпавядаюць сучаснаму ўзроўню развіцця гуманітарных ведаў, адукацыйным стандартам, дэманструюць нашы магчымасці і жаданне весці полікультурны дыялог. З'яваю рэспубліканскага значэння стаў выхад у свет вучэбных дапаможнікаў па кітайскай мове для сярэдняй школы, а таксама кнігі супрацоўнікаў кафедры («Лінгвакультуралагічныя сродкі стварэння вобраза Кітая» Вэй Вэй і «Асновы іерагліфічнага пісьма. Кітайская мова» Малатковай Ю. В.). Як і раней, нашы студэнты прымаюць актыўны ўдзел у розных конкурсах, мерапрыемствах пад эгідай Пасольства КНР у Рэспубліцы Беларусь. Не магу не прыгадаць і той факт, што на філалагічным факультэце БДУ стала традыцыйным правядзенне Рэспубліканскага конкурсу мастацкага чытання на кітайскай мове сярод студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі Рэспублікі Беларусь. Стала «фірменным» і пастаянным яшчэ адно мерапрыемства — пасяджэнні навуковага «круглага стала» «Беларуска-кітайскі культурны дыялог», у рабоце якога прымаюць актыўны ўдзел навукоўцы, выкладчыкі, культуролагі, рэдактары газет і часопісаў, перакладчыкі з Беларусі і Кітая, сакратары пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі. Як станоўчы прыклад можна прывесці фармат «вебінару» гэтага мерапрыемства сёлета паміж філалагічным факультэтам БДУ і Далянскім універсітэтам тэхналогій. Правядзенне такіх «круглых сталоў» садзейнічае папулярызацыі кітайскай мовы, літаратуры і культуры ў Беларусі, а таксама спрые партнёрскім сувязям у галіне навукі і адукацыі. Пацверджаннем гэтаму з'яўляюцца два выпускі зборніка навуковых артыкулаў «Беларуска-кітайскі культурны дыялог: гісторыя, сучасны стан і перспектывы», некалькі экзэмпляраў якога былі перададзены фондам Лейпцыгскай кніжнай біржы.

**— Што вы можаце расказаць пра магчымы ўдзел кафедры кітайскай філалогіі ў міжнародным праекце КНР «Адзін пояс, адзін шлях»?**

— Шматлікія навукоўцы і эксперты выказваюць меркаванні, што XXI стагоддзе будзе стагоддзем Азіі, а Кітай стане лідарам па многіх пазіцыях. Старажытнакітайскі філосаф-мудрэц Лао-Цзы некалі сказаў: «Вялікія справы ў Паднябеснай абавязкова пачынаюцца з малых, мяккае і кволае перамагае цвёрдае і моцнае. У Паднябеснай няма нічога мякчэй і слабей за ваду, яна падае на цвёрдае і моцнае, і ніхто не можа яе перамагчы». Для Кітая на сённяшнім этапе асабліва актуальнай і надзённай становіцца задача рэалізацыі амбіцыйнага стратэгічнага праекта «Адзін пояс, адзін шлях», які адлюстроўвае імкненне кітайскага народа да эканамічнага супрацоўніцтва і культурнага дыялогу з іншымі краінамі і ў арбіту якога таксама ўваходзіць і Рэспубліка Беларусь. Гэта дазволіць аптымізаваць навуковую і акадэмічную мабільнасць паміж Кітаем і Беларуссю, зробіць больш эфектыўным

Мікалай Хмяльніцкі

адукацыйны калідор у фармаце гэтай канцэпцыі. Пры кафедры кітайскай філалогіі створаны Цэнтр беларуска-кітайскай міжкультурнай камунікацыі, задачамі якога з'яўляюцца даследаванне беларуска-кітайскіх моўных і літаратурных узаемасувязей, арганізацыя і правядзенне міжнародных канферэнцый і семінараў, сумесная падрыхтоўка і публікацыя вучэбных і навуковых матэрыялаў, правядзенне культурных мерапрыемстваў, пераклады з кітайскай на беларускую і з беларускай на кітайскую мовы твораў літаратуры Кітая і Беларусі (нізку перакладаў, выкананых супрацоўнікамі і студэнтамі кафедры, маем гонар прэзентаваць шаноўным чытачам «Маладосці»). У склад Цэнтра ўваходзяць супрацоўнікі розных устаноў адукацыі нашай краіны, студэнты, вучні і слухачы курсаў, якія вывучаюць кітайскую мову. Таксама адзначу, што Цэнтр беларуска-кітайскай міжкультурнай камунікацыі плённа супрацоўнічае з падобнай структурай Далянскага ўніверсітэта тэхналогій.

**— Чым вылучаюцца працы студэнтаў?**

— Філалогія з'яўляецца вельмі важным кампанентам у адукацыйнай парадыгме, а таксама ў галіне культурнай дыпламатыі Кітая і Беларусі. Зараз на спецыяльнасці «Усходняя (кітайская) філалогія» навучаецца больш за сто айчынных студэнтаў. Адукацыйны працэс накіраваны на фарміраванне акадэмічных, сацыяльна-асобасных і прафесійных кампетэнцый будучага філолага, выкладчыка кітайскай мовы і літаратуры. У рэфератах, курсавых і дыпломных работах нашых студэнтаў даследуюцца актуальныя праблемы выкладання кітайскай мовы і літаратуры, пытанні гісторыі і традыцыйнай культуры Кітая, кітайска-ўсходнеславянскія моўныя і літаратурныя сувязі. Адзначу яшчэ адну важную задачу, якую выкладчыкі кафедры імкнуцца рэалізаваць: падрыхтоўка і выхаванне студэнта-сінолага з выразным «беларускім акцэнтам», бо на сучасным этапе айчынная мовазнаўчая і літаратуразнаўчая кітаістыка (у чым ёсць і немалая заслуга супрацоўнікаў філалагічнага факультэта БДУ) мае пэўныя дасягненні ў справе даследавання нацыянальна адметнага, спецыфічнага і ўніверсальнага, міжкультурных камунікацый, стварэння навучальнага комплексу па сіналогіі.

**— Раскажыце пра вобласць інтарэсаў аспірантаў і магістрантаў. Якое прымяненне знаходзіцца практычным вынікам працы?**

— Навукова-даследчыя намаганні магістрантаў і аспірантаў знаходзяць увасабленне ў выпускных кваліфікацыйных работах, тэматыка і метадалогія даследавання якіх адпавядае самым сучасным адукацыйным і навуковым патрабаванням, выступленнях на канферэнцыях і семінарах, друкаваных працах. На сённяшні дзень бясспрэчную прыярытэтнасць набывае даследаванне маладымі навукоўцамі праблем прысутнасці і функцыянавання кітайскай літаратуры ў Беларусі і адпаведна беларускай — у культурнай прасторы Кітая, параўнальна-тыпалагічны аналіз асобных твораў і творчых індывідуальнасцей. Хацеў бы прыгадаць і адносна новую форму міжуніверсітэцкага супрацоўніцтва і рэалізацыі міжнароднай мабільнасці навуковых кадраў — гэта сумеснае навуковае кіраўніцтва дыпломнымі работамі, магістарскімі і кандыдацкімі дысертацыямі спецыялістамі з Беларусі і Кітая. Такая форма працы, якая дазваляе студэнту/магістранту/аспіранту працаваць пад кіраўніцтвам двух спецыялістаў — экспертаў у розных навуковых галінах, на сучасным этапе з'яўляецца важным фактарам павышэння якасці кваліфікацыйных прац і іх практыка-арыентаванай скіраванасці. Упэўнены, што такі падыход дазволіць сфарміраваць і выхаваць пакаленне навукоўцаў, падрыхтаванае да жыцця і працы ў міжнароднай інфармацыйна-гуманітарнай прасторы Юлія Малаткова бліскуча абараніла ў 2014 годзе кандыдацкую дысертацыю, якая з'яўляецца першай навуковай працай па такім профілі. Яна атрымала станоўчыя водгукі з устаноў адукацыі многіх краін свету, у тым ліку і ад кітайскіх калег.

**— Якія праблемы ў вашай сферы дзейнасці існуюць і што дапамагло б іх вырашыць?**

— Праблемы існуюць для таго, каб іх вырашаць. Пытанняў глабальнага характару няма, бо кіраўніцтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, філалагічнага факультэта пры падтрымцы Міністэрства адукацыі і іншых дзяржаўных структур, Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі паспяхова іх вырашаюць, што, безумоўна, спрыяе станаўленню і развіццю кітаістыкі ў нашай краіне. Праўда, як загадчык кафедры, маю пажаданне, каб у аўдыторыі са студэнтамі працавала больш высокапрафесійных, матываваных і творчых выкладчыкаў.



## Сюй Чжымо (1897—1931)

**Кітайскі паэт і празаік першай паловы XX стагоддзя. Нарадзіўся ў горадзе Хайнін правінцыі Чжэцзян. Пасля заканчэння Пекінскага ўніверсітэта пераехаў у ЗША, дзе прадоўжыў навучанне па спецыяльнасці «Банкаўская справа». У 1921 годзе стаў аспірантам Кембрыджскага ўніверсітэта, але праз два гады вярнуўся ў Кітай. У 1923-м заснаваў паэтычную суполку («Маладзік»), з 1924-га — прафесар Пекінскага ўніверсітэта. Загінуў у авіякатастрофе. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, цыклаў эсэ і апавяданняў. На творчасць аказалі ўплыў Томас Хардзі, Алджэрнан Суінберн, Дантэ Расецці.**

Над перакладамі вершаў Сюй Чжымо працавалі студэнты і магістранты.

# Адзінае, ува што апрануты сусвет

### Я чакаю цябе

Я чакаю цябе.
Я гляджу ў прыцемкі за вокнамі,
Быццам гляджу ў будучыню,
І стук майго сэрца аглушае мяне.
Чаму ты не йдзеш? Чакаю,
А кожную хвілю могуць распусціцца кветкі.
Я чакаю твае крокі,
Твой смех, твой твар,
Твае мяккія валасы,
Чакаю цябе ўсю.
Кожную хвіліну могуць
Засохнуць кветкі — ты дзе?
Ты мне патрэбна, патрэбна да болю ў сэрцы,
Мне патрэбны твой радасны смех,
Твой жвавы стан,
Іскры ў кутках тваіх вачэй;
Я ў палоне тваёй чароўнасці,
Быццам востраў сярод бурных вод,
Бязвольна гайдаюся.
О, я напружана чакаю,

А гэтая цудоўная смакоўніца
Вось-вось расквітнее!
Чаму ж ты не йдзеш, бессардэчная!
Я разумею, о, я ведаю, што ты разумееш,
Калі ты не прыйдзеш — гэта страшэнна для мяне,
Ты заб'еш раптоўную вясну ў маім жыцці,
І мой подых і думкі будуць сціснуты
Моцнай, як жалеза, цемрай.
Заб'еш мае вартыя жалю парасткі надзеі,
Мяне, як зняволенага, перадасі зайздрасці,
Горкім пакутам і безнадзейнай жорсткасці.
Глупства. Канешне ж, глупства.
Я ўпэўнены ў гэтым.
Але я не магу змяніць курс,
Вецер, што сціх, не дазваляе мне сумнявацца —
Я не здольны вярнуцца, лёс падганяе мяне!
Я ведаю, што гэта
Знішчальны шлях для мяне, але
Дзеля цябе, дзеля цябе
Я на ўсё іду добраахвотна;
І не толькі маё сэрца,
Але і галава так кажа мне.
Дурны! Хачу парваць ніці жыцця,
Толькі каб узрушыць дзявочае сэрца!
Хачу здабыць, хачу здабыць
Хаця б яе слязінку,
Хаця б імгненную халодную ўсмешку;
Але я іду на ўсё добраахвотна! Нават
Здрадзіць сабе і сваёй каменнай волі. Хай яна
Ўспрыме мяне хоць пацуком, хоць чарвяком —
Я на ўсё іду добраахвотна!
Звар'яцеў. Безумоўна,
Імператар таксама вымушаны адысці ад спраў,
Калі няздольны валодаць сваім сэрцам,
Як генерал часам павінен адазваць салдата з лініі агню.
Марна, усё марна,
Тое, што ты не прыйдзеш, ёсць праўдай.
Я прагну цябе,
Тваіх валасоў, твайго смеху, тваіх рук і ног;
Усе гэтыя глупыя мары ды малітвы
Няздольныя скараціць і на адзін цунь
Адлегласць паміж намі!
Прыцемкі за вокнамі
Даўно ўжо пераўтварыліся ў глыбокую ноч,

Галіны дрэў пакрыліся шэранню,
Вераб'і адспявалі свае песні.
Цішыня — гэта адзінае, ува што апрануты сусвет.
Калі бесперапынная стрэлка гадзінніка,
Быццам бы містычная рука,
Што паказвае, спачувае, падказвае,
Кожны раз адстуквае гадзіну,
Я чую пахавальны звон свайго сэрца.

Пераклад Мар'і Мішкінь.

### Блуканне

У той дзень ты лунала ў небе, блукаючы
Свабодна і грацыёзна, ты не жадала застацца
Ці на тым краі неба, ці ў тым кутку зямлі.
Ты радасна блукала без перашкод,
Нішто не хвалявала цябе ў гэтым пакорным месцы,
Якое мае бруісты ручай, хоць ты такая прыгожая.
Калі час афарбаваны ў мінулае, яно няўлоўна.
Прачнуўшыся, абдымаючы твой прыгожы сілуэт,
Яго туга абхапіла моцна,
Таму што прыгажосці немагчыма знаходзіцца ў спакоі сярод пейзажу:
Ён хоча, каб ты перасекла тысячу горных пагоркаў,
Адкінула цень на вялікія азёры.
Ён схуднеў, як гэты бруісты ручай,
Бездапаможна спадзявацца, спадзявацца, што ты прыляціш назад.

Пераклад Аляксандры Беразняцкай.

## Бязмежнае мора

Не трэба мне ні мора бязмежнага, ні вольнага часу,
Толькі дайце змея майго паветранага.
Па-над купалам неба рве вецер акрутны;
Толькі дай мне імгненне!
Толькі дай мне святло!
Толькі дай мне прасвет!
Як дзіця ў цемры шукае акно,
Упіваючыся ў шыр заходняга неба,
Не загіне яно,
Ні дзень, ні імгненне.

Пераклад Кацярыны Валадзько.

## Снежная радасць

Калі б я быў сняжынкай,
То ўзнімаўся б у небе свабодна,

Пазнаў абавязкова б кірунак свой.
Лунаю, лунаю, лунаю —
Да зямлі кірунак мой.
Не лячу ў маўклівую цясніну,
Не лячу ў маркотнае падножжа,
Не адчую я суму закінутай вуліцы.
Лунаю, лунаю, лунаю —
Паглядзі, вось ён, кірунак мой!
Кружуся ў небе чароўна,
Пазнаю спакойныя мясціны,
Чакаю яе прыходу ў сад.
Лунаю, лунаю, лунаю —
Ах, водар цынобры на целе яе!
У той час лёгкі празрысты
Закрануў я падол адзення яе,
Дакрануўся да сэрца яе,
Падобнага да хвалі пяшчотнай,
Таю, таю, таю —
Растваряюся ў сэрцы яе, падобнага да хвалі пяшчотнай.

Пераклад Вольгі Антоненкі.



Малюнак Вікенція Пазункевіча.



## Гэ Лян

**нарадзіўся ў 1978 годзе ў горадзе Нанкін правінцыі Цзянсу. Скончыў факультэт кітайскай літаратуры Ганконгскага ўніверсітэта. Мае ступень доктара. Жыве ў Ганконгу. Займае пасаду асістэнта прафесара ў Ганконгскім баптысцкім універсітэце. Яго працы апублікаваныя ў кантынентальным Кітаі і на Тайвані. Аўтар рамана «Чжуцюэ», зборніка кароткіх апавяданняў «Год драмы», апавяданняў «Энігма», «Нашы шляхі разышліся», калекцыі нарысаў «Накіды» і шматлікіх іншых твораў. У 2008 годзе атрымаў прэмію «Развіццё мастацтва Ганконга» і Першую Ганконгскую кніжную прэмію. З'яўляецца ўладальнікам іншых прэстыжных прэмій. Штотыднёвік «Азія» назваў «Чжуцюэ» ў спісе дзесяці лепшых раманаў 2009 года.**

# Статуэткі майстра Іня

Напярэдадні Новага года, прыводзячы ў парадак старыя рэчы, маці знайшла запылены прадмет. Гэты прадмет быў абгорнуты некалькімі слаямі мяккай паперы. Разгарнуўшы яе, яна ўбачыла гліняную статуэтку тыгра. Фарба на статуэтцы паблякла, і на спіне ўжо ўтварыўся малюнак ад патрэсканай гліны. Толькі на пысе тыгра адбіваліся адвага і лютасць.

Гэта выраб майстра Іня. Праўду кажучы, гэтая статуэтка больш за дзесяць год не траплялася мне на вочы.

Каб лепей уявіць майстра Іня, бадай, варта пачаць аповед з палаца Чаоцянь.

Я вырас у старой сталіцы Кітая[1]. Старадаўніх месцаў тут шмат. Тут знаходзіцца такое вытанчанае месца як Кабінет дзесяці бамбукаў[2], а таксама месца куды больш даступнае — палац Чаоцянь. У дзяцінстве мяне часта вадзіў туды бацька, і палац Чаоцянь мне здаваўся сапраўдным раем. Малаадукаваныя гарадскія дзеці думалі, што асноўная функцыя палаца Чаоцянь — правядзенне кірмашоў. Сёння палац уяўляе сабой строга спланаваны музейны комплекс, але ў той час ён знаходзіўся ў беспарадку. Менавіта гэты беспарадак і надаваў яму жыццёвую сілу. Гэта было вельмі вялікае месца тыпу блышынага рынку; так званым базарам антыкварных рэчаў яно стала пазней. У той час яго атмасфера нагадвала пекінскі Цяньцяо[3]. На рынку прадаваліся старадаўнія рэчы, сярод якіх былі і сапраўдныя прадметы, і падробкі; здзяйсняўся дробны гандаль, які не меў нічога супольнага з мастацтвам; меліся нават дрэсіраваныя малпачкі, што білі ў барабаны, каб завабіць пакупнікоў. Вядома, там былі і людзі, якія валодалі сапраўдным талентам і сумленна ставіліся да сваёй справы. Часта ўсе свае рэчы яны пераносілі

[1] Маецца на ўвазе горад Нанкін.

[2] Адна з самых старых мануфактур Нанкіна. У двары мануфактуры расло больш за дзясятак сцяблін бамбука, адсюль і пайшла назва.

[3] Рынак, які знаходзіўся ў г. Пекіне ў раёне Цяньцяо, дзе збіраліся дробныя гандляры і вандроўныя артысты.

на каромысле, дзе ў скрыні злева знаходзіўся матэрыял для працы, а справа — ужо гатовыя вырабы. Дзякуючы гэтаму іх творчасць выклікала вялікае ўзрушэнне і цікавасць. Напрыклад, выраб фігурных ледзяшоў, выцінанне — за ўсім гэтым з вялізным захапленнем назіралі дзеці. Майстар Інь быў адным з такіх умельцаў.

У маёй памяці ўсё захавалася незвычайна выразна, бо майстар Інь у той час быў неад'емнай часткай палаца Чаоцянь. Кожны раз, калі я туды прыходзіў, адразу накіроўваўся да яго. Знешнасць майстра была вельмі спецыфічнай, ён увесь час насіў акуляры з тоўстымі шкельцамі, дужкі якіх былі зламаныя і абматаныя ізаляцыйнай стужкай. Цёмна-сіняя «суньятсенаўка»[4] была вельмі старой, з масляністымі плямамі на пацёртым каўняры. Толькі сканцэнтраваны выраз твару ніколі не змяняўся.

Майстар Інь быў спецыялістам па лепцы з гліны.

Першы яго твор, які я набыў, называўся «Вялікая Афу». Сярод прац майстра лялек было больш за ўсё. Лялька была вельмі вялікай і  падобнай на дзіця. Як я памятаю, гэтыя лялькі нагадвалі вялікіх немаўлят з твора «Знесеныя прывідамі». Лепка статуэтак ішла як на мазаных колах. У майстра была рассоўная ліцейная форма з дрэва; яе запаўнялі глінай, і калі даставалі, атрымлівалася фігурка пухлага дзіцяці. Майстар спачатку пакрываў яе светлай фарбай, потым акуратна вымалёўваў бровы, наносіў на шчокі румяны, густа і ярка фарбаваў набрушнік, маляваў замок даўгалецця[5] ці залатую манету[6] — і праца была скончана.

З набыццём «Вялікай Афу» нарадзілася мая цікавасць да твораў майстра Іня. Гліняныя скульптуры не з'яўляюцца асаблівасцю мясцовай вытворчасці, таму майстар вылучаўся з мноства нанкінскіх умельцаў. Да таго ж Інь быў вельмі маўклівы, і калі за ім назіраў натоўп юных прыхільнікаў, ён не звяртаў на іх увагі і працягваў спакойна выконваць сваю працу. У майстра быў мастацкі альбом з акуратна намаляванымі асадкай эскізамі, пад якімі ўказваўся кошт. Гэта былі ўзоры яго прац. Калі табе падабаўся адзін з узораў, ты на яго ўказваў — майстар у знак згоды ківаў галавой, і дамова была заключаная. З-за сур'ёзнасці і нешматслоўнасці Іня дзеці патроху страцілі да яго цікавасць. Але майстра не здраджваў сабе і працягваў працаваць, як і раней. Аднак існавалі выключэнні. Адным з іх быў я. Я быў вельмі ўпарты, калі справа тычылася чагосьці невядомага. Аднойчы ў пекінскім парку Чжуншань я, трохгадовы, назіраў за тым, як перабіраецца ў іншае месца сямейства мурашоў і, наўздзіў дарослых, аддаў гэтаму занятку ўсю другую палову дня. Старэйшыя, распавядаючы зараз гэтую гісторыю, не могуць схаваць, што ў той час хваляваліся, ці не хворае дзіця на галаву. Сёння сказалі б, што такія паводзіны супадаюць з некаторымі прыкметамі аўтызму. З цягам часу, майстар Інь усё ж такі пазнаёміўся і пачаў размаўляць з хлопчыкам, які ўвесь час круціўся перад вачыма. На пачатку знаёмства тэмы былі вельмі простымі і паўсядзённымі, часам здавалася, што дарослы спрабуе адкруціцца ад дзіцяці. Калі майстар Інь гаварыў на нанкінскай гаворцы, яго было вельмі цяжка зразумець, ён расцягваў гукі і не да месца ўжываў тоны жушэн[7]. Гэты моцны акцэнт з'явіўся ў майстра пад уплывам яго роднага дыялекту У. З часам я прызвычаіўся да ягонага маўлення. Аднойчы я трапіў у яблычак, заўважыўшы, што яго творы троху старамодныя. У якасці доказу я ўзяў у рукі выразку з паперы пад назвай «Уладар лясоў», што знаходзілася паблізу, паказваючы, што майстар

[4] Мужчынскі фрэнч, падобны на ваенны кіцель, папулярны ў Кітаі ажно да 90-х гадоў XX стагоддзя.

[5] Амулет-абярэг.

[6] Лялька абавязкова трымала ў руках адну з рэчаў, якія сімвалізавалі шчасце, шанцаванне, поспех, даўгалецце, дастатак (залатую манету, рыбу і г. д.).

[7] Склады, якія маюць у паўднёвых дыялектах канцавы смычны -p, -t, -k або выдых.

не сочыць за модай. Інь паправіў акуляры і сур'ёзна глянуў на мяне, але нічога не сказаў. Я так і не даведаўся, ці гэта мае словы паўплывалі на змены ў яго далейшай працы.

Майстар Інь не нанкінец. Ён родам з горада Усі правінцыі Цзянсу. Недалёка ад Усі знаходзіцца горад Чаншу, у якім ёсць раён Хуэйшань, менавіта там распаўсюджана лепка статуэтак з гліны. Трошкі пазней я даведаўся, што прадукцыя, якой славіцца дадзеная мясцовасць, мае самае звычайнае паходжанне: лепка з гліны з'яўлялася заняткам вясковых сямей паміж сельскагаспадарчымі працамі. З-за агульнанароднага характару гэтага рамяства ў народзе ходзіць прымаўка: «У кожнай сям'і па-майстэрску лепяць, у кожным двары выдатна фарбуюць». Пазней вырабы з гліны сталі аб'ектам гандлю і прывялі да ўзнікнення спецыялізаваных мануфактур. Сярод іх было некалькі самых вядомых: Юань, Джу, Цсянь. Майстар Інь быў навучаны ў традыцыях мануфактуры Джу. Калі я быў маленькім, ніяк не мог зразумець, чаму настаўнік вырашыў правесці жыццё ў Нанкіне. Лепка з гліны для майстра Іня была працай, але насамрэч ён раздзяляў працу і мастацтва. Напрыклад, «Вялікая Афу». Стварэнне гэтай статуэткі хоць і прыносіла радасць, але было блізкае да серыйнай вытворчасці, майстар называў яе «цацкай» і вырабляў, каб зарабіць на жыццё.

Але будучы творчым чалавекам, ён не мог не ствараць «мастацкія вырабы». Па традыцыі, вобразы для іх шукаліся ў музычнай драме кітайскага традыцыйнага тэатра павета Куньшань. Майстар цалкам уручную граніў і паліраваў цацку, і кожная лялька вылучалася сваім знешнім воблікам і характарам. У настаўніка Іня быў цэлы набор інструментаў, раскладзеных ад самага маленькага да самага вялікага і загорнутых у ворсавую тканіну. Найменшы інструмент, зроблены з косткі сіга[8], быў прызначаны для гравіравання рысаў твару. У майстра над лаўкай вісела шыльда, на якой была выява мужчыны з шырока адкрытымі вачыма, у чырвоным адзенні і парадных ботах, побач з ім стаяла сумная жанчына ў паўсядзённай вопратцы. Я дагэтуль не ведаю, з якой п'есы гэты сюжэт.

Аднойчы я заўважыў, што настаўнік усё ж такі пачаў прыглядацца да цікавасцей людзей навокал, і сярод яго прац з'явіліся ўлюбёныя персанажы дзяцей, якія былі героямі часта трансліраваных мультфільмаў. Напрыклад, манах Ікю, Смурфы і г.д. Яны былі як жывыя. Цяжка ўявіць, што стварыў іх сур'ёзны майстар Інь.

У знак сяброўства і ўдзячнасці майстар Інь спецыяльна для мяне зляпіў Астрабоя. На той момант наш дом ужо быў цалкам забіты творамі майстра Іня.

Калі я, звар'яцелы ад радасці, трымаў у руках Астрабоя, з'явіўся бацька. Ён праслухаў адзін акт п'есы «Ян Гуань» і зайшоў па мяне, каб вярнуцца дадому. Калі мы з бацькам прыходзілі ў палац Чаоцянь, мы заўсёды хадзілі глядзець куньксюй[9] і заходзілі ў палатку з глінянымі статуэткамі. Мама ніколі не далучалася да нас і казала: «Час трэба берагчы. Хопіць і вас дваіх для гэтага занятку. Што стары, што малы — усё адно».

Бацька зірнуў на Астрабоя, якога я трымаў у руках, потым перавёў позірк на іншыя тавары, размешчаныя ў лаўцы. Праз некаторы час ён нечакана прамовіў: «Вельмі добра намалявана».

Я веры, што словы бацькі былі сказаны ад чыстага сэрца і сыходзілі з яго прафесійнага вопыту. Я вельмі ўзрадаваўся і падумаў, што бацька, нарэшце, прызнаў маё захапленне.

Майстра, не ўзнімаючы галавы, ціха прамовіў: «Толькі адна траціна працы складаецца з лепкі, астатняе — гэта фарбаванне. Нічога асаблівага, усяго толькі цацкі».

Але бацька адказаў: «Не. Гэта мастацтва».

[8] Род прамысловых рыб сямейства ласасёвых. Распаўсюджаны ў рэках і азёрах Еўропы, Паўночнай Азіі і Амерыкі, а таксама на Урале.

[9] Найстарэйшая з захаваных да нашых дзён форм кітайскай оперы (класічнай музычнай драмы).

Майстар Інь адарваўся ад працы і пасля некаторага маўчанння стрымана прамовіў: «Спадар, Вы перабольшваеце. Я як чалавек «цзянху» не варты такіх слоў. Гэта ўсяго толькі заробак».

Праз некалькі дзён здарыўся выпадак, які паказаў: тое, што майстар быў «цзянху»[10], не заўсёды ішло яму на карысць.

Я ўбачыў, як гэты шаноўны чалавек стаяў каля сваёй лаўкі, апусціўшы галаву, рукі яго былі схаваныя ў доўгія абвіслыя рукавы. Цяодзы[11] са статуэткамі былі перакуленыя і прыціснулі біручыну[12] , што расла побач з ходнікам. На карычневата-чырвоным кавалку гліны, які адваліўся ад неабпаленага вырабу і прыліп да падлогі, застаўся вялікі адбітак ад бота. Гаспадаром бота быў смуглы мужчына. Ён стаяў перад майстрам і груба на яго крычаў. Тое, што ён крычаў, было аднастайнае і зводзілася толькі да паўтарэння брыдкай лаянкі.

Майстар Інь стаяў з чырвоным тварам і не пярэчыў, а толькі паўтараў: «Вы… Вы…»

Мужчына быў такім жа моцным і каржакаватым, як жароўня[13] ў яго за спінай. Я быў яшчэ маленькім хлопчыкам, але ўжо тады разумеў, што гэта тыповы выпадак, калі дужэйшы, карыстаючыся сваёй моцай, здзекуецца са слабога.

Колькасць жадаючых палюбавацца гэтай сцэнай павялічылася, і мужчына быццам бы пачаў маляваецца перад публікай. Ён зняў з сябе прапітаную потам кашулю, выціснуў яе, наблізіўся да майстра і штурхнуў яго локцем у грудзі. Настаўнік адляцеў назад і затым яшчэ больш слабым голасам прамовіў: «Вы… Трэба прабачаць людзей».

Маё сэрца сціснулася, я выбраўся з натоўпу і пабег да тэатра Кунцсюй. Тэатр знаходзіўся ў старажытнай пабудове ў паўночна-заходняй частцы палаца Чаоцянь, хадзілі чуткі, што раней тут была імператарская малельня. Зараз гэтая пабудова знаходзіцца ў поўным заняпадзе, нават брамы няма. Я ўбег у залу. На сцэне стаяў пажылы малы шэн[14]  і сумна нешта мармытаў. Калі ён убачыў хлопца, што ўварваўся ў залу і азіраўся па баках, падобна, ён таксама захваляваўся. З залы пачулася шыканне. Я ўбачыў бацьку, ён азірнуўся і сурова глядзеў на мяне, таму што я сапсаваў добры настрой публікі. Але я не мог звяртаць на гэта ўвагу. У рэшце рэшт, да вялікай сваёй радасці, я адшукаў чалавека з фуражкай на галаве, які сядзеў на першым радзе. Гэта быў сябар майго бацькі Лао Ван, ён быў памочнікам начальніка ў мясцовым пастарунку, а таксама акцёрам-аматарам. У Лао Вана густая барада, і, калі ён не смяяўся, то быў вельмі падобны да багоў-ахоўнікаў увахода[15], якіх малююць на Новы год. Ён быў грозным і з выгляду неадукаваным, і я заўсёды сумняваўся, што яго цікавасць да настолькі вытанчанага мастацтва была шчырай. Але ў гэты момант тое, што ён знаходзіўся тут, было вельмі дарэчы. Я схапіў яго за крысо адзення і пацягнуў да выхада. Ён здзіўлена пазіраў то на мяне, то на сцэну і, каб не непакоіць гледачоў, саступіў і пайшоў са мной. Цягнучы за сабой Лао Вана, я зноў прабраўся праз натоўп. Майстар Інь, нахіліўшыся, збіраў свае цяоцзы. Падняўшы з зямлі фланэлевы мяшок з інструментамі, ён выпрастаўся, заўважыў мяне і зноў прыгнечана апусціў галаву. Лао

---

10 «Цзянху» — у літаральным перакладзе з кітайскай мовы значыць «рэкі і азёры». У даўніну пад гэтым словам мелася на ўвазе адасобленае месца за горадам, дзе збіраліся высакародныя мужы, якія пакінулі службу, або месца для адважных. У пачатку XX стагоддзя «Цзянху» па большай частцы было месцам, дзе давалі прадстаўленні вандроўныя акцёры і фокуснікі. Гандляры называлі сябе «тымі, хто займаецца вандроўным промыслам», народныя акцёры, якія бадзяліся па свеце, называлі сябе вандроўнікамі «па рэках і азёрах».

11 Гандляры ці вандроўныя артысты пераносілі свае рэчы ў дзвюх скрынях, якія вешалі на каромысел.

12 Буйны вечназялёны кустарнік ці невялікае, да 6 метраў у вышыню, дрэўца з разлогай кронай.

13 Маецца на ўвазе кітайская печка для прыгатавання кітайскай салодкай бульбы.

14 Тэатр. Памочнік шэна — галоўнага героя.

15 Выявы двух бостваў каля ўвахода, якія ахоўвалі дом ад нячыстай сілы.

Ван валодаў прафесійным чуццём і адразу зразумеў, што тут адбылося. Ён адкашляўся, падышоў да мужчыны і сказаў: «Ваша ліцэнзія на гандаль, калі ласка». Мужчына знерухомеў: «Што?» — спытаў ён. Лао Ван паўтарыў грамчэй: «Ваша ліцэнзія на гандаль». На што мужчына ўсклікнуў: «Для таго, каб гандляваць у гэтым смярдзючым месцы, яшчэ патрэбна ліцэнзія?» Лао Ван адказаў: «У любым месцы трэба прытрымлівацца закону, гэта разумее нават дзіця. Збірай рэчы і ідзі за мной». З натоўпу данесліся крыкі ўхвалення: «Правільна». Выраз твару мужчыны азмрочыўся, і ён прамовіў: «Трэба, значыць трэба». Следам за Лао Ванам ён стаў прапіхвацца праз натоўп, хтосьці яго спецыяльна штурхнуў, і ён злосна вылаяўся: «Халера, калі я быў застрэльшчыкам[16] падчас рэвалюцыі, ці мог падумаць, што ў будучыні вы зможаце так са мной абыходзіцца». Лао Ван азірнуўся на шум. Мужчына адразу прыняў пакорлівы выгляд і пайшоў хутчэй.

Натоўп разышоўся. Я толькі цяпер заўважыў, што бацька таксама прыйшоў, і маё сэрца нявольна сціснулася ад страху. Але бацька і не збіраўся на мяне сварыцца, ён нахіліўся і разам з майстрам падняў цяоцзы са статуэткамі. Майстар адкрыў фланэлевы мяшок, выцягнуў з яго інструмент, зроблены з косткі сіга, і паднёс да святла, каб лепей разгледзець. Мы ўбачылі, што інструмент зламаўся. Майстар усё роўна паклаў яго ў мяшок, заплюшчыў вочы, ціхенька ўздыхнуў і прамовіў: «Нешчаслівы год. Цяпер людзі не такія, як у мінулыя часы».

Мяне вельмі ўразіла тое, што ён зусім не выглядаў абураным, быццам гэтая гісторыя адбылася з кімсьці іншым. У гэты момант я заўважыў, што на яго локці праз белую кашулю сачылася цёмна-чырвоная кроў. Бацька таксама заўважыў кроў і сказаў майстру: «Вы ж паранены». Майстар закасаў рукаў, драпіна аказалася даўжынёю ў цунь[17] і да таго ж вельмі глыбокай. Я не ведаў, ён параніўся толькі што ці падчас бойкі. Майстар зірнуў на рану, апусціў назад рукаў і сказаў: «Нічога страшнага». Але бацька запярэчыў: «Так не пойдзе, зараз вельмі горача, рана можа запаліцца. Майстар, мы жывём недалёка. Давайце пойдзем да нас і перавяжам рану».

Але Інь нічога не адказаў і нерухома стаяў, ісці да нас ён не хацеў. Тады я з усіх сіл пацягнуў яго і сказаў: «Майстра, хадземце хутчэй».

Мама трошкі здзівілася, калі мы прывялі з сабой незнаёмага чалавека. Ды і майстру было няёмка, ён вельмі саромеўся. Я не стаў чакаць, пакуль бацька прадставіць настаўніка, і, указваючы на гліняныя статуэткі, размешчаныя ля ўзгалоўя ложка, пачаў распавядаць маме, што іх зрабіў майстар Інь. Мама адразу зразумела, і выраз яе твару памякчэў: «Дык гэта Вы — майстар Інь, наш хлопчык цэлымі днямі кажа пра вас». Калі майстар паглядзеў на свае творы, яго погляд ажывіўся, і ён сказаў: «Спадарыня, мне вельмі прыемна. Маленькі спадар незаслужана прыхільны да мяне».

Я адразу звярнуў увагу на тое, што майстар выкарыстоўваў такі смешны зваротак, назваўшы маму спадарыняй, а мяне — маленькім спадаром.

Бацька папрасіў маму схадзіць па аптэчку і прапанаваў майстру сесці. Калі той уладкаваўся, ён заўважыў карціну з пейзажам ля чайнага століка і не задумваючыся, вымавіў: «Ні Хунбао»[18].

Гэта карціна сапраўды належыць пэндзлю мастака Ні Юаньлу. І бацька, быццам сустрэўшы родную душу, спытаў: «Вы цікавіцеся жывапісам і каліграфіяй?»

Майстар прыўзняўся: «Я троху знаёмы са стылямі малявання, а яго мудрагелістая манера подпісу проста непаўторная».

---

[16] Стар. жаўнер у рассыпным страі, які першы сутыкаўся з праціўнікам.

[17] Мера даўжыні, каля 3,33 см.

[18] Ні Хунбао (1593—1644) — кітайскі каліграф, мастак, які жыў у перыяд закату дынастыі Мін, таксама вядомы пад імем Ні Юаньлу.

Бацька прамовіў: «Вы сапраўдны знаўца».

Майстар адказаў: «Вы занадта добры, мае пазнанні абсалютна мізэрныя».

Бацька заварыў гарбату і падаў майстру. Той падзякаваў, узяў дзвюма рукамі філіжанку, машынальна абвёў рукой па яе краі і ціха прамовіў: «У сям'і спадара вельмі моцныя карані».

Бацька з разуменнем усміхнуўся, бо з-за гэтых рэчаў, якія засталіся ад продкаў, мы некалькі год цярпелі вялікія нягоды. Майстар працягваў: «Добра, што яшчэ ёсць такія людзі як спадар, якія не разрываюць сувязь з продкамі».

Бацька сказаў: «Майстар, не называйце мяне спадаром, называйце мяне проста Мао Юем».

Майстар Інь пакланіўся і прамовіў: «Спадар Мао».

Насамрэч я так і не зразумеў, што ўзгадавала сяброўства паміж майстрам, бацькам і мной — прадстаўнікамі розных пакаленняў. Пасля, калі бацька прыходзіў у палац Чаоцянь, ён абавязкова зазіраў да майстра на размову. Я не зусім разумеў, пра што яны размаўлялі, але, мяркуючы па ўсім, яны сыходзіліся ў меркаваннях. Нават былі выпадкі, калі майстар забываўся пра тое, што яму трэба весці гандаль. У такія моманты выраз яго твару змяняўся, рабіўся больш ажыўленым.

Яшчэ некалькі год мы працягвалі адносіны з майстрам. Калі я паступіў у сярэднюю школу, у палацы Чаоцянь адбыліся вялікія перамены. Вароты Умэнь Забароненага горада дынастыі Мін[19] былі перабудаваныя. Новая плошча храма была абсалютна пазбаўленая духу старадаўнасці, кожныя выхадныя тут збіраўся вясёлы натоўп і запускаў паветраных змеяў. Усё больш відавочным рабілася тое, што палац Чаоцянь занепадае. Да таго ж, амаль усе гаспадары лавак змяніліся, і не аднойчы. Пагаворвалі, што некаторыя пакінулі храм у пошуках новага промыслу. Адзін гандляр, які прадаваў піражанае «слівa ў квецені», адкрыў лаўку на вуліцы Піншылу, і насуперак чаканням яго справа квітнела. Калі ён зноў прыходзіў у Чаоцянь, яго сустракалі з вялікай пашанай, і ён запрашаў старых кампаньёнаў у свой рэстаран еўрапейскай кухні.

Усё змянялася. Нязменнай заставалася толькі лаўка майстра Іня. Яго справа не квітнела, але і не занепадала. Як і раней, яго наведвальнікамі былі дзеці, тыя, хто падрос, ужо не прыходзілі. Замест іх лаўку наведвалі малодшыя дзеці.

Аднойчы бацька вярнуўся дадому ва ўзбуджаным стане. Не паспеў ён параступіць парог, як пачаў нешта шукаць па ўсім пакоі. Аказалася, яму быў патрэбны фотаапарат Рыко, якім мы вельмі доўга не карысталіся. Паколькі планаў паехаць вандраваць у нас не было, мы з мамай троху разгубіліся.

Тата сказаў: «Мао Го, пойдзем, пашукаем дзядзьку Іня».

Калі мы прыйшлі ў лаўку, сонца ўжо хілілася да захаду, а майстар драмаў, схаваўшы рукі ў рукавы. За вуха была закладзена цыгарэта, і ён трошкі сутуліўся. Ён быў сярэдняга ўзросту, але ў той час выглядаў старэйшым за свае гады. Бацька не стаў непакоіць яго, узяў фотаапарат і сфатаграфаваў статуэткі. Майстар, прачнуўшыся, знерухомеў.

Бацька радасна паведаміў яму: «Лао[20] Інь, знайшоўся чалавек, які зацікавіўся тваімі цацкамі».

Куточкі вуснаў майстра троху прыўзняліся, і ён вымавіў: «Спадар зноў жартуе, баюся, што не знойдзецца чалавека, які захапіўся б імі больш за Вас».

Бацька паківаў галавой і адказаў: «Нядаўна наш даследчы інстытут арганізоўваў штогадовы сход па знешнім гандлі і эканамічным абмене. Там былі спецыялісты, якія прыехалі, каб абмер-

---

19 «Імператарскі горад» ва ўсходняй частцы Нанкіна, пабудаваны пры дынастыі Мін у XIV—XV стст.

20 У перакладзе з кітайскай значыць «стары», выкарыстоўваецца ў звароце да сябра ці добрага знаёмага.

каваць пытанні супрацоўніцтва. Памятаеш, у мінулы раз ты падараваў мне гліняную статуэтку тыгра? Я паставіў яе ў кабінеце, адзін англічанін заўважыў яе, і яна яму вельмі спадабалася. Мы разгаварыліся, і аказалася, што ён з'яўляецца запрошаным прафесарам у Школе даследавання краін Усходу і Афрыкі пры Лонданскім універсітэце, яго спецыялізацыяй з'яўляюцца культуры гэтых рэгіёнаў. Ён кажа, што вельмі цяжка сустрэць аўтэнтычныя творы народнага мастацтва, і яму хацелася б убачыць больш тваіх вырабаў».

Майстар троху памуляўся, потым спытаў: «Гэты спадар — іншаземец?»

«Тое, што ён іншаземец, не мае ніякага значэння, у мастацтве няма дзяржаўных межаў. Калі творы добрыя, трэба, каб як мага болей людзей ведалі пра іх», — адказаў бацька.

Гэтага прафесара звалі Кевінам, і пазней я стаў сведкам таго, як статуэткі яго ўразілі. Майстар жыў у каморцы, плошчай троху болей за дзесяць квадратных метраў, там стаялі толькі шафа і ложак, уся астатняя прастора была запоўнена статуэткамі. Некаторыя ўжо былі пакрытыя фарбай, некаторыя яшчэ толькі знаходзіліся на стадыі загатовак. З-за таго, што статуэтак было вельмі шмат і пафарбаваныя яны былі ў густыя і яркія адценні, у кожнага, хто глядзеў на іх, разбягаліся вочы. Кевін ціхенька пагладзіў адну са статуэтак «Дух Джун Куй»[21] . У вачах яго з'явілася такая пяшчота, быццам ён глядзеў на нованароджанае немаўля. Прафесар павярнуўся і на чыстай кітайскай мове сказаў: «Гэта і ёсць сапраўднае кітайскае мастацтва».

Потым яго позірк упаў на шафу. Там у абсалютна зацішным кутку стаяў гліняны бюст. Ён не быў пакрыты фарбай, але можна было зразумець, што гэта бюст жанчыны: сучасны ўбор, кароткая стрыжка, прыгожыя вочы, пяшчотны позірк.

Падчас таго, як Кевін уважліва разглядаў бюст, з боку ўнутранага пакоя праз штору да нас дайшоў ціхі гук, падобны на мяўканне.

Майстар Інь хутка падышоў і адсунуў штору.

Нягледзячы на цьмянае святло, мы ўсё ж разгледзелі маладога чалавека, які сядзеў у інвалідным вазку, паўтвару было зведзена сутаргай, ён стагнаў. Яго правая рука была паднятая, а пальцы скурчаныя. Анамальна выкручаная, яна не была падобная да рукі дарослага чалавека. Майстар Інь запіхнуў яму ў рот кавалак тканіны.

На нашых вачах ён прыхіліў галаву мужчыны да грудзей, чула пагладзіў яго па галаве, ціха прамовіў: «Мой сын».

У канцы гэтага года статуэткі майстра Іня з'явіліся на «Выставе сучаснага мастацтва», якая праводзілася ў Англіі. Майстар далікатна адмовіўся ад запрашэння на Лонданскі біенале, тлумачачы гэта тым, што ён не зможа падняцца на сцэну, бо ён просты рамеснік. Да таго ж, ён ніяк не можа пакінуць сваю лаўку. І сына пакінуць таксама нельга.

Кевін зноў наведаў яго восенню наступнага года. Кевін сказаў бацьку, што хоча абгаварыць пытанні здзелкі. «Мой малодшы брат адкрыў фірму па вытворчасці мастацкіх вырабаў, і ён спадзяецца, што майстар Інь стане яго кампаньёнам. Фірма збіраецца адкрыць для яго ў Кітаі спецыялізаваную майстэрню, пазней усе выробленыя рэчы будуць прадавацца за мяжой».

Майстар паківаў галавой: «Калі я пакіну Чаоцянь, то стану нікім».

Кевін адказаў: «Майстар, вы — мастак, які заслугоўвае павагі і варты лепшага жыцця».

Майстар апусціў вочы і прамовіў: «У беднасці лепей за ўсё выхоўваецца дабрачыннасць» [22].

---

[21] Імя чалавека, які жыў пры дынастыі Тан. Калі з-за брыдкай знешнасці яму не была прысуджана вучоная ступень на іспытах, ён памёр ад абурэння і, па паданні, ператварыўся ў духа; выявы яго вывешвалі на варотах, каб адганяць нячыстую сілу.

[22] Цытата з філасофскай працы «Мэндзы» (IV—III стст. да н. э.).

Кевін пасля некаторага маўчання прамовіў: «Вы павінны думаць пра тое, каб даць Вашаму сыну лепшае лекаванне».

Майстар хацеў штосьці адказаць, але так нічога не сказаў.

Пасля гэтага выпадку мы доўгі час не сустракалі майстра Іня, бацька казаў, што ён вельмі заняты. Ён чуў ад Кевіна, што ў майстра шмат замоў, але ён працуе вельмі павольна, старанна шліфуючы статуэткі.

«У гэтым увесь Лао Інь», — сказаў бацька.

Калі майстар Інь зноў з'явіўся ў нас дома, набліжалася Свята вясны. Ён прыйшоў, каб уручыць запрашэнне на вяселле. «Мой сын збіраецца ажаніцца», — растлумачыў ён. Мы здзівіліся, але шчыра павіншавалі яго. Хоць ён і ўсміхаўся, але выглядаў не надта радасным.

На вяселлі мы пазнаёміліся з маладой. Гэта была дзелавітая жанчына з цёмна-чырвоным тварам. Разам з роднымі і сябрамі яна бакал за бакалам піла віно. Потым з поўным да краёў бакалам падышла да нас і сказала бацьку: «Дзядзька Мао, калі б не Вы, мы б з Інь Чэнам не былі б зараз тут. Вы добры да нас, і я стаўлюся да Вас з глыбокай пашанай». Дагаварыўшы, маладая залпам выпіла віно.

Бацька аслупянеў, ён упершыню бачыў гэтую жанчыну і таму не ведаў, што адказаць.

Інь Чэн — сын майстра Іня — увесь гэты час сядзеў у дальнім куце і неўразумела глядзеў на тое, што адбывалася. Чырвоная кветка, якая была ўстаўлена ў кішэньку на грудзях, ужо ўпала на падлогу. Здавалася, усё, што адбывалася, не мела да яго дачынення.

Пазней мы даведаліся, што гэтая жанчына з вёскі Люхэ. Іх з Інь Чэнам пазнаёміў нехта са сваякоў майстра Іня. Але мы так і не разабраліся, што спрыяла таму, што яны так хутка ажаніліся.

Мінула яшчэ колькі часу, майстар Інь набыў кватэру і запрасіў нас на наваселле. Дом знаходзіўся ў раёне Юэяху і з'яўляўся першым высотным будынкам у Нанкіне. Убачыўшы дом, мама сказала: «Падобна, справы ў майстра Іня ідуць нядрэнна».

Сустрэла нас нявестка майстра Лю Цзюань і яго сын Інь Чэн. Ён быў па-ранейшаму маўклівы, але колер твару яго палепшыўся, і рукі ўжо не так моцна трэсліся, былі засунутыя ў рукавы. Касцюм заходняга крою быў яму вялікаваты, але было бачна, што набылі яго ў Чаохао. Калі ён убачыў мяне, то прыкусіў вусны. Я ўсміхнуўся яму. Ён як быццам спужаўся і апусціў галаву.

Лю Цзюань таксама ўсміхалася, але неяк ненатуральна. Яна сказала: «Калі ў мяне атрымаецца нарадзіць такое дзіця, як Мао Мао, то гэта будзе сапраўдным шчасцем».

Мама адказала: «У дзяцінстве ён быў вельмі дакучлівы і ствараў шмат клопатаў». І спытаўшы пра рамонт, пераключыла размову на іншую тэму. Лю Цзюань уздыхнула і з пачуццём гонару сказала: «Мне даводзіцца адной круціцца і на працы, і дома. Гэтыя двое нічым дапамагчы не могуць. Старога ўвогуле не бачна, ён з майстэрні не вылазіць. Я ўжо ўсе ногі збіла, займаючыся рамонтам, усё раблю сама, пачынаючы з пошуку матэрыялаў і заканчваючы падборам брыгады. Спярша я запрасіла чалавека, які б кантраляваў гэты працэс, але праз некалькі дзён заўважыла, што ён шмат крадзе, і выгнала яго. Цярпець не магу, калі мяне падманваюць. Вось толькі вельмі стамілася».

Потым маладая жанчына выпнула грудзі і энергічна дадала: «Але я не здаюся».

Бацька і маці ў адзін голас прамовілі: «Вядома, рамонт — справа зусім няпростая».

Потым яна дастала фотаздымкі з дамскай сумачкі і звярнулася да майго бацькі: «Вы знаўца сваёй справы, падкажыце, ці добрая мая задума?»

Бацька прагледзеў фотаздымкі. На іх былі выявы пакоя з тоўстай падвеснай столлю, чырвонымі шпалерамі, бліскучай і яркай жырандоляй, вялікай і моцнай мэбляй, якой, мяркуючы па ўсім, была даверху набітая ўся кватэра.

Бацька сказаў: «Праўду кажучы, зараз кватэры абстаўляюць проста».

Лю Цзюань адказала: «Калі жывеш у дастатку, ці не павінны людзі пра гэта ведаць?»

Мама спытала: «А дзе пакой майстра Іня?»

Лю Цзюань сумелася: «Ён не жыве з намі. Ён цярпець не можа высокія будынкі, аддае перавагу нязручнаму, таннаму дому».

Праз некалькі дзён мы пайшлі з бацькам у майстэрню дзядзькі Іня. На самай справе гэта была не проста майстэрня, а прыватны дом, які знаходзіўся каля возера Мочоў. У працэсе рэканструкцый у доме былі зроблены вялікія вокны, таму асвятленне было цудоўным. Праз акно можна было ўбачыць вялікія і малыя статуэткі, размешчаныя на драўляных паліцах, і сілуэт чалавека, які схіліўся над працай і засяроджана ляпіў з гліны. Гэта быў майстар Інь. Убачыўшы нас, ён усміхнуўся. Выцер рукі і адчыніў нам дзверы.

Калі мы ўвайшлі, нас ахінуў пах табакі. Майстар ніколі не паліў. Я пацёр нос. Майстар Інь здагадаўся і адчыніў акно, сказаў: «Зараз праветрыцца. Нічога не зробіш, апошнім часам я шмат палю, каб узнавіць сілы».

Я пачаў усё разглядаць. Майстар Інь, забраўшыся па лесвіцы і шукаючы нешта на паліцах, сказаў: «Мао Мао, у дзядзькі для цябе ёсць нешта». І падаў мне паднос.

На падносе былі статуэткі маленькіх манахаў. Хтосьці ляжаў, хтосьці стаяў, чытаў малітву, медытаваў, драмаў, адвільваючы ад працы. Усе вобразы былі розныя і чароўна наіўныя. Я трымаў іх у руках і з задавальненнем разглядаў.

Майстар дадаў: «Яны вам нікога не нагадваюць? Я ж маляваў іх з нашага Мао Мао».

Бацька, пасмейваючыся, прамовіў: «Ты па-ранейшаму лічыш яго маленькім хлопчыкам. Але калі б у дзяцінстве ён хоць трошкі валодаў той моцай сузірання, якая характэрная для манахаў, у нас з яго маці, магчыма, было б меней клопатаў».

Я толькі тады заўважыў, што статуэткі майстра адрозніваліся ад тых, якія ён рабіў раней, і былі раздзеленыя на класы. Падобна вайсковай часці, яны мелі розныя найменні і паслядоўную нумарацыю. На паліцах былі налеплены ярлыкі з надпісам: «П'есы». Да вырабаў таксама былі прылеплены, падпісаныя дробным почыркам, этыкеткі з назвамі п'ес: «Помста рыбака», «Касмічны вецер», «Спахмялелая фрэйліна» і г.д. Былі этыкеткі і з назвамі народных звычаяў. Маленькія чалавечкі жылі звычайным жыццём: хтосьці жаніўся, хтосьці гатаваў пачастункі, прыносіў ахвяры, нават гуляў у мацзян[23]. Паліца ператварылася ў цэлы маленькі свет. На паліцы з надпісам «Заходнія краіны» былі прадстаўлены статуэткі напаўаголеных іншаземцаў. Гэта, канешне, таксама з'яўлялася разнавіднасцю мастацтва. Але майстар быў троху занепакоены гэтым і патлумачыў: «Некаторыя наведвальнікі замаўляюць такога тыпу фігуркі. Спярша я не хацеў іх вырабляць, гэта так непрыстойна». Бацька сказаў: «Лао Інь, ты павінен разняволіць сваю свядомасць, мастацтва павінна быць адкрытым».

Майстар рассмяяўся: «Таксама праўда, таксама праўда». Кажучы гэта, ён запаліў і прапанаваў цыгарэту бацьку. Бацька, запальваючы, прамовіў: «Табе варта было б меней паліць, не вельмі добра выглядаеш апошнім часам».

Майстар адказаў: «Нічога, пасплю, і ўсё будзе добра». Ён зноў засмяяўся, але нават смеючыся, ён па-ранейшаму выглядаў стомленым.

Перад адыходам я заўважыў, што бюст той жанчыны стаіць на падаконні. На яе галаву падаў прамень заходзячага сонца, і можна было добра разгледзець яе профіль.

---

[23] Кітайская азартная гульня з выкарыстаннем гульнёвых костак.

Час ад часу я наведваў палац Чаоцянь. Праўду кажучы, пасля заканчэння сярэдняй школы я стаў рэдка туды прыходзіць. На мой погляд, палац прыходзіў у заняпад. Можа, таму што там не было майстра Інь, але палац ужо не быў ранейшым палацам Чаоцянь.

Праз прыкладна паўгода нам патэлефанавалі з дому майстра Іня. Тэлефанавала Лю Цзюань, запрашала нас у госці. Бацька спытаў: «Няўжо ў вас яшчэ якая-небудзь радасная падзея?» — «Нічога асаблівага не адбылося, проста мы даўно не бачыліся і хочам даведацца аб здароўі дзядзечкі і цётачкі Мао», — быў адказ.

Настала другая палова дня. Лю Цзюань на «Сантане»[24] адвезла нас да месца спаткання. Па дарозе ў рэстаран Джуан'юань яна стракатала як з кулямёта. Калі мы ўвайшлі ў прыватную залу, мы ўбачылі Інь Чэна, ён троху паправіўся. Побач з ім сядзеў майстар Інь, які наадварот схуднеў. Колер яго твару быў шаравата-жоўты, майстар ненатуральна ўсміхаўся. Было бачна, што яго нешта мучыла. Мы абмяняліся прывітаннямі, уселіся, паелі. Нарэшце бацька спытаў: «Можа, штосьці здарылася?»

Лю Цзюань зірнула на майстра і злёгку ўсміхнулася: «Ад Вас нічога не схаваеш, дзядзька Мао. Так, ёсць невялічкая справа, у якой нам трэба Ваша дапамога».

Пачуўшы яе словы, майстар Інь уздыхнуў, павярнуў галаву і рэзка вымавіў: «Як жа, невялічкая справа».

Але Лю Цзюань спакойна працягвала: «Дзядзька Мао — чалавек з сувязямі, ці ж для яго гэта складана?»

Справа была вось у чым. За гэтыя паўгода колькасць замоў майстру павялічылася. Ён нічога не паспяваў. І нядаўна Лю Цзюань прапанавала яму наняць памочнікаў. Гэта былі студэнты з Інстытута мастацтваў, і, праўду кажучы, іх дапамога ўзвысіла норму вытворчасці, але прадукцыя выпускалася пад імем майстра Іня. Аднак два месяцы таму адбылася адна падзея: партыю статуэтак, якая была адпраўлена на Захад, вярнулі, растлумачыўшы гэта рэзкім зніжэннем якасці. Гэтая падзея вельмі раззлавала англійскага гаспадара, і пасля таго, як ён разведаў усе абставіны, паведаміў, што хоча скасаваць дамову з майстрам Інем. І зараз ніводны бок не хоча саступіць. Лю Цзюань сказала: «Дзядзька Мао, Вы знаходзіцеся ў сяброўскіх стасунках з Кевінам, ці не маглі б Вы з ім паразмаўляць?»

Бацька, падумаўшы, адказаў: «Я паразмаўляю з ім, але вы паводзілі сябе не зусім належным чынам, майстэрня — не мануфактура, і людзям патрэбныя творы, зробленыя майстрам Інем».

Лю Цзюань з пашанай паднесла бацьку кілішак віна і сказала: «Гэта сапраўды так. У вачах многіх людзей мой свёкар — скарб. Але ён працуе і дзень, і ноч, хто заўгодна пачне за яго перажываць. Гэтыя грошы так нялёгка даюцца, але не варта больш пра гэта казаць, Вы маеце рацыю».

Майстар Інь сядзеў, апусціўшы галаву, і моўчкі еў.

Бацька паразмаўляў з Кевінам. Той сказаў, што заходнія людзі сур'ёзна ставяцца да паняцця «сумленнасць». Больш такое не павінна паўтарыцца.

Бацька прасіў перадаць: «Скажыце свайму брату, што нельга быць занадта практычным. Майстар Інь, у рэшце рэшт, чалавек мастацтва, яго тонкая праца патрабуе часу. Замоў вельмі шмат, баюся, што ён не вытрымае такую нагрузку».

«Вы несправядліва нас абвінавачваеце, — сказаў Кевін. — Гэта было жаданнем майстра павялічыць колькасць замоў. Я чуў, што ў яго спрытная нявестка, і ён пакорліва яе слухае».

Тое, што адбылося далей з майстрам Інем, мы даведаліся ад Кевіна. Ён распавёў, што пазваніў дамоў майстру, але ніхто не падышоў. Тады Кевін пайшоў паглядзець, ці ўсё ў парадку, майстра ляжаў на стале: ён страціў прытомнасць, у сціснутай руцэ быў разец.

[24] Марка аўтамабіля.

Калі ў калідоры шпіталя мы ўбачылі Кевіна, на сэрцы стала сумна. У майстра быў рак печані на позняй стадыі. Кевін сказаў, што яго брат вельмі спачувае і толькі што прыслаў грошы на лячэнне. Аднак ён баіцца, што майстэрню давядзецца зачыніць.

Бацька горка ўсміхнуўся: «Бадай, гэтыя меры прынятыя занадта позна».

Калі мы прыйшлі, погляд майстра Іня ажывіўся. Ён хацеў нешта сказаць, але бацька яго спыніў, папярэдзіўшы, што толькі-толькі прайшла аперацыя, і размовы зараз яму пашкодзяць.

Майстар паківаў галавой і ўсё ж такі прамовіў: «Дзядзька Мао…», але не змог працягнуць.

Побач з ім сядзела незнаёмая пажылая жанчына, яна прывітала нас і сказала, што з'яўляецца цёткай па лініі жонкі майстра. Жанчына трымала ў руцэ міску з кашай і дзьмухала на яе, каб астудзіць. Вырашыўшы, што каша астыла, яна зачарпнула лыжку кашы і паднесла яе да рота майстра. Майстар адсёрбнуў крыху, пахітаў галавой і сказаў: «Не хачу».

Жанчына здзівілася, потым зноў зачарпнула кашу і, моцна трымаючы лыжку, паднесла яму. Майстар заплюшчыў вочы і прамовіў: «Я сказаў, што не хачу».

Мы не размаўлялі шмат з майстрам, толькі дапамаглі яму сесці. Хтосьці ў суседнім пакоі паставіў кружэлку з чытаннем малітваў, і да нас няспынна даносіліся будыйскія спевы. Ад гэтых гукаў на душы стала маркотна.

Здаецца, прайшло шмат часу, калі зайшла медсястра і сказала, што хвораму патрэбны адпачынак, і нам лепей сысці.

Да гэтага часу майстар ужо заснуў. Яго твар быў спакойны.

А за акном ужо стаяла непраглядная ноч.

Калі мы выйшлі, жанчына ціха плакала. Убачыўшы нас, яна выцерла слёзы і паднялася: «Сыходзіце? Я вас правяду». Сказаўшы гэта, яна ледзь усміхнулася.

У ліфце прамень святла адбіўся ў яе мокрых вачах. Мы ўбачылі, як слёзы зноў пацяклі па яе маршчыністым твары.

Яна спытала: «Спадар Мао, у Іня сапраўды не было і пары шчаслівых дзён?»

Мы не ведалі, як яе суцешыць. Яна асцярожна прыхіліла галаву да сцяны: «Хто ж спаслаў такое пакараннне? Я жадала ім толькі дабра. Я пазнаёміла іх з Лю Цзюань з надзеяй, што ў іх будзе чалавек, які паклапоціцца пра іх. Пасля смерці маёй сястры ў іх сям'і больш за дзесяць год не было жанчыны».

Бацька пасля некаторага вагання ў рэшце рэшт спытаў: «Вы старэйшая сястра яго жонкі?»

Позірк жанчыны блукаў, і яна слабым, поўным гаркоты голасам спытала: «Якая з мяне пасля гэтага старэйшая сястра?»

Пасля нядоўгага маўчання яна супакоілася і пачала казаць. Як ні дзіўна, з таго, што яна распавяла нам асіплым голасам, стала ясна, што мы абсалютна не ведалі майстра Іня.

Поўнае імя майстра — Інь Джуаньлі. Можна сказаць, што продкі майстра былі знатнымі людзьмі ва Усі. Яны былі з мясцовай інтэлігенцыі, якая мела вагу ў грамадстве. Сям'я ў іх была заможная, і ў гісторыі нават захавалася паняцце «паўгорада Інь»[25]. Але пасля нараджэння бацькі майстра Іня ўсё змянілася. Малады спадар Інь імкнуўся трапіць у палітыку і таму стаў падначаленым Сунь Чуаньфана[26]. Ён забраў з сабой амаль усю сваю маёмасць, бо не збіраўся болей вяртацца да мінулага жыцця.

Праз некалькі год ён стаў камандзірам палка ва Усі і быў вельмі задаволены. Аднак шчасце доўжылася нядоўга. Падчас «Паўночнага паходу»[27] 19-я палявая пяхотная армія выправілася

25 Верагодна, маецца на ўвазе, што іх улада распаўсюджвалася на паўгорада Усі.

26 Ваенны губернатар правінцыі Джэцзян (1924—1926 гг.), пад ягоным уплывам таксама знаходзіліся правінцыі Цзянсу, Фуцзянь, Аньхой і Цзянсі.

27 Паход, здзейснены ў 1926—1927 гг. Гаміньданаўскай Нацыянальна-рэвалюцыйнай арміяй Кітая пад кіраўніцтвам Чан Кайшы, у супрацоўніцтве з камуністамі, з мэтай аб'яднання краіны ваенным шляхам.

на поўдзень. І вайсковай часці бацькі Іня давялося першай прыняць удар на сябе. Сунь Чуаньфан зразумеў, што справы кепска, але для таго, каб абараніць і правінцыю Джэцзян, і сваіх прыхільнікаў, ён не дапамог гораду Усі. Акружаная вайсковая часць камандзіра Іня аказала супраціўленне, але ў рэшце рэшт пацярпела паразу. Аднапалчане ўжо даўно глядзелі спадылба на ягоныя дзеянні і былі ім незадаволеныя. Пасля паразы яны сталі адзін за другім адмяжоўвацца ад яго, нават спрабавалі выжыць яго з палка, каб выслужыцца перад новай уладай. Пакінуты ўсімі Інь праз некалькі год змарнеў ад тугі. Перад смерцю ён даручыў клапаціцца аб сваім дзіцяці сябру па прозвішчы Джу.

Сям'я Джу жыла ў раёне Хуэйшань на вуліцы Чуньшэнь. Гэта сям'я хоць і не была літаратурным кланам, але ўсё ж паходзіла з вядомага роду мастацтвазнаўцаў. Захавалася шмат запісаў пра тое, што гліняныя статуэткі, якія яны выраблялі, былі прадметамі лепшай якасці пры двары былой маньчжурскай дынастыі.

Сябар займаў чыноўніцкую пасаду ў павеце і ставіўся да працы сумленна і абачліва. Ён быў добрым чалавекам і ўжо даўно знаходзіўся ў міласці ў бацькі Іня. Яму было даручана ставіцца да Іня Джуаньлі як да ўласнага дзіцяці, выхоўваць яго, не шкадуючы сіл. Справа дайшла да таго, што яго патрабаванні да Інь Джуаньлі зрабіліся больш строгімі, чым да ўласных дзяцей. У сям'і лепка з гліны была звычайнай забавай як дарослых, так і дзяцей, аднак Джуаньлі забараняўся гэты від занятку. Дзядзька Джу лічыў яго старамодным. Бацька Іня калісьці выбраў не той шлях, няправільна ацаніў абстаноўку, пайшоў за няправільнымі людзьмі. У выніку яго душэўных сіл не хапіла. У чалавека заўсёды ёсць мара, а гульні з глінянымі статуэткамі былі б марнаваннем часу, таму, акрамя таго, што хлопчык пераняў сямейны вопыт каліграфіі, жывапісу і скульптуры, якія павінны былі сфармаваць яго маральныя якасці, Джуаньлі больш нічога не вывучаў.

Хлопчык рос, і дзядзька Джу ўсё ж цьмяна разумеў, што не мае рацыі. Хоць Джуаньлі быў больш чым добра знаёмы з правіламі і законамі, але ён амаль не меў уяўлення пра так званыя прынцыпы ўзвышаных памкненняў высакароднага мужа — удасканаленне асабістых якасцей, падтрыманне парадку ў сям'і, імкненне да міру і пакою ў краіне, якія не маюць дачынення да службовай кар'еры і матэрыяльнага дабрабыту. Аднойчы дзядзька Джу пайшоў у бібліятэку, каб адшукаць Джуаньлі. Калі хлопчык убачыў дзядзьку, то захінуў нешта «Зборнікам вершаў Тань Чуаня»[28]. Тады дзядзька адсунуў кнігу і знерухомеў: за кнігай стаяла гліняная статуэтка вялікага пеўня. Хоць статуэтка не была пакрытая фарбай, яна ўжо выглядала як жывая. Асабліва здзівілі крылы: здавалася, птушка быццам зараз узляціць. Дзядзька Джу сам сабе захапіўся, але хутка прыняў строгі выраз твару: адкуль гэта? Ён падумаў, што гэта сямейная цацка, і хлопчык яшчэ такі малы, не стрымаўся ад спакусы пагуляцца з ёй. Калі даць яму пару настаўленняў, то ўсё будзе добра. Аднак Джуаньлі пасля некаторага вагання, з хваляваннем паведаміў, што статуэтку зрабіў ён.

Дзядзька Джу здзівіўся і ўпершыню разззлаваўся. Але Джуаньлі адразу загаварыў пра тое, што ён вельмі ўдзячны яму за выхаванне, што ён заўсёды з пашанай ставіўся да дзядзькі, што яму сапраўды падабаецца ляпіць з гліны. Ён хоча, каб гэты занятак стаў справай яго жыцця. Ён ведае, што дзядзька жадае яму толькі дабра, але немагчыма чагосьці патрабаваць ад чалавека, бо ў кожнага свае памкненні.

Гэта маўклівае дзіця ніколі столькі не гаварыла. У дзядзькі ўсе пачуцці перамяшаліся, ён мог думаць толькі пра тое, што яго надзеі не апраўдаліся і што яму сорамна перад памерлым сябрам. Выраз «у кожнага свае памкненні» параніў яго, ён перастаў слухаць і ў раздражненні пайшоў.

---

[28] Другое імя — Ду Му (803—852 гг.) — кітайскі паэт перыяду канца Танскай імперыі.

Калі дзядзька супакоіўся, з думкай, што хлопчык ніколі гэтаму не вучыўся, ён зноў пайшоў да Джуаньлі, каб падрабязней усё высветліць. На пытанне, хто яго навучыў ляпіць, хлопчык адказаў, што ніхто.

Гэта быў талент.

У гэты час палітычная абстаноўка не была стабільнай. Дзядзька Джу ўспомніў пра сваё цяжкае становішча. Столькі год яго надзеі пра будучыню Джуаньлі сапраўды былі самападманам. Тое, на чым грунтуецца стварэнне, нельга насаджаць штучна. І ў мірны, і ў неспакойны час ёсць людзі таленавітыя, так уладкавана жыццё. І дзядзька Джу прыняў рашэнне.

На наступны дзень ён павёў Джуаньлі да свайго старэйшага стрыечнага брата Джу Вэньджуна. Джу Вэньджун сярод сваіх братоў і сясцёр быў першым майстрам лепкі з гліны ў раёне Хуэйшань. Калі ў хлопчыка ёсць здольнасці, то той зможа іх праверыць.

Джуаньлі сеў, Джу Вэньджун хацеў задаць яму пытанні, каб выпрабаваць яго, але тут заўважыў, што рукі хлопчыка пад сталом рухаліся, і спытаў яго: «Што ты робіш?» Хлопчык выцягнуў руку, у далоньцы яго была гліняная статуэтка галавы. Пасля пільнага разгляду стала зразумела, што рысы скульптуры нічым не адрозніваюцца ад рысаў твару Джу Вэньджуна. Браты зразумелі, што шлях дзіцяці вызначаны.

У трыццаць год Інь Джуаньлі стаў самым маладым вядомым майстрам у раёне Хуэйшань. Джу Вэньджун старэў і падумваў пра пераемніка. У яго не было сыноў, былі толькі дзве дачкі. Пра шлюб адной дачкі ён дамовіўся яшчэ да яе нараджэння, пасля вяселля яна пераехала ў вёску Люхэ, што ў Нанкіне. Малодшая дачка яшчэ не была заручаная, але яе сэрца было занята маладым чалавекам па прозвішчы Інь. Джу Вэньджун бачыў гэта і ўжо вырашыў лёс дачкі.

Бура, як заўсёды, прыйшла знянацку. За адну ноч пасёлак быў аблеплены сценгазетамі. У гэта тужлівае і сухое лета Джу Вэньджун убачыў, што яго імя было пазначана чырвоным крыжыкам і ўнізе падпісана: «Заўзяты прыхільнік капіталізму». Гэты стары неадукаваны майстар нават не ведаў, што такое «капіталізм». Раптам увайшлі нейкія людзі, і ў адно імгненне дом ператварыўся ў хаос. Маладыя застрэльшчыкі крычалі: «Зруйнуем чатыры перажыткі»[29] і патрабавалі, каб ім аддалі ўсе інструменты. Малады Інь Джуаньлі выйшаў наперад і спытаў: «Калі мы ўсё аддадзім, як мы будзем зарабляць?» Застрэльшчык злосна піхнуў яго і крыкнуў: «Таргавацца з рэвалюцыяй вырашыў?»

Джуаньлі ціха сціснуў кулакі і прамовіў: «Мае інструменты — гэта дзве рукі». Юны застрэльшчык абышоў яго і са словамі: «Тады я зламаю твае рукі» — вывіхнуў іх. Ён стаў узнімаць драўляную выбівачку для біцця па неабпаленай гліне. Майстар, не звяртаючы ні на што ўвагі, кінуўся наперад, каб захіліць Джуаньлі. У наступнае імгненне выбівачка ўдарыла старога па спіне ў вобласць сэрца.

Джу Вэньджун сканаў праз два тыдні. Перад смерцю яго позірк праясніўся. Джуаньлі і дачка Вэньджуна Жо Ін паспяшаліся сесці перад ягоным ложкам, ён узяў руку дачкі і ўклаў яе ў руку Джуаньлі.

Мінуў год, як памёр Джу Вэньджун, Джуаньлі і Жо Ін год былі ў жалобе. Яны былі як брат і сястра, але ўсе ведалі, што іх пачуцці ўжо мацнейшыя за звычайныя пачуцці мужа і жонкі. Некалькі пажылых сваякоў хацелі зладзіць ім вяселле, але Джуаньлі адмовіўся і сказаў: «Яшчэ не прайшло тры гады са смерці майстра, зараз ладзіць святкаванні будзе непачціва».

У гэты час яго адшукаў чалавек з рэўкама і спытаўся, ці не збіраецца ён вяртацца да сваёй справы. Джуаньлі адказаў: «У мяне цяжкая ручная праца, я не маю ніякага дачынення да «Ста-

---

[29] Кампанія, якая праводзілася падчас Культурнай рэвалюцыі. Яе мэтай было выкараненне «чатырох перажыткаў» (чатыры перажыткі — гэта Старое мысленне, Старая культура, Старыя звычкі, Старыя звычаі).

рых перажыткаў». Чалавек сказаў: «Мы прадаставім табе магчымасць стаць мастаком-рэвалюцыянерам і паглядзім, ці дасі ты сабе рады». «Што трэба рабіць?» — спытаў Джуаньлі. Чалавек, насвістваючы, адказаў: «Усё залежыць ад таго, як ты сябе праявіш».

Як было дамоўлена, вечарам Джуаньлі адправіўся ў кантору рэўкама. Ён пайшоў туды, не разумеючы, у чым справа. Як толькі ён увайшоў, за ім звонку замкнулі дзверы. Як ён ні крычаў, усё было бескарысна. Толькі сярод ночы яго выпусцілі са словамі: «Пайшоў вон».

Ён вярнуўся дадому і ўбачыў, што ў пакоі Жо Ін гарыць святло. Ён зайшоў, каля акна сядзела Жо Ін і ўсхліпвала. Убачыўшы яго, яна здранцвела. Потым раптоўна паднялася, стала гладзіць яго твар і, нарэшце, гучна заплакала.

Скрозь зубы яна сказала, што думала, што больш не ўбачыць яго. Джуаньлі цьмяна разумеў, што штосьці адбылося, і спытаў: «Што здарылася?» Жо Ін замерла, а потым адказала: «Яны сказалі, што ты напісаў рэакцыйны ліст і быў арыштаваны ў рэўкаме. Што гэта злачынства, якое караецца смерцю».

«Хто гэта сказаў?»

«Кіраўнік рэўкама Лі». Ён не мог злавіць погляду Жо Ін. Святло ўпала на Жо Ін, і Джуаньлі заўважыў на яе шыі сінякі. Сэрца ў яго сціснулася, быццам усяго раптам аблілі кіпнем.

Ён рвануў да дзвярэй, але Жо Ін яго адцягнула і прамовіла: «Ён сказаў, што калі не будзе так, як ён хоча, то не адпусціць цябе».

Яго сэрца быццам бізуном ударылі, ён развярнуўся і моцна сціснуў у абдымках гэтую жанчыну.

Жо Ін была на трэцім месяцы цяжарнасці, калі яны ажаніліся.

Ён сказаў: «Пакінь дзіця, гэта лёс. Калі народзіцца, буду яго бацькам».

Дзіця нарадзілася на дванаццаты месяц па месяцовым календары. Малы не плакаў. Калі ён трошкі падрос, стала бачна, што з целам нешта не так.

Жо Ін сказала, што хоча нарадзіць яму здаровае дзіця.

Жанчына як быццам выношвала не дзіця, а мару двух людзей. Праз дзевяць месяцаў настаў час родаў. Яны хутка прыехалі ў шпіталь. Доктар спытаўся ў іх: «Чаму прыехалі толькі цяпер?»

Зрабілі кесарава сячэнне, дзіця аказалася мёртвым.

Вечарам у Жо Ін пачаўся крывацёк. Доктар-інтэрн гінекалагічнага аддзялення разгубіўся, паслаў па галоўнага ўрача, але той быў у кароўніку. Пакуль аказвалі хуткую дапамогу, прайшло паўночы.

На світанку Жо Ін заплюшчыла вочы. Яна не сказала ні слова перад смерцю. На Джуаньлі толькі глядзеў яе змярцвела-бледны твар.

Інь Джуаньлі стаў адзін гадаваць дзіця, так прайшло два гады. Хтосьці, бачачы, што мужчыну цяжка аднаму гадаваць дзіця, хацеў пазнаёміць яго з аўдавелай жанчынай, але Джуаньлі адмовіўся.

У рэўкаме змянілася кіраўніцтва. Новы кіраўнік сказаў яму, што ў рэвалюцыі ёсць для яго заданне.

Джуаньлі здранцвеў, потым з горкім смяшком сказаў: «У маёй сям'і больш няма жанчын».

Кіраўнік вытарашчыў вочы: «Смяешся з рэвалюцыі?»

Заданнем было зляпіць статуэткі старшыні.

Апускаючы рукі ў гліну, ён адчуваў некаторую боязь, быццам дакранаўся да чагосьці незнаёмага. Але ў той жа час па ягоных пальцах прабегла прыемнае цяпло.

Ні ў кога не было сумненняў, што статуэтка старшыні атрымалася добрай. Людзі, якія жывуць у межах ста лі[30] , ушаноўвалі зробленую ім статуэтку.

---

[30] Кітайская міля, адзінка даўжыні, роўная 0,5 км.

Скончыўшы адну статуэтку старшыні, ён рабіў наступную на новы манер. Кожны раз, калі статуэтку забіралі, у сэрцы ў яго рабілася пуста. Але з цягам часу ён прывык.

Аднойчы ў дзіцяці паднялася тэмпература. Яны паехалі ў прыёмны пункт, каб зрабіць укол, але ён не дапамог. Тады яны паехалі ў павятовы шпіталь, але з-за ліхаманкі дзіця ўжо страціла прытомнасць. Тэмпература спала, але хлопчык не мог устаць на ногі. Хоць раней з імі ўсё было ў парадку.

Майстар дакараў сябе за гэта. У рэвалюцыйны кабінет прыйшла абвестка пра тое, што статуэткі старшыні павінны быць дастаўлены ў пасёлак Цсіншань вёскі Юі. Майстар павінен быў скончыць працу гэтай ноччу.

Майстар прывык да пакут. Ён прапрацаваў паўночы, трошкі паспаў, падняўся і працягнуў працу. Скончыўшы, чакаў, калі за імі прыйдуць. Гліняны старшыня ўсміхаўся падобна мудрацу, які сышоў з нябёс.

Статуэткі забралі раніцай, а апоўдні з’явіліся хунвэйбіны[31] і заявілі, што павінны яго арыштаваць як праціўніка рэвалюцыі.

З правага боку на падбародку ў старшыні стаяла буйная радзімка. Гэта расцанілі так, быццам ён хавае сваю прыхільнасць да правых. А хітрыкі, якія змяшчаюць прыхаваныя здрадніцкія намеры, неабходна выкараняць.

Перад тым як выправіцца на папраўча-працоўныя работы, ён адаслаў сына да старэйшай сястры жонкі Жолань у вёску Люхэ.

Прайшло дзевяць год.

Калі яго адпусцілі, ён ужо быў у сярэдніх гадах, але выглядаў нашмат старэйшым.

У сям’і для яго не было месца, і сястра яму сказала: «Адпраўляйся ў Нанкін. Твой сын вырас, размаўляць ён не можа, з цяжкасцю вымаўляе адзін-два выразы, і тое на гаворцы Люхэ».

Ён сказаў, што будзе зарабляць на жыццё ўласнай працай, зоймецца старой справай. І адкрыў лаўку ў палацы Чаоцянь.

Ён гадаваў сына. Вольны час праводзіў за чытаннем Джоў І[32]. І не заўважаў, як ішлі гады.

Ён трошкі развіў сваю справу. Сястра сказала: «У сям’і павінна быць жанчына». Ён адказаў: «Мне не патрэбна, знайдзі жонку для свайго пляменніка». Яна ўздыхнула: «Для цябе знайсці жонку лягчэй».

Праз некаторы час Жолань знайшла вясковую дзяўчыну, якая з’яўлялася далёкай сваячкай яе мужа. Дзяўчына здалася простай. Яна не была прыгожай, шмат ела, але і працаваць умела. Толькі шмат гаварыла.

Гэтай дзяўчынай была Лю Цзюань.

Даслухаўшы да гэтага месца, мы раптам успомнілі, што сёння, калі былі ў майстра Іня, мы не бачылі яго нявесткі.

Жанчына зірнула на нас і сказала: «Я яе знайшла, гэта я вінаватая, але хто ж мог прадбачыць, што яна акажацца такой спрытнай?»

Мы ўсе не захавалі меры бяспекі. Пасведчанне аб праве на нерухомасць, рахунак у банку — усё было на яе імя.

І тады мы зразумелі, што гэтая жанчына, па імені Лю Цзюань, больш не з’явіцца.

Пахаванне майстра Іня было вельмі сціплым. Людзей было няшмат. Тыя, хто размаўляў на гаворцы Усі, былі яго сваякамі. Ніхто не плакаў, на тварах не адлюстроўваўся смутак. Інь Чэн сядзеў у інваліднай калясцы, на галаве ў яго была жалобная шапка. Рукі зводзілі сутаргі. На партрэ-

31 Атрады, створаныя з ліку студэнцкай і школьнай моладзі для барацьбы з праціўнікамі Мао Дзэдуна падчас правядзення Культурнай рэвалюцыі.

32 «Кніга перамен» — старажытны кітайскі помнік.

це рысы твару памерлага былі расплывістымі. Напэўна, гэта пабольшаны здымак з пасведчання. Таму на фотаздымку зморшчыны былі разгладжаны, і майстар выглядаў маладзейшым.

Ззаду прагучала гаворка на кітайскай мове з акцэнтам, Кевін прамовіў: «Як шкада».

Калі жанчына, якую звалі Жолань, даела соевы суп, яна сказала бацьку: «Спадар Мао, я маю да Вас адну справу». Яна дастала канверт: «Майстар Інь перад смерцю папрасіў перадаць Вам гэты ключ. Ключ падыходзіць да драўлянай скрыні пад ягоным ложкам».

Мы выцягнулі драўляную скрыню. Нягледзячы на тое, што яна была старой, на ёй зусім не было пылу.

Ключ лёгка падышоў да замка.

Адчыніўшы скрыню, мы ўбачылі, што ў ёй былі статуэткі старшыні Мао.

Гліняныя статуэткі спакойна сядзелі ў скрыні, і кожная была пазначана годам, калі яе вырабілі. У кожнай на падбародку стаяла радзімка.

**Пераклад з кітайскай Кацярыны Гардзей.**



Малюнак Вікенція Пазункевіча.

**Алесь Карлюкевіч**

# Гао Ман. Дарога ў Беларусь

**Пачынаючы з 2011 года ў розных беларускіх выданнях («Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Полымя», «Беларусь» і інш.) часта згадваецца імя кітайскага перакладчыка і мастака Гао Мана (нарадзіўся ў 1926 годзе ў Харбіне). Не пераказваючы змест папярэдніх публікацый, нагадаем, што гэтая асоба — яркая зорка ў зносінах кітайскага прыгожага пісьменства са славянскімі літаратурамі. Найперш — з рускай. Пасля — з украінскай і беларускай.**

Гао Ман разам з Гэ Баоцянем пераклаў на кітайскую мову кнігу вершаў Максіма Танка. У кітайскім друку выступаў з артыкуламі пра беларускую літаратуру і мастацтва. У прыватнасці, расказаў пра творчасць Георгія Паплаўскага. Намаляваў шэраг партрэтаў беларускіх пісьменнікаў: Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Святланы Алексіевіч, Алеся Адамовіча, Навума Гальпяровіча...

Улетку 2014 года ў мінскай кнігарні «Кніжны салон» па вуліцы Калініна, 5 прайшла вечарына, прысвечаная Гао Ману, яго стасункам з Беларуссю. Расказаўшы напярэдадні ў электронным лісце самому Гао Ману пра гэтую падзею, я атрымаў у адказ ад яго такі вось сціплы ліст:

*Дарагі Алесь Мікалаевіч! Глыбока ўдзячны, што вы праводзіце прэзентацыю творчых праектаў, прысвечаных літаратуры і культуры Кітая. Упэўнены, што яна пройдзе з поспехам. Перадайце ўсім удзельнікам маю шчырую ўдзячнасць.*

*Што датычыцца мяне, то я лічу, што нявартым быць «паўнамоцным прадстаўніком беларускай культуры ў Кітаі». Я ўсяго толькі адзін з аматараў і перакладчыкаў беларускай літаратуры і мастацтва.*

*У дні прэзентацыі ўсім сэрцам і душой з вамі. Як хацелася б яшчэ што-небудзь зрабіць у імя нашай дружбы і ўмацавання культурных сувязей нашых народаў.*

*Дасылаю некалькі здымкаў...*

Адна з фатаграфій, якую варта было б, несумненна, увесці ва ўжытак жыццяпісу народнага паэта Беларусі Максіма Танка, асабліва каштоўная. На здымку з сустрэчы дэлегацыі савецкіх культурных дзеячаў з кітайскімі пісьменнікамі ў 1957 годзе ў Кітаі мы знойдзем Максіма Танка (трэці справа). А чацвёрты злева — Гао Ман.

На гэтым жа здымку мы знойдзем старшыню Саюза пісьменнікаў Кітая празаіка і публіцыста Мао Дуня. Пра яго хацелася расказаць крышачку падрабязней. Нарадзіўся пісьменнік (сапраўднае прозвішча — Шэнь Яньбін) 4 ліпеня 1896 года. Выступаць у друку пачаў у 1920-я. Аўтар трылогіі «Зацьменне» (1927—1928). У 1928-м напісаў артыкул «Ад Гуліна да Токіа», дзе выклаў сваё разуменне задач рэвалюцыйнай рэалістычнай літаратуры. У 1928—1930 гадах знаходзіўся ў эміграцыі ў Японіі. Вярнуўшыся ў Кітай, заняў вядучае месца ў Лізе левых пісьменнікаў Кітая. У час Вайны супраціўлення Японіі (1937—1945) рэдагаваў часопіс



Сустрэча дэлегацыі савецкіх культурных дзеячаў з кітайскімі пісьменнікамі. 1957 год. Першы справа — старшыня Саюза пісьменнікаў Кітая Мао Дунь. Чацвёрты злева — Гао Ман. Трэці справа — Максім Танк.



Беларуская радыёжурналістка Вольга Гальпяровіч бярэ інтэрв'ю ў Гао Мана на выстаўцы яго карцін. Пекін. 27 чэрвеня 2013 года.

«Вэны чжэньдзі» («Пазіцыі літаратуры і мастацтва»). У 1941 годзе выпусціў у Ганконгу раман «Фушы» («Радасць»). Твор напісаны ў форме дзённіка маладой жанчыны, якая стала супрацоўніцай гаміньданаўскай сакрэтнай паліцыі. Раман абвінавачваў чайнкайшысцкую сістэму вышуку, тэрор супраць патрыётаў. У 1945 годзе напісаў драму «У дні памінак», прысвечаную перспектывам барацьбы за абнаўленне Кітая ў свеце набліжэння канца вайны. У 1949—1964 гадах займаў пасаду міністра культуры КНР. Старшыня Саюза пісьменнікаў Кітая ў 1953—1981 гадах. Падвяргаўся ганенням у перыяд «культурнай рэвалюцыі».

У 1953 годзе часопіс «Полымя» (у лістападаўскім нумары) надрукаваў «Вясенніх шаўкапрадаў» Мао Дуня ў перакладзе на беларускую мову. Відаць, Максім Танк памятаў пра гэту публікацыю. І не выключана, што прывёз з сабою ў Кітай нумар, у якім быў змешчаны гэты пераклад. Тым болей, што яшчэ з 1948 года менавіта Максім Танк быў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя». І займаў гэтую пасаду да 1966 года. Якраз пры ім у часопісе пачалі з'яўляцца пераклады кітайскай паэзіі і прозы. У 1959 годзе ў Мінску асобным выданнем выйдзе па-беларуску раман Мао Дуня «Перад світаннем». Мажліва, падчас той сустрэчы ў 1957-м і ішла размова пра пераклад гэтага твора на беларускую мову.

Гао Ман, нягледзячы на такое сціплае вызначэнне сваёй ролі ў беларуска-кітайскіх літаратурных стасунках, даволі актыўна і зараз углядаецца ў беларускую культуру ды мастацтва. Літаральна некалькі гадоў таму ён выступіў у адной з вядучых грамадска-палітычных газет Кітая з артыкулам пра ўзнаўленне літаратурных сувязей Беларусі і Кітая. У сваёй пекінскай кватэры перакладчык неаднаразова прымаў беларускіх журналістаў. Сустрэўся з паэтам Навумам Гальпяровічам, якому прысвяціў верш і партрэт якога намаляваў у дадатак да тых каліграфічных выяў беларускіх пісьменнікаў, якія зрабіў у ранейшыя дзесяцігоддзі. Некаторыя здымкі як сведчанне такой увагі мы і дадаём да гэтай публікацыі.

Мне давялося сустракацца з Гао Манам у Пекіне ў яго кватэры двойчы — у маі і верасні 2015 года. У час першай сустрэчы разам са мною ў Гао Мана нікога не было. Толькі яго дачка і пляменніца. А ў верасні мы прыйшлі да яго вялікай грамадой. Была і выкладчыца 2-га Пекінскага лінгвіс-



Беларускі паэт і журналіст Навум Гальпяровіч у гасцях у Гао Мана. 16 верасня 2011 года.

тычнага ўніверсітэта беларуска Марына Каліцкая. І прадстаўнік Усекітайскага агенцтва па ахове аўтарскіх правоў Чжао Хунба. Тады яшчэ ніхто не ведаў аб прысуджэнні Святлане Алексіевіч Нобелеўскай прэміі. Але ўсе ведалі, што яна — сярод намінантаў. Гао Ман (перакладчык «Цынкавых хлопчыкаў» на кітайскую мову) сцвярджальна сказаў, што выйграе Алексіевіч. Не памыліўся...

Разглядаючы бібліятэку пісьменніка, я сярод іншых кніг знайшоў томік Адама Міцкевіча на кітайскай мове. Высветлілася, што кніга — з аўтографам перакладчыка. Прызнацца, мне вельмі захацелася займець гэты томік. Яшчэ і таму, што падумаў: адвязу яго ў навагрудскі музей Міцкевіча. Ужо даўно з нагоды сяброўства з яго дырэктарам Міколам Гайба збіраю розныя памяткі для гэтай скарбонкі асветніцтва. Гао Ман, адкрыўшы для сябе, што Міцкевіч родам з Беларусі, пайшоў (чалавеку амаль 90 гадоў) да перакладчыка, які, як высветлілася, жыве ў гэтым жа шматпавярховым доме. І праз некалькі хвілін прынёс кітайскую кнігу Міцкевіча ўжо з новым аўтографам.

З вялікай цікавасцю гутарыў Гао Ман з Марынай Каліцкай па-кітайску. Яго вельмі парадаваў узровень валодання дзяўчынай кітайскай мовай. І, канешне, шмат успамінаў пра Максіма Танка. Узрушліва гаварыў пра даўняе жаданне беларускага паэта наведацца на магілу класіка кітайскага выяўленчага мастацтва Ці Байшы. Пэўна, у Савецкім Саюзе тады, у 1950-я, шмат пісалі пра гэтую легенду кітайскага мастацтва. І Максіма Танк, едучы ў Кітай, марыў пра сустрэчу з мастаком, якому ў 1953 годзе быў прысвоены тытул Вялікага мастака кітайскага народа. У 1956 годзе Ці Байшы ўганаравалі Міжнароднай Ленінскай прэміяй Міру. Але 16 верасня мастак пайшоў з жыцця. І Максім Танк змог наведацца толькі на яго магілу... Гао Ман паўсюль суправаджаў беларускага паэта ў Кітаі ў кастрычніку 1957 года. А пасля стаў перакладчыкам кнігі яго вершаў.

...Гадзіны ў кватэры пекінскага сябра беларускай культуры праляцелі як адно імгненне. Пакінуўшы Гао Ману беларускія кнігі і сувеніры, мы выйшлі з яго дома пад вялікім уражаннем, поўныя захаплення ад сустрэча з чалавекам, які з такой далёкай адлегласці бачыць Беларусь, адчувае нашу літаратуру і любіць беларускае мастацтва.





Гао Ман. Фота з архіва Гао Мана.

**Галіна Багданава**

# «Восеньскі салон» з прысмакам лета

**Мы прызвычаіліся да таго, што мастацтва ёсць люстэрка рэальнасці. А сучасныя мастакі запрашаюць у Залюстроўе — туды, дзе сплятаюцца да болю знаёмыя вобразы і гукі, дзе лунае вабны водар неспазнанасці…**

*З 8 кастрычніка па 8 лістапада ў Палацы мастацтва праходзіў «Восеньскі салон» — грандыёзная выстава, якую «Белгазпрамбанк» прымеркаваў да свайго 25-годдзя. З амаль 380 мастакоў узростам ад 18 да 40 гадоў аўтарытэтнае журы абрала 90, якія напраўду вызначаюць наша сёння і нашу будучыню ў мастацтве. Кожны ўдзельнік меў магчымасць прадставіць тры творы. А гледачоў папрасілі выказаць меркаванні. Прычым, галасаванне вялося і он-лайн.*

Першае, што варта адзначыць: арганізатары выстаўкі «Восеньскі салон з «Белгазпрамбанкам», якая працягвае традыцыі слынных Парыжскіх салонаў і мусіць стаць традыцыйнай, — людзі высокай культуры. Арыгінальна арганізаваная экспазіцыя, якасна выдадзены каталог. Гэта ў многім заслуга каардынатара праекта, дырэктара Палаца мастацтва, маладога мастака Аляксандра Зінкевіча.

Як не нагадаць тут пра тое, што аўтар ідэі правядзення гэтай выставы — беларускі дыпламат, пісьменнік, перакладчык Уладзімір Шчасны, які прыклаў шмат намаганняў для таго, каб мы сёння мелі магчымасць на свае вочы ўбачыць і ацаніць творы мастакоў Парыжскай школы пачатку XX стагоддзя, выхадцаў з Беларусі. Іх творы — гонар карпаратыўнай калекцыі «Белгазпрамбанка», якая стала адметным камертонам Салона. Міфалагічны экспрэсіянізм Шагала, Суціна, Кікоіна і іншых слынных творцаў кожны мог суаднесці з творамі тых, каму выпала жыць і тварыць роўна праз сотню гадоў.

Пасля наведвання Салона хочацца гаварыць пра ўнікальныя творы, але паколькі наш арт-рынак яшчэ толькі фарміруецца і кошты, якія пазначылі аўтары, многіх шакіравалі, у інтэрнэце адразу былі прадстаўлены і самыя дарагія, і самыя бюджэтныя работы з выстаўкі.

Але галоўнае прызначэнне Восеньскага салона — не продаж, а АДКРЫЦЦЁ. Новых накірункаў і новых імёнаў.

Памятаючы, што ў 1874 годзе ў Парыжы на падобнай выставе ўпершыню была паказана карціна «Уражанне (імпрэсія). Узыход сонца» Клода Манэ, і з лёгкай рукі карэспандэнта газеты «Шарывары», які абразліва назваў усіх мастакоў-удзельнікаў «імпрэсіяністамі», нарадзіўся цэлы накірунак, а ў парыжскім Салоне 1905 года вокліч «фаў!» (дзіка!) у адносінах да колераў Маціса і яго паплечнікаў даў пачатак «фавізму», — ну як утрымацца ад спакусы акрэсліць будучыню нашага мастацтва… Але потым згадваеш, што не стаіш ля люстэрка рэальнасці, а блукаеш у лабірынтах Залюстроўя, пераступіць парог якога ў канцы XX стагоддзя дапамог настоены на інтэртэкстуальнасці постмадэрнізм… І тады ў самым да шоку жорсткім творы — інсталяцыі А. Слабодчыкавай «Святы жах», у пасмах зблытаных чорных валасоў у ванне бачыш… улюбёны вобраз постмадэрнізму — «рызому» — таемнае перапляценне каранёў — вобразаў з розных эпох і стыляў, якія люструюцца ў нашай падсвядомасці і, натрапіўшы на схаваныя там культурныя коды, прарастаюць ужо не толькі аўтарскімі, але і нашымі ўласнымі вобразамі. Вобразамі, якія дапамагаюць кожнаму спасцігнуць сутнасць жыцця. Ці не дзеля гэтага існуе мастацтва?

Перапляценне высушаных траў, пруткоў белаягадніку раптам нараджае зусім манументальны вобраз чалавека, празрыстая душа якога гатовая ўвабраць у сябе ўвесь навакольны свет (скульптура «Абуджэнне» П. Піраговай і В. Цімашова). А потым спыняешся ля жывапісных твораў С. Піскун, якія літаральна заварожваюць цябе лабірынтамі гарадоў і замкаў («Адбіткі Вільні», «Вежа», «Прыступкі») і разумееш, што чым глыбей аўтар спазнае архетыпы традыцый, тым бліжэй да кожнага з нас («Успаміны з дзяцінства» і іншыя творы В. Ягоўдзік, створаныя паводле эстэтыкі маляваных дываноў). Восеньскі салон пацвердзіў — сёння беларускае мастацтва асвойвае поле, з лёгкай рукі мастацтвазнаўцаў яшчэ колькі гадоў таму названае **посттрадыцыяй.** З лабірынта, з Залюстроўя ў кожнага мастака, а значыць, і ў нас ёсць выйсце — традыцыі мастацтва, сусветнага і беларускага, што, як камертон, настройваюць самыя

складаныя вобразныя гармоніі ў наш час. І як не звярнуць увагу на звычайны жывы, наш беларускі камень, што ляжыць на драўляным крыжы… «Зерне» — так называецца скульптурная кампазіцыя Паўла Ляонава, які прадставіў на выстаўцы проста на дотык жывыя бронзавыя выявы рыбін.

Усё ж невыпадкова распачынае экспазіцыю серыя аксамітных, вельмі тонкіх лірычных акварэляў Піліпа Басалыгі «Сустрэча», «Надвячорак», «Пах бэзу»… Памятаеце, у Сокалава-Воюша: «Аксамітны летні вечар ахінуў зямлю…»?

…Увосень змяркаецца рана. І калі выходзіш з Палаца мастацтва, нельга не заўважыць, што цёплае, залатое святло ліецца не столькі ад лямпаў, колькі ад твораў. У той зале экспанаваліся самыя дарагія на выставе карціны Алесі Скарабагатай (яе творы друкаваліся ў «Маладосці» ў № 10 і 11 за 2015 год) — таемна свяціліся ля рук чараўніка зоры («Ноч»), выпраменьвалі святло сатканыя рукамі простай жанчыны-працаўніцы сланечнікі («Дзень»), і не сыходзіў з вуснаў смак мёду («Пацалунак пчалы»). Напраўду залаты падарунак да свайго сярэбранага юбілею зрабіў сабе, мастакам і ўсім нам шаноўны «Белгазпрамбанк». Замежныя арткрытыкі вызначылі тых, каму належала атрымаць прэміі — аўтара фотакалажоў Андрэя Ленкевіча і аўтара твораў, блізкіх па стылістыцы да плакатаў, сцэнографа Аляксандра Балдакова. А гледачы, тыя, што наведалі выставу, аддалі перавагу жывапісу. Аўтар самых дарагіх палотнаў — маладая мастачка, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, стыпендыят Польскай нацыянальнай камісіі ЮНЕСКА, нядаўняя выпускніца, а цяпер выкладчыца кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва БДАМ Алеся Скарабагатая — атрымала прыз глядацкіх сімпатый. Маладыя мастацтвазнаўцы і артжурналісты, студэнты БДАМ і Інстытута журналістыкі БДУ таксама ўдзельнічалі ў глядацкім галасаванні. І вось



Піліп Басалыга. Пах бэзу.

як патлумачылі свой выбар (усе матэрыялы былі напісаныя ў першыя дні работы выстаўкі).

**Вольга Ропат**

# Сустрэчы чаканыя і нечаканыя

## Аўтар самых дарагіх работ

Мая сустрэча з аўтарам самых дарагіх работ Алесяй Скарабагатай адбылася год таму ў Палацы мастацтва на выставе «Under 35». Тады мяне вельмі ўразіла яе карціна ў малочна-жаўтаватай каляровай гаме «Ранішняя кава». Я пісала пра той твор у каталогу, часопісе… А цяпер спынілася ля дыптыха «Ноч» і «Дзень» і карціны «Пацалунак пчалы». Яе сапраўды быццам адчуваеш на смак. Салодкая, мядовая, прасякнутая маленькімі кропелькамі-блікамі, плямкамі жаўтавата-празрыстага цягучага мёду… Алеся Скарабагатая валодае майстэрствам перадачы светлавых эфектаў. Здаецца, яе карціны падсвечваюцца знутры. І не ведаеш, што гэта: майстэрства ці энергетыка мастачкі.

Але на выставе «Восеньскі салон» мяне чакала яшчэ адна дзіўная сустрэча. На вялікай карціне «Кола часу» таленавітага мастака, таксама выпускніка БДАМ Алеся Багданава, у самым версе жывапіснага палатна я ўбачыла… вобраз Алесі Скарабагатай. Містыка? Добрая інтуіцыя Алеся Багданава? Не ведаю. Але вялізная работа «Кола часу» — карціна, якая не маўчыць, яна кажа: «Настане і твой шчаслівы час». Здаецца, Алесь Багданаў прадказаў будучыню Алесі Скарабагатай: шчаслівае імгненне самай дарагой мастачкі арт-праекта ўжо прыйшло. Цікава, а хто стане наступным уладальнікам шчаслівага імгнення? Калі задумацца: як мы выбіраем людзей? Мабыць, гэта нешта большае, чым інтуіцыя…

Але, несумненна, кожны сам знаходзіць самыя дарагія для сябе працы. На выставе можна сустрэць «маўклівыя», так бы мовіць, інтравертныя творы — мяккія, не экспрэсіўныя, але напоўненыя. Да іх варта не толькі прыгледзецца, але і прыслухацца… Гэта і «Гук з дзяцінства» Тамары Шэлест і серыя «Уласцівасці памяці» Івана Сямілетава, дзе мінімальнымі сродкамі паказаны максімум пачуццяў. А персанажам тэатральнай карціны «Паляванне на ліс» Ганны Сілівончык, мабыць, ужо цесна на палатне ды ў рамках. Ім хочацца ўнесці крышачку гульні і ў нашае жыццё.

## Графічны рыцар

Уразілі мяне і па-сапраўднаму вострыя (у самым непасрэдным сэнсе) графічныя работы Рамана Сустава — удзельніка розных міжнародных праектаў, таксама выпускніка БДАМ. Ён дасканала валодае практычна ўсімі графічнымі тэхнікамі — афорт, сухая іголка, траўлёны штрых, яго работы маюць вялікую папулярнасць у Германіі, Японіі, Польшчы, ЗША… Вобразы ў творах, прадстаўленых на «Восеньскім салоне», немагчыма апісаць некалькімі словамі. Здаецца, мы знаходзімся на раздарожжы: бачым то элементы рыцарскіх латаў, то нешта касмічнае і неспазнанае. Раман Сустаў надае вялікую ўвагу дэталям, строгімі лініямі ён стварае вобразы вытанчаных, быццам гранёных фігур, у якіх… наша будучыня?

## Неруш шкляных карункаў

Калі пераходзіш ад твора да твора, штораз ловіш сябе на новым адчуванні. Гэтае нечакана злоўленае пачуццё пакідае след, і не важна, радасць ці сум… Глядач сярод мноства твораў пачуваецца рыбаком: ён павінен злавіць залатую рыбку. І гэтая залатая рыбка не заўсёды будзе мець залаты колер. Яна можа быць і празрыстаю… Мяне ўразілі скульптуры са шкла — Алены Златкавіч «Бясчассе» і (Эдуарда) Сяргея Белаокага «Упаўшы дождж». Творы са шкла выклікаюць гэткае ж адчуванне, як калі доўга глядзець на агонь ці ваду. Глядзіш на празрыстае, «некранутае» — і не хочацца адрывацца. Яно супакойвае. Быццам растаеш у шкляных формах.

## Голас скульптуры

Скульптурка «Месячнае святло» Алены Ліпінскай насамрэч нагадвае штосьці нябеснае. Мініяцюрная форма, тонкія, плаўныя выгіны дзяўчынкі, яе поза ў форме месяца — усё надае гэтаму твору задуменнасць і спакой.

Вольга Орсік прапанавала гледачам свой погляд на сябе. Скульптура «Аўтапартрэт» нагадвае карціну сюррэаліста Сальвадора Далі «Антрапаморфная шафа». Але твор Вольгі Орсік «запоўне-

ны» прадметамі — акулярамі, жывёламі, вазамі, кветкамі… А значыць, ёй ёсць чым падзяліцца з гледачамі.

Сярод усіх скульптур вылучаюцца работы Паліны Піраговай і Васіля Цімашова «Абуджэнне» і «Прыродная сувязь», што заварожваюць дзівоснымі перапляценнямі, і скульптура з граніту «Голас» Васіля Цімашова.

Інтэрнэт сведчыць, што на самай справе самым дарагім творам на «Восеньскім салоне» мусіла стаць скульптура. Але двухметровы экспанат не знайшоў свайго месца ў зале… Прыйшоў час пашыраць экспазіцыю. Многія беларускія скульптары, сярод якіх Іван Арцімовіч, Павел Вайніцкі, Васіль Цімашоў, Паліна Пірагова і іншыя даўно працуюць над тым, каб стварыць у Мінску парк скульптур. Скульптарам ёсць што прапанаваць мінчанам і турыстам. У якасці прыкладу можна прывесці «Павука», што знайшоў сябе каля Ратушы. Гэтай незвычайнай ідэі далі жыццё Іван Арцімовіч, Аляксандр Сакалоў, Паліна Пірагова і Васіль Цімашоў.

**Анастасія Капцава**

## Пацалунак пчалы

Падыходзіш да работ Алесі Скарабагатай — і перахоплівае дыханне. Гэта ж не фотаздымкі. Гэта Жывапіс… Вельмі сучасны, метафарычны. Ноч — старац, які ахінае свет зорнай прыгажосцю. Дзень — прыгожая дзяўчына, якая пляце са сланечнікаў новы дзень. Другая работа — «Пацалунак пчалы». Чалавек, які не бачыў гэтую карціну, падумае: ці гэта будзе пчала, якая збірае мёд, ці пчала будзе сядзець на чалавеку… Алеся ўвасобіла рукі, якія набіраюць мёд на лыжку, соты і пчалу. Гэтая работа напоўнена такой цеплынёй і прыгажосцю, што нельга адарваць вачэй.



Алеся Скарабагатая. Пацалунак пчалы.

На працягу дня не было такога, каб па выставе не хадзіла ніводнага чалавека. Заўсёды ёсць людзі. Гэта моладзь, пенсіянеры, сямейныя пары. Адны прыходзяць, каб не толькі паглядзець, але набыць нейкую работу. Іншыя — каб проста адпачыць ад клопатаў і акунуцца ў прыгажосць мастацтва.

**Рагнеда Юргель**

## Абуджэнне

Якую назву прыдумалі сваёй рабоце аўтары — Паліна Пірагова і Васіль Цімашоў? «Адчай»? «Адзінота»? А можа, проста пакінулі гледача сам-насам са страшнай выявай без назвы? Пакуль пачвары ў падсвядомасці множацца, ногі мімаволі нясуць бліжэй да пагрозлівай скульптуры, а вочы чытаюць адзінае слова. Слова, якое становіцца ключом да рэбуса, які прапанавалі маладыя мастакі формы, і ўмомант нішчыць усіх страхавідлаў. АБУДЖЭННЕ. Пачатак нечага невядомага, чыстага, лепшага.

Так звыкла казаць: «Ісці насустрач з адкрытым сэрцам». А скульптары літаральна ўвасобілі гэты выраз. Кожную раніцу мы прачынаемся безабароннымі перад новым днём і спадзяёмся, што ён будзе добрым. Кожны раз, калі дазваляем крыху больш шчырасці з іншымі, мы становімся прыступнымі для абразы ці раўнадушша і адначасова верым — гэты «іншы» нас зразумее. У рэшце рэшт, ці не за кожным шчытом з калючых сухіх галінак хаваецца чуйная мяккая сарцавіна?

Абуджэнне — гэта здольнасць убачыць раней невядомае. З часам рашэцістая адтуліна ў цэнтры скульптуры пачынае нагадваць акно. Быццам прапануе гледачу зазірнуць у сябе, працерці мутныя шкельцы і... Хто ведае, якія далягляды хаваюцца ў нашых душах?

Абуджэнне — гэта пераўтварэнне. З непрыкметнага кокана вылятае каляровы матыль і ўжо ніколі не вяртаецца да сваёй былой абалонкі. Напэўна, кокану можа быць балюча, калі з яго вырываецца на свет трапяткая, радасная істота. Што ж, за новае «я» часам даводзіцца плаціць болем.

Абуджэнне — гэта магчымасць пруткоў выпусціць зялёныя лісты, нават калі яны ўжо аддзелены ад кораня. Вытрымаць усе нягоды і адрадзіцца.



Паліна Пірагова, Васіль Цімашоў. Абуджэнне.

Абуджэнне — гэта змена былых поглядаў, а часам і светаўспрымання. Здараецца, для яго хапае адзінага слова.

### Паліна Піткевіч

## Незнаёмы

Адкрыццё грандыёзнай выставы. Патыхае французскім і жоўтым: «Восеньскі салон». Два паверхі эклектыкі. Smells like teen spirit. Дзевяноста маладых мастакоў побач, плячо ў плячо, з мэтрамі. Як ні дзіўна, палотны старых майстроў маленькія і сціплыя, заціснутыя з абодвух бакоў карнавалам, цыганскім танцам, маладым і вольным самавыяўленнем у выяўленчым. Яно яркае, нібы клоўнскі нос, і складанае, як вылічэнні да простага ўраўнення ў школьнім чарнавіку. Карціны глядзяць на людзей, а людзі чапляюць іх позіркамі-кручочкамі і вывязваюць сваё бязладнае вязанне — сляды. Сляпыя павольна і няўклюдна штурхаюць адзін аднаго: ім усё трэба ўбачыць! Гэта і не натоўп, і не рой — там свой парадак. Хутчэй, мядзведзі-шатуны — «свежыя», кастрычніцкія. Баішся іх, хаця і сам такі ж мядзведзь сярод мядзведзяў.

Крок-у-бок, крок-у-бок, паварот… Вось такія па. Крок, крок, паварот. І — сустрэча! Хто гэта, хто? Вы — хто? Мастак. Так-так, верагодна, мастак. Не мядзведзь дакладна, а чалавек, прычым нейкі такі, такі… Цуд неспадзяваны, вось які. Ужо пайшоў — няма перад вачыма, а перад унутранымі схаванымі вачыма ёсць. Маё кудлатае «вязанне» ўцягнула мяне кудысьці за сцены, у праходы, у белыя тупікі. А цуд застаўся за вачыма, за патыліцай, і яшчэ — цьмяным адбіткам пальца на сятчатцы вока. Трэба спыніцца, цуд па праве патрабуе хай не разумення, але развагі. Чаму ён раптам мастак? Сівы чалавек без узросту. Высокі, галінасты і гладкі, нібы дрэва. Добры. Уважлівы. Ні табе шаліка, ні берэта, ні «капусты» з align рознакаляровых адзежын, каб быць, ці здавацца, мастаком. Проста светлае кароткае паліто, светлыя вочы, светлы — прасвет-лены — твар, светлыя валасы — сапраўднай кудзеляй.

Але ёсць у ім галоўнае здзіўленне, галоўнае «не такое». А што? Ён адкрыты. Расчынены чалавек! Не таму, што паліто расшпілена і ападае дзвюма складзенымі скрыдламі. Расчынены ён сам. Як аканіцы — у вясну, як кніга — цікаўнаму носу, як мастак на выставе. Памятаю, на што глядзела да таго. На гірлянду са шкляных узорыстых пласцін, прамавугольных, злучаных у дыван, што сцякае са столі. Расчынены ўсё ж больш празрысты за шкло гірлянды. У такога маленькая гарэза лёгка б прашмыгнула паміж каленяў. Людзі перад ім рассоўваюцца, гэтыя мядзведзі. Ці магчыма штурхнуць расчыненага чалавека? Не атрымаецца. Ён ідзе, не рэч-у-сабе, а ад-сябе. Прамымі лініямі навонкі плечы. Яму пяцьдзясят, не меней. Усяго толькі падлетак, які даношвае за дзедам. Маскіруецца, свавольнік. Скульптар павінен быць самавітым, нават калі стварае празрыстыя рэчы, падвешвае да столі дождж.

Ад кожнага мядзведзя атрымана па штуршку. Час ісці дадому ды занатоўваць, пакуль жывыя ў памяці ўражанні ад экспаната выставы. Таксама жывога.

### Алена Русакевіч

## «Бясчассе»

Разглядаючы экспазіцыю выставы «Асенні салон», нельга не спыніць погляд на мастацкім шкле Алены Златковіч «Бясчассе» (2013, крышталь, ліццё, ручное прасаванне, халодная апрацоўка, вышыня — 38 см).

Паколькі праца экспануецца ў выставачнай прасторы супраць святла, сонечныя прамяні пераламляюцца ў вуглаватых формах крышталю, люструюцца ад яго граняў. Пераважаюць геаметрычныя формы. Кампазіцыя пазбаўленая залішняй арнаментальнасці, што робіць яе вельмі стрыманай і лаканічнай. У ёй пераважаюць выразна акрэсленыя і ўпэўненыя лініі, якія надаюць працы некаторую маналітнасць. Усе лініі і плоскасці розныя па характары: роўныя, плаўныя, выгнутыя, замкнёныя, выцягнутыя, кароткія. Нягледзячы на гэта, агульнае ўражанне ад твора не пазбаўлена цэльнасці.

Паколькі праца выканана з празрыстага крышталю, можна падрабязна вывучыць яе ўнутраную геаметрыю. Дзякуючы такой структуры паветра становіцца таксама часткай твора. Кампазіцыя не здаецца выразанай з прасторы, яна ўзаемадзейнічае з ёю, становіцца яе неад'емнай часткай.

Можна выразна прасачыць за размяшчэннем плоскасцей у кампазіцыі. Яны ўзаемадзейнічаюць, утвараюць розныя формы, складаная структура прыцягвае ўвагу. Кожная грань выконвае важную ролю ў арганізацыі ўнутранай прасторы. Мастак супрацьпастаўляе розныя па характары лініі і абрысы, і нягледзячы на гэта кампазіцыя набывае падкрэслена гарманічны вобраз.

Аўтар практычна не ўводзіць у сваю працу колер. Колерам становіцца святло, якое, праходзячы скрозь тоўшчу крышталю, нібы набывае новую структуру, — становіцца больш цёплым і амаль асязальным, а блікі вакол — амаль жывымі. Унутраная структура заключае ў сабе гэтыя пералівы святла — цёплыя і халодныя. Святло разам з крышталём набывае складаную геаметрычную форму. Крышталь дзякуючы гэтаму не выглядае адхілена-халодным — ён здаецца больш прыцягальным, ствараецца адчуванне камернасці. Сонечныя блікі злучаюцца з яго гладкай фактурай, ад гэтага праца здаецца амаль эфемернай.

Кампазіцыя адлюстроўвае хісткі стан часу, яго няпэўнасць. Ён тут паўстае перад намі як складаная структура, як згустак энергіі. Мастак імкнецца паказаць неаддзельнасць часу ад прасторы, а таксама яго далікатнасць і неадчувальнасць.

**Кацярына Захарэвіч**

## Бяскрайняе, сіняе, вечнае мора... Куды ж вядуць «Вароты» Дзмітрыя Іванчыкава?

Цвёрдая зямля пад нагамі. Як добра, як шчасліва адчуваць яе. Маленькая, але стаіш на ёй упэўнена, цвёрда, нават калі дзьмуць пранізлівыя вятры, віруюць ураганы. Нічога, перажывём, выстаім, зачэпімся. Абы цвёрда стаяць на нагах, адчуваць падмурак сваёй упэўненасці, правільнасці, нармальнасці. Абы тут, дзе знаёмы кожны каменьчык, кожная рысачка, дзе твае ногі пратапталі сляды, па якіх ходзіш, і ходзіш, і ходзіш па гэтым пятачку. А калі глядзець не пад ногі, а ўдалячынь, то можна нават паверыць, што плывеш. Плывеш, адчуваючы цвёрдую зямлю пад нагамі.

А мора шуміць, гудзе. Сіняе, бяскрайняе, небяспечнае. Страшна. Вось маленькая хваля, нахабна выкаціўшыся на ТВАЮ зямлю, дакранаецца да тваіх ног, лашчыць іх прахалодная вадзіца, здымае стомленасць (колькі ж можна стаяць-хадзіць па цвёрдай зямлі?!) І не так гэта страшна — мора. Не пячэцца, не кусаецца, не паглынае. Лашчыць-лечыць. Вабіць. Зямля такая цвёрдая, такая шэрая. Стаяць балюча і надакучыла. Што ёсць на ёй, акрамя тваіх слядоў, шматразова пройдзеных, акрамя каменьчыкаў, навобмацак нагамі вывучаных? А мора такое пяшчотнае, такое бескрайняе, глыбокае, невядомае. Вабіць, кліча. Ці не зазірнуць? Ці не нырнуць? Самому страшна. Мо дачакацца ветру, які кіне цябе ў вір, мо не працівіцца яму? Зямля — яна і ёсць зямля, застанецца тут, нікуды не дзенецца. Заўсёды вернешся.

Паддаешся спакусе, кідаешся ў ваду. Але што гэта? Ні табе марскіх краявідаў, ні насалоды, ні адпачынку ў ласкавай вадзе. Не да гэтага. Шукаеш, дзе зямля, куды вярнуцца, як дабрацца? Бо нельга плыць, адчуваючы цвёрдую зямлю пад нагамі. А чайка, седзячы на слупе, рыхтуецца да чарговага паветравага віру, глядзіць. Яна мора ведае. Яна, калі паляціць, знойдзе іншы прытулак. Яна выжыве. А ты?

**Ілья Заманаў**

## Метафізіка мяса

На карціне Уладзіміра Зленка «Палы анёл» мы бачым парадаксальнае спалучэнне неспалучальнага. На заднім плане анёльскія крылы, залатыя кветкі з Эдэмскіх лугоў, гармонія, сіметрыя, адзінства. На пярэднім жа бясформенная туша наўпрост з бойні. Яна падвешана ўверх нагамі. З яе капае кроў, сцякаючы на сподачак, і пры гэтым як бы з'яўляецца німбам, злучаючы абодва планы карціны.

Задні план спрэс пазбаўлены аб'ёму, ён плоскі і аднамерны, і наогул ён намаляваны на сцяне за тушай, пра што сведчыць аблупленая дзе-нідзе фарба. Разабраная ж свіння аб'ёмная і жахліва рэальная. Мы бачым няроўныя абрубкі, былыя канечнасці, кроў, вантробы некалі жывой істоты.

Рэальныя толькі пакуты і смерць. Усё ж нябеснае, боскае і гарманічнае — толькі дэкаратыўнае,

малюнак, фон для расчлененых целаў, закліканы неяк прыхарашыць бойню, названую жыццём, але яны са сваёй задачай не спраўляюцца — з-за відавочнай сваёй штучнасці.

### Вераніка Шапашнікава

## Трохі чорнага ад Крысціны Кулагінай

Работа Крысціны Кулагінай «Трохі чорнага» сапраўды дадавала трохі чорнага ў настрой кожнага наведвальніка выстаўкі. Якія б светлыя і адухоўленыя вобразы ні ўражвалі нас да таго, гэты твор вымушае спыніцца і задумацца хаця б на некалькі хвілін. Таму што тэма датычыцца кожнага. Сёння, калі ў суседняй краіне мірнае неба раптам перастала быць мірным, мы неяк асабліва ўспрымаем і гэтую працу. Гэты боль робіцца зразумелым кожнаму.

Твор «Трохі чорнага» (рэльеф, дрэва, метал, 2012) уяўляе сабой капазіцыю з чатырох рэльефных драўляных панэлей (пласцін), прымацаваных да верхняй асновы тонкай металічнай рамы. На пласцінах — вуглаватыя фігуры аголеных людзей у не зусім натуральных позах. Першая фігура нахілілася на адно калена і ў нейкім жаху абхапіла рукамі галаву, нешта вельмі страшнае вымушае чалавека забіцца ў кут, над ім згусцілася цемра, што давіць зверху. Другая чалавечая фігура, таксама абхапіўшы галаву, быццам спрабуе вырвацца за межы рэльефу, але нешта і ёй не дазваляе вызваліцца. Чалавек з апошняй панэлі зусім у адчаі, ён ужо не змагаецца, схіліў галаву на калені і спрабуе ўтрымаць рукамі цень. Цень вельмі блізкага, напэўна, роднага чалавека, якога больш няма. І віною тут Вайна. Пра гэта сведчаць цёмныя фрагменты рэльефу — быццам страшны агонь, што знёс з сабою мноства нявінных жыццяў, пакінуў на драўляных панэлях свае смяротныя сляды. Падцёкі цёмнай фарбы сімвалізуюць кроплі крыві, якая здаецца чорнай, як той стан, у якім знаходзяцца героі твора Крысціны Кулагінай.



Крысціна Кулагіна. Трохі чорнага.

Невыноснае гора ахоплівае людзей: яны аб'яднаны агульным адчаем. Але і быццам адасоблены адно ад аднаго (прабелы між драўлянымі пласцінамі). Так і ў жыцці — кожны чалавек адзінокі ў сваіх няшчасцях і перажываннях, боль у кожнага свой, нават калі ён адзін на ўсіх. Усе чатыры панэлі з рэльефам замацаваны на раме зверху. Так і людзі — быццам знаходзяцца ў падвешаным стане. Пройдуць доўгія гады, перш чым боль сціхне ці зробіцца менш вострым. Панэлі рэльефу зроблены з мяккага, падатлівага матэрыялу — дрэва. Як і чалавечыя душы, якія з лёгкасцю можна пашкодзіць.

А змацоўвае панэлі менавіта металічная рама. Гэта дазваляе параўнаць яе з тымі жорсткімі ўмовамі, у якіх апынуліся людзі. Больш мяккія драўляныя панэлі змушаны заставацца нявольнікамі рамы, а людзі — нявольнікамі страшных акалічнасцей.

### Сафія Штуціна

## Імбір з Цытрынай і Цытрына з Імбірам

Імбір з цытрынай заўсёды лічыўся эфектыўным сродкам у барацьбе са шматлікім хваробамі. А яшчэ чай з імбірам і цытрынай умацоўвае імунітэт. А наогул, не важна — цытрыны дадаваць першай ці імбіру, таму што аднолькава смачна. А што будзе, калі казаць не пра ежу, а пра адносіны?

Дыптых Дар'і Івановай «Імбірная гарбатка з лімонам» выклікаў у мяне такія думкі. На дзвюх карцінах — звычайная сітуацыя, гісторыя, людзі. Але калі прыгледзецца да дэталей, даць волю ўяўленню — можна зусім па-іншаму зірнуць на твор.

З якога боку ні паглядзі, з боку дзяўчыны ці з боку хлопца, імбіру ці цытрыны, цытрыны ці імбіру, — мы бачым адзін і той жа пакой. У яго і ў яе ў руках чай, з цытрынай, напэўна. Яны сядзяць і глядзяць адзін на аднаго, а замест галоў у іх цытрына і імбір. На вуліцы ноч, на стале з яго боку цытрына, а з яе — імбір. Выдатная абстрактная гульня з метафарай і чалавечымі адносінамі, ці не так?

Магчыма, гэта вельмі вясёлы і маляўнічы дыптых. Але на мяне ад яго падзьмула нейкай з'едлівасцю, якая ўзнікае ў мяне ад прарываў у памяці. У мяне было адчуванне гутаркі, як быццам імбір штосьці кажа, а цытрына слухае. Гэта адносіны. На такой простай карціне пасяліліся такія складаныя ўзаемаадносіны.

Дарэчы, ці вядома вам, як гатаваць імбір з цытрынай правільна? Насамрэч, спосаб гатавання даволі просты. Усё, што неабходна, — гэта імбір, цытрына і кіпень.

*P.S. ад першага аўтара.* Замежныя арткрытыкі адзначылі, што мастацтва, асабліва маладое, цікавае свету не толькі найноўшымі эксперыментамі, але найперш выяўленнем нацыянальнай ідэнтычнасці. «Восеньскі салон-2015», сцвердзіўшы плён посттрадыцыі, якая прыходзіць на змену постмадэрнізму, засведчыў, што сучаснае беларускае мастацтва зберагае сваю ўнікальнасць і тым самым цікавае і нашым, і замежным гледачам. Выстаўку наведала каля 10 000 чалавек. І кожны зрабіў хаця б маленькае адкрыццё.



Піліп Басалыга. Надвячорак.

**Лада Алейнік**

# Маральныя прынцыпы асобы і праблема сацыялізацыі ў апавяданні Алеся Асташонка «Супер»

Пільная ўвага сучаснай навукі да праблемы сацыялізацыі асобы абумоўлена некалькімі прычынамі. Паспяховая рэалізацыя чалавека ў сучасным свеце патрабуе актыўнай жыццёвай пазіцыі, апаратыўнага засваення сацыяльна-грамадскіх змен. Сучаснай моладзі даводзіцца канструяваць сваю будучыню ва ўмовах новай сацыяльнай рэчаіснасці — на фоне радыкальных змен маральных прыярытэтаў і каштоўнаснай іерархіі, у сітуацыі, калі механізм узнаўлення каштоўнасных арыентацый перастае быць вядучым, саступаючы месца адаптацыйным механізмам. Пашырэнне ўяўленняў аб працэсе сацыялізацыі асобы звязана з найноўшым досведам у шматлікіх галінах навукі — псіхалогіі, філасофіі, педагогіцы, культуралогіі і іншых. У гэтым кантэксце набывае новую актуальнасць гнасеалагічны патэнцыял мастацкай літаратуры, якая ва ўсе часы арыентавалася на асэнсаванне складаных пытанняў быцця, унутранага свету асобы і, несумненна, істотна ўплывала на грамадскую практыку. «Месца мастацкай літаратуры ў духоўнай сферы жыцця грамадства абумоўлена яе зместам і сутнасцю і выяўляецца ў яе функцыях, значэнні ў развіцці соцыуму і сацыялізацыі асобы. <…> Мастацкая літаратура задавальняе цэлы комплекс духоўных патрэб грамадства і асобы, уздзейнічае на вельмі шырокую сферу псіхікі, на светапогляд, маўленне, маральныя паводзіны ў грамадстве, калектыве, сям'і, на эстэтычнае і мастацкае развіццё — на фарміраванне (сацыялізацыю) чалавека» [1, 20].

Такім чынам, этычныя праблемы, вобразна адлюстраваныя ў літаратурных творах, дазваляюць чытачу атрымаць апасродкаваны жыццёвы досвед — прааналізаваць сітуацыю, увасобленую ў сюжэце, даць ёй ацэнку, асэнсаваць свае індывідуальныя маральныя якасці і прынцыпы. Іншымі словамі, чытач мае магчымасць пазнаёміцца з той практыкай сацыялізацыі, якая зафіксавана ў мастацкім тэксце.

У сучаснай беларускай літаратуры, адрасаванай моладзі, нямала выбітных мастацкіх твораў, якія яшчэ не разглядаліся ў кантэксце праблемы сацыялізацыі асобы, маральны патэнцыял якіх яшчэ не ацэнены належным чынам філалагічнай навукай. Перадусім гэта датычыцца ўзораў малой эпічнай жанравай формы — апавяданняў, навел, нарысаў. Сярод іх — творы А. Федарэнкі, А. Навапрыча, У. Сцяпана, М. Клімковіча, С. Вераціла, В. Гапеева і іншых пісьменнікаў. Да іх ліку належыць гэтаксама апавяданне Алеся Асташонка «Супер», якое вызначаецца вострасюжэтнасцю, арыгінальным выяўленнем унутранага свету галоўнага героя і псіхалогіі яго ўчынкаў, даследаваннем маральных аспектаў працэсу сацыялізацыі асобы.

Аўтар адмыслова сутыкае ў сюжэце герояў-антыподаў — маладога чалавека, які мае вельмі высокі сацыяльны рэйтынг, і дзяўчыну, якая знаходзіцца фактычна на сацыяльным дне. Самапазіцыянаванне гэтых герояў, імкненне сцвердзіць сваё «Я» як годнае, каштоўнае, у сітуацыі зносін вядзе не да паразумення, а да канфлікту, агрэсіі, а затым і гвалту. А. Асташонак паказвае жорсткую сацыяльную абумоўленасць, амаль безальтэрнатыўнасць такой камунікацыі ва ўмовах сучаснага ладу жыцця. Прычына гэтай жорсткасці, амаль безвыходнасці — у неразвітасці маралі. Тая ісціна, што дэвальвацыя статусу маралі ў жыцці грамадства мае катастрафічныя наступствы, безумоўна, не новая. Аднак вельмі важна кожны раз нанова сцвярджаць яе ў яскравых мастацкіх формах, пазнавальных для моладзі, для кожнага новага маладога пакалення.

Галоўны герой твора — паспяховы малады чалавек, узорны студэнт прэстыжнай навучальнай установы, які дакладна ведае, чаго хоча дасягнуць у жыцці, і дзеля рэалізацыі сваіх дзёрзкіх планаў мэтаскіравана працуе. «Дзень пачынаўся з гімнастыкі і душа. Да абеду — заняткі ў інстытуце. Пасля — гадзіна ў лінгафонным кабінеце. Там і па праграме працавалі шмат, але ён штодня наведваў гэты пакой самахоць: зацятасць вядзе да поспеху. Пасля абеду — арыгіналы Мантэня, Сартра, Фрома, «Брахма-сутра» і «Даа цэ дзін»... Філасофія была яго захапленнем. А прафесію перакладчыка ён выбраў, улічваючы бацькавы сувязі. За інстытуцкія заданні браўся пасля вячэры. Трох гадзін падрыхтоўкі хапала — у залікоўцы былі толькі пяцёркі. Два разы на тыдзень, каб падтры-

маць фізічную форму, ён гуляў у тэніс. Раней займаўся культурызмам і каратэ, але, зразумеўшы, што часу на ўсё не хопіць, кінуў. Постаць у яго і так была не горшая, чым у любога кінагероя. Не мог ён марнаваць час на другарадныя рэчы. Калі ўжо ўгрызацца ў жыццё, дык з усяе сілы — інакш свайго не дамагчыся» [2, 62—63].

Малады чалавек выдатна ўсведамляе сваю паспяховасць, свой высокі сацыяльны статус. Але на яго самаацэнку, несумненна, уплывае і стаўленне іншых людзей. «У інстытуце яму далі мянушку — Супер. Ён спраўджваў яе ва ўсім. Хто ні быў побач, адчуваў нязменна яго перавагу» [2, 63]. Немалаважную ролю ў самаасэнсаванні юнака, як падкрэслівае аўтар твора, адыгрывае сям'я — бацькі не хаваюць свайго захаплення сынам, адкрыта ганарацца яго поспехамі, ухваляюць дзеянні. «Бацька ласкава зваў яго маладым ваўком: яму падабалася мэтанакіраванасць, з якою сын пачынаў жыццё» [2, 63]. Усе гэтыя фактары не толькі фарміруюць самасвядомасць галоўнага героя, але і вызначаюць яго адносіны да грамадства. Сяброў у Супера няма, толькі знаёмыя. Прыяцелямі ён пагарджае, але зрэдку, калі на яго нападае сум, змушаны бавіць з імі час. Знаёмцы ва ўсім саступаюць Суперу — і ў інтэлекце, і ў паспяховасці, і ў перспектывах. «Коша вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце — бог ведае як яму ўдавалася там утрымацца, бо ён і дагэтуль наўрад ці мог адрозніць пшаніцу ад жыта. А Хэлп, выключаны нядаўна з тэатральна-мастацкага, працаваў цяпер на нейкім заводзіку мастаком» [2, 63].

Менавіта праз сваіх прыяцеляў Супер выпадкова трапляе ў нязвыклую для яго кампанію — знаёміцца з хлопцам і дзяўчынай, якія належаць да зусім іншага сацыяльнага асяроддзя. Хлопец па мянушцы Клешч — крымінальнік, які нядаўна выйшаў з турмы і трымаецца з усімі дастаткова дзёрзка, напружана. Дзяўчына Нінка — непрыгожая, неахайная, вульгарна нафарбаваная, гэтаксама нядаўна адбыла тэрмін зняволення. Сустрэча адбылася ля дома, дзе жыў Хэлп, але Клешч і Нінка вядуць усіх у брудную альтанку, што месціцца ў самым закутку двара, і прапануюць выпіць гарэлкі — у дзяўчыны свята, яна адзначае сваё дваццаціголддзе. «Суперу ніколі яшчэ не даводзілася піць гарэлку з рыльца. Але Клешч выпрабавальна глядзеў на яго — так што нічога іншага не заставалася. Супер з цяжкасцю, пераадольваючы сябе, ледзь адпіў сваю долю. <…> Гарэлка хутка ўдарыла ў галаву, усе адчулі сябе ямчэй» [2, 68].

У апавяданні дэталёва абмалявана псіхалогія галоўнага героя, дыяпазон пачуццяў, якія ён перажывае літаральна за некалькі хвілін. Найперш Супер шкадуе, што дарэмна марнуе час з такімі нікчэмнасцямі, калі мог выкарыстаць яго з вялікім плёнам — «бацька ж толькі ўчора прывёз яму з Галандыі "Філасофію вольнага духу" Бярдзяева» [2, 66]. Паміж ім і яго новымі знаёмымі не проста непераадольная сацыяльная дыстанцыя, яны па вызначэнні для яго — ніжэйшыя істоты, «жывая ілюстрацыя да падручніка Ламброза» [2, 71]. Па-другое, Супер непакоіцца, каб праз гэткіх крымінальнікаў не трапіць у якія-небудзь непрыемнасці з міліцыяй. Апроч таго, яму ўвогуле трывожна — ён не ведае, чаго чакаць ад такіх людзей. Але пакінуць кампанію не выпадае — гэта будзе выглядаць баязлівасцю, уцёкамі. І да Кляшча, і да Нінкі ён ставіцца аднолькава грэбліва, але паводзіць сябе з імі абачліва, насцярожана. Супер ніякавее ад усведамлення, што гэтыя двое трымаюцца з усімі з відавочнай перавагай, падкрэслена дэманструюць сваю ўладу над усёй кампаніяй. Ён пагардліва назірае, як Хэлп і Коша лісліва запабягаюць перад Кляшчом, прыніжана дагаджаюць Нінцы. Але неўзабаве сам апынаецца ў гэткім жа становішчы. Пільная Нінка заўважыла, з якой гідлівасцю Супер разглядаў і яе, і Кляшча, адчула, што ён лічыць іх людзьмі ніжэйшага гатунку. І калі яна ў якасці закускі выцягнула з кішэні дарагія цукеркі, а Супер не здолеў схаваць здзіўлення, рэакцыя дзяўчыны была выбуховай: «Што зекры вылупіў, інтэлігент? <…> Думаеш, мы і цукерак нармалёвых не можам купіць?

Супер убачыў у Нінчыных вачах, якія яшчэ зусім нядаўна здаліся пустымі, халодны бляск. Як раней Клешч на Хэлпа, яна глядзела на яго з акрэсленай перавагаю чалавека больш годнага. Але адказваць ударам на ўдар зараз не хацелася. Супер употай зірнуў на Кляшча. Той стаяў убаку, спінаю да іх. Толькі Хэлп разглядаў збянтэжанага прыяцеля, дзіўна ўсміхаючыся, — бачыў такім Супера ўпершыню» [2, 69].

Паспяховы, аўтарытэтны ў сваім сацыяльным асяроддзі малады чалавек абсалютна дыскрэдытаваны — ён не проста апынуўся ў нязвыклай для сябе ролі аўтсайдара, упершыню ў жыцці ён публічна зняважаны. Але каб пазбегнуць канфлікту, Супер змушаны маладушна змаўчаць. Яму

няёмка перад прысутнымі, ён адчувае маральны дыскамфорт — пахіснулася яго самаўпэўненасць, пацярпела самаацэнка. Псіхолагі адзначаюць: «На аснове механізмаў сацыяльнай і асабістай ідэнтыфікацыі, сацыяльнага параўнання, прамых і ўскосных ацэнак атачэння, з улікам сацыяльных норм і запатрабаванняў у чалавека фарміруецца ўяўленне аб сваёй індывідуальнасці ў выглядзе Я-канцэпцыі. Яна грунтуецца на сістэме каштоўнасных арыентацый, перакананняў і ўстановак, таму сацыяльныя патрабаванні дзейнічаюць на чалавека не наўпрост, а падлягаючы пэўнай селекцыі. Гэта ўяўленне пра сваю асобу, якое выпрацоўваецца на працягу ўсяго жыццёвага шляху, робіцца асновай для стварэння ўласнага вобразу ў вачах іншых людзей у кожным канкрэтным акце зносін» [3, 93]. Супер бачыць, што новыя знаёмыя не маюць да яго павагі — у іх іншыя крытэрыі ацэнкі чалавечых якасцей, іншыя маральныя прыярытэты. Ён не падае выгляду, што пачуваецца зняважаным, але насамрэч яго гонар моцна закрануты. Супер неўсвядомлена прагне сцвердзіцца ў вачах прысутных, яго самалюбства патрабуе рэваншу.

Супярэчлівасць пачуццяў галоўнага героя выяўлена ў апавяданні з псіхалагічнай дакладнасцю. Супер не мае досведу зносін з прадстаўнікамі сацыяльнага асяроддзя, да якога належаць Клешч і Нінка, ён не ведае, як сябе з імі паводзіць, як трымацца, як рэагаваць на іх закіды, як супрацьстаяць маральнаму прэсінгу. Агрэсія і дзёрзкасць дзяўчыны дзейнічаюць на яго амаль сугестыўна — маральна падаўляюць, занявольваюць. Гэта асабліва відавочна, калі ён рахмана выконвае яе нечаканае патрабаванне: «Клешч некуды знік. Атрымалася так, што Супер апынуўся на лаўцы побач з Нінкаю. Тая насмешліва паглядзела яму ў вочы і сказала:

— Сядай бліжэй. І абдымі: мне холадна.

Збянтэжаны, ён паклаў ёй на плячо руку.

Набывае новую актуальнасць гнасеалагічны патэнцыял мастацкай літаратуры, якая ва ўсе часы арыентавалася на асэнсаванне складаных пытанняў быцця, унутранага свету асобы

— Не, не так. Ніжэй, — сказала яна і адразу ж, ледзь ён пераклаў руку на талію, дадала: — Толькі віды не строй. Не абломіцца. Ты мне ўсё роўна да фені. Пагрэеш: даўно ўжо мяне не абдымалі…» [2, 70].

Супер абдымае «непрыгожую недарэку», да якой зусім нядаўна не адчуваў нічога, апроч грэблівасці. Увагу з яе боку ён успрымае як пэўную індульгенцыю, міжволі пранікаецца да дзяўчыны дзіўнай цеплынёй. Незаўважна між імі завязваецца даверлівая, амаль сяброўская размова — Нінка расказвае Суперу сваю сумную гісторыю. Гэтая своеасаблівая споведзь з'яўляецца адным з ключавых эпізодаў твора, яна вытлумачвае крыўду дзяўчыны на жыццё і на людзей, вытлумачвае яе агрэсіўныя паводзіны: «Сядзела яна за тое, што адлупцавала з сяброўкай на танцах адну дзяўчыну: тая адбіла ў сяброўкі хлопца. Магло б усё абысціся і ўмоўным тэрмінам, расказвала Нінка, ды былі да таго прыводы ў дзіцячы пакой міліцыі, вось ёй і далі тры гады — на перавыхаванне. <…> Чаму ўсё так атрымалася? Бацька з маткаю ўсё прапілі — у хаце голыя сцены ды два крэслы. Трэцяга крэсла, каб ёй урокі рабіць, не было. Куды ж яшчэ ад такога жыццяісці, як не ў альтанку ці на танцы? Ну, а там адно: цыгарэты, "чарніла", бойкі… Тая ж гісторыя, што і ў Кляшча. Толькі ён ужо бацьку свайго не тое што п'янага, ніякага не бачыў — колькі іх, тых "бацькоў" на ноч, у маці ягонай перабывала!.. А сеў ён зусім ужо ні за што: ліхтаром у восьмым класе пасвяціў старэйшым хлопцам, у завуголлі каля дзяўчыны стаяўшы, — вось і паплыў у калонію як "харавік", бо нагаварылі на яго і тая дзяўчына, і тыя падзельнікі. Так і прачаліўся праз тое глупства ажно пяць гадоў. А выдатны быў малец, вучыўся ў школе нішто…
З турмы вось толькі прыйшоў нейкі злы, заводзіцца з паўабароту. Але з некаторымі ён добры, нават вельмі. З тою ж маці, напрыклад: цяпер яе хворую даглядае, у калясцы на вуліцу выкочвае — ногі ў яе праз гарэлку адняліся. Злосць у яго ад крыўды: за што ж яго, пацана, на столькі гадоў за дрот загналі?!» [2, 70—71].

Маральныя акцэнты расстаўлены ў апавяданні далікатна, але дастаткова выразна. Безумоўна, аўтар ніякім чынам не апраўдвае ні Нінку, ні Кляшча. У сваіх няшчасцях дзяўчына вінаваціць усіх — бацькоў, абставіны, жорсткія дзяржаўныя законы, але толькі не сябе. Яна шчыра перакананая, што яе

сябрук быў асуджаны «ні за што», не ўсведамляе, што і ён, і яна сама ўчынілі злачынствы. Свой негатыўны жыццёвы досвед Нінка экстрапалюе на ўсё грамадства. Упэўненасць у несправядлівасці грамадскай маралі з’яўляецца для яе сродкам самаапраўдання і падставай для адмаўлення агульнапрынятых маральных норм.

Споведзь дзяўчыны не кранула Супера, але ў пэўнай ступені заспакоіла, расслабіла. Цеплыня, якая ледзь-ледзь варухнулася ў яго душы, знікла. «Ведаем мы гэтыя гісторыі паводле Мапасана пра маці-шлюху і бацьку-алкаголіка, думаў ён з усмешкаю» [2, 71]. Страціўшы пільнасць, Супер дазволіў сабе рэзка выказацца пра Нінчынага сябрука Кляшча. Дзяўчына рэагуе імгненна, яна з усёй апантанасцю паўстае на абарону сябра: «Клешч — чалавек. Сумленны і справядлівы. І не дурнейшы за цябе — дарма што ты кніг начытаўся. Так што носа не задзірай: супраць яго ты ўсё роўна слізняк. Разумееш? Слізняк» [2, 73]. І Супер ізноў змушаны маўкліва прыняць абразу, бо непадалёк ад альтанкі разгледзеў постаць Кляшча.

У апавяданні асабліва акцэнтуецца, што нягледзячы на вонкава зняважлівае стаўленне да Супера, Нінцы вельмі важна сцвердзіцца ў яго вачах, давесці, што яна не горшая за яго, што гэтаксама, як усе людзі, заслугоўвае павагі, разумення, спагады. Яна старанна вытлумачвае Суперу, колькі розных расчараванняў было ў яе жыцці, прыгадвае, як аднойчы пазнаёмілася з «сапраўдным пісьменнікам» — убачыла, што на абледзянелым тратуары ляжыць п’яны дзядзька, якога ўсе абыходзяць. «Дапамагла ўстаць, павяла, куды папрасіў. <…> Тут ён па дарозе мне і кажа: пісьменнік я, ганарар атрымаў — за вершы. Нават сказаў, дзе іх надрукаваў, ды я не запомніла. Давяла яго ажно да самай хаты. І што? Жонка так і наляцела на мяне: што, са старымі, вош малая, цягаешся? <…> Але які гэта пісьменнік?.. Хіба пісьменніку так можна?.. Як у яго нахабнасці хапіла прызнацца ў такім выглядзе, хто ён?.. Ты ж, калі свіння, дык хоць імя сваё не гань — пісьменнік… Ты ж святы павінен быць, раз вучыш нас розным гэтым штучкам — дабрыня там, шчырасць, чысціня, сумленне… Як вучыш, так і сам жыві! А ён яшчэ, відаць, і з дзеўкамі гуляў, раз жонка ягоная з-за мяне такі гвалт усчала…» [2, 76]. І хоць Нінка расказвае пра той выпадак з абурэннем, ёй відавочна падаецца, што сам факт знаёмства з «сапраўдным пісьменнікам»

> Этычныя праблемы, вобразна адлюстраваныя ў літаратурных творах, дазваляюць чытачу атрымаць апасродкаваны жыццёвы досвед — прааналізаваць сітуацыю, увасобленую ў сюжэце, даць ёй ацэнку, асэнсаваць свае індывідуальныя маральныя якасці і прынцыпы

павінен надаць ёй вагі ў вачах Супера. З выклікам яна пытаецца: «Дык ты сапраўднага бачыў?.. Пісьменніка?» [2, 77]. Аднак хлопец зусім спакойна адказвае, што для яго гэта зусім не дзіва — да яго бацькі даволі часта заходзяць пісьменнікі. Толькі вось, у адрозненне ад Нінкі, ніякага піетэту да гэтых людзей у Супера няма. Яму не цікавыя ні іх маральныя якасці, ні іх творчыя ці інтэлектуальныя здольнасці. Перадусім ён цэніць уплывовасць, уладу, сувязі, заможнасць. Гэтыя каштоўнасці, як падкрэсліваецца ў творы, Супер засвоіў у сям’і. «У іх дома і кампазітары бывалі, і вучоныя: бацька любіў запрашаць вядомых людзей. Але хоць вонкава і ставіўся да іх з павагаю, на справе лічыў сябе вышэйшым. Ва ўсякім разе, трымаў сябе з імі на роўных, а пасля таго, як яны выходзілі з дому, пасмейваўся з многіх. А што: у “фазэра” і грошы не меншыя, і становішча стабільнае» [2, 77].

Нінка прыгаломшана адказам Супера. Ёй ніяк не выпадае чымсьці яго ўразіць, здзівіць ці хаця б зачапіць. Тое, што для яе — падзея, для яго — шараговы факт. Дзяўчына ўсё больш выразна ўсведамляе, якая сацыяльная прорва палягае між імі. І ўсё ж у глыбіні душы яна адчувае, што не матэрыяльнае становішча і не знаёмствы з вядомымі людзьмі вызначаюць сутнасць асобы, — нешта іншае. Толькі ёй не хапае ні інтэлекту, ні эрудыцыі, каб абгрунтаваць свае інтуітыўныя адчуванні. «Нейкі час яна маўчала. Па твары было відаць, што думала. Пасля раптам зноў утаропілася ў яго шалёнымі вачыма.

— Ну і што, што ты бачыў, а я не бачыла?.. Да твайго бацькі пісьменікі ходзяць, а да маці маёй — насосы. Што з таго?» [2, 77].

У сучаснай беларускай літаратуры, адрасаванай моладзі, нямала выбітных мастацкіх твораў, якія яшчэ не разглядаліся ў кантэксце праблемы сацыялізацыі асобы, маральны патэнцыял якіх яшчэ не ацэнены належным чынам філалагічнай навукай

Супрацьстаянне, якое адбываецца паміж Суперам і Нінкай, робіцца ўсё больш зацятым — яны любой цаной імкнуцца ўзвысіцца адзін над адным. Дзяўчына выпрабоўвае розныя спосабы ўплыву на суразмоўцу — апелюе да яго пачуццяў, спрабуе расчуліць, але калі бачыць, што гэта не дзейнічае, распаляецца, робіцца агрэсіўнай і нахабнай. Псіхолагі падкрэсліваць: «Агрэсіўныя паводзіны — гэта сілавая акцыя па навязванні іншым свайго ладу мыслення і бачання свету. Суб'ект такіх паводзін сыходзіць з таго, што іншыя людзі заслугоўваюць нядобразычлівасці таму, што яны прытрымліваюцца іншага пункту гледжання, права на які ім ніхто не даваў. Яны вінаватыя ў тым, што ў іх іншыя перакананні. Гэтага не павінна быць, бо самыя справядлівыя погляды — толькі ў мяне. Я ведаю свет або ведаю, якім ён павінен быць, і прымушу іншых з гэтым лічыцца» [4, 960]. Але яе агрэсія ўжо не асабліва дзейнічае на Супера — калі побач няма Кляшча, ён пачуваецца значна больш разняволена.

Супера нават забаўляюць змены настрою Нінкі, яе празмерная эмацыянальнасць і экзальтаванасць. Назіраючы за яе высілкамі давесці яму свае перакананні, ён цынічна разважае: «А можа, і напраўду зладзіць што з ёю?.. Не святая ж… <…> Цырк на дроце. Звар'яцець можна ад яе пераходаў — во дзе выкруты! Дык тым цікавей будзе: экзотыка. Табе ж даспадобы, здаецца, вострыя пачуцці? Такую лэдзі ўзяць, з гэткімі вывертамі — не жарт. Дый талія ў яе нічога… бюст…» [2, 76]. Калі Нінка прапануе зайсці ў пад'езд бліжэйшага дома, Супер ахвотна згаджаецца. «Ён упэўнены быў, што яны разумеюць адно аднаго» [2, 82].

Якімі матывамі кіравалася Нінка, калі вяла Супера на кватэру да сваіх знаёмых, у апавяданні выяўлена неадназначна. Гэта магла быць яшчэ адна спроба эпатажу — паказаць «пыхліваму інтэлігенту» сапраўдны прытон, шакіраваць яго. Магчыма, ёй хацелася пахваліцца ў сваёй кампаніі новым знаёмым — такіх ні ў кога з яе сяброўак не было. Але, верагодней за ўсё, усвядоміўшы, што нічым не можа праняць самаўпэўненага Супера, яна задумала выпрабаваць яго на смеласць, на здольнасць абараніць і яе, і сябе самога.

Супер насамрэч уражаны тым, што ўбачыў — брудам і разрухай у кватэры, у якую прывяла — яго Нінка, жахлівым выглядам яе п'яных сяброўак, хлопцамі-зэкамі «з сінімі ад татуіроўкі рукамі». Але яшчэ больш ён уражаны, калі з Нінчынай размовы з прыяцелькамі, разумее, што з адной з іх яна была ў калоніі, і адносіны ў іх дужа сапсаваныя, амаль варожыя. «Што ж ты прысунулася сюды, ідыётка? — збянтэжана глядзеў ён на Нінку» [2, 83].

Падзеі ў творы на працягу ўсяго сюжэта разгортваюцца па-свойму замаруджана. Запаволенасць аповеду, дэталёвае і заглыбленае адлюстраванне дыялогаў і ўнутраных маналогаў герояў, іх рэфлексій і пачуццяў дазваляюць аўтару дасягнуць псіхалагічнай дакладнасці ў выяўленні характараў персанажаў, арганічна перадаць атмасферу трывожнай напружанасці, небяспекі. Але кульмінацыя апавядання вылучаецца надзвычайнай дынамікай, імклівасцю. Супер, якому зрабілася млосна ад выпітай гарэлкі, выйшаў у ванную і адтуль пачуў, як усчалася сварка. Вызірнуўшы ў калідор, ён бачыць, што п'яныя зэкі валакуць Нінку з кватэры. Дзяўчына ўпарціцца, плача і спрабуе іх у чымсьці пераканаць, але яе жорстка б'юць і ўрэшце выцягваюць за дзверы. Супера працяў страх, ён стоена сочыць за тым, што адбываецца. Пазней, крадком выслізнуўшы з кватэры, хаваецца ў пад'ездзе, назіраючы, як Нінку працягваюць збіваць на вуліцы. Але непрыкметна ўцячы яму не ўдаецца, як толькі выслізнуў з пад'езда, яго запыняюць: «Чакай, хлопчык, не спяшай. <…> Нам і з табой пагаманіць трэба» [2, 86]. Супер выяўляе сапраўдныя акцёрскія здольнасці — рахмана пасміхаецца і з цікаўнасцю пытае, што там Нінка «адмачыла». Ён дэманструе не толькі абсалютную абыякавасць да дзяўчыны, але пераканаўча выяўляе разуменне сітуацыі — раз яе збілі, значыць, было за што.

Аднак адмовіцца ад сваёй задумы Супер не можа, закранутае самалюбства не дазваляе яму застацца ў пройгрышы. «Не мог ён згадзіцца, каб гэты і без таго нікчэмны дзень скончыўся поўным яго паражэннем: надта ўжо шмат зняваг і пераўжыў ён, каб адпусціць за так лярву, што столькі вадзіла яго за нос, бы хлопчыка. Якія ж толькі рылы ні здзекаваліся з яго сёння! Ён павінен быў сцвердзіць сябе, паставіць урэшце на калені гэтую дзеўку. І няўжо яна не хацела таго ж, чаго дамагаўся ён? Гэтага проста быць не магло…» [2, 87]. Супер вяртаецца да збітай Нінкі, спадзеючыся, што яна не чула яго размовы з зэкамі. Але ён памыляецца — дзяўчына з нянавісцю выказвае яму, што ўсё бачыла — і як ён хаваўся ў пад'ездзе, і як спрабаваў баязліва ўцячы. Усведамленне, што яго планам не суджана спраўдзіцца, што Нінка з'яўляецца сведкай яго прыніжэнняў, даводзяць Супера да шаленства — ён размахваецца і з усяе сілы б'е дзяўчыну. Нінка заходзіцца ад крыку, але ён ужо не можа спыніцца — зноў і зноў наносіць ёй удары.

Фінал апавядання вытрыманы ў вельмі спакойнай танальнасці, якая рэзка кантрастуе з папярэднімі падзеямі. Гэтая змена апавядальнай інтанацыі па-свойму падкрэслівае заспакоенасць галоўнага героя, якой ён дасягае, узважана асэнсаваўшы ўсё, што з ім адбылося. У Супера няма аніякіх згрызот сумлення, ён не ўсведамляе, што не прайшоў маральнай ініцыяцыі, што здзейсніў злачынства. Адзінае, за што ён сябе дакарае, — гэта за страту самакантролю, за недастатковую абачлівасць: «Бабы шмат каго загубілі… Бацька расказваў, колькі міністраў ды розных паслоў на іх пагарэлі… <…> Проста ва ўсім, з тымі ж самымі цёлкамі, трэба шукаць разумную сярэдзіну, каб не страчваць розум і не марнаваць час, як учора» [2, 90]. Супер кіруецца філасофіяй цынізму, яму невядомыя ні сорам, ні спачуванне, ні шкадаванне.

Такім чынам, урок сацыялізацыі пададзены ў парадаксальнай форме, ад процілеглага. Абодва персанажы аднолькава адмаўляюць грамадскай маралі, хоць і па розных прычынах. Канфлікт, які адбыўся паміж героямі, робіцца псіхалагічнай траўмай для кожнага з іх, і яшчэ больш умацоўвае іх ва ўласных негатыўных перакананнях. Нінка канчаткова ўпэўніваецца, што свет вакол яе жорсткі і несправядлівы; Супер ужо на ўзроўні аксіёмы засвойвае, што ва ўсім трэба кіравацца прагматычным разлікам, ніколі нельга даваць волі пачуццям.

Сюжэт апавядання А. Асташонка недвухсэнсоўна даводзіць, што маральная сацыялізацыя асобы — гэта неабходны аспект агульнага працэсу сацыялізацыі. Аўтар маляўніча прадэманстраваў, як суб'ектыўны досвед часам змушае асобу да засваення неправамерных маральных норм. Абодва героі твора несацыялізаваныя, іх светапоглядныя прынцыпы супярэчаць грамадскай маралі, і таму яны аднолькава асуджаны да паразы, да канфрантацыі з грамадствам. Вядома, што маральныя прынцыпы, засвоеныя ў юным узросце, вельмі трывалыя, арганічныя, ад іх надзвычай цяжка адмовіцца, няпроста нават пераасэнсаваць. Відавочна, што героям апавядання заўжды будзе некамфортна ў соцыуме, ім абодвум наканавана ізаляванае існаванне, кожнаму — выключна ў сваім сацыяльным асяроддзі.

Мастацкі твор, у якім завострана адлюстраваны маральна-этычны канфлікт, валодае, несумненна, магутнай сілай уздзеяння. Ён апелюе не толькі да свядомасці чытача, але да яго ўнутранага свету, да пачуццяў, эмоцый. Менавіта праз такую апеляцыю літаратура эфектыўна садзейнічае сацыялізацыі асобы, яе аксіялагічнаму станаўленню.

Літаратура:

1. Волобуев, О. В., Песоцкий, В. А. Проблема оценки качества произведения художественного искусства (социально-философский аспект) // Вестник МГОУ. Серия «Философские науки». — 2013. — № 1. — С. 10 — 20.

2. Асташонак, А. Фарбы душы : Апавяданні, настроі, аповесць. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1989. — 174 с.

3. Шкуратова, И. П. Самопредъявление личности в общении: монография / И. П. Шкуратова. — Ростов н/Д: Изд-во ЮФУ, 2009. — 192 с.

4. Добреньков, В. И. Фундаментальная социология / В. И. Добреньков, А. И. Кравченко. — Москва: Инфра-М, 2003 — Т. 8: Социализация и образование. — 2005. — 1040 с.

**Юлія Ваўчок**

# Асаблівасці казачнага свету

Сучасная аўтарская казка вельмі вольная — і ў выбары матэрыялу, і ў выбары формы. Аднак ёсць нейкія непахісныя, так бы мовіць, «правілы гульні», якія ідуць ад фальклору, ёсць такія прыкметы жанру, без якіх казка перастае быць казкай. Думаецца, што менавіта адсутнасць фалькларыстычнага аспекту прыводзіць да многіх няўвязак і супярэчнасцей у працах, прысвечаных літаратурнай казцы. Напрыклад, «незвычайных краін», якія з'яўляюцца ў літаратурнай казцы, у казачным фальклоры на самай справе няма (свет Чыпаліна, Мумітроля, свет мышэй у кнізе Майкла Бонда і інш.). Але тут важная не канстатацыя адрозненняў, а тлумачэнне, чым жа незвычайнасць гэтага свету адрозніваецца ад незвычайнасці свету казачна-фальклорнага. Тым больш, што калі, напрыклад, герояў, падобных на гародніну (як у творах Джані Радары), народная казка сапраўды не ведае, то, скажам, «краіна, дзе размаўляюць жывёлы» шырока прадстаўлена сістэмай так званай «жывёльнай», анімалістычнай казкі.

Таксама падаецца не вельмі слушным разуменне фальклорна-казачнага свету як чагосьці адзінага. Фалькларыстам добра вядома, што ў чароўнай казцы заўсёды існуе апазіцыя двух светаў — «свайго» і «чужога» («іншага»). «Свой» свет заўсёды набліжаны да рэальнага. У ім жывуць звычайныя людзі (нават калі яны названы царэвіч і каралевіч). Справы, якімі яны займаюцца, таксама цалкам рэальныя: служаць у салдатах, ловяць рыбу, палююць, інш. Усе цуды сканцэнтраваны ў «іншым» свеце. Менавіта там размешчаны цудоўныя залатыя і сярэбраныя царствы, там вісяць у чароўным садзе маладзільныя яблыкі, жывуць цар-дзяўчаты, ёсць гуслі-самаграі, там жывуць тыя самыя драконы (у рускай казцы — змеі). Таму што казачныя цуды не ўсведамляюцца казачнымі персанажамі як нешта ірэальнае. Яны — норма казачнага свету. Яны нікога не здзіўляюць. Яны быццам раствораныя ў атмасферы казкі. Менавіта гэта стаўленне да цуду як да нормы і стварае ў слухача (чытача) народнай казкі адчуванне адзінства намаляванага ў ёй свету, які валодае «чароўнай рэальнасцю». Думаецца, што менавіта гэта і складае спецыфіку і літаратурнай казкі.

Самі па сабе казачныя цуды — зусім не самамэта. Цуд у казцы толькі сродак, з дапамогай якога могуць быць вырашаны яе канфлікты. Усім вядома, што народная чароўная казка ставіць глабальныя праблемы дабра і зла. Прычым зло ў казцы выступае зусім не толькі ў вобразах страшных істот «іншага свету» — Змеяў, Кашчэяў і інш. Кожная народная казка перш за ўсё ўрок маральнасці. І для таго, каб ён дайшоў да слухача, той павінен верыць у распаведзеную гісторыю. Навукоўцы мяркуюць, што некалі ў казку сапраўды верылі. Аднак да таго часу, з якога яна (казка) нам вядомая, гэтая вера ў рэальнасць апісаных падзей была, відавочна, ужо далёка ззаду. Страта непасрэднай веры павінна была неяк кампенсавацца: глабальныя філасофскія праблемы казкі, яе маральныя крытэрыі, нарэшце, сама драматычнасць і нават трагедыйнасць падзей не маглі ўспрымацца слухачамі, калі сам жанр носіць адбітак небыліцы. Менавіта з гэтай акалічнасцю і звязаныя, як здаецца, тыя мастацкія прыёмы, якія павінны былі ствараць «ілюзію дакладнасці»: рэаліі побыту, канкрэтызацыя прасторава-часавых уяўленняў, псіхалагізацыя казачнага тэксту, увядзенне матывіровак — усё гэта збліжала казку з рэчаіснасцю, набліжаючы да слухача яе герояў, узмацняючы акт суперажывання і спасціжэння казачнага «ўрока».

Адна з самых спецыфічных рыс у сучаснай літаратурнай казкі — атмасфера «казачнай рэальнасці», г. зн. растварэнне «цуду», яго нарматыўнасці пры поўнай ірэальнасці, якая падтрымліваецца мастацкімі прыёмамі, якія ствараюць «ілюзію дакладнасці». Казка Ліндгрэн пра Пэпі Доўгая Панчоха не таму казка, што ў ёй ёсць чароўны матыў «цудоўнай уласцівасці героя»: Пэпі ўзнагароджана неверагоднай сілай. Такую сілу можна набыць і ў рамках навукова-фантастычнага твора, напрыклад, з дапамогай знакамітай уэлсавай «ежы багоў». Але Пэпі — звычайная маленькая дзевяцігадовая дзяўчынка — цуд праяўляецца ў яе бязмернай сіле ірэальнасці. А галоўнае — гэта тое, што ў мястэчку, дзе пасялілася Пэпі, гэты цуд прыняты як нешта само сабой зразумелае, яму ніхто не здзіўляецца. Ілюзія дакладнасці ствараецца тут шматлікімі рэаліямі побыту маленькага нарвежскага гарадка, падрабязнымі апісаннямі рэальных клопатаў і радасцей маленькіх герояў і інш.

І. П. Лупанава ў сваёй навуковай працы «Современная литературная сказка и её критики» лічыць магчымым казаць пра «эстэтыку пачварнага» як аб адным з найважнейшых прынцыпаў чароўна-казачнага апавядання. У велізарнай колькасці казачных тэкстаў герой ці гераіня выглядаюць брыдкімі, часта агідна пачварнымі (Нязнайка, Чарнушка і інш.). Праўда, у канцы казкі часцей за ўсё (хоць і не заўсёды) адбываеццаператварэнне і герой здабывае прыгажосць. Але адбываецца гэта зусім не таму, што ён быў «вымушана апрануты ў агіднае». Пачварная маска носіцца героем у большасці выпадкаў добраахвотна, выпадкі «зачаравання» ў народнай казцы адзінкавыя і сведчаць аб страце разумення галоўнай думкі. Справа ў тым, што адна з асноўных філасофскіх катэгорый, якімі жыве казка, — катэгорыя бачнасці і сутнасці. Народная казка пастаянна занятая пытаннем — хто ёсць хто. Менавіта здольнасць убачыць за несамавітай знешнасцю добрае і мудрае становіцца ў казачнай паэзіі меркай вартасці, інтэлектуальнага і маральнага ўзроўню казачных персанажаў. Так, злыя сёстры і іх недалёкія мужы не могуць разгадаць праўдзівай «высокай» сутнасці Івана-дурня або Нязнайкі, смяюцца з іх; у супрацьлегласць таму, малодшая царэўна адразу ж адгадвае пад пачварнай маской героя, яе не бянтэжаць ні лысіна на галаве абранніка, ні вымурзаны сажай твар і іншае. Казка ў сваю чаргу рэалізуе ў мастацкіх вобразах вядомую рускую прыказку: «Не все то золото, что блестит». Што тычыцца фінальнага ператварэння, то яно, як ужо было заўважана, не заўсёды мае месца, калі гаворка ідзе пра персанажаў чалавечага аблічча (у аснове) і ўжо зусім ніколі не тычыцца персанажаў-жывёл.

Мы прывыклі лічыць, што казка аперыруе выключна чорна-белым, кантрасным малюнкам, што ў ёй заўсёды «або — або». У канчатковым рахунку гэта так і ёсць — казка паказвае любога персанажа аднамерна, у выключна станоўчым або выключна адмоўным асвятленні. Але калі «адмоўнасць» звычайна абсалютная, то станоўчыя героі нярэдка робяць учынкі, не звязаныя з нашымі ўяўленнямі аб этычных нормах (напрыклад, герой можа звярнуцца да падману ці нават гвалту, каб завалодаць чароўным прадметам, можа парушыць дадзенае слова і інш.). Усе гэтыя ўчынкі, якія парушаюць з пункту гледжання сучаснага ўспрымання цэласць «ідэальнага» ладу, могуць быць растлумачаны ў святле этнаграфічных дадзеных, якія вядуць да першабытна-радавых вытокаў фальклорнай чароўнай казкі. У казках, вядомых нам у запісах XIX—XX стагоддзяў, гэтыя «парушэнні» знаходзяць апраўданне ў заканамернасці, якую І. П. Лупанава назвае «правіламі гульні». Па казачным законе Воўк абавязаны з'есці каня ў Івана-царэвіча, паколькі той захацеў паехаць па дарозе насуперак папярэджанням. Гэта што тычыцца магчымасці сумяшчэння ў фальклорна-казачным вобразе «добрага» і «дрэннага». А цяпер пра заканамернасці, выпрацаваныя літаратурнай казкай у адрозненне ад фальклорнай, хоць і з яе дапамогай. Вядома, што народная казка не ведае характараў. Яе персанажы — пэўныя тыпы. Казка літаратурная ад першых дзён існавання пачала ствараць характар. Але ў лепшых узорах жанру яны апынуліся цесна сувязнымі з пэўнымі фальклорнымі тыпамі. Як правіла, характар лепіцца з тых рыс, якія прамацоўваюцца як патэнцыя адпаведнага казачнага вобраза. Менавіта так вырашаецца большасць вобразаў казкі Э. Успенскага, у тым ліку і вобраз Шэрага Воўка.

У дачыненні да метаду выявы ворага ў казках і былінах можна ўспомніць словы А. М. Горкага пра тое, што «нянавісць павінна выхоўвацца на арганічнай агідзе да ворага як да істоты ніжэйшага тыпу, а не на страху перад сілаю яго цынізму, яго жорсткасці». На самай справе, фальклорны вораг не столькі страшны, колькі смешны. «У былінах, — піша адна з вядомых савецкіх даследчыкаў эпасу А. М. Астахава, — мы назіраем імкненне паказаць ворага не толькі страшным, але і агідным, пасмяяцца з яго як з істоты ніжэйшага парадку». «Вораг у народнай казцы моцны, страшны і падступны, у той жа час ён смешны і карыкатурны», — піша вядомы даследчык чароўнай казкі Н. В. Новікаў.

Такім чынам, унутранае фарміраванне літаратурнай казкі напрамую звязана з яе асаблівасцямі. А такія распаўсюджаныя рэчы, як дзяленне твораў на чарадзейныя, сацыяльна-бытавыя і тэксты пра жывёл, страчваюць сваю актуальнасць, калі размова ідзе пра літаратурную казку. Пісьменнікі самі вырашаюць, якія элементы казкі будуць запоўняць іх тэксты, пры гэтым, ствараючы так званы мікс, што пасля фарміруецца ў творчыя аўтарскія стратэгіі.

**Паліна Лісоўская**
maladost@zviazda.by

# Маладая Belarus open

**Сёлета Беларуская праграма Міжнароднага тэатральнага форуму «ТЭАРТ» атрымалася як ніколі моцнай. Можа таму, што на беларускія спектаклі запрасілі міжнародных тэатральных экспертаў, каб яны пазнаёміліся з нашым тэатрам. У будучыні такое знаёмства дае беларускаму тэатру магчымасць выйсці за межы краіны, прэзентаваць сваё мастацтва на міжнародных фестывалях і, канешне, пабачыць іншых, не варыцца ў сваім катле.**

Прэзентацыя атрымалася вельмі разнастайнай. Мы ўбачылі тэатр лялек, сайт спецыфік, новую драму, спектакль-вербацім, смелае тэатральнае відовішча-экшн, пластычны тэатр, моцныя драматургічныя спектаклі, нават тэатр, якога ніхто нідзе не бачыў (праца Вячаслава Іназемцава здзівіла ўсіх зарубежных тэатральных экспертаў!). І гэта за пяць дзён! Калі да добрага ўзроўню тэатра лялек мы ўжо прызвычаіліся, то некаторыя формы на беларускай сцэне ўзніклі ўпершыню. Прыемна, што новае звязана з «маладымі» спектаклямі, пастаўленымі маладымі рэжысёрамі альбо накіраванымі на маладую аўдыторыю. Пазнаёмімся з нашай таэатральнай моладдзю бліжэй.

Спектакль **«Ілюзіі»** Таццяны Траяновіч скіраваў да асэнсавання **новай драмы.** А менавіта — да яскравага яго расійскага прадстаўніка Івана Вырыпаева. Дагэтуль да новай драмы ў нас, канешне, звярталіся, але разова. Дастаткова нагадаць некаторыя паказы п’ес «Гаспадар кавярні» Паўла Пражко ці «Ураджай» таго самага Пражко ў інсцэніроўцы Дзяніса Фёдарава (Брэсцкі тэатр драмы). Але менавіта «Ілюзіі» дзякуючы артыкулам у СМІ, намаганням Таццяны Траяновіч і Цэнтра эксперыментальнай рэжысуры, шматлікім пастам у сацсетках набылі такую папулярнасць сярод творчага грамадства, асабліва — сярод моладзі. Прэм’ера «Ілюзій» прайшла ў сакавіку, таму да «ТЭАРТа» многія паспелі ўжо праглядзець спектакль, а то і не раз.

«Ілюзіі» яскрава вылучаюцца сярод беларускіх спектакляў сціплай рэжысурай, характэрнай для новай драмы, камернай атмасферай і неверагоднай, рэдкай сёння шчырасцю. Асабліва прыемная тэндэнцыя — камернасць. Спектакль ігралі ў невялічкім памяшканні Цэнтра сучасных мастацтваў. Таму не было ніякай чацвёртай сцяны, акцёры і зала з’ядналіся, камунікавалі вачыма і энергетычнымі хвалямі. Такі камерны фармат сёння — альтэрнатыва рэпертуарным спектаклям. Менавіта да яго могуць звяртацца маладыя рэжысёры, якія непазбежна сутыкаюцца і з фінансавымі праблемамі, і з праблемамі памяшкання.

Здаецца, што менавіта камерны фармат зрабіў «Ілюзіі» самым шчырым спектаклем беларускай праграмы «ТЭАРТа». Дапамагла і тэма пастаноўкі: у ёй распавядалася пра каханне двух сталых сямейных пар. Гэтая праца стала прыкладам ідэальнага спалучэння сур’ёзнага і блізкага кожнаму зместу са сціплай, але ж вельмі прафесійнай формай, з цікавымі рэжысёрскімі прыдумкамі (схемы-малюнкі любоўных сувязей на дошцы і г. д.). Упэўнена, што спектакль яшчэ не раз пакажуць у Цэнтры сучасных мастацтваў. Паглядзець яго маладым дый творчым трэба абавязкова!

Падчас форуму паказалі і першы беларускі **спектакль-вербацім «Мабыць?»**. Рэжысёр Аляксандр Марчанка і акцёры Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі пагутарылі са звычайнымі беларусамі (кандуктарам, футбольнымі фанатамі…). З атрыманых дыктафонных запісаў таленавіты беларускі драматург Дзмітрый Багаслаўскі зрабіў п’есу-зрэз беларускага грамадства. Калі за мяжой вербацімы-аналізы сталі звычайнай з’явай, то для нас «Мабыць?» — гэта першы крок, які мы ніяк не можам прапусціць. Такога актуальнага спектакля, набліжанага да беларускіх рэалій, не хапала айчыннай тэатральнай прасторы. Мы нарэшце звярнуліся да аналізу саміх сабе. Не праз прызму класічных твораў, філасофскай драматургіі, а праз прызму ўласных уражанняў і слоў.

Спектакль закрануў мноства тэм і, як вынік, — зрабіў гэта без дастатковай глыбіні. Калі б ён звузіў сваё тэматычнае поле, то аналіз — сто працэнтаў! — быў бы больш сур’ёзным

Мо такі адкрыты і зразумелы дыялог пра сучаснасць больш прыцягвае сённяшнюю моладзь, чым завуаліраваныя пасылы, зразумелыя адзінкам?

Аднак спектакль атрымаўся надта агульным, закрануў мноства тэм і, як вынік, — зрабіў гэта без дастатковай глыбіні. Калі б ён звузіў сваё тэматычнае поле, то аналіз — сто працэнтаў! — быў бы больш сур'ёзным. Як, напрыклад, зрабіў Андрэй Саўчанка ў сваім спектаклі «Бі-лінгвы» — прааналізаваў пытанне білінгвізму — і гэтага аказалася дастаткова! Простая, але такая неабходная цэльнасць!

Ёсць пытанні і да формы спектакля, часам хацелася ўбачыць больш рэжысёрскіх хадоў, а не толькі хвалюючы тэкст. Таму першы прагляд можа вельмі ўразіць (ты ў захапленні ад зместу!), а вось другі — можа не мець такой чароўнай моцы.

Нягледзячы на ўсе недахопы «Мабыць?», за гэтым спектаклем, як і за падобнымі да яго, — будучыня. Бо зараз менавіта такія пастаноўкі здольны фіксаваць рэальнасць і выстаўляць яе на ўсеагульны аналіз.

Яшчэ адзін спектакль Беларускай праграмы форуму — «**Участковыя**» — максімальна наблізіўся да рэальнасці. Па-першае, формай: праходзіў ён не на сцэне, у нетэатральнай прасторы — мінскай кватэры. Па-другое, зместам. Ён пастаўлены па п'есе маладога беларускага драматурга Віталія Каралёва, які, абапіраючыся на ўласны вопыт працы ўчасковым, уздымае праблему маральнага выбару. Галоўны герой выбірае паміж прафесійным доўгам і сяброўствам.

Радуе, што на «ТЭАРЦе» была прадстаўлена такая перспектыўная форма, як сайт спецыфік. Як і блэк бокс тэатр («Ілюзіі»), якому дастаткова звычайнага пакоя ды чорных сцен (каб не адцягнулі на сябе шмат увагі), сайт спецыфік перспектыўны прастатой сваёй арганізацыі. У Мінску дастаткова месцаў, якія з прыемнасцю прымуць спектакль.

Ад аднаго крытыка ва ўзросце я пачула: «На спектаклі ў кватэрах я не хаджу!» Але для моладзі гэта плюс. Па ўжо адзначанай прычыне — хочацца рэальнасці і новай, свежай формы. А яшчэ хочацца нефармальнасці і дыялогу. Нефармальнага. Які абавязкова адбываецца пасля спектакля сайт спецыфік. Не ведаю, на жаль, як у іншых краінах, але ў нас адбываецца. Добра, калі гэта стане традыцыяй.

> «Ілюзіі» яскрава вылучаюцца сярод беларускіх спектакляў сціплай рэжысурай, характэрнай для новай драмы, камернай атмасферай і неверагоднай, рэдкай сёння шчырасцю

«Участковыя», канешне, не ідэальны спектакль. Можа, дэтэктыўны сюжэт п'есы бярэ на сябе надта шмат увагі і затуляе галоўны змест? Можа, ідэальнае памяшканне для гэтага спектакля не знойдзена? Але ў гэтым яшчэ адзін плюс сайт спецыфік: змяніць нешта ў такім спектаклі прасцей, чым у спектаклі на сцэне.

Гэтыя тры пастаноўкі з'ядналіся для мяне сваім зваротам да сучаснасці, мінімалізмам і папулярнасцю сярод амаль што ўсіх гледачоў. Яны цікавыя і заўзятым тэатралам, і звычайным гледачам. Такая зразумеласць для ўсіх — галоўны іх плюс, бо ў такім разе і тэатральнае мастацтва перастае быць асалодай для некаторых, ператвараецца ў магчымасць усім разам паразмаўляць аб праблемах сучаснасці ды знайсці іх вырашэнні. Менавіта яны і з'ядноўваюць каля сабе творчую моладзь. А іх рэжысёры, акцёры, драматургі, як ніякія іншыя, накіраваны на атрыманне зваротнай сувязі ад грамадства.

Яшчэ адзін спектакль «ТЭАРТа» ўжо таксама знайшоў сваю сталую маладую аўдыторыю. Нягледзячы на тое, што рэжысёр яго не такі ўжо і малады. Гэта спектакль «**Доступ да цела**» Вячаслава Іназемцава. Яго спектакль ні на што не падобны. У ім ёсць пластыка, клаўнада, пантаміма, гістарычныя коды, іронія і нават сцёб. Каб цалкам зразумець, пра што гаворка, трэба глядзець яго не раз і не два — значна болей. У ім ёсць аголеныя целы, эпатаж, але ўсё гэта зусім не забаўляльнага характару.

«Доступ да цела» спалучыў сацыяльны і асабісты кантэксты, таму стаў, з аднаго боку, вельмі змястоўным, вострым спектаклем, а з другога, — вельмі інтымным. Здаецца, гэта адзіны спектакль беларускай праграмы форуму, які ўразіў літаральна ўсіх замежных экспертаў. Па іх каментарыях

можна зрабіць прыемную для нас выснову — такой біяграфічнай яскравай фантасмагорыі няма ні ў Польшчы, ні ў Эстоніі, ні ў Германіі.

Але ў адрозненне ад «Участковых», «Ілюзій» і «Мабыць?», спектакль «Доступ да цела» тэхнічна больш складаны, патрабуе не проста вялікай сцэны, але і канкрэтнай залы (бо дзея адбываецца ў зале). Таму для пастаноўкі заўсёды выбіраюць сцэну Палаца культуры чыгуначнікаў. Сам рэжысёр неаднаразова казаў пра цяжкасці арганізацыі кожнага чарговага паказу. Навідавоку праблема пошуку прасторы для нерэпертуарнай пастаноўкі. У выніку, спектаклю ўжо пяць гадоў (прэм'ера адбылася ў маі 2010-га), а паказваўся ён даволі рэдка. І шкада, што такі неардынарны рэжысёр як Вячаслаў Іназемцаў ужо два гады не радуе новымі незвычайнасцямі. Прэм'ера яго апошняга спектакля «Рамонт» адбылася ажно ў 2013-м, якраз падчас «ТЭАРТа». Нам застаецца толькі гадаць аб прычынах такога вялікага перапынку і чакаць новай працы. Можа, падчас наступнай «ПлаStформы»?..

Успомню яшчэ адзін «малады», на мой погляд, спектакль беларускай праграмы «ТЭАРТа» — чорную камедыю «**Інтэрв'ю з ведзьмамі**» Яўгенія Карняга. Ведаю, гэты спектакль выклікаў неадназначныя рэакцыі як прафесіяналаў, так і аматараў. На гэта ёсць падставы, але спачатку звернемся да плюсаў.

Карняг стварыў неверагодна напружаную рытміку. Дзякуючы спевам, скокам, абаянню акцёрак, пастаянным зваротам да залы (ведзьмы то да гледачоў звярталіся, то да служачых тэатра), гумару спектакль трымаў увесь час. Шчыра кажучы, нават з больш сур'ёзных, глыбокіх спектакляў (а такія у праграме былі) я час ад часу «выпадала» — яны не так ужо і чаплялі падчас самога дзеяння. Тут жа ўвесь спектакль сядзела як зачараваная (мо яны сапраўды вядзьмарылі?), атрымлівала эстэтычную асалоду ад рэжысёрскіх прыдумак, танчыла на крэсле, як абаяльныя ведзьмы, падпявала іх немудрагелістыя песні, кайфавала, лавіла свежыя хвалі эмоцый. Такі спектакль-спалучэнне — музыкі, скокаў, гумару, яскравай гульні і сцёбу — нагадвае працы польскай рэжысёркі Агаты Бізюк. Але Карняг дадаў яшчэ і элементы лялечнага майстэрства, і атрымаўся візуальны і эмацыянальны бум, якаснае тэатральнае відовішча, тэатр формы, тэатр-пародыя, тэатр-экшн, тэатр эмоцый, тэатр-гульня. На гэтую пастаноўку трэба ісці не па глыбыню, а па стыль, па новыя тэатральныя ўражанні. Бо тэатр павінен быць розным. І чаму б не з'явіцца ў беларускай тэатральнай прасторы чорнаму-чорнаму спектаклю, на якім ні адзін чалавек не засне і не будзе думаць: «Які беларускі тэатр нудны!» Энергія гэтага спектакля, яго жаданне быць цікавым для ўсіх і здзіўляць усіх — вось што вабіць.

Прыемна, што новае звязана з «маладымі» спектаклямі, пастаўленымі маладымі рэжысёрамі альбо накіраванымі на маладую аўдыторыю

Вы, напэўна, ужо зразумелі, што глыбіні спектаклю бракуе. На жаль, так. Рэжысёр хацеў прааналізаваць і прыроду зла, і прыроду жанчын, узяўшы за аснову казкі Братоў Грым. Атрымаліся скокі на паверхні: ні адна з тэм так і не была раскрыта. Спектакль не прымусіў аналізаваць, пасля прагляду пачуццё асалоды ад відовішча злучылася з унутранай пустэчай — нічога новага. Мо проста не было годнай тэмы? Неапрацаваныя казкі Братоў Грым, канешне, цікавыя, але яны «ў лоб». Ведзьмы ствараюць антураж, але захінаюць рэальнасць. Высновы зразумелыя і больш няма чаго шукаць. Адна ведзьма забівае прыгажунь, таму што сама хоча быць самай прыгожай, другая забівае дзяцей, бо маці прымусіла яе зрабіць аборт, трэцяя забівае мужчын, бо яе маці звяртала на іх больш увагі, чым на дачку. Такія прамыя лагічныя сувязі выключаюць шматколернасць: пагадзіцеся, жанчына, зрабіўшая аборт, не абавязкова будзе забіваць дзетак... Напэўна, не тую аснову абраў Карняг.

…Вось такі суб'ектыўны пералік нашых маладых спектакляў, якія можна яшчэ не раз пабачыць на мінскіх пляцоўках. Што ўсім і раю зрабіць! Нават нягледзячы на тое, што ў кожным спектаклі ёсць недахопы. Бо маладыя з'явы яднае галоўная прыемная тэндэнцыя — яны накіраваны на ўсіх, напоўнены шчырасцю, жаданнем змяняць асяроддзе, расці і шукаць новыя формы. У такім разе наш тэатр будзе разнастайным і дыскусійным.

Валянціна Паліканіна

# «Да самых чыстых берагоў…»

Нібы на споведзь я прыйшоў
Сюды, да таты, мамы, —
Да самых чыстых берагоў
І да самотных самых.

*Міхась Пазнякоў*

**Шматгранны талент яго выклікае захапленне. Ён піша хвалюючыя лірычныя вершы, якія змяшчаюць глыбокі сэнс, грамадзянскасць, любоў да жыцця, роднай краіны і людзей; цікавыя вершы для дзяцей; гумарыстычныя творы, байкі, пародыі; прозу, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя матэрыялы. Неверагодна, але ён выпусціў у свет 70 кніг: для дзяцей і дарослых, уключаючы пераклады. І яшчэ прыкладна 20 яго праектаў чакаюць свайго часу…**

Я была сведкай таго, як калега-пісьменнік запытаўся ў Міхася Паўлавіча: «Як гэта ў цябе ўсё атрымліваецца?» А той адказаў: «У мяне няма прастояў… Калі вершы не складаюцца, я пішу прозу. Калі проза не пішацца — сачыняю казкі, загадкі, займаюся перакладамі. Калі і гэта не ідзе, пішу артыкулы, працую над слоўнікамі».

У яго лексікаграфічнай картатэцы сабрана больш за мільён картачак. Ён падрыхтаваў двухтомны «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы», а таксама тлумачальны і перакладны. Выдавецтву «Народная асвета» прапанаваў серыю кніг для дзяцей «Свет вакол нас», дзе задумаў праз мастацкую форму (у вершах, загадках, скорагаворках, каламбурах) расказаць «пра ўсё на свеце»: пра Радзіму, родную мову, сям’ю, зямлю, космас, дрэвы, расліны, кветкі, звяроў, птушак; пра мары і захапленні дзяцей. Склаў калектыўныя зборнікі беларуска-рускай паэзіі і выпусціў у свет серыю кніг маладых паэтаў.

На пасадзе старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі ён шмат увагі надае літаратуры. Ён і яго памочнікі адкрываюць клубы, творчыя гасцёўні, праводзяць раённыя, агульнагарадскія, ведамасныя конкурсы, працуюць разам з бібліятэкамі і музеямі.



Кожны свой дзень пісьменнік плануе. На яго стале ляжаць дзясяткі запісак: дзе заўтра быць, што зрабіць, каму пазваніць. І набіраецца стос такіх планаў на два-тры месяцы наперад. Пра сябе ён з усмешкаю кажа: «Раней думаў: дзе надрукавацца, пра што напісаць? Цяпер думаю: «Дзе знайсці час, каб ажыццявіць усё, што нараджаецца ў галаве?..»

## Даведка «М»

**Міхась Пазнякоў** — вядомы беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык, мовазнавец, лаўрэат адзінаццаці рэспубліканскіх і міжнародных літаратурных прэмій (у тым ліку літаратурных прэмій імя Петруся Броўкі, імя Янкі Маўра — у галіне дзіцячай літаратуры, прэміі Міністра абароны РБ, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі), член-карэспандэнт Пятроўскай Акадэміі навук і мастацтваў (Санкт-Пецярбург); узнагароджаны адзінаццацю медалямі (у тым ліку медалём Францыска Скарыны); вылучаўся на Дзяржаўную прэмію РБ у галіне літаратуры за кнігу «Наталенне Радзімай», а таксама за кнігі для дзяцей «У родным краі» (вершы), «Гульняслоў» (творы розных жанраў), «Серабрыстыя чайкі» (казкі, апавяданні). Быў першым дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», часопісаў «Вожык» і «Нёман», намеснікам дырэктара выдавецтва «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Аднойчы мы разам з Міхасём Пазняковым і ансамблем «Мінскі гармонік» ездзілі ў Бярэзінскую раённую бібліятэку на творчую сустрэчу з чытачамі. Людзі слухалі нас з вялікай цікавасцю. Міхась Паўлавіч чытаў цудоўныя вершы пра малую радзіму, бацькоўскую хату, згадваў мінулае, гаварыў пра вечныя духоўныя каштоўнасці (нездарма пра яго сказала потым намеснік старшыні раённага Савета ветэранаў Ніна Мацвееўна Бурко: «У вершах Міхася Пазнякова я ўлавіла беларускага Ясеніна»). А па дарозе ў Мінск мне ўдалося пачуць успаміны пісьменніка пра яго дзяцінства. Прадстаўляю іх чытачам «Маладосці».

***

— Нарадзіўся я ў вёсцы Забродздзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Побач працякала плыткая, празрыстая рака Грэза. Вёска наша нібы патанала ў зеляніне, у прысадах. Вуліца была цяністая, засаджаная дрэвамі. Памятаю, калі ў нас праводзілі электрычнасць і выразалі многія бярозы, клёны, дубы, дык мы, хлапчукі, плакалі.

Гісторыя нашай сям'і вельмі цікавая. Мой бацька працаваў ляснікам, брыгадзірам, а пасля дваццаць гадоў даглядаў рэчышча ракі Грэза (трэба было чысціць яго ад пяску і смецця, абкошваць берагі на адлегласці 5 кіламетраў). Ён перажыў тры вайны: вызваляў Заходнюю Беларусь, удзельнічаў у Савецка-Фінляндскай і Вялікай Айчыннай… Быў веруючым, наведваў царкву і ў нас выхаваў павагу да праваслаўнай веры.

Да пачатку апошняй вайны тата меў сям'ю, траіх дзяцей… Але, калі быў на фронце, прыйшло паведамленне, што яго жонка памерла ад тыфу. Засталіся сын і дзве дачкі… У 1944 годзе ён быў паранены, і пасля шпіталя яго адправілі не на фронт, а дадому: выхоўваць дзяцей (і гэта ў жорсткі сталінскі час!). Яму тады было 39 гадоў. Хто ведае, калі б не гэты выпадак, ці вярнуўся б ён?..

У маёй мамы таксама да вайны была сям'я. Яе муж працаваў дырэктарам масласырзавода і ў 1943 годзе загінуў на фронце. Яна засталася з двума сынамі.

І вось аднойчы… Мама ішла ў суседнюю вёску, у сельсавет, а тата ў гэты час працаваў у агародзе (зразумела, тады яны яшчэ не былі маімі бацькамі). Тата потым расказваў: «Прайшла міма такая ладная кабета… Спадабалася мне з першага позірку! Але пабегчы за ёй было нейк няёмка. І я вырашыў пайсці па вёсцы і запытацца ў людзей: ці бачылі яны тую жанчыну?» Адна з мясцовых жыхарак сказала: «Бачыла. Гэта Маша Зыкава з Ямнага. У яе муж загінуў на фронце»… Так пра ўсё і даведаўся.

Тады бацька запрог каня — і да яе. Мама ўспамінала: «Прыехаў высокі, чарнявы, прыгожы мужчына — і сватаецца. Кажа, што ў яго памерла жонка, трое дзетак засталіся. А мая маці пачала плакаць: "Дачушка, у цябе сваіх двое, не ідзі на чужых дзяцей!" Ды не паслухалася я, пайшла насуперак… Забрала сваіх дзетак і паехала ў Забродздзе».

Так склалася сям'я: бацька, маці і пяцёра дзяцей. Потым нарадзілася яшчэ шасцёра, сярод якіх я быў чацвёртым…

Жылі вельмі дружна. Бацькі нас так выхавалі, што ўсе мы сталі блізкімі, роднымі… Я ганарыўся, што ў мяне пяць сясцёр і пяць братоў.

Мама нікому не была мачахай: вельмі добрая, далікатная… Тата быў строгі, мог пакараць, калі правінавацішся. А мама нас заўсёды выручала, ратавала. Бывала, пасля правіннасці ў хату не іду… Мама ціхенька выйдзе ў сенцы і скажа: «Сынок, як тата ляжа спаць, я цябе паклічу. А пакуль вазьмі хлеб і малако, перакусі…» Мы з братамі часта хаваліся ад татавага гневу, але назаўтра нам усё роўна даставалася…

Якія былі правіннасці? Пабяжыш у футбол гуляць замест таго, каб на рэчку ісці, бацьку дапамагаць… Потым, калі я стаў дарослым, запытаў у таты, чаму ён мяне не адпускаў. Адказ быў такі: «А ты не ўмеў прасіцца!»

Бацька вельмі любіў парадак. Хацеў, каб мы вучыліся, многа чыталі. Дзеля гэтага вызваляў нас ад любой працы. Бывала, прывядзе да Грэзы і скажа: «Калі не хочаце касіць траву, варочайце сена, лавіце рыбу ці загарайце. А калі і гэтага не хочаце, чытайце кніжкі». Так нас заахвочваў… Прызнаюся, мы калі-нікалі хітравалі: каб не працаваць, чыталі.

У бацькі была вялікая павага да працы. Чаго ён толькі не рабіў у сваім жыцці! Быў паляўнічым, цесляром, краўцом, бондарам. Мог шыць кажухі, валяць валёнкі, рабіць калёсы, сані, бочкі, лыжкі. Быў пчаляром і лекарам: лячыў людзей і жывёл, сушыў травы, збіраў народныя рэцэпты. Да яго прыязджалі не толькі з Мінска, але і з Масквы. Ён быў вельмі сяброўскім, уважлівым да людзей. Памятаю, наловім рыбы, а ён раскладвае яе па пакеціках і піша запіскі: у якую вёску адвезці. Калі мёд выкачае, па слоіках разлівае і таксама падпісвае, каму аддаць, і я развожу іх на веласіпедзе людзям.

А яшчэ тата быў добрым садоўнікам. Дзякуючы яму мы мелі шыкоўны сад, дзе раслі цудоўныя грушы, яблыні: на дрэве — па пяць гатункаў! Самая яго любімая была «Дзевіца», на якой спелі вялікія, прыгожыя, чырванабокія смачныя грушы (пра іх я потым напісаў: «Они звенят, как колокола»)… Тата заўсёды папярэджваў мясцовых хлопцаў: «Тыя, хто любіць мае грушы-яблыкі, прыходзьце, калі ласка, днём! Не лазьце вечарам, не тапчыце грады. Бярыце, што каму падабаецца…»

А на Новы год ён усёй сям'і рабіў падарункі. Але мы павінны былі іх заслужыць. Ён ставіў крэселка перад ёлкай, і мы ўставалі на яго і чыталі вершы, казкі, пелі песні. Ён і сам ведаў шмат беларускіх і рускіх народных казак. І як умеў іх расказваць!

Мама таксама цікава апавядала легенды, паданні і гісторыі, што з ёй здараліся. У гады вайны яна была партызанскай сувязной. А начамі, разам са сваімі сёстрамі, выпякала партызанам хлеб. Аднойчы зімой на світанні яна схавала хлеб у палатняныя мяхі, паклала на сані, накрыла сенам і саматканымі посцілкамі, пасадзіла зверху малых сыноў і павезла… А на выездзе з вёскі дзяжурылі немец з паліцаем, і апошні запытаў: «Ты куды сабралася, Маша, у такі мароз?» Маці сказала, што трэба наведаць цётку ў суседняй вёсцы. І яны не праверылі сані, толькі штыком торкнулі ў сена (а калі б знайшлі хлеб і медыкаменты для партызан, то расстралялі б усю сям'ю).

З дзяцінства я вельмі любіў чытаць. У нашай вясковай школе была маленькая бібліятэка: усяго 70 кніг. Іх я вельмі хутка адолеў. Любімымі кнігамі былі: «У сям'і» Янкі Брыля, апавяданне Змітрака Бядулі «Пяць лыжак заціркі», «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра. Але кніга, якая ўсё перавярнула ўва мне, — «Ніколі не забудзем» (і сёння калі яе ўзгадваю, у душы плачу). Лічу, што гэта адна з лепшых кніг пра вайну. Яе напісалі дзеці, жывыя сведкі. Яны расказалі пра свае пачуцці, перажыванні, барацьбу, боль і радасць, нянавісць да ворага і любоў да Радзімы… Калі яе чытаў, мне здавалася, што гэта я поўз па снезе, выкрадаў зброю, нёс яе партызанам, і гэта мяне збіраліся расстраляць немцы… Настолькі я ўваходзіў у вобраз. Гэту кнігу рэдагавалі Янка Маўр і іншыя пісьменнікі, яны зрабілі яе па-майстэрску, прафесійна, таму яна так глыбока ўздзейнічае.

Потым я перачытаў сотні ваенных кніг. Збіраўся быць ваенным, паступаць у ваеннае вучылішча, але ў 10 класе захварэў на запаленне лёгкіх, і замест арміі мяне адправілі лячыцца ў санаторый.

Вершы пачаў пісаць у шостым класе. Аднойчы настаўніца рускай мовы і літаратуры прыйшла на ўрок (яна была вельмі строгая, патрабавальная) і сказала: «Дзеці, сёння будзем пісаць вершы!» Мы перапалохаліся. Як гэта? Мы ж нічога пра іх не ведаем! Канешне, яна зрабіла памылку. Трэба было спачатку правесці падрыхтоўку (потым, калі тры гады працаваў у школе, я таксама рабіў такія ўрокі, але спачатку расказваў, што такое паэзія, вадзіў дзяцей на прыроду, а пасля даваў дамашняе заданне: напісаць верш. Я і зараз на сустрэчах з настаўнікамі кажу: «Не трэба прымушаць дзяцей, муштраваць іх. Зрабіце цікавыя, незвычайныя ўрокі, абудзіце душы, знайдзіце ў іх дабрыню!» Праз літаратуру — дабрынёй — трэба абуджаць чалавечнасць). А мы, памятаю, сядзелі, сагнуўшы галовы, і баяліся, што нас зараз выклічуць да дошкі. Гэта так прыгнятала… Але тады я ўсё-ткі напісаў свой першы верш.

Спачатку пісаў па-руску. Тэмы знаходзіў розныя. Ішоў па дарозе да школы (яна была ў трох кіламетрах), бачыў прыгожыя рамонкі — і складаў пра іх вершы. Пісаў і штосьці гумарыстычнае. Нават сачыненні стаў рабіць вершаваныя (а калі паступаў у Белдзяржуніверсітэт, напісаў паэтычнае сачыненне на вольную тэму).

Калі вучыўся ў 10 класе, са мной здарылася нешта містычнае... Аднойчы мы ішлі з сябрамі, размаўлялі — і раптам у мяне за спінай быццам нехта прашаптаў: «Вось вы не ведаеце, а гэта ж будучы пісьменнік…» Калі я расказаў старэйшай сястры, яна ўзрадавалася: «Гэта ж анёл табе падказаў!»

За школьныя гады я напісаў каля чатырох соцень вершаў, але ўсе іх спаліў… Зразумеў, што яны слабыя. Прызнаў гэта, калі пачаў друкавацца. Першы верш на беларускай мове напісаў, калі вучыўся на чацвёртым курсе філалагічнага факультэта, на аддзяленні беларускай і рускай мовы і літаратуры. Выкладчыкамі ў нас былі Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Вячаслаў Рагойша, Павел Ткачоў, Вольга Казлова, Ніна Гілевіч. Яны мяне захапілі беларускасцю, і я пачаў пісаць на роднай мове.

На маё выхаванне таксама паўплывалі старэйшыя сёстры. Ганна літаральна за руку прывяла мяне ва ўніверсітэт і заахвоціла да паступлення. А Паліна вучылася ў Чалябінску, потым у Адэсе, і адтуль прыслала мне «Толковый словарь русского языка»

Ожегова». Гэты слоўнік я захоўваю да гэтага часу, як рэліквію. Ён мяне падпітвае энергетычна і ў свой час вельмі мне дапамог. Наша ж вясковая школа столькі ведаў не давала, як гарадская. У горадзе — тэатры, кінатэтры, бібліятэкі — усё, што папаўняе культурны багаж, а мы былі гэтага пазбаўлены.

Ведаеце, чым адрозніваецца вясковая школа ад гарадской? Гарадская стараецца пазнаёміць з літаратурай, мастацтвам, гісторыяй, архітэктурай і гэтак далей. А вясковая больш арыентуе на працоўнае выхаванне. І яно дае чалавеку такую магутную сілу пераадольваць цяжкасці, дамагацца сваёй мэты! Гарадскія ж дзеці больш інертныя, і здароўе ў іх слабейшае.

А мы басанож бегалі, як толькі пачынаў лёд сыходзіць. Загартоўваліся! Памятаю, зімой (па калені мокры ад снегу) гадзіну бегаешь, коўзаешся — і нічога. Дамоў не ідзеш, бо бацькі назад не адпусцяць.

А як хацелася вучыцца, спасцігаць свет, адкрываць нешта новае! Калі стаў студэнтам, я за дватры гады наведаў усе культурныя ўстановы: стараўся ўвабраць у сябе як мага болей ведаў.

У маім жыцці былі выпадкі, калі мяне ратавалі Вышэйшыя сілы. Я ў дзяцінстве (мне было гадоў шэсць) каля невялічкага азярца скакаў на бочцы, а сябры адпіхнулі яе. Я не ўтрымаўся, саслізнуў у ваду і пачаў тануць. А сябры смяюцца! Там глыбіні, можа, метр быў, але мне хапіла б. Старэйшы хлопец мяне выцягнуў…

Я маме пра гэта не расказаў. Ёй аднойчы нагадала цыганка, што да сямнаццаці гадоў мне не трэба купацца, што я патану. І мама берагла мяне, як магла. Але дзе ж ты ўгледзіш?

Аднойчы, калі мне было шаснаццаць, мы ездзілі касіць берагі Дняпра. Вечарам прыехала машына, каб адвезці ўсіх дадому. Старэйшыя аднавяскоўцы паехалі, а мы з сябрам засталіся. Лавілі рыбу, варылі юшку, слухалі салаўёў. І захацелася нам пераплыць Днепр. У тым месцы ён быў не такі шырокі, можа, паўтары сотні метраў. І мы паплылі… А пасярэдзіне плынь ракі вельмі хуткая. Сябра стаў задыхацца і вырашыў вярнуцца. А я падумаў, што ўжо мала засталося, паспрабую пераплыць. І раптам плынь мяне падхапіла… Бачу наперадзе, метраў за дваццаць, водаварот — і мяне туды цягне, круціць. Я боўтаюся, іду пад ваду — і ўжо адчуваю, што ўсё, канец… Перада мной як быццам паплылі карціны: я ўбачыў, як адна жанчына на пахаванні сваёй маленькай дачушкі рвала на сабе валасы, як яе супакойвалі людзі, трымалі за рукі… Падумаў, што вось так і мая мама будзе забіта горам, калі я патану… І раптам успомніў словы бацькі, што ва ўсякай бядзе трэба казаць: «О, Божа!» Я стаў спрабаваць вынырнуць… А холад у вадзе, жах! І сіл няма, і вір усё бліжэй… Я ўжо наглытаўся вады, але закрычаў: «О, Божа!» Рвануўся яшчэ раз — і раптам пальцамі адчуў пясок пад нагой… Прыйшла надзея, я стаў змагацца — і выплыў. Дабраўся да берага, ледзь жывы. Доўга ляжаў у знямозе. Так і заначаваў на другім беразе.

Добра, што быў гарачы ліпень. Я знайшоў нейкі куст, прыкрыўся галінкамі. А раніцай прачнуўся ад холаду: зуб на зуб не трапляў. Дачакаўся, пакуль на луг прыехалі людзі. Яны мяне перавезлі на той бераг, дзе быў мой сябра. Я яго папярэдзіў: «Глядзі, маме маёй не кажы!» Так гэта доўгі час і было тайнай…

***

Можа, пасля таго выпадку Міхась Пазнякоў і стаў «ваяўнічым» аптымістам. Калі людзі вакол кажуць, што будзе дрэнна, ён іх супакойвае: «Не, будзе добра! Я ўпэўнены ў гэтым на 500 працэнтаў»! У любую справу ён верыць, як у добрую… А яшчэ яго радуюць шчырыя, адкрытыя душой людзі і прырода. Ён шмат ездзіць па Беларусі, выступае перед чытачамі, і яго кранае прыгажосць нашых людзей, «якіх не скрывіла ніякае палітыканства, якія разумна разважаюць і шчыра жывуць, як той васілёк у жыце». Ён ведае, што «ў народзе ёсць вера і талент, таму мы будзем толькі памнажаць гэта дабро».

Успаміны Міхася Паўлавіча ярка і вобразна-выразна дапаўняюць яго вершы, дзе ён усхвалявана распавядае пра самае дарагое і светлае, пра тое, што прывык шанаваць і беражліва захоўваць у душы, пра што ніколі не забудзецца:

Выйду ранкам
У сад шапатлівы,
Покуль сонца
За лесам яшчэ.
Водар грушы цукровай
І слівы
Узварушыць душу,
Апячэ…

І, з прыродай
Адчуўшы адзінства,
Ва ўспамінах сваіх,
Неўпрыкмет,
У дзяцінства,
Быццам у паралельны
Мой свет.

І лагодным паглядам
Атуліць
Татаў, родны
Раскошлівы сад.
Сонца ўзыдзе
Над садам —
Матулін
Самы шчыры
І светлы пагляд.

**Аксана Данілевіч,**
**Алена Развановіч**

# Людзі і лёсы ў гісторыі Шчучыншчыны

**Невялікі зялёны гарадок Шчучын Гродзенскай вобласці сёлета стаў пляцоўкай для святкавання XXII Дня беларускага пісьменства. Менавіта ў гэты святочны дзень, у прысутнасці шматлікіх гасцей пасля доўгай рэстаўрацыі быў адкрыты палац князёў Друцкіх-Любецкіх, пабудаваны ў канцы XIX стагоддзя па праекце віленскага архітэктара Тадэвуша Растварoўскага. Адноўлены палац ужо неаднаразова быў гучна названы «маленькім Версалем» — з-за падабенства па канструкцыі і афармленні з палацам Малы Трыянон, спраектаваным па загадзе караля Людовіка XV і пабудаваным у сапраўдным Версалі для яго фаварыткі маркізы дэ Пампадур. Цяпер палац у Шчучыне мае шанцы стаць візітнай карткай горада.**

Але не толькі шыкоўным палацам можа ганарыцца Шчучын! Гэты край багаты на гісторыю і традыцыі, на гэтай зямлі жылі і тварылі многія таленавітыя людзі, якія зрабілі значны ўклад у развіццё беларускай і сусветнай культуры. Несумненна, Свята беларускага пісьменства стала нагодай успомніць «ключавыя моманты» і выбітных асоб з гісторыі шчучынскага краю.

Адной з самых важных падзей у гісторыі Шчучына XVIII стагоддзя з'явілася адкрыццё калегіума манаскага ордэна каталіцкай царквы піяраў. Яно было зацверджана пастановай сейма ад 1726 года і шчодра фундавалася мясцовымі магнатамі, найбольш — Сцыпіёнамі. Само слова «піяры» паходзіць ад назвы школы, адкрытай заснавальнікам ордэна святаром Іосіфам Каласанскім. Па-лацінску яна звалася Schola Pia — «набожная школа». Мэтай манахаў-піяраў не была місіянерская або палітычная дзейнасць, іх прызначэннем стала навучанне і выхаванне моладзі ў створаных для гэтага навучальных установах, таму, акрамя традыцыйных манаскіх абетаў, піяры давалі абет бескарыснага клопату аб выхаванцах. Навучанне было бясплатнае, пэўная сума грошай бралася толькі за інтэрнат, ацяпленне і асвятленне класных пакояў, а таксама бацькам належала забяспечыць харчаванне дзяцей. Вучні з бедных сямей утрымліваліся за кошт ордэна, але павінны былі выконваць шэраг прац па школьнай гаспадарцы. Клопат аб некалькіх вучнях маглі ўзяць на сябе магнацкія сем'і з ліку фундатараў кляштара і калегіума.

Шчучынскі калегіум, разлічаны на 140 студэнтаў, быў адным з найбуйнейшых на тэрыторыях, якія адносяцца да сучаснай Беларусі. Афіцыйна ён лічыўся сярэдняй школай, але па ўзроўні падрыхтоўкі і падборы выкладчыкаў гэта быў практычна ўніверсітэт. Поўны курс навучання тут складаў сем гадоў: першы год — падрыхтоўчы, а затым тры двухгадовыя курсы. За гэты час навучэнцы абавязаны былі засвоіць цэлы комплекс ведаў па філасофіі, тэалогіі, гісторыі рэлігіі, вывучыць лацінскую мову, а таксама спасцігнуць мастацтва красамоўства. У праграму былі ўключаны і новыя дысцыпліны: матэматыка, фізіка, гісторыя Рэчы Паспалітай і ўсеагульная гісторыя. Пры калегіуме былі створаны фізічны кабінет і хімічная лабараторыя, сабрана багатая бібліятэка, з 1773 года працавала адна з самых старажытных на Беларусі аптэк.

У 1742 годзе ў мястэчку Шчучын быў адкрыты канвент сясцёр міласэрнасці — першы на тэрыторыі Беларусі. Пад апекай шчучынскіх сясцёр міласэрнасці знаходзіліся вялікі шпіталь, школа і дзіцячы прытулак, разлічаны на 60 сірот. У XVIII стагоддзі згаданы канвент быў адзінай установай на Шчучыншчыне, дзе жанчыны маглі атрымаць адукацыю. Дзякуючы піярам і сёстрам міласэрнасці, Шчучын ператварыўся ў адзін з найбуйнейшых не толькі рэлігійных, але і культурна-адукацыйных цэнтраў краіны.

Многія з выкладчыкаў і вучняў шчучынскіх навучальных устаноў сталі членамі створанай у 1773 г. па прапанове караля Станіслава Аўгуста і па ініцыятыве Гуга Калантая Адукацыйнай камісіі — фактычна першага ў Еўропе міністэрства асветы. Мэтай камісіі была арганізацыя ўсеагульнага абавязковага навучання дзяцей усіх саслоўяў і адраджэнне краіны з дапамогай асветы. Адукацыйная камісія рэфармавала сістэму пачатковай, сярэдняй і вышэйшай адукацыі, надала ёй свецкі характар, пашырыла выкладанне прыродазнаўчых дысцыплін, увяла элементы фізічна-

га выхавання. Камісія арганізавала падрыхтоўку і выданне новых падручнікаў, якія адрозніваліся яснай, лагічнай структурай, выразнай падачай матэрыялу, даступнай мовай. З трыццаці падручнікаў для вучняў і настаўнікаў, падрыхтаваных Адукацыйнай камісіяй, амаль палова былі распрацаваны піярамі.

Выкладчыкамі калегіума піяраў у Шчучыне працавалі выдатныя еўрапейскія навукоўцы таго часу. Сярод іх быў вядомы батанік і заолаг, доктар філасофіі і тэалогіі, пазней прафесар Віленскага ўніверсітэта Станіслаў Юндзіл (1761—1847). Гэты «беларускі Капернік», як яго паўжартам называюць, быў адным з першых даследчыкаў флоры і фаўны Беларусі. У Шчучыне ён узначаліў піярскую школу і заклаў батанічны сад, у якім праводзіў свае даследаванні. У 1814 годзе сад лічыўся адным з лепшых у Беларусі. Крыху пазней Юндзіла запрасілі ў Вільню і Вену для ўладкавання ў гэтых гарадах батанічных садоў, што стала сапраўдным прызнаннем яго майстэрства. У Віленскім садзе пад кіраўніцтвам батаніка было высаджана каля дзесяці тысяч розных раслін, што на тысячу відаў больш, чым налічваецца сёння ў Цэнтральным батанічным садзе Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Станіслаў Юндзіл напісаў першыя на тэрыторыі Заходняй Еўропы падручнікі па батаніцы і заалогіі не на лацінскай, а на польскай мове. За апісанне флоры Вялікага Княства Літоўскага кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ўзнагародзіў Юндзіла залатым медалём Merentibus (Заслужаны), якім узнагароджвалі за заслугі ў галінах навукі, культуры, вынаходніцтваў, развіцця прамысловасці і гандлю.

Тры гады выкладаў у Шчучынскім калегіуме фізіку і французскую мову вядомы філосаф, логік і псіхолаг Аніол Доўгірд (1776—1835). Ён захапляўся паэзіяй, пісаў вершы, пазней стаў прафесарам логікі і этыкі Віленскага ўніверсітэта. У Вільні філосаф апублікаваў шэраг прац па тэалогіі.

Яшчэ адна выдатная асоба — гісторык Мацей Дамінік Догель (1715—1760), які спачатку скончыў Шчучынскі піярскі калегіум, а потым стаў яго выкладчыкам (пасля ўступлення ў ордэн). Да таго ж ён быў хатнім настаўнікам у доме лідскага старосты, уладальніка Шчучына Юзафа Сцыпіё дэль Кампа, які, паміраючы, даручыў Догелю апеку над сваім адзіным сынам Ігнатам (манаграма менавіта з яго ініцыялаў красуецца на гербе Шчучына). Настаўнік з выхаванцам выехалі ў Заходнюю Еўропу, і пакуль юны Сцыпіё спасцігаў дакладныя навукі, філасофію і права ў Лейпцыгскім і Парыжскім універсітэтах, Догель пашыраў свае ўласныя веды. Ён азнаёміўся з працамі ў галіне міжнароднага права і пачаў збіраць крыніцы па дыпламатычнай гісторыі, на аснове якіх, з дазволу караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III, выдаў славуты «Дыпламатычны Кодэкс» і гістарычную працу «Межы Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага».

У шчучынскай піярскай навучальнай установе (закрыта ў 1832 годзе) вучыўся і такі вядомы навуковец, як філосаф Казімір Нарбут (1738—1807). Пазней ён спасцігаў навукі ў калегіумах Вільні і Рыма, быў прафесарам і прэфектам піярскага калегіума ў Дубровіцы, потым прэфектам віленскай піярскай друкарні. Ён з'яўляецца аўтарам першага ў Рэчы Паспалітай падручніка па логіцы «Логіка або Навука аб разважаннях і парадку рэчаў»



Палац Друцкіх-Любецкіх у Шчучыне.
Пачатак XX стагоддзя.




Выява піяра — ілюстрацыя з кнігі: Ks.Beniamin. Rys historyczny zgromadzeń zakonnych obojéj płci. Warszawa, 1848. Бохман Б. Гістарычная даведка аб мужчынскіх і жаночых манаскіх ордэнах. Варшава, 1848.



Станіслаў Юндзіл.

(Вільня, 1791). Як член Адукацыйнай камісіі займаўся рэформай школьнага навучання ў Беларусі і Літве.

Выпускніком шчучынскага калегіума быў і вядомы матэматык, тэолаг, філосаф Бернард Сыруць (1731—1784). Пасля вучобы ў Рыме ён працаваў у прэстыжнай Тэрэзьянскай акадэміі ў Вене. Пазней удзельнічаў у дзвюх важных рэформах асветы ў Вялікім Княстве Літоўскім. Ён быў чалавекам, які ўнёс істотны ўклад у навуку як аўтар некалькіх падручнікаў па матэматыцы, перакладчык тэкстаў старажытных і сучасных яму пісьменнікаў і аўтар кнігі аб добрых манерах, некалькі разоў перавыдадзенай.

Выхаванцамі шчучынскай школы піяраў былі і вядомыя паэты Ануфрый Петрашкевіч (1793— 1863), адзін з заснавальнікаў таварыства філаматаў, і Юльян Корсак (1806—1855), паэт рамантычнага напрамку, перакладчык Гарацыя, Дантэ, Шэкспіра, Байрана, Шылера, блізкі сябра



OPISANIE ROSLIN
W PROWINCYI W. X. L.
NATURALNIE ROSNĄCYCH
WEDŁUG UKŁADU
LINNEUSZA,
PRZEZ
X. B. S. JUNDZIŁŁA S. P.
W WILNIE 1791.



W Drukarni J. K. Mci y Rzeplitey

Тытульны ліст кнігі Jundziłł S.P. Opisanie roslin w prowincyi W.X.L. naturalnie rosnących według układu Linneusza. Wilno, 1791. Юндзіл С. Апісанне дзікарослых раслін у правінцыі Вялікага Княства Літоўскага, створанае паводле сістэмы Лінэя. Вільня, 1791.



LOGIKA
CZYLI
ROZWAZANIA Y ROZSĄDZANIA
RZECZY NAUKA
WEDŁUG KTOREY
KAZDY MA WE WSZYSTKIM
Prawdy dochodzić y strzedz się fałszu.
POPRAWIONA Y PRZEDRUKOWANA.



W WILNIE.
w Drukarni J. K. Mci y Rzeczy-pospolitey u XX. Piarow Roku 1791.

Тытульны ліст кнігі Logika czyli Rozwazania y rozsądzania rzeczy nauka według którey każdy ma we wszystkim Prawdy dochodzić y strzedz sią fałszu. Wilno, 1791. Нарбут К. Логіка, або Навука аб разважаннях і парадку рэчаў... Вільня, 1791.



Францішак Ксаверы Друцкі-Любецкі.



QUELQUES IDÉES

SUR UNE

RÉORGANISATION ADMINISTRATIVE

PAR

le Prince Alexandre Drucki-Lubecki.

CZERLONA, GOUVERNEMENT DE GRODNO.
Février 1881.

ST-PÉTERSBOURG.
1881.



Кніга, напісаная Аляксандрам Друцкім-Любецкім: Drucki-Lubecki A. Quelques idees sur une reorganisation administrative. St-Petersbourg, 1881. Друцкі-Любецкі А. Некаторыя ідэі па адміністрацыйнай рэарганізацыі. Санкт-Пецярбург, 1881.

Адама Міцкевіча і Ігната Дамейкі, некаторыя з яго вершаў («Пілігрым», «Баркарола») былі пакладзены на музыку Станіславам Манюшкам.

Яшчэ адным славутым выпускніком шчучынскай школы піяраў быў Ігнат Дамейка — сусветна вядомы геолаг, мінеролаг, географ і этнолаг. Пасля навучання ў калегіуме ён скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта (1822). За ўдзел у таварыстве філаматаў восенню 1823 года быў арыштаваны і адбываў ссылку пад наглядам паліцыі без права выезду ў маёнтку Заполле Лідскага павета, а пасля ўдзелу ў паўстанні 1830—1831 гадоў апынуўся ў эміграцыі. У 1838 годзе Дамейка скончыў Парыжскую горную школу пры Сарбоне і па кантракце выехаў у Чылі — маладую тады рэспубліку, — не ведаючы, што яна стане другой яго радзімай на 46 гадоў. Дамейка займаўся навуковымі даследаваннямі і выкладчыцкай працай, доўгі час з'яўляўся рэктарам чылійскага ўніверсітэта, праводзіў шматлікія экспедыцыі. Ён першаадкрывальнік чылійскіх радовішчаў салетры, будаўнік шахт, капалень па здабычы медзі, срэбра і золата. Ён заснаваў у Чылі метэаралагічную службу, мінералагічны музей, хімічную і горную лабараторыі. На яго рахунку каля 130 навуковых прац. За развіццё навукі і адукацыі ў Чылі Ігнат Дамейка быў абвешчаны нацыянальным героем рэспублікі. У яго гонар сярод іншага названы горны хрыбет Анд, адзін з гарадоў Чылі, мінерал дамейкіт, фіялка Viola Domeykiana і выкапнёвы слімак Nautilus Domeycus, а ў цэнтры горада Сант'яга, сталіцы Чылі, стаіць велічны помнік нашаму славутаму земляку з надпісам: «Вялікі Асветнік».

За доўгія гады існавання Шчучына ім валодалі самыя багатыя магнаты Рэчы Паспалітай: Радзівілы, Давойны, Юзафовічы-Глябіцкія, Сцыпіё дель Кампа (па-мясцоваму — Сцыпіёны) і іншыя. Апошнія ўладары былі прадстаўнікамі старажытнага княскага роду Друцкіх-Любецкіх, якія свой радавод выводзілі ад Рурыка і былі больш старажытнымі за Раманавах ці Ягелонаў. Валоданнем Друцкіх-Любецкіх Шчучын стаў у 1807 годзе, калі князь Францішак Ксаверы Друцкі-Любецкі ажаніўся са сваёй 14-гадовай пляменніцай Марыяй Сцыпіё дэль Кампа і такім чынам далучыў шчучынскія ўладанні да сваёй велізарнай вотчыны.

Князь Францішак Ксаверы нарадзіўся ў 1778 годзе. Скончыўшы кадэцкі корпус у Санкт-Пецярбургу, ён звязаў сваё жыццё з вайсковай справай. Прымаў удзел у паходах Суворава ў Італію і

Швейцарыю, дзе атрымаў кантузію, таму вымушаны быў пакінуць вайсковую службу і пасяліцца ў радавым маёнтку Чарлёна. Прыкладна ў гэты час аўдавела адна з яго старэйшых сясцёр — Тэрэза Сцыпіё дэль Кампа, якая жыла ў Шчучыне, — і напрацягу некалькіх гадоў малады князь дапамагаў ёй весці гаспадарку. Менавіта тады і прыйшло рашэнне аб жаніцьбе з юнай пляменніцай. Па тых часах такія блізкароднасныя шлюбы не былі рэдкасцю, патрэбен быў толькі дазвол Папы Рымскага. Дазвол быў атрыманы, маладыя пажаніліся і засталіся жыць у Шчучыне.

Каб узняць эканамічнае жыццё мястэчка, малады гаспадар разгарнуў вялікае будаўніцтва. На яго сродкі былі пабудаваны касцёл Св. Тэрэзы, паштовы і гасцінны дамы, гандлёвыя флігелі і шматлікія крамы.

Акрамя гаспадарчых спраў, князь шмат увагі надаваў сваёй дзяржаўнай кар’еры. Настаўнікам, кіраўніком і арганізатарам першых крокаў Францішка Ксаверыя на палітычнай арэне быў Войцех Пуслоўскі — вядомы дзяржаўны, грамадскі і гаспадарчы дзеяч беларуска-літоўскіх зямель, уладальнік шматлікіх маёнткаў. Да таго ж яны былі сваякамі: Войцех Пуслоўскі быў жанаты з сястрой князя Францішка Ксаверыя Юзэфай — жанчынай разумнай і кемлівай. Юзэфа мела вялікі талент па вядзенні гаспадарчых спраў і была надзейнай памочніцай і мужу, і брату. Як казалі, Любецкі да канца свайго жыцця «жыў парадамі» Пуслоўскага і сваіх сясцёр.

Дзяржаўная кар’ера Францішка Ксаверыя хутка пайшла ўгору. Спачатку ён займаў пасаду гродзенскага, потым віленскага губернатара, затым быў намеснікам Герцагства Варшаўскага, прымаў удзел у працы камісіі, створанай для вырашэння фінансавых разлікаў паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй, дабіўся памяншэння доўга Расіі на некалькі мільёнаў талераў, і дзякуючы гэтым поспехам быў прызначаны міністрам фінансаў Каралеўства Польскага (1821), прымаў удзел у шматлікіх дыпламатычных місіях за мяжой. Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі стаў стваральнікам Польскага банка, Таварыства земскага крэдыту, быў таленавітым фінансістам і эканамістам, да таго ж наватарам у абранай ім сферы дзейнасці. Ён падкрэсліваў, што сваю задачу бачыў у тым, каб быць не «міністрам казны», а «міністрам фінансаў», які клапоціцца не толькі аб папаўненні бюджэту, але кіруе развіццём эканомікі з дапамогай фінансавых рычагоў, што станоўча адбіваецца на бюджэце краіны. Пры гэтым у фінансавай сферы князь быў практычна самавукам, хоць цікавасць яго да лічбаў праявілася рана: яшчэ ў кадэцкім корпусе любімым прадметам князя была матэматыка, якую выкладаў знакаміты Эйлер. Дальнабачнасць, мэтанакіраванасць, здольнасць да халоднага разліку і мыслення эканамічнымі катэгорыямі часам з поспехам дазвалялі князю пераадолець недахоп спецыяльнай адукацыі.

Сямейнае жыццё князя Францішка Ксаверыя таксама аказалася ўдалым, у яго з жонкай вырасла сямёра дзяцей: два сына і пяць дачок. Дзве дачкі, Юлія і Генавефа, у пэўнай ступені паўтарылі лёс бацькоў — закахаліся ў стрыечных братоў, сыноў Войцеха і Юзэфы Пуслоўскіх, і назаўжды звязалі з імі свае лёсы.

Юлія Друцкая-Любецкая выйшла замуж за цёзку свайго бацькі — Францішка Ксаверыя Пуслоўскага. Гэта быў маршалак шляхты Слонімскага павета, камергер расійскага двара, навуковец-хімік, шчодры мецэнат, які доўгі час узначальваў Варшаўскае таварыства дабрачыннасці. Чалавек шырокіх інтарэсаў, з грунтоўнай адукацыяй, шмат падарожнічаў… Напэўна, яму было лёгка заваладаць сэрцам дзяўчыны. Да таго ж у Юліі і Францішка Ксаверыя былі агульныя захапленні: мастацтва і калекцыяніраванне. У палацы ў Крулікарні пад Варшавай, які яны выбралі сваёй сталай рэзідэнцыяй, Юлія і Францішак Ксаверый сабралі вялікую калекцыю карцін, скульптур, гравюр, абразоў, габеленаў, а таксама каштоўную бібліятэку.

Мужам малодшай дачкі князя Друцкага-Любецкага Генавефы стаў Уладзіслаў Пуслоўскі. Бравы кавалергард, які, як і цесць, выбраў вайсковую службу, вымушаны быў пакінуць яе за ўдзел у дуэлі (скончылася забойствам праціўніка). Затое пазней ён стаў адным з самых буйных фабрыкантаў Расійскай імперыі. Пасля жаніцьбы Уладзіслаў і Генавефа сваёй рэзідэнцыяй зрабілі Альбярцін пад Слонімам, дзе пабудавалі палац і адкрылі шмат прамысловых прадпрыемстваў. Шлюб гэты, нягледзячы на вялікую розніцу мужа і жонкі ва ўзросце, быў удалым, сыны іх прадоўжылі справы бацькі, дзякуючы ім у Альбярціне быў створаны адзін з першых на Беларусі прамысловых цэнтраў і пабудавана першая ў Заходняй Беларусі гідраэлектрастанцыя.

Гісторыя захавала імя і асобныя справы аднаго з сыноў князя Францішка Ксаверыя — Аляксандра, які нарадзіўся ў 1827 годзе. Князь быў гродзенскім павятовым маршалкам, буйным землеўладальнікам. Ён аўтар кнігі Quelques idées sur une réorganisation administrative («Некаторыя ідэі па адміністрацыйнай рэарганізацыі»), што выйшла з друку ў 1891 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Князь Аляксандр быў жанаты з Марыяй Феліцыяй з Шэметаў, меў з ёю трох сыноў, малодшы з якіх, Уладзіслаў, якраз і пабудаваў у Шчучыне палац, які сёння, праз больш чым сотню гадоў, захапляе прыгажосцю шчучынцаў і гасцей горада. Так сталася, што і лёс самога князя захапляе і ўражвае, нібы сюжэт дэтэктыўнага рамана.

Князь Уладзіслаў Друцкі-Любецкі нарадзіўся ў 1864 годзе, атрымаў грунтоўную адукацыю, у тым ліку за мяжой (у Дэрпце). Мільянер, уладальнік шматлікіх маёнткаў на Гарадзеншчыне і Палессі (сярод якіх Шчучын, Станіславова і Панямунь). Жанаты з Марыяй Замойскай, меў чацвярых дзяцей: тры дачкі і сына. У 1907 годзе быў прэзідэнтам Гродна. З'яўляўся заснавальнікам і першым старшынёй Таварыства аўтамабілістаў. Ёсць фотаздымак, дзе на фоне палаца Станіславова пад Гродна красуецца любімы чырвоны аўтамабіль князя. Уладзіслаў, які вельмі любіў вадзіць аўтамабіль, меў надта дрэнны зрок, таму трымаў шафёра-палешука, якога па панскай прыхамаці ўсё называлі Полем. Падчас выездаў Поль звычайна сядзеў побач з гаспадаром і дапамагаў кіраваць машынай: у апошні момант паспяваў ухапіцца за руль і аб'ехаць перашкоду або трапіць у паварот.

У 1909 годзе князь Уладзіслаў купіў у Тэрэсіне (пад Варшавай) палац, на землях якога 7 красавіка 1913 года і быў застрэлены. Гэта забойства стала пачаткам аднаго з самых доўгіх і гучных судовых працэсаў на тэрыторыі Польшчы да Першай сусветнай вайны. Працэс цягнуўся з перапынкамі да 1928 года. У забойстве быў абвінавачаны сваяк князя барон Ян Біспінг — уладальнік маёнтка Масаляны пад Гродна. Барона судзіў спачатку расійскі суд, а потым польскі. Справа імкліва абрастала новымі падрабязнасцямі і акалічнасцямі, падазрэннямі і плёткамі: падробка векселяў, стрыхнін, зняцце абвінавачванняў і паўторнае ўзбуджэнне справы, турма, клятвы на магілах, уяўнае прызнанне сапраўднага забойцы, быццам прысланае па пошце, нават сеанс спірытычнай сувязі з духам забітага, які нібыта сцвярджаў, што загінуў ад рук яўрэяў, якія хацелі завалодаць рэдкім экзэмплярам Талмуда! Тым часам барон Біспінг быў, у рэшце рэшт, апраўданы — яго абаранялі самыя вядомыя адвакаты таго часу, ды і грошы на заклад, канешне, знайшліся. І нягледзячы на тое, што справа мела вялікі рэзананс, было апытана больш за 700 сведак, праведзены дзясяткі самых розных экспертыз, — сапраўдны забойца так і не быў знойдзены ды пакараны. Грамадскасць пільна сачыла за ходам следства, якое цягнулася год за годам, і знайшліся актывісты, якія, не спадзеючыся на раскрыццё справы мясцовымі пінкертонамі або проста жадаючы паскорыць хвіліну правасуддзя, склалі ліст на імя лепшага сышчыка таго часу — Конан Дойла ў Лондане! Шкада, што знакаміты майстар вышуку так і не ўзяўся за гэту справу!

Пасля забойства князя Уладзіслава тэрэсінскай сядзібай, як і Шчучынам, да 1939 года валодалі яго ўдава і сын Ян. Друцкім-Любецкім належалі багатая бібліятэка і архіў, найбольш каштоўныя дакументы з якога ў 1914 годзе былі перададзены ў музей Чартарыйскіх у Кракаве. Большую частку маёмасці перад Першай сусветнай вайной апошнія ўладальнікі паспелі вывезці за мяжу, а што засталося, тое беззваротна загінула ў віхуры палітычных і сацыяльна-эканамічных катаклізмаў мінулага стагоддзя. Згас і старажытны род Друцкіх-Любецкіх, яго мужчынская лінія спынілася на Яне Уладзіслававічы, які памёр у 1990 годзе ў Нью-Ёрку ва ўзросце 92 гадоў. Нібы паўтараючы лёс свайго апошняга ўладара, у 1990-х прыйшоў у заняпад і быў закрыты будынак шчучынскага палаца, у якім пасля Другой сусветнай вайны працаваў Дом афіцэраў. Здавалася б, сямейнае гняздо старажытнага роду Друцкіх-Любецкіх апусцела назаўжды, страціўшы жыхароў, славу і веліч…

Але новае стагоддзе прынесла палацу новае жыццё. Былі праведзены гістарычныя, архіўныя і бібліяграфічныя даследаванні, адбылася грунтоўная рэстаўрацыя палаца, які сёння стаў шчодрым падарункам падрастаючым пакаленням шчучынцаў — тут адкрыты Палац творчасці дзяцей і моладзі. А у Дзень беларускага пісьменства, калі палац расчыніў дзверы, кожны наведвальнік атрымаў магчымасць наблізіцца да жыцця і быту дваран XIX — пачатку XX стагоддзя, адчуць атмасферу той эпохі, калі жыццё ў палацы князёў Друцкіх-Любецкіх было багатым і насычаным.

**Кірыл Мяцеліца**

# Апалінэр за кратамі, або Усмешка Моны Лізы

**Год 1911 быў багаты на падзеі. Далёка на Усходзе разваліласяна часткі некалі магутная імперыя Цын; нарвежац Амундсэн, чый змрочны твар ператварыўся ад холаду ў суцэльную гнойную рану, стаў першым чалавекам, які дасягнуў Паўднёвага полюса; у Лондане, змагаючыся за выбарчыя правы жанчын, суфражысткі ладзілі эпатажныя перформансы ў стылі Femen... У Францыі ж разгарэўся гучны скандал, што ўдыхнуў другую маладосць у жанчыну па імені Ліза дэль Джаконда, больш вядомую як Мона Ліза. Так склалася, што гэтая крымінальная гісторыя, якую журналісты ахрысцілі «другім выкраданнем Еўропы», зацягнула ў свой вір і вялікага французскага паэта, карані якога сыходзяць у беларускую глебу.**

Апошнія гады напярэдадні Першай сусветнай вайны нездарма вядомыя ў французскай гістарыяграфіі як Belle Epoque — выдатная эпоха. Каб пераканацца ў праўдзівасці гэтага тэрміна, дастаткова зірнуць на Парыж таго часу. Горад заслужана лічыўся сталіцай Еўропы, атрымліваў асалоду ад жыцця ва ўсіх яго праявах. На кожным кроку былі забягалаўкі, дзе нават бедны студэнт усяго за пару су мог замовіць сабе сытны абед з куфлем добрага віна. Для больш рэспектабельнай публікі круглыя суткі працавалі шыкоўныя рэстараны, у асартыменце якіх было мяса маладых паўлінаў і жахліва дарагія каньякі часоў Напалеона. Са сцэны Гранд-Опера гучала боскае сапрана Ліны Кавальеры, а асіная талія танцоркі Караліны Атэро пазбаўляла розуму еўрапейскіх манархаў. Каламутная Сена выносіла ў бок Ла-Манша не толькі бруд, але і чапурыстасць — шматдзетныя матроны не грэбавалі сяброўствам з прастытуткамі, арыстакраты спакойна з'яўляліся ў грамадстве разам з прывезенымі з Алжыра, Сенегала або Мадагаскара туземкамі.

Касмапалітызм Парыжа прыцягваў валацуг і авантурыстаў з усяго свету. У 1899 годзе чарговая хваля вірлівага людскога мора прыбіла сюды і беларускую арыстакратку Анжаліку Кастравіцкую з сынам Вільгельмам. Калі маці, якая калісьці пакінула свой радавы маёнтак у далёкім Навагрудку, ведалі ў твар толькі круп'е ў шматлікіх казіно Манака, Канаў і Ніцы, то яе сыну ў плане вядомасці пашанцавала больш. Лёс складзецца так, што яму пашчасціць увайсці ў гісторыю сусветнай літаратуры пад псеўданімам Гіём Апалінэр. Аднак гэта адбудзецца крыху пазней. У апісаным жа 1911 годзе Апалінэр як публіцыст супрацоўнічаў з некалькімі парыжскімі выданнямі і зарабляў на хлеб напісаннем парнаграфічных раманаў, якія савецкія літаратуразнаўцы сарамліва называлі «фрывольнымі». Малады хлыст вёў багемнае жыццё і сябраваў з Пабла Пікаса, які зусім нядаўна распачаў свае «кубічныя» эксперыменты. Неразлучныя сябры часта шакіравалі мясцовую публіку скандальнымі паводзінамі. Таму ніхто не здзівіўся, калі Апалінэр, даведаўшыся пра знікненне з Луўра «Моны Лізы», у звыклай для яго правакацыйнай манеры заявіў, што музей даўно ператварыўся ў могілкі і яго неабходна спаліць дашчэнту.

Усё пачалося раніцай 22 жніўня 1911 года, калі забыты цяпер мастак Луі Беру прыйшоў у Луўр для таго, каб зрабіць некалькі накідаў для сваёй карціны, і выявіў замест шэдэўра Леанарда да Вінчы пустую сцяну. Папулярнага ў парыжскіх салонах майстра калажаў цяжка было чым-небудзь збянтэжыць: «Калі жанчыны не знаходзяцца побач з закаханымі ў іх мужчынамі, значыць, яны ў гэты момант пазіруюць фатографам». Аднак ахова музея не падзяляла падобнага аптымізму. Узнялася паніка. У спешным парадку прыбыў прэфект парыжскай паліцыі разам з шасцю дзясяткамі сваіх падначаленых. Ужо праз тыдзень следству сталі вядомыя дэталі злачынства. Высветлілася, што невядомы выкрадальнік пранік у Луўр у халаце наглядчыка музея, заначаваў там і раніцай, не выклікаючы ніякіх падазрэнняў, спакойна зняў карціну з крукоў і вынес яе пад пахай, абыходзячы ахову. Асобу злачынцы так і не атрымалася ўстанавіць. Адзінай зачэпкай быў адбітак вялікага пальца, пакінуты на ахоўным шкле.

У грамадстве гісторыя з выкраданнем выклікала небывалы рэзананс. Абмяркоўваліся самыя неверагодныя версіі злачынства: ад масонскай змовы да інтрыг германскага імператара Вільгельма II, які помсціў французам за тое, што ў Парыжы быў абвешчаны персонай нон грата. Парадаксальна, але ў Луўр зноў пацягнуліся людзі, якія



Гіём Апалінэр.

хацелі паглядзець на сцяну, дзе вісела скрадзеная карціна. У парыжскіх кабарэ дзяўчаты танчылі ў масках Джаконды, а мясцовых мастакоў літаральна завалілі заказамі партрэтаў «пад Мону Лізу». Ёй прысвячаліся песні і вершы. Гарачыя галовы нават прапаноўвалі перайменаваць у гонар скрадзенага шэдэўра Эйфелеву вежу.

Парыжская прэса абвясціла пра ўзнагароду ў 40 тысяч франкаў таму, хто верне карціну, або 20 тысяч франкаў любому, хто паведаміць пра яе месцазнаходжанне. Нягледзячы на гэтыя велізарныя па тых часах грошы, ніякага водгуку не было. Затое ў рэдакцыю адной з газет прыйшоў ананімны ліст з лаканічным подпісам «Злодзей». У ім невядомы пацяшаўся з аховы музея, адкуль ён у свой час выкраў некалькі статуэтак, прададзеных пасля нейкаму мастаку ўсяго за 50 франкаў. Гэтая ананімка не на жарт устрывожыла Апалінэра і Пікаса, якія хутка сцямілі, хто насамрэч хаваецца пад немудрагелістым псеўданімам.

Гэта быў бельгіец Жэры П'ерэ. Асоба настолькі неардынарная, што на ёй варта спыніцца падрабязней. Авантурыст з Бруселя свабодна валодаў дзясяткам моў. Яму прарочылі бліскучую будучыню, але ён выбраў іншае прымяненне сваім талентам, заплямiўшы імя дэзерцірствам, канакрадствам, шулерствам, шантажом і наркагандлем. Да стварэння Інтэрпола было яшчэ далёка, таму спрытны авантурыст без праблем хаваўся ад закона. З'явіўшыся ў Парыжы ў 1904 годзе, П'ерэ адразу ж прыцягнуў увагу Апалінэра, які меў паталагічную цікавасць да цёмных асоб. Паэт зрабіў яго сваім сакратаром і пазней апісаў прыгоды новага прыяцеля ў рамане «Адзінаццаць тысяч палак». Прыкладна тады ж Пікаса падчас творчага крызісу распавёў Гіёму пра тое, што хоча напісаць незвычайную карціну, аднак для гэтага яму неабходна мець пад рукой старажытныя Іберыйскія статуэткі, што знахо-

Касмапалітызм Парыжа прыцягваў валацуг і авантурыстаў з усяго свету. У 1899 годзе чарговая хваля вірлівага людскога мора прыбіла сюды і беларускую арыстакратку Анжаліку Кастравіцкую з сынам Вільгельмам



Le Petit Parisien

Le briseur de rocs

Conférences à Paris

Le célèbre tableau de Léonard de Vinci
La "Joconde"
a disparu du musée du Louvre

Comment? Depuis quand? On ne sait pas.

Il nous reste le cadre...

LA JOCONDE

Знакамітая карціна Леанарда да Вінчы «Джаконда» знікла з Луўра!

Ніхто не здзівіўся, калі Апалінэр, даведаўшыся пра знікненне з Луўра «Моны Лізы», у звыклай для яго правакацыйнай манеры заявіў, што музей даўно ператварыўся ў могілкі і яго неабходна спаліць дашчэнту



Вінчэнца Перуджа ў судзе.

дзяцца ў Луўры. Не ведаючы, як дапамагчы сябру, Апалінэр распавёў пра гэта бельгійцу, і той папросту сцягнуў з музея артэфакты, якія паслужылі мадэлямі для знакамітых «Авіньёнскіх дзяўчат», што паклалі пачатак кубізму.

Дарэчы, П'ерэ на гэтым не супакоіўся і ўжо ў 1911 годзе зноў наведаўся ў Луўр, вынес адтуль жаночую галаву і аддаў яе на захоўванне Апалінэру. Таго нават пацешыў чарговы выбрык няўрымслівага таварыша. Зрэшты, калі стала вядома пра знікненне «Моны Лізы», паэт перапалохаўся і, купіўшы П'ерэ квіток да Марсэля, запатрабаваў ад яго як мага хутчэй знікнуць з горада.

Тым часам нехта паведаміў паліцыі пра тое, што Апалінэр мае прамое дачыненне да выкрадання «Джаконды». У яго кватэры быў праведзены ператрус, падчас якога знойдзены лісты П'ерэ. З іх зместу вынікала, што паэт захоўвае ў сябе нейкія выкрадзеныя з Луўра экспанаты. Апалінэра, які паспеў з дапамогай трэціх асоб вярнуць «нарабаванае» ў музей, імгненна арыштавалі, і на допыце ён, перапужаўшыся да смерці, назваў імя Пікаса. Паколькі абодва падазраваных не былі грамадзянамі Францыі, то следчыя паспяшаліся паведаміць пра тое, што ў краіне дзейнічае цэлая міжнародная банда. Падчас вочнай стаўкі мастак, які таксама не адрозніваўся выбітнай смеласцю, заявіў, што не ведае ніякага Апалінэра. Пройдуць гады, і Пікаса, у якога з дапамогай высокіх заступнікаў атрымалася пазбегнуць арышту, з сорамам будзе ўзгадваць пра сваю маладушнасць.

Апалінэр правёў за кратамі пяць дзён, якія падаліся яму самымі доўгімі ў жыцці. Гэта непрацяглае зняволенне зрабіла на ранімага і тонкага паэта моцнае ўражанне. Пасля ён будзе расказваць сябрам пра тое, што яго катавалі, прыніжалі і марылі голадам, хоць на самай справе яго ўтрымлівалі ў адносна нядрэнных умовах ва ўзорнай турме




Вяртанне «Джаконды».

Сантэ. Той самай, у якой за сорак гадоў да апісаных падзей адбываў свой паўгадовы тэрмін Поль Верлен, які страляў з рэвальвера ў Арцюра Рэмбо. Калі вялікаму сімвалісту давялося адседзець «ад званка да званка», то Апалінэру пашчасціла знайсці адвакатаў у асобе Рамэна Ралана і Андрэ Жыда, якія заступіліся за паэта на старонках парыжскіх газет. Ды і доказаў у следства не хапала.

Як бы там ні было, але гэта кароткачасовае пазбаўленне волі адыграла важную ролю ў лёсе Апалінэра, які ў дадатак да арэолу пакутніка атрымаў яшчэ і магутны творчы імпульс. Душэўнае ўзрушэнне знайшло сваё адлюстраванне ў пранізаным дэпрэсіўнай тэматыкай зборніку «Алкаголь», які зрабіў імя Апалінэра бессмяротным.

Выпушчаная ў 1913 годзе кніга выклікала сапраўдны фурор, хоць тыя, хто блізка ведаў паэта, з цяжкасцю хавалі ўсмешку, чытаючы радкі з цыкла «У турме Сантэ», дзе Апалінэр няхай і вельмі таленавіта, але ўсё ж залішне драматызаваў свае пяцідзённыя ліхтугі.

Што ж датычыцца «Моны Лізы», то сляды яе выявіліся за тысячы кіламетраў ад Парыжа. У снежні 1913 года адзін з фларэнцыйскіх гандляроў прадметамі мастацтва атрымаў ліст ад нейкага Вінчэнца Леанарда, які прапанаваў купіць у яго за 500 тысяч лір скрадзеную карціну. Нягледзячы на скептычнае стаўленне да патэнцыйнай пакупкі, антыквар адправіўся на сустрэчу з таямнічым прадаўцом, прыхапіўшы з сабой на ўсялякі выпадак знаёмага, які займаў пасаду дырэктара знакамітай Галерэі Уффіцы. Калі мужчыны ўбачылі «тавар», яны абамлелі — гэта быў арыгінал. Нядоўга думаючы, прыяцелі выклікалі паліцэйскіх, якія арыштавалі злачынца.

Высветлілася, што сапраўднае імя злодзея Вінчэнца Перуджа. Менавіта ён усталёўваў у 1911 годзе тое самае ахоўнае шкло, на якім застаўся адбітак вялікага пальца. Тут і выявілася галоўная памылка следства. У працэсе працэдуры дактыласкапіі, якая праходзіла пад асабістым кіраўніцтвам генія крыміналістыкі Альфонса Бертыльёна, былі правераны 257 супрацоўнікаў Луўра, аднак ніхто тады не здагадаўся праверыць яшчэ і несамавітага італьянскага шкляра. Сам Перуджа, атрымаўшы ўсяго толькі год і пятнаццаць дзён турэмнага зняволення, спрабаваў прадставіць здзейсненае ім злачынства як акт патрыятызму. Ён, маўляў, хацеў усяго толькі вярнуць вывезеную некалі Напалеонам з Італіі «суайчынніцу» на радзіму. Паколькі судовы працэс праходзіў у Фларэнцыі, то падобныя заявы выклікалі захапленне ў мясцовай публікі. Выкрадальнік быў абвешчаны нацыянальным героем. Неўзабаве ў італьянскіх крамах з'явіліся бутэлькі з мінеральнай вадой «Джаконда», на этыкетках якіх красаваўся ўсмешлівы Перуджа.

У працэсе працэдуры дактыласкапіі, якая праходзіла пад асабістым кіраўніцтвам генія крыміналістыкі Альфонса Бертыльёна, былі правераны 257 супрацоўнікаў Луўра, аднак ніхто тады не здагадаўся праверыць яшчэ і несамавітага італьянскага шкляра

Уся гэтая гісторыя больш падобная на фарс, цалкам, аднак, адпаведны духу свайго бескламотнага часу. У пачатку XX стагоддзя еўрапейцы глядзелі на жыццё зусім іншымі вачыма, чым мы. Нават выкраданне «Моны Лізы» выклікала ў грамадстве не столькі абурэнне, колькі бяздзейсную цікаўнасць. Паглядзець на голую сцяну, дзе раней красавалася карціна Леанарда, прыйшлі ў дзясятак разоў больш людзей, чым пабывала ў Луўры за папярэднія дваццаць гадоў. Гэта была апошняя хваля цікавасці да старой еўрапейскай культуры перад вялікай вайной, якая атруціла Еўропу нянавісцю. Сярод доўгага спісу ахвяр Першай сусветнай аказалася і імя Апалінэра, які, праўда, паў не ад варожай кулі, а ад банальнай «іспанкі» — віруса грыпу. Гэта здарылася за два дні да канца вайны. Ці ўспамінаў перад смерцю паэт, які перажыў крывавую мясарубку Заходняга фронту, асколачнае раненне ў галаву і трэпанацыю чэрапа, тыя пяць дзён, што ён правёў за кратамі? Калі так, то, напэўна, з саркастычнай усмешкай. Зусім як яго прыяцелі, што чыталі «У турме Сантэ».

Кірыл Мяцеліца

# У пошуках жывойта

**У 1549 годзе выйшла ў свет напісаная на лацінскай мове кніга пад назвай «Rerum Moscoviticarum Commentarii», больш вядомая нашаму чытачу як «Запіскі пра Масковію». Належала яна пяру вядомага аўстрыйскага дыпламата і падарожніка барона Жыгімонта фон Герберштэйна, які ў якасці пасланца Святой Рымскай імперыі германскай нацыі двойчы (у 1517 і 1526 гадах) наведваўся ў Маскоўскае княства. Акрамя Масковіі, давялося яму пабываць і ў Вялікім Княстве Літоўскім. На старонках кнігі ён пакінуў падрабязную і выключна прафесійную для таго часу справаздачу пра ўбачанае.**

А ўбачыў ён нямала. Асабліва яго ўразіла незвычайная хатняя жыўнасць: «У гэтай мясцовасці многа гаёў і лясоў, у якіх і дагэтуль вельмі шмат ідалапаклоннікаў, якія кормяць у сваіх дамах нейкіх змей на чатырох лапках, знешне падобных да яшчарак, з чорным тлустым целам, не большым за тры пядзі ў даўжыню; называюцца яны Giwoites, іншыя завуць іх Jastzuka, некаторыя ж — Szmya. У іх ёсць (пэўны) час, калі яны кормяць сваіх багоў: пасярод дома ставіцца малако, а самі яны размяшчаюцца на каленях па лавах; тут з'яўляецца змяя і шыпіць на людзей, як раззлаваны гусак, і тады людзі моляцца і пакланяюцца ёй са страхам да таго часу, пакуль тая, насыціўшыся, не вернецца на сваё месца». Далей Герберштэйн піша, што кожнае няшчасце літвіны тлумачаць тым, «што дрэнна кармілі і прымалі хатняе боства». У пацверджанне ён прыводзіць аповед пра тое, як падчас вяртання з першай паездкі ў Масковію прыехаў у Трокі паглядзець на буйвалаў і спыніўся на начлег у аднаго чалавека. Ветлівы гаспадар распавёў дыпламату, як купіў у селяніна-«змеепоклонніка» некалькі пчаліных вулляў і «схіліў прадаўца да праўдзівай веры Хрыстовай і пераканаў забіць змяю, якой той пакланяўся». Калі навяўлены «місіянер» зноў апынуўся ў гэтым месцы, ён убачыў таго самага селяніна са знявечаным тварам. Няшчасны быў упэўнены, што такім чынам яму даводзіцца выкупляць віну за тое, што «наклаў свае бязбожныя рукі на боства — змяю». Гэты аповед пра змеепадобных «хатніх гадаванцаў» літвінаў мог бы здацца выдумкай залішне ўразлівага Герберштэйна, калі б не яго рэпутацыя бесстаронняга даследчыка і мемуарыста. Незразумела толькі, каго насамрэч ён бачыў. Агучаныя падарожнікам памеры жывойта, «не большыя за тры пядзі ў даўжыню» (г.зн. не больш за 60 сантыметраў), і наяўнасць у яго лапак дазваляюць казаць пра тое, што гэта вялікая яшчарка. У Еўропе яшчаркі такога памеру водзяцца, аднак ні адзін з «еўрапейскіх» відаў не мае скуры чорнага колеру. Акрамя кнігі Герберштэйна захаваліся іншыя сведчанні існавання загадкавай жывёлы. Адно з іх пакінуў англійскі дыпламат сэр Джэром Гарсей. У канцы XVI стагоддзя ён кіраваў канторай маскоўскай гандлёвай кампаніі. «Я выехаў з Варшавы ўвечары, пераехаў праз раку, дзе на беразе ляжаў атручаны мёртвы кракадзіл, якому мае людзі разарвалі жывот дзідамі. Пры гэтым распаўсюдзіўся такі смурод, што я быў ім атручаны і праляжаў хворы ў бліжэйшай вёсцы, дзе сустрэў такое спачуванне і хрысціянскую дапамогу мне, іншаземцу, што цудоўна паправіўся». На вялікі жаль, англічанін не склаў падрабязнага апісання ўбачанага ім «гада», і мы можам толькі здагадвацца, як той выглядаў. Цалкам магчыма, што Гарсей прыняў за кракадзіла менавіта жывойта. Тым больш, што ў арыгінальным тэксце на англійскай мове, кажучы пра дзіўную пачвару, ён ужыў выраз crocodile serpent, г.зн. кракадзілазмей. Бачылі ў нас crocodile serpent і ў больш познія часы. Так, у артыкуле «Трохі фэнтэзі на родных прасторах», апублікаваным у газеце «Савецкая Беларусія» ад 01.06.2002 г., Ада Змачынская распавяла пра цікавы выпадак, які адбыўся ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў адной беларускай вёсцы. Мясцовы святар атрымаў указанне Святога Сінода, згодна з якім неабходна было скласці вопіс усёй царкоўнай маёмасці. Адкрыўшы царкоўны склеп, ён знайшоў там два шкілеты. Адзін з іх належаў высокаму чалавеку, а другі, паводле яго слоў, быў «нейкі звярыны, нібы кракадзілец». Цалкам можа быць, што праставаты вясковы бацюшка прыняў за косткі невядомага «гада» парэшткі якой-небудзь абсалютна звычайнай жывёлы, накшталт кошкі або сабакі. Аднак, калі ўлічыць, што раней цэрквы будавалі на адным і тым жа месцы, а часцяком нават на адным падмурку, то можна выказаць здагадку, што ў старадаўнім склепе разам са сваім гаспадаром і сапраўды мог апынуцца самы сапраўдны жывойт. Між

іншым, рэальнасць існавання жывойтаў прызнаваў нават такі бясспрэчны аўтарытэт у галіне славянскай культуры і гісторыі Старажытнай Русі, як акадэмік Барыс Аляксандравіч Рыбакоў. Праўда, ён лічыў, што іх радзімай з'яўляецца не Беларусь, а Наўгародская зямля, дзе спрадвеку існаваў адмысловы культ нейкага «яшчара-каркадзела», які папярэднічаў культу Перуна. У сваіх пошуках вучоны абапіраўся на тры асноўныя крыніцы: ужо згаданыя «Запіскі пра Масковію» Герберштэйна, фрагмент з Пскоўскага летапісу (там гаворыцца пра тое, як ў 1582 годзе ў ваколіцах Ноўгарада з ракі Волхаў вылезлі «коркодили лютии звери», якія пачалі нападаць на мясцовых жыхароў), а таксама на Наўгародскую легенду пра Чарадзея Волха, які мог ператварацца ў «каркадзіла» і быў настолькі люты, што забіваў і пажыраў усіх, хто не выказваў да яго павагі. Нягледзячы на тое, што гіпотэза была пабудавана выключна на гэтых «трох кітах» ці, калі так можна сказаць, «на трох кракадзілах», Рыбакоў быў перакананы ў сваёй праваце. Веру Рыбакова ў рэліктавую рэптылію раскрытыкаваў сучасны расійскі фалькларыст Канстанцін Багданаў, які напісаў з гэтай нагоды кнігу «Пра кракадзілаў у Расіі». На яго думку, акадэмік спрабаваў выдаць жаданае за сапраўднае, «не задаючыся вытокамі і стылістычным кантэкстам прыцягнутай ім легенды». На думку Багданава, слова «каркадзіл» было метафарычным і ў сярэднявечных тэкстах ужывалася ў якасці абазначэння тых з фальклорных персанажаў або рэальна існуючых людзей, хто адрозніваўся асаблівай жорсткасцю і непераможнасцю, а таксама міфічных пачвар. Для прыкладу ён прыводзіць урывак з «Аповесці мінулых гадоў», які апавядае пра хрышчэнне князем Уладзімірам кіяўлян у Дняпры. Ва ўрыўку тым згадваецца д'ябал, што стогне. У сувязі з гэтым Багданаў пытаецца, наколькі рэальны згаданы ў дадзеным выпадку д'ябал. Пытанне цалкам слушнае, калі ўлічыць, што сярэднявечны чалавек адрозніваў падзеі легендарнай гісторыі і інтэрпрэтаваў тэксты зусім інакш, чым мы. Але гэта ўсё датычыцца легенд. Як жа быць з рэальнымі сведчаннямі Герберштэйна і Гарсея? Няўжо яны сталі ахвярамі сваіх галюцынацый? Калі паглядзець з іншага боку, то Гарсей акажацца выхвалякам-балбатуном, тым, хто любіць упрыгожыць свае прыгоды, а Герберштэйн... Тут складаней. Справа ў тым, што выдадзеная ў 1549 годзе на лацінскай мове кніга «Rerum Moscoviticarum Commentarii», па якой і быў зроблены кананічны пераклад тэксту, у 1557 годзе выйшла на нямецкай мове. Пераклаў яе сам аўтар. Дык вось легендарны ўрывак, з якога мы даведаліся пра дзіўных «гадаванцаў» літвінаў, гучыць там зусім інакш. У новай рэдакцыі таксама згадваюцца жывойты, але ўжо не ў якасці жывых «боствяў», а як «бажкі», ідалы, якім працягваюць напоўненыя ежай міскі. Мабыць, каментары тут залішнія. Нам жа застаецца толькі гадаць, у якім з выданняў Герберштэйн распавёў праўду. Зрэшты, чалавеку заўсёды хочацца верыць у казку, таму паверым і мы. Тым больш, што жывойты не даруюць тым, хто ад іх адрокся.



Зыгмунт Герберштэйн.



Вароты сабора Раства Багародзіцы ў Глыбокім, упрыгожаныя быццам жывойтамі.



Рытуальная фігурка таямнічага кракадзіла.



Іераманах Агапій (Голуб)

# І гэты рэсурс — у Тым, Хто з’яўляецца Крыніцай безумоўнай любові

*Заканчэнне тэмы, распачатай у папярэдніх нумарах.*

Перш чым звяртацца па дапамогу да спецыяліста, варта сабраць інфармацыю пра тое, наколькі гэты спецыяліст кампетэнтны ў дадзенай сферы. Наколькі ўвогуле дапушчальны яго метад працы. Напрыклад, пасля абмеркавання на форуме праваслаўных псіхолагаў у мяне больш чым асцярожнае стаўленне да метаду расстановак (метаду Хелінгера). Затое я ведаю станоўчы вопыт групавой псіхатэрапіі веруючага псіхатэрапеўта-экзістэнцыяліста.

Царква мае вялікі патэнцыял дапамогі ДДДС. Бо Царква — гэта Цела Хрыста, які явіў Сабою безумоўную Любоў Айца. Аднак бяда царкоўнага жыцця ў тым, што Еўхарыстыя з Таямніцы адзінства ў любові ў Хрысце даўно ператварылася ў масавай свядомасці хрысціян у сродак асабістага асвяшчэння, пра што шмат пісаў протаіерэй Аляксандр Шмеман. Я не сустракаў абшчыны, дзе хрысціяне жывуць дачыненнем — у Еўхарыстыі — адно да аднаго як члена адзінага арганізма. «Дзе двое або трое сабраныя ў імя Маё…» Праўда, я такіх збораў не ведаю. Літургія завяршаецца — і ўсе разыходзяцца, раствараючыся ў соцыуме, застаючыся чужымі. У такім асяродку «здымаць маскі» і раскрывацца не хочацца.

Але тое, што ў нас страчана, успомнілася іншымі. І тое, што Дарослыя Дзеці Функцыянальных сямей не атрымалі ў сям’і і не знаходзяць у прасторы храма, могуць даць сабе… яны самі. Хто як не такія самыя Дарослыя Дзеці можа іх зразумець, прыняць такімі, якія ёсць, даць падтрымку, павагу, цеплыню, безумоўную любоў? Так і ўзнікла Суполка Дарослых Дзяцей Алкаголікаў і з іншых дысфункцыянальных сямей — ДДА.

У сваёй працы Суполка выкарыстоўвае ідэі і напрацоўкі Таварыства ананімных алкаголікаў (АА) і родных ды сяброў алкаголікаў (Ал-Анон). Аднак напрамак адрозніваецца. Першапачаткова ў такія групы ўваходзілі менавіта тыя асобы, на якіх паўплываў бацькоўскі алкагалізм, адсюль і назва суполкі. Але аказалася, што атмасфера, якая пануе ў такіх сем’ях, не адрозніваецца ад той, што пануе ў многіх іншых сем’ях, не звязаных з алкагалізмам. Такім чынам, паступова ў ДДА пачалі ўлівацца тыя, хто вырас у іншых дэструктыўных сем’ях.

Асноўная мэта ДДА — стварыць бяспечную атмасферу, у якой Дарослыя Дзеці, чые пачуцці і ўспрыняцці ў дзяцінстве лічыліся няправільнымі або дрэннымі, змогуць свабодна і канструктыўна дзяліцца сваімі гісторыямі, не баючыся асуджэння і крытыкі. Вопыт ДДА паказвае, што навыкі выжывання, выпрацаваныя дзіцем ва ўмовах адчужанасці, захоўваюцца і ствараюць праблемы ў далейшым жыцці. У працэсе выздараўлення члены ДДА праводзяць свабодную ад абвінавачванняў інвентарызацыю бацькоўскай сям’і, каб зразумець і спыніць сямейную дысфункцыю, што перадавалася з пакалення ў пакаленне. Задача — не вінаваціць бацькоў, але аб’ектыўна зірнуць на рэаліі. Для Дарослага Дзіцяці, якое вырасла ў атмасферы

жорсткасці і неразумення, назваць усё сваімі імёнамі азначае зрабіць першы крок да вызвалення ад уплыву бацькоўскіх паводзін.

Падрабязна з дзейнасцю ДДА можна пазнаёміцца на ўказаных ніжэй інтэрнэт-рэсурсах. Тут жа адзначу наступнае.

Я не першы год супрацоўнічаю з суполкамі Ал-Анон і ДДА. І бачу змены, якія адбываюцца ў жыццях тых, хто стаў іх членам, у тым ліку і па маёй рэкамендацыі. Ужо за год актыўнай працы па 12-крокавай праграме ў многіх заўважаюцца плённыя змены:

• паляпшэнне эмацыйнага стану;

• развіццё даверу да Бога, уменне «адпускаць сітуацыі»;

• больш унутранай свабоды, фарміраванне цэласнасці;

• менш праяў комплексу «ахвяры»;

• больш сапраўднага клопату, як аб сабе, так і ў дачыненні да блізкіх (замест «ратавальніцтва»);

• развіццё ўмення чуць іншых;

• на споведзі знікае «самаедства» ці абвінавачванне іншых, сама споведзь робіцца больш глыбокай;

• больш унутранага святла і цеплыні;

• у праваслаўі — большае адчуванне свабоды, радасці (у тым ліку і радасці малітвы, а не прамаўлення яе пад самапрымусам, «таму што трэба»);

• менш праяўляюцца схільнасці да маніпулятыўных стасункаў;

• развіццё цвярозага мыслення;

• паляпшэнне атмасферы ў сям'і;

• паляпшэнне стасункаў з бацькамі, з'яўленне здаровых мяккіх межаў замест «бетоннай сцяны» ці поўнай адсутнасці межаў;

• паступовае сапраўднае дараванне крыўд замест іх падаўлення і непрызнання;

Праз суполку і этапы сталення па праграме ДДА/Ал-Анон Дарослыя Дзеці адкрываюць, нарэшце, рэсурсы любові — да сябе і да дзяцей. І гэты рэсурс — у Тым, Хто з'яўляецца Крыніцай безумоўнай любові.

Ёсць у тэкстах ДДА выразы, якія выклікаюць абурэнне ў хрысціян. Напрыклад, у абяцаннях ДДА. Ну, праграма ж не прэтэндуе на безумоўную хрысціянскасць. Яна — прынцыпова па-за канфесіямі. Важна, што ўсе гэтыя праграмныя тэксты з'яўляюцца «свяшчэннымі», падлягаюць абавязковаму і бясспрэчнаму прыняццю. Яны адлюстроўваюць вопыт заснавальнікаў і папярэднікаў, але кожны прымае іх настолькі, наколькі лічыць для сябе патрэбным, і разумее так, як лічыць для сябе карысным. То бок, навязванне ідэй у праграме ДДА прынцыпова не дапускаецца.

Сыходзячы з вышэйсказанага, спасылаючыся на вопыт, як святар, я лічу, што праграма ДДА цалкам можа быць выкарыстана праваслаўнымі хрысціянамі дзеля духоўна-педагагічнай рэабілітацыі і развіцця, і можа шмат каму дапамагчы ў вырашэнні сямейных і асабістых праблем. А таксама служыць добрай прафілактыкай і метадам выздараўлення ад таго неўратычнага погляду на сябе і на жыццё, які часта сустракаецца ў прасторы храма. Супрацоўніцтва святароў з ДДА і Ал-Анон, на маю думку, вельмі пажадана. Мая ўпэўненасць: вопыт ДДА, АА, Ал-Анон, калі будзе запатрабаваны, можа дапамагчы адрадзіць у царкоўнай прасторы адзінства ў абшчыне, калі сам храм стане домам для хрысціян, аб'яднаных у цёплую сям'ю, з якой не захочацца сыходзіць. Сям'ю, дзе грэх разладу будзе пераможаны запаветам «Любіце адно аднаго».

Я не магу быць «гуру», «старцам», які вырашыць усе праблемы «духоўнага чада». І добра, калі я, святар, добра ведаю межы сваёй кампетэнцыі. А вось калі я, прызнаючы сваю абмежаванасць — у вопыце і «зонах дзеяння» святара — супрацоўнічаю з тымі, хто кампетэнтны (урачамі, псіхолагамі, ананімнымі суполкамі), тады і на самай справе можна дапамагчы чалавеку набыць цэласнасць усёй яго бія-псіха-сацыя-духоўнай структуры, і перайсці на новы этап жыцця. І ў храме стане на аднаго цэльнага хрысціяніна больш.

Інтэрнэт-рэсурсы ДДА:
http://www.detki-v-setke.ru/
http://www.detki-v-setke.narod.ru/
http://vda-text.ru/
http://www.fgump.ru/

**Ліна Багданава**

## Калядны дыялог з маўклівым суразмоўцам

Напярэдадні свята космас быў расквечаны мігаценнем markрознакаляровых зорак і апрануты ў карункі серабрыстай зімовай туманнасці. У эпіцэнтры падзей знаходзілася і незвычайна яркая планета апельсінавага колеру. Час і прастора круціліся вакол, ствараючы адчуванне далучанасці да падзей, што адбываліся на яе паверхні. Асляпляльныя каметы праносіліся побач, дадаючы святочнасці і без таго ўрачыстай атмасферы. Звычайныя для гэтай пары ападкі, наадварот, змякчалі адчуванні, гусцей і гусцей ахутваючы планету пушыстым халодным покрывам. Сняжынкі, мякка кружачы, накрывалі цэлыя гарады, калі яны маглі існаваць на аранжавай планеце. Няўзброеным вокам назіральнік не мог разгледзець у касмічным маштабе такія дробязі. Ды і не здагадваўся ён пра касмічны характар падзей. Дакладней, не здагадвалася — назіральнік быў істотай жаночага полу. Не вельмі маладым, калі да слова. Дакладней, вельмі не маладым. Яшчэ дакладней — Клаўдзіяй Раманаўнай, часам — проста бабай Клавай. Адзінокай старой васьмідзесяцітрох гадоў, якая з цяжкасцю асвойвала новую, нечакана атрыманую прастору.

У сінявата-бэзавым прыцемку студзеня акаляючы бабу Клаву свет быў напоўнены яркімі агнямі вітрын і вокнаў шматпавярховікаў, загадкавым мігаценнем ліхтароў, асляпляльнымі пункцірамі фараў машын, што праляталі паўз. У цэнтры гэтай мігатліва-бліскучай яркасці стаяла прыцярушаная снегам лаўка, на якой сядзела старая. Побач ляжаў падораны суседскім хлопчыкам — бо жывуць яшчэ на Зямлі добрыя людзі! — апельсін.

Старая даўно змерзла, але дамоў не спяшалася. Дома яе чакала цемра. І адзінота. Не лепшыя кампаньёны для каляднага вечара.

— Хоць у Раство ваша я, па вялікім рахунку, не верыла ніколі, — спавядалася баба Клава, час ад часу сціраючы снег з апельсіна. — Ідэйная была. Актыўная. Не было мне часу ў маладосці па цэрквах бегаць ды малітвы вучыць. У нас былі іншыя багі. Ды іншыя кнігі. Сакратаром камсамольскім у калгасе была, пасля парторгам. Гадоў мо дваццаць у народных засядацелях. На пенсіі прафкам узначальвала. Дэпутатнічала. З дружынай па цёмных дварах хадзіла. Такія справы…

Між сказанага грувасціліся неагучаныя падрабязнасці ўспамінаў. Вылучаны калгасам участак пад будаўніцтва. Доўгае і пакутлівае для адзінокай жанчыны ўзвядзенне дома. Мітусня на працы і ў побыце. Гады, жаданні і мары, якія праляталі паўз яе са скорасцю святла. Твары. Падзеі. Перажыванні. Радасць і смутак. У кожнага свой космас. І свая вера.

Не атрымалася ў Клаўдзіі Раманаўны з асабістым жыццём. Хіба што адарвала пару-тройку дзён, а мо і гадзін жаночага шчасця. Але без жаданага працягу. Так і пражыла жыццё адна. Ні мужа, ні дзяцей — жыла для іншых. Сястры з братам дапамагала, пляменнікаў выхоўвала. Прыяцелькам і таварышкам выбівала пуцёўкі, кватэры, машыны. І незнаёмым таксама. Хвалявалася, спяшалася, даказвала…

— Цяпер вось у горад перабралася, — крактала старая, паціраючы спіну. — Пазнавата, але пакрыху прывыкаю. У горадзе ж добра — усё побач: і бальніца, і пошта, і бібліятэка. Прыбіральня цёплая. І вада гарачая. Хоць тры разы на дзень мыйся…

Лёгка сказаць «прывыкаю». А на справе Клаўдзіі Раманаўне горад даваўся цяжка. Ні табе любімай парылкі ў гародзе, ні сырадойчыку ад суседкі Любы, ні баб на прызбе. А пагаварыць баба Клава вельмі любіла. Было ёй што сказаць. Што абмеркаваць. Якую даць ацэнку. Што параіць. Чым прысарамаціць заблытаных у падмане суседак. Ды і суседзяў. З яе досведам!

Столькі гадоў у вёсцы пражыла. Усіх ведала. І пра ўсё ведала. З павагай людзі да яе слоў ставіліся. Спецыяльна на прызбе насупраць збіраліся. Адзін час, праўда, слухачоў паменшала — вёска памірала. Занепакоілася тады Раманаўна — прывыкла быць у цэнтры ўвагі. Пабегла па інстанцыях. Паабуралася. Падаказвала. Трапіла ў струю. А мо супадзенне. Але на месцы вёскі вырашылі будаваць аграгарадок. Птушкафабрыку адкрылі. Мяса-малочны комплекс пашырылі. Новую вуліцу ў бок ад цэнтра павялі.

Зацікавіўся новым комплексам траюрадны пляменнік. Прыкаціў на бліскучай машыне літаральна да хаты. Доўга па двары праходжваўся. Да хлеўчукоў прыглядаўся. Нешта ўзважваў у галаве.

І ўзважыў. Наступным разам з'явіўся з бацькам. Гасцінцаў навезлі. Смакоцця рознага.

Баба Клава на стол сабрала. І пасля трэцяй чаркі журавінавай наліўкі зразумела, што да чаго. Унук прапанаваў абмен: яго гарадская маласямейка на стары дом бабы Клавы.

— Мяркуйце самі, цётка, — пераконваў Клаўдзію Раманаўну пляменнік. — Вы не маладзееце. Сілы ўжо не тыя. А гаспадарка патрабуе моцнай рукі. Дах вунь паехаў, рамантаваць трэба. Сад стары, амаль не пладаносіць. Ды і дагляд за вамі праз некалькі гадоў спатрэбіцца. А мы далёка, штодня не наездзімся. А ў горадзе і мы побач, і ўрач, і крама. І ваду насіць не трэба. І дах рамантаваць.

Унук толькі ківаў у падтрымку. Ды яна і сама разумела, што ў горадзе лягчэй будзе. Калі і крама побач, і ўрач, і вада. Карацей, згадзілася.

Падпісалася на адзіноту. Суседзі ў маласямейным інтэрнаце спрэс маладыя. На чужую старую ўвагі не звяртаюць. «Здрасця», «да пабачэння», «як жывяце» — і ўсе размовы. Спрабавала Клаўдзія Раманаўна параду даць, дык не даслухала маладайка, вуснамі бліснула, кароткай спаднічкай вільнула — і толькі яе і бачылі. А хлапчук з першага паверха на бабчыну заўвагу язык высунуў. І што рабіць будзеш?

— Канешне, знайду з кім размовы весці, можаш не сумнявацца, — пераконвала суразмоўцу і сябе старая, — людзей жа ў горадзе больш, чым у вёсцы. Днямі ў паліклініку збіраюся. Там душу і адвяду. У краму людзі патокам плывуць. Для нас там лавак панастаўлялі. Клопат праяўляюць. Зранку ішла — лаўкі стаялі пустыя. Трэба будзе вечарам зірнуць. Або па абедзе. Пляменніка два разы праведала, нявестка пірагамі частавала. З павагай прыняла.

А вось на свята Клаўдзію Раманаўну не паклікалі. Канешне, не верыць яна ні ў Раство, але свята для ўсіх свята. У вёсцы, бывала, яны з суседкамі і калядаваць хадзілі, і куццёй адна адну частавалі. Традыцыі. У царкву, праўда, рэдка заходзілі. Далёка царква была, за дванаццаць кіламетраў, у суседняй вёсцы. Ды і не прывыклі. У іншым свеце жылі. Без Бога. Неяк абыходзіліся.

— Ты ўжо даруй, што так склалася. З дзяцінства нас палохалі: у царкве ўбачаць — з вучобы паляціш ці з працы. Ды інтарэсаў было шмат: моладзевыя вечарыны, камсамольскія суботнікі, рэйды, спеўкі, конкурсы. Адно паварочвайся! Не вяселле, дык каляндарнае свята, не кіно дык канцэрт. Весела было! Ну, і адказна. Памятаю, прыязджаў старшыня аблвыканкама. Па-цяперашняму губернатар. Як мы рыхтаваліся! Касцюмы пашылі, сталы накрылі, спектакль адрэпеціравалі. Сапраўдны амаль што. «Паўлінку» ставілі.

Баба Клава заўсміхалася, успамінаючы хвалюючыя падрабязнасці тых дзён. Пагладзіла рукавічкай падораны апельсін, зняла з носа сняжынку.

— Ужо так ён нас хваліў. Такія словы казаў. І тэлевізар падарыў пасля. Ні ў кога ў раёне такога не было. Доўга нас пасля ўсім у прыклад прыводзілі. А мне пуцёўку выпісалі. У Сочы. У снежні, праўда. Але ўсё роўна спадабалася. І горад прыгожы. І санаторый. І мора…

Яна какетліва паправіла пуховую хустку. Выпрастала спіну. Праводзіла ўсмешкай мінака.

Вечар апускаўся на горад серабрыста-чорным полагам. Прыглушаў гукі і яркасць фарбаў. Запальваў новыя агні і зоркі. Прыспешваў рэдкіх прахожых. Снегапад канчаўся. Затое ўзмацняўся мароз.

Клаўдзія Раманаўна сцепанулася. Пабіла нагой ад нагу, рукавічкай па рукавічцы. Паклала апельсін у кішэню. Уздыхнула:

— Свята сёння ў людзей. Я таксама рыхтавалася. Куццю зварыла. Пончыкаў з макам напякла. Карпа падсмажыла. Думала, мо хто прыйдзе. Цяпер ужо наўрад ці. Можна, канешне, і з тэлевізарам чарачку прапусціць. Журавінавая ў мяне добрая. Леташняя. Цяпер ужо новую не пастаўлю. Дзе ж у горадзе журавіны ўзяць? Хіба што на рынку. А я сама прывыкла збіраць. Па першым марозіку… Ты толькі не падумай, што я скарджуся. Проста дзялюся думкамі. Як з добрым чалавекам. Шчыра.

Да шчырасці было далёка. Але па дарозе. Яе суразмоўца быў абазнаны ў такіх размовах. Не перашкаджаў выліваць душу. Не патрабаваў празмернай адкрытасці. Не асуджаў за хітраватасць. Слухаў уважліва. Цярпліва зносіў доўгія перапынкі ў маналогу. Ідэальны суразмоўца. З такім гаворы хоць да раніцы.

А яна б і гаварыла. Калі б не мароз. Але мароз у студзені — звычайная з'ява. Пальцы на нагах пачало паколваць. На носе замерзла чарговая кропля. Так нядоўга і захварэць. А хварэць у яе ўзросце — справа няўдзячная. Ды на новым месцы. Тут табе ні суседкі Любы з мёдам, ні цёткі Камарыхі з

націраннямі ад усякай трасцы, ні словаахвотлівай фельчаркі Настассі. Хіба што пляменнік з жонкаю з'явяцца. Ды доктар на хвілінку завітае. Ніякага задавальнення.

— Пройдземся, — прапанавала яна, цяжка ўстаючы з месца. — Да павароткі. А там можна і дамоў. Карпа ж я паважаю. І канцэрт павінны паказаць. Раство ўсё ж. А якія канцэрты мы ў такі вечар у клубе давалі! За пяцьдзясят кіламетраў людзі з'язджаліся, не паверыш. Дык спачатку канцэрт. А потым жа баль-маскарад! І конкурс на лепшы касцюм. І гульні розныя. Да раніцы скакалі. Смех ажно ў лесе чуўся. Цяпер так весяліцца не ўмеюць. Магла б я моладзь павучыць…

Магла б, ніхто не спрачаўся. Толькі моладзь вучыцца не спяшалася. Спрабавала Клаўдзія Раманаўна з новым сельсаветам дамовіцца. На смех паднялі. Крыўдна так, па-новаму. Раней баба Клава адпор бы дала. А тут разгубілася. Галаву апусціла, каб слёзы схаваць. Трэба будзе — самі прыйдуць. Не прыйшлі. Відаць, сышоў яе час. А яна і не заўважыла.

За паваротам адкрывалася шырокая вуліца. Справа тратуар апускаўся пад мост. Злева — узнімаўся лесвічкай у бок храма. Дзверы ў ім увесь час расчыняліся, прапускаючы прыхаджан.

— Мо зайсці? — спытала ў суразмоўцы баба Клава. — Калі не пагоняць, дык сярод людзей патаўкуся. Свечку пастаўлю за бацькоў. Даўно пара. Лічы год не памінала. Мабыць, нешта ёсць у гэтым таінстве. Не дарэмна людзі вераць.

Яна патапталася каля дзвярэй. Папрыхлопвала. Папрытопвала. Рашылася. Нясмела ўзялася за ручку. Дзверы самі адчыніліся.

— Парадак тут у вас, — сказала баба Клава жанчыне, што сядзела ля ўвахода.

Тая дала ёй свечку і паказала на распяцце. Старая прайшла туды. Паставіла свечку, запаліўшы яе ад суседніх. Паклала на столік для ахвяравання свой апельсін. Успомніла бацькоў. Бабулю і дзядулю. Пажадала ім пакою і радасці. Разгубілася: а далей, што рабіць?

У царкве пахла неяк асабліва. Клаўдзія Раманаўна дакладна не ведала чым, але важнасць пахаў зразумела. І прыняла. Цьмянае святло свечак, ціхі і дзівосна далікатны спеў нябачных пеўчых, веліч абразоў супакойвалі людзей. Клаўдзія Раманаўна выключэннем не была. У душы спакойная мелодыя разлілася салодкай цёплай ракой, у якой патанулі ўсе крыўды з трывогамі. Хацелася прымружыць вейкі і плыць па цячэнні павольна і бясконца доўга.

— Госпадзі, як жа добра… — прашаптала яна. — Не дарэмна прыйшла.

Зноў усміхнулася, прыжмурыла вочы і застыла. Час спыніўся, так і не асмеліўшыся пераступіць парог храма. Новы свет праглынуў ранейшыя адчуванні і пачуцці. Пахі, гукі мелі тут нейкае незямное паходжанне.

Клаўдзія Раманаўна раптам адчула сябе маленькай дзяўчынкай, якую некалі ў царкву прывяла бабуля. Таемна ад бацькоў і знаёмых. І схавала ў кутку, загадаўшы ціхенька стаяць і слухаць. Прыгразіла, калі не паслухаецца, адправіць дамоў адну. Магла б і не гразіць. Маленькая Клава і так нікуды б не пайшла. Ад прыгажосці і велічы. Яна ўпітвала ў сябе ўсё: і расшытыя золатам рызы, і бліскучыя аклады на абразах, і дзіўныя адладжаныя рухі рук вернікаў. І гэты дзівосны спеў…

— Госпадзі, як жа добра… — паўтарыла яна, выныраючы з успамінаў. — Дзякуй, што прывёў. Дзякуй, што выслухаў.

Яна азірнулася. Міма прашамацелі валёнкамі дзве старыя. Ля абраза Маці Божай маліліся яшчэ дзве.

Сусвет круціўся вакол высокіх белых сцен, калон, што імкнуліся ўвышыню, вакол купалаў і крыжоў. Вакол храма. Гэта была яшчэ адна нечакана прыдбаная Клаўдзіяй Раманаўнай жыццёвая прастора. Яна прычыніла дзверы, папрaвіла на галаве хустку і зрабіла крок у снежна-сінюю сумесь каляднай ночы.

— Дамоў пара. Позна ўжо.

Яна асцярожна спусцілася па лесвіцы і накіравалася дадому. Зрабіла колькі крокаў і азірнулася. На царкву.

— Дзякуй, што прывёў сюды. Своечасова навучыў. Цяпер я ведаю, дзе мне сяброўак шукаць. І дзе душой адпачыць. Навучыў, Госпадзі. А за нявер'е даруй. Так склалася. Верыць не абяцаю — шмат вады збегла. Але прыходзіць буду.

Клаўдзія Раманаўна ўзняла галаву і смела зірнула суразмоўцу ў вочы. Сумны пагляд. Строгасць і боль. Цяпло і спагада. Так шмат! На ўсіх хопіць. На векі вечныя.

На душы было хараша і спакойна. І трошкі радасна. Сёння ёй пашанцавала. Сёння ў яе быў добры суразмоўца. Сёння яна размаўляла з Богам.

## Спіс публікацый часопіса «Маладосць» за 2015 год

**ПАЭЗІЯ**

**АЛЕЙНІКАВА Наталля.** Сонейка п'е вечаровы кагор. *Вершы.* VI—12.
**БАРАНОЎСКІ Міхась.** Пытанні на ўсе адказы. *Вершы.* I—40.
**БАТОРЫН Фелікс.** Калаўрот. *Вершы.* VI—44.
**ГОРБАЧ Павел.** За сталом, акрамя нікога, тузін кніжак ды белы хлеб. *Вершы.* XII—12.
**ГЛУХОЎСКАЯ Кася.** Сонечная рака. *Вершы.* III—28.
**ДАРОХІН Павел.** Насуперак словам. *Вершы.* IX—12.
**ДРАЗДОВІЧ Язэп.** Разганяючы клопат-тугу і дасаду. V—119.
**З-і Андрэй.** Будзень. *Вершы.* I—23.
**ЗАХАРЭВІЧ Кацярына.** Вогнішча ўнутры. *Вершы.* V—52.
**ЗУЁНАК Васіль.** Каб міма ніхто не прайшоў. *Вершы.* V—102.
**ЗЭКАЎ Анатоль**. Дарога ў травень. Вершы. I—47; Вачэй тваіх святло**.** *Вершы.* IX—86.
**КАВАЛЕЎСКІ Арцём.** Аксаміт прахалоднага дотыку. *Вершы.* VI—36.
**КАНДРАШУК Наталля.** Недзе ў залюстроўі. *Вершы.* X—66.
**КАЦЮРГІНА Анастасія.** Цяжарная словам. *Вершы.* III—14; Ісці і бачыць снег... *Вершы.* XI—34.
**КІМБАР Андрэй.** І кахання агонь разгараецца. *Вершы.* IV—58.
**КОБЕЦ Марыя.** Калі даспее мой радок... *Вершы.* III—47.
**КОЗЕЛ Андрэй.** Адзіная нота. *Вершы.* VI—20.
**КРЭС Зміцер.** Мы ўскладаем падзею, анёле. *Вершы.* XI—19.
**МАКАРЭВІЧ Васіль**. Аўтабіяграфічны дыптых. *Вершы.* XI—43.
**Мандарыны на снезе.** Калядная падборка. *Вершы.* I—3.
**МІНІНА Аліса.** Ніякай зімы не будзе. *Вершы.* IX—66.
**МЯЦЕЛІЦА Кірыл.** Уніз па вуліцы. В*ершы.* V—22.
**НАЙДЗЁНАЎ Мікіта.** Бліжэй да раніцы. *Вершы.* II—27.
**НАРЭЙКА Настасся.** Бласлаўляю свой верш на далёкі палёт. *Вершы.* IV—69; Толькі верас, аер і палын... *Вершы.* X—14.
**НАФРАНОВІЧ Аркадзь.** На новай вышыні... *Вершы.* V—69.
**НІКУЛІН Алег.** Калі няма для Дракулы ахвяры. *Вершы.* XII—14.
**ПАЗНЯКЕВІЧ Валеры.** Прастора думак. *Вершы.* VIII—18.
**ПАЛЫНСКІ Ігар.** Імкненне вясны. *Вершы.* V—37.
**ПАПКО Алёна.** Дзень за днём... *Вершы.* VI—32.
**ПАЎЛОЎСКАЯ Аліна.** У сонечных праменнях забыцца. *Вершы.* VII—23.
**ПАЎЛЮКЕВІЧ Вольга.** На наступным узроўні сталасці. *Вершы.* II—39; Хаваючы словы ў сабе... *Вершы.* IX—20. Прычынай, мусіць, гэта восень. *Вершы.* X—74.
**ПУСТАВІТ Вераніка.** Лекі для душы. *Вершы.* II—17.
**ПЯТРОВІЧ Дзмітрый.** Калі адродзіцца сусвет... Вершы. IV—82; Рамонкавы світанак. *Вершы.* VII—53.
**СІЛЬНОВА Людка.** Калі людзі будуць жыць на Марсе... *Вершы.* XII—29.
**СМОЛКА Вікторыя.** Вясна майго дзяцінства. Вершы. VII—23; Суквецце літар. *Вершы.* IV—48.
**ФАГОТ Аляксандра.** Штохвілінны сум. *Вершы.* X—3.
**ЦЮЛЕНЕЎ Павел**. Апошняе паляванне. *Паэма.* XI—150.
**ЧАЙКОЎСКАЯ Воля.** Простыя словы. *Вершы.* V—55.
**ЧАРНЯЎСКАЯ Марыя.** У ззянні ўсмешкі. *Вершы.* VIII—14.
**ШАБОВІЧ Мікола.** З бадзенеўскага сшытка. *Вершы.* II—95.
**ШНІП Віктар.** На беразе нашага ўчора. *Вершы.* III—62.
**ШОСТАК Адам.** Букет пахаў. *Вершы.* VIII—28.
**ШЧАСНАЯ Кацярына.** Застаецца на памяць лета. *Вершы.* VIII—39.
**ЯЎСТАФІЙ Айцец.** Беларускае галашэнне. VII—47.

**ПРОЗА**

**АРАШОНАК Арцём.** Сонца над ракой. V—58; Лістапад у Венецыі. V—60; Клешч. V—62; Кепскі дзень. Звычайны дзень.

V—63; Мужчына яе мары. V—63; Міколка і хлеб. V—64; Заплечнікі. V—65; Котка-рангуа. V—66; Чага і Архідэя. V—66.
**АЎЛАСЕНКА Генадзь.** Забойствы, якіх не было... IV—72.
**БАГУН Віталія.** Крышталь. IV—61.
**БАНДУРЫНА Крысціна.** Сляды на чыстай паперы. VI—14; Дождж з прысмакам кавы. VI—17.
**БЕЛАЯР Сяргей.** Логіка негуман. II—30; Сустрэчны бой. II—34; Выратавальная місія. IX—24; Полюс недаступнасці. IX—24.
**ВАСІЛЕВІЧ Алена.** Пісар страявой часці. V—4.
**ВОЛКАЎ Мікіта.** Плюх. I—28.
**ГАЛОЎЧЫЦ Юльцэсь.** Квіток да бацькоў. III—17.
**ГАПЕЕЎ Валерый.** Пра Мару, хлопчыка і стрэмку. X—68.
**ГЛОБУС Адам.** Вільготная папера. VII—49.
**ГЛУХОЎСКАЯ Кася.** Пра дом, змей і працяг. XI—20; Страха ад страхаў. XI—22; Зламаныя ружы. XI—25; Пад дажджом цвіці, папарацЬ! XI—28.
**ГРУШЭЦКІ Алег.** Жаўнер і вужалка. VII—15; Каралеўна і чорны бык. XII—25.
**ЕРМАШКЕВІЧ Дар'я.** Сола. IV—43.
**ЖУГЖДА Даніїл.** Чаму ў сланяняці доўгі нос. III—32.
**ЗАХАРЭВІЧ Кацярына.** Даруй мне, Дварняг. V—39.
**КАЗАРЦАЎ Яўген.** Вярнуць Галатэю. VII—9.
**КАЛЯДА Югася.** Je suis ton ange gardien. II—45; Што такое шчасце. VIII—41; Таварняк на абводнай каляіне. VIII—53; Заяц з гумовым тварам. VIII—59; Цыркус. VIII—73; Выпадковая Тамара. VIII—86; Малады спецыяліст. VIII—90.
**КАЛЯДНЫ Мікола.** Ільвінае вока. V—71; VI—47; VII—59.
**КАМАРОЎСКІ Артур.** Прывід мінулага. III—41.
**КАМЕЙША Казімір.** Паміж кубкам і вуснамі. XI—51.
**КОМАР Эмілія.** Грушка. VII—5; Ахвяра Любека. VII—6; Паляванне. VII—7.
**КРУК Вадзім.** Рыцар, віскі і рок-н-рол. III—21; Адэлька і сонца. X—6; Разварот. X—6.
**ЛАТЫШКЕВІЧ Маргарыта.** Тры поўні, горад і агні. III—50.
**ЛЕВАНОВІЧ Леанід.** Дзе мой край... IX—68.
**ЛУК'ЯНОВІЧ Паліна.** Драпінкі. VIII—31.
**МАГІЛЕЎЧЫК Святлана.** Яны ідуць. II—19; Партыя ў більярд. II—25; Гоншчык з зямлі. XII—32.
**МАЖЫЛОЎСКІ Уладзімір.** Брудная справа. I—50; Жоўты туман. I—59.
**МАКАРЭВІЧ Васіль.** Крыніца-крынічка. III—65; Сляды. III—70.
**МІХЛЮК Анастасія.** Роднае-роднае. VIII—16; Кавалачак шчасця. VIII—16; Постапакаліптычная замалёўка.VIII—17; Бутэлька малака і сіняе неба. VIII—17.
**МЯДЗВЕДЗЕВА Кацярына.** Чараўнік для Дэйсі Мэй. X—18; Калі расцвітуць чорныя ружы. XII—52.
**НАВАСЕЛЬЦАВА Ганна.** Бурлівая крыніца. I—32; Зюзіч. XII—18.
**НАРЭЙКА Настасся.** Ні ўчора, ні сёння... ніколі. XI—46; Сукенка для прынцэсы. XII—46.
**ПАДЗОРАЎ Павел.** Другое прышэсце. I—20; Уладар. I—22; Адказная праца. VI—24; На Зямлі праездам. VI—28.
**ПІНЧУК Яніна.** Спатканне. V—24; Дуэль. V—30.
**ПЯРУН Галіна.** Заяц. XI—37; Непатрэбная. XI—39; Як дзед на Купалле рыбу вудзіў. XI—41.
**РАДЗІКОЎСКАЯ Аксана.** Кіно. IV—39.
**СІДАРЭЙКА Андрэй.** Адзін дзень восені. XI—31.
**ТАТМІР.** Дзень нараджэння. VI—34.
**ТЭМЛЕЙН Саша.** Джаспер і Эмілі. IX—14; Трубакладчык і сцяна. IX—16; Горад і маска. IX—18.
**ЦВІРКА Таццяна.** Волечка. III—75.
**ЦІТАРЧУК Марыя.** Келіх Гекаты. VII—30.
**ЧАКУР Ганна.** Услед за пуцяводнай зоркай. I—44.
**ШУЛЮК Дзмітрый.** Хлопчык і святар. I—18; Палёт. VII—26; Хвалі. VII—27; Здрада. VII—28; След у полі. VII—29.
**ЯНКОЎСКІ Антон.** Гарбата і яблык. VIII—21.
**ЯЎСТАФІЙ Айцец.** Рымскі сплін. VII—41.
**ЯФІМАЎ Алесь.** Каменная ноч. IV—85.

## ПЕРАКЛАДЫ

**Charles John Huffam Dickens.** A Christmas Carol. I—74.
**Nick Alexander.** The Photographer's Wife. II—98.
**Eliza Orzeszkowa.** Dnie. II—106; Porcelanka. II— 116.
**Clemens Meyer.** In den Gängen. III—114; Der kleine Tod. III—125;
**Jerome Clapp Jerome.** The Man Who Did Not Believe In Luck. III—130; The Absent-Minded Man. III—135; A charming woman. III—138.
**Ewan Morrison.** Incidents in a Mall. IV—121.
**Carol Farrelly.** The Glass Lift. V—128; Deathwatch Beetle. V—134.
**Ранко Р. Радовић.** Вучица. V—140.
**Paul J. Willis.** Bright Shoots of Everlastingness. VI—110.
**O. Henry.** The green door. VII—97; Compliments of the season. VII—101; The fifth wheel. VII—107.
**Wolfgang Herrndorf.** Tschick. VIII—99.
**Victor Marie Hugo.** Les Misérables. IX—90.
**Podlasie prezentuje.** Izabela Tonkiel, Marek Pietrzela, Ludwik Janion, Eligiusz Dymowski, Piotr Kowieski, Olga Lalić-Krowicka, Katarzyna Smyk, Marianna Pawłowska. X—80.
**Edgar Allan Poe.** The black cat. XI—73; The devil in the belfry. XI—78; The business man. XI—83.
**Гэ Лян**. Статуэткі майстра Іня. XII—95.
**Сюй Чжымо.** *Вершы.* XII—91.
**Лі Хэ.** *Вершы.* XII—81.
**Stefanie Taschinski.** Die kleine Dame. XII—74.

## КРЫТЫКА

**АЛЕЙНІК Лада.** Маральныя прынцыпы асобы і праблема сацыялізацыі ў апавяданні Алеся Асташонка «Супер». XII—123.
**АРЛОВА Таццяна.** Ці патрэбен тэатральны крытык? IV—12.
**ВАСІЛЕВІЧ Анастасія.** Катрынка, якая гучыць па-новаму. XI—99.
**ВАСЮЧЭНКА Пятро.** Крытык у адсутнасці чытача і чытач у адсутнасці крытыка. IV—6.
**ВАЎЧОК Юлія.** Скрынка з настальгіяй і шыльдачкай «Каханне». VIII—121; Асаблівасці казачнага свету. XII—129.
**ГРУШЭЦКІ Алег.** Беларусы — першапраходцы ў фэнтэзі. VIII—125.
**ДЗЯХЦЯР Маргарыта.** Кантынентальны сняданак. I—102; Птушка вылецела з клеткі. III—159; Усмешка Чэшырскага Ката. IV—8; Гісторыя аднаго знікнення. IV—21; Я пазнаю сябе. IV—22; Адказы на пытанні пра мастацтва. VI—129; Чым гэтая стужка пранізана. VI—132; Ты мне верыш? VIII—131; Сусветная вайна. X—101; Дакрануцца да слоў. XI—97; Пераадоленне. XI—152;
**ДУБРОЎСКІ Алесь.** Рэдактар і паэтычны твор: крытэрыі мастацкасці тэксту і праблема літаратурных іерархій. I—88; Рыфма ў вершаваным творы. III—145.
**ЖАЎНЯРОВІЧ Пятро.** Даследчык, грамадзянін... Асоба. XI—136; Караткевіч forever. XII—154.
**КАЗЛОЎСКІ Руслан.** Да скону дзён... VII—144.
**КАВАЛЕЎСКІ Арцём.** WO! MAN: Ёсць чалавек. IV—28; Калейдаскопна-вітражная проза Зміцера Баяровіча. VII—118; Аз, Букі, Ведзі... Бум-бам-літ. Дваццаць год гульні без правіл. VIII—9; Пытанні Кеслёўскага. X—96.
**КАРП Алена.** Пад польскай акупацыяй. Літаратуразнаўчыя штуды штотыднёвіка «Рунь» (1920). II—138.
**КОНЕЎ Ягор.** Адвечная п'еса. III—5; Беларуская інфармацыйная мара. IX—111.
**КОРБУТ Віктар.** «Аўтарка найлепшай жаночай аповесці». II—129.
**ЛІСОЎСКАЯ Паліна**. Крокі дзіцячага. VIII—128; Нетэатральны тэатр. X—101; Давайце размаўляць! XI—101; Маладая Belarus open. XII—131.
**ЛЯВОНАВА Ева.** Быць васільком. II—125.
**МАЛЬЧЭЎСКАЯ Алена.** Генетычная памяць слова. IV—4.
**МАРТЫСЮК** Вячаслаў. Шукаючы Каганцовы творы. I—95.
**МІКУЛІЧ Мікола.** Зорнае водгулле. VIII—141; Пошук вядзе ў глыбіню. XI—93.
**МІЦКЕВІЧ Вера.** Загадкі віленскай фотапаштоўкі песняра. XI—3.
**ПЕТУХОВА Маргарыта.** Гісторыя Беларусі ў інтэрпрэтацыі Язэпа Драздовіча. V—111.

**САМАТОЙ Ірына.** Жыццё прадоўжыцца ў песні. Творчы партрэт Анатоля Канапелькі. V—122.
**САЯНКОВА Людміла.** Крытыка кінакрытыкі. IV—19.
**СТРАЛЬЦОЎ Міхась.** Успаміны пра Еўдакію Лось. I—100.
**ТРАФІМЧЫК Анатоль.** Тэма савецка-польскага падзелу Беларусі ў савецкай рэдакцыі паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка». VI—121; Пераклады на беларускую: стан праблемы (інтэрв'ю з Андрэем Хадановічам) XI —89.
**ЧАРНЯКЕВІЧ Ціхан.** Прывітанне з 1928 года. II—146.
**ШАЎЛЯКОВА Ірына.** Эпоха «амаль». Станаўленне новага тыпу літаратурнай творчасці. VIII—118; Тэорыя літаратуры як крама практычных дзівосаў: паняцце мастацкая (сама)ідэнтыфікацыя. IX—106.

**ПУБЛІЦЫСТЫКА**

**АНІСАВЕЦ Мікалай.** Міндзікі. XI—105.
**ВАРАТНІКОВА Аксана.** Шляхі мастацтва — нашы шляхі. Палескі лячэбнік-2. VI—157; I—103; Матэматыка Гародні. VII—150.
**ВАШКЕВІЧ Андрэй, МАХНАЧ Яўген.** У цішыні музейнай залы. VII—134.
**ГАРБАЧЭЎСКАЯ Валянціна.** Не гонячыся бяздумна за славай. X—93.
**ГАРДЗЕЕЎ Юрый.** Вуліцамі горада, якога няма. VII—140.
**ГЕРМЯНЧУК Віктар.** Тэхніка сэрца. VI—147.
**ГЛАДЫШЧУК Анатоль.** Рэдкія і дзівосныя знаходкі старажытнага горада. X—132.
**ГУБАРЭВІЧ Караліна.** Пад імем Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. II—104.
**ДАНІЛЕВІЧ Аксана, РАЗВАНОВІЧ Алена.** Людзі і лёсы ў гісторыі Шчучыншчыны. XII—138.
**ЗАПЛЕЧНІКАВА Ганна.** Інстытут Канфуцыя ў БНТУ, або Набліжэнне да супрацоўніцтва з Кітаем на адзін крок. VI—145.
**КАЛАВУР Андрэй.** З гісторыі жаночага руху на Беларусі. XI—49.
**КАРЛЮКЕВІЧ Алесь.** Спаленая Беразянка. V—121; Гао Ман. Дарога ў Беларусь. XII—111.
**КАЧАЛКА Вольга.** Хачу, каб мяне перанеслі ў Нясвіж. III—149.
**КЛЯШЧОНАК Таццяна**. Нашчадкі. I—116.
**ЛАЎРЭШ Леанід.** Прыгоды Сяргея Пясецкага на Лідчыне. II—148; Штодзённае жыццё павятовага горада Ліда ў 1915–1918 гадах. VIII—132.
**ЛІПСКІ Уладзімір.** У другім вымярэнні. V—147; Уліпкі. V—154.
**ЛУПАСІН Віктар.** Дзея леташняя, у трох частках. I—106.
**НІКІФАРОЎСКІ Мікалай.** Ганчарныя тэракоты. IX—122.
**МАЗГО Уладзімір.** Вандроўка на кірмаш. VII—152.
**МАРТЫНОВІЧ Яўген.** Аднойчы я спытаў яго жартоўна. III—4.
**МАСЛА Алена.** Пранета ТДЖ. VI—135.
**МАЛЯЎКА Таццяна.** Нарыс. X—110.
**МІЛЬТО Ірына.** Васіль Быкаў пра музыку, моладзь і іншае. VI—124.
**МУСВІДАС Яна.** А хто там ідзе? XI—9; У зіму па-чалавечы. XII—4.
**МЯЦЕЛІЦА Кірыл.** Валадыры паднябеснай. I—156; Блукаючая зорка Луіса Грунберга. X—121; Агінскі. Турэцкая місія. X—124; Апалінэр за кратамі, або Усмешка Моны Лізы. XII—144; У пошуках жывойта. XII—148.
**НАВУМЧЫК Мікалай.** Артыкул пра семантыку і функцыі наміткі як часткі Маларыцкага строю. X—116.
**ПАЛІКАНІНА Валянціна.** Да самых чыстых берагоў. XII—134.
**ПАНІЗНІК Сяргей.** В'етнамскія каласы Уладзіміра Караткевіча. XII—134.
**ПЕРАГУДАЎ Алесь, КАРАНКЕВІЧ Мікіта.** Вандроўка ў гісторыю Каложы. VII—132.
**ПЛАВІНСКІ Мікалай.** Графіці Сярэднявечча. IV—127; Войска полацкіх князёў. IX—133.
**РОПАТ Вольга.** Нацюрморты майго жыцця. IV—26.
**РЫЧАГА Віялета.** Танцы ў цемры стагоддзяў. IV—14.
**САЯПІН Віктар.** Моладзевая субкультура Гродна 1960—1970-х. VII—120.
**СІТНІК Святлана.** Палёт над Эгейскім морам. II—154.
**СПІРЫДОНАВА Алена.** Маё жыццё. IV—132.

**УЛАСЮК Юрый.** Замак берасцейскі. X—127.
**ФІЛІПЧЫК Дзяніс.** Міжнародны досвед у захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны. VI—152.
**ЦІШЧАНКА Яўген.** Першыя крокі міласэрнасці. VII—146.
**ШУР Васіль.** Анамастыкон Мазыра ў часе і прасторы. VIII—150; IX—139; X—137.

**ІНТЭРВ'Ю**

**АМШЭЙ Аляксандр.** Шчучын — горад, дзе можна густоўна «патусіць» з сябрамі. VIII—4.
**АНУФРЫЕВА Надзея:** «"Зубронак" — гэта сіта, якое прасейвае людзей». II—143.
**АЎДЗЕЕВА Наталля:** «Выпадковых кіраўнікоў сярод жынчын не сустракаецца». II—7.
**БАРАЗНА Міхась:** «Мастацтва — гэта дадатковая магчымасць задумацца пра лёс сваёй краіны». II—11.
**ВЕРАБЕЙ Анатоль:** «Сам Уладзімір Сямёнавіч быў бы задаволены». XI—143.
**ВУКАНАВІЧ Слабадан:** «Малыя народы павінны супрацоўнічаць, каб пазбавіцца ананімнасці». XI—10.
**ГЛОБУС Адам.** «Не ідуць вершы – пішы фантастыку». XI—125.
**ДОЎНАР Паліна.** Разумнейшае за Google. I—153.
**ЗМУШКО Аляксандр.** На мяжы дзвюх рэальнасцей. IX—5.
**ЗУЁНАК Васіль.** Тры весткі з «Маладосці». V—107.
**КАВЕНЬКА Таццяна.** Інтэрв'ю. X—113.
**КАЖАМЯКІН Генадзь:** «Часам застаешся перад выбарам». XI—147.
**КАРЗЮК Ганна:** «Калі танцор на сцэне грае, можна апускаць заслону». IV— 17
**ЛОСЬ Дзмітрый.** Развагі аб правінцыі. VI—4.
**ЛУГІН Андрэй:** «Калі працуеш, заўсёды нялёгка, але гэта класная нялёгкасць». XI—13.
**МІХАЛОЎСКІ Гжэгаж:** «Назвы мяняюцца, я застаюся». XI—98.
**ПАЛЫНСКІ Ігар:** «Я не асабліва абмяжоўваю сябе ў тым, што слухаць». V—19.
**РАГАЧУК Аляксандр:** «Нічога не складана, калі ёсць людзі, якія гараць ідэямі». XII—5.
**РАНІШЭНКА Багдан:** «Навошта тэлефон з чатырма ядрамі, калі ў галаве іх два?». VI—8.
**СКАЧКОЎ Зміцер:** «ПлаSтформа – гэта як у МарысаЭшэра, – немагчымая фігура». IV—16
**ПАНІЗНІК Сяргей.** «І ў мяне будуць мядзведзі». XII—130.
**ФРАНКАФОННАЯ ТРУППА «АТЭЛЬЕ»:** тэатральная сцяна і культурныя масты. II—4.
**ЦІШКО Дзмітрый.** На балконе. IX—8.
**Цэнтр славянскіх моў і культур.** Ідэя прыйшла выпадкова. VIII—11.

**Cathedra**

**А пачалося з казкі.** I— 85.
**КАВАЛЕЎСКІ Арцём.** З вопыту прачытання фатаграфій Уладзіміра Суцягіна. II—142.
**На смак і на водар адчуем вясну.** IV—23.
**Экспрэсіўны мінімалізм.** VI—140.
**Віншавальнае.** IX—115.
**Вобразы зафіксаванага часу.** X—104.
**Восеньскі салон з прысмакам лета.** XII—114

**З Богам**

**БАГДАНАВА Ліна.** Палёт магчымасцей, жаданняў і пачуццяў. IX—154; Калядны дыялог з маўклівым суразмоўцам. XII—152.
**Іераманах Агапій (Голуб).** Няма дзяцей. VIII—137; Сям'я, каханне, шчасце. IX—157; Калі няма рэсурсаў на любоў. X— 157; Не баяцца свабоды і шышак. XI—158; І гэты рэсурс — у Тым, Хто з'яўляецца Крыніцай безумоўнай любові. XII—150.
**МАЖЫЛОЎСКІ Уладзімір.** Першая перамога Самуіла Пятроўскага. XII—156.
**ПАЛАЧАНСКІ Аляксей.** Прывіды летніх начэй. Прывіды летніх начэй. X—155.
**СІДАРЭЙКА Андрэй.** 301/2 гадзін. VIII—134.

**Падрыхтавала К. Голуб.**